АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

М. В. БІРЫЛА

# БЕЛАРУСКАЯ АНТРАПАНІМІЯ

## 3

## СТРУКТУРА ЎЛАСНЫХ МУЖЧЫНСКІХ ІМЕН

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1982

ББК 81.2Бел.
Б64

Рэдактар
Р. І. АВАНЕСАЎ,
член-карэспандэнт АН СССР

Рэцэнзенты:
*А. І. Жураўскі,* член-карэспандэнт АН БССР,
*П. У. Сцяцко,* доктар філалагічных навук

**Бірыла М. В.**
Б 64 Беларуская антрапанімія. 3: Структура ўласных мужчынскіх імён.— Мн.: Навука і тэхніка. 1982.— 320 с.
У пер.: 1 р. 70 к.

У кнізе разглядаецца структура мужчынскіх хрысціянскіх імён XVI—XVIII стст., імён, рэканструяваных па сучасных беларускіх прозвішчах, і сучасных мужчынскіх беларускіх імён. Паказаны асаблівасці адаптацыі кананічных імён на аснове беларускай мовы, дэталёва апісана словаўтваральная структура поўных афіцыйных і размоўных, а таксама эмацыянальна-ацэначных форм імён. Даецца паказчык імён, якія даследуюцца ў «Беларускай антрапаніміі» (1966) і ў гэтай працы.
Прызначана для мовазнаўцаў, літаратуразнаўцаў, пісьменнікаў, этнографаў, студэнтаў філалагічных факультэтаў ВНУ.

Б 4602010000—111 / М316—82 122—81
ББК 81.2Бел
4Бел

# УВОДЗІНЫ

Імёны, што прыйшлі да продкаў усходніх славян у X—XI стст. разам з хрысціянствам, храналагічна і па моўнай прыналежнасці супрацьпастаўлены тым, якія бытавалі да ўвядзення хрысціянства,— імёнам славянскім, утвораным на базе апелятыўнай лексікі.

Старажытныя славянскія імёны дахрысціянскага перыяду акрамя намінатыўна-ідэнтыфікуючай выконвалі прафілактычна-пажадальную функцыю. Яны служылі не толькі для абазначэння асобы і вылучэння яе з ліку іншых, а павінны былі абараняць носьбіта імені ад «злых сіл», садзейнічаць, дапамагаць яму на ўсіх этапах жыцця. Старажытны чалавек у выніку анімістычнасці свайго мыслення адухаўляў прыроду, верыў, што элементы акружаючага асяроддзя да яго адносяцца альбо добра, альбо дрэнна. Ён верыў у магічную сілу слова, быў упэўнены, што жывёліны, дрэвы, розныя з'явы прыроды і інш., назвы якіх узяты ў якасці імён, становяцца апекунамі, абаронцамі іх носьбітаў. Зразумела, што ў такіх умовах не было спецыяльнага класа слоў, якія б ужываліся толькі ў якасці імён. Гэта асаблівасць мыслення і натуральная метафарычнасць мовы забяспечвалі выкарыстанне неантрапанімічнай лексікі ў антрапанімічных мэтах. Практычна кожнае паўназначнае слова магло быць выкарыстана ў якасці ўласнага асабовага імені. З цягам часу прафілактычна-пажадальны змест імені сціраўся, рабіўся другарадным, і некаторыя з іх — у першую чаргу кампазіты — на рубяжы прыняцця хрысціянства, відаць, ужо адмяжоўваліся ў асобны клас імён, якія абслугоўвалі вышэйшыя колы грамадства.

Хрысціянская царква, кананізуючы святых, кананізавала і іх імёны, настойліва і паслядоўна распаўсюджвала іх на тыя народы, на якія пашыралася хрысціянства, строга сачыла, каб гэтыя імёны ў богаслужэбнай літаратуры і ў саміх богаслужэннях ужываліся ў адзіна

прызнанай — кананічнай — форме. Б. А. Успенскі мяркуе, што на Русі ўжо з самага пачатку хрысціянства імёны ад паўднёвых славян былі запазычаны ў некалькіх разнавіднасцях[1]. Праз славянскія богаслужэбныя тэксты маглі пранікнуць размоўныя імёны ў грэчаскай кніжнай апрацоўцы, грэчаскія размоўныя і дыялектныя варыянты, размоўныя варыянты, якія склаліся ў паўднёвых славян.

Новыя імёны не ўвайшлі ў лексічную сістэму запазычыўшай іх мовы, а ўтварылі ў ёй спецыяльны клас слоў і выкарыстоўваліся толькі ў функцыі ўласных асабовых імён. З'яўляючыся па паходжанню іншамоўнымі, яны ў адрозненне ад ранейшых (старажытнаславянскіх), прывычных і зразумелых, былі незразумелыя, цяжкія для вымаўлення. Таму яшчэ доўгі час пасля ўвядзення хрысціянства—асабліва ў XI—XIV і нават у XV—XVIII стст.— абедзве іменалагічныя сістэмы суіснавалі. Праўда, славянскія імёны паступова губляюць свой першапачатковы статус. Калі да X ст. яны былі адзіным сродкам ідэнтыфікацыі асобы, у XI—XIV стст. па семантычнай і граматычнай структуры, па матывацыі і ўмовах надання, а таксама па ўмовах і характару функцыяніравання, відаць, яшчэ мала адрозніваліся ад імён дахрысціянскага перыяду (утвараліся на базе славянскай ці асвоенай іншамоўнай апелятыўнай лексікі па традыцыйных мадэлях, у час надання былі матываванымі, функцыяніравалі ў якасці знака, які служыць сродкам ідэнтыфікацыі канкрэтнай асобы ў пэўным калектыве, дзе фактычна бытавалі толькі яны, а хрэсныя імёны былі фактам рытуалу хрышчэння, актам фіксацыі і спарадычнага выкарыстання), то пазней — у XV—XVIII стст.— пры захаванні граматычнай структуры змяняюцца ўмовы надання іх, функцыі і характар функцыяніравання (надаюцца не толькі пры нараджэнні ці ў раннім дзяцінстве, але і ў любы перыяд жыцця асобы; звычайна служаць для «другаснай» ідэнтыфікацыі ці для ўдакладняючай, паралельнай; ужываюцца з кожным стагоддзем усё радзей, паступова ўступаючы месца хрысціянскім імёнам).

---

[1] Успенский Б. А. Из истории русских канонических имен (История ударения в канонических именах собственных в их отношении к русским литературным и разговорным формам).— М., 1969, с. 29—30.

Такім чынам, назіраецца дыяхранічнае супрацьпастаўленне ўласных асабовых імён: да X ст. толькі імёны славянскага паходжання, пасля X ст. і імёны неславянскага паходжання. Сінхроннае супрацьпастаўленне асабовых імён у перыяд пасля X ст.: імёны неславянскага паходжання — імёны славянскага паходжання ў новым функцыяніраванні.

Для абазначэння ўласных асабовых імён існуе даволі разгорнутая тэрміналогія. Напрыклад, славянскія імёны ў розных анамастычных працах называюцца «славянскія», «паганскія», «дахрысціянскія», «некаляндарныя», «мірскія», а ўведзеныя хрысціянствам — «хрысціянскія», «кананічныя», «каляндарныя», «царкоўныя», «хрэсныя», «хрысцільныя».

Паколькі абедзве групы імён, як ужо адзначалася, супрацьпастаўлены адна другой дыяхранічна і сінхронна, тэрміналогія павінна строга адлюстроўваць гэта. Абазначэнне дыяхранічнага супрацьпастаўлення забяспечваецца такімі парамі тэрмінаў: хрысціянскія ўласныя імёны — паганскія, хрысціянскія — дахрысціянскія. Сінхроннае супрацьпастаўленне абазначаюць тэрміны: каляндарныя ўласныя імёны — некаляндарныя, кананічныя — мірскія. Тэрмін «кананічнае ўласнае імя» ў шырокім значэнні ўжываецца для абазначэння ўсіх хрысціянскіх імён — кананізаваных святых, уключаных у святцы. У вузкім значэнні ён абазначае традыцыйна-царкоўныя формы, г. зн. хрысціянскія імёны ў форме, якая для культавых мэт лічыцца нормай, адзіна магчымай формай. У апошнім выпадку тэрміну «кананічнае ўласнае імя» супрацьпастаўляецца тэрмін «варыянт кананічнага ўласнага імя» — літаратурная форма, размоўная форма хрысціянскіх імён.

У гэтай працы разглядаецца структура хрысціянскіх імён, зафіксаваных у пісьмовых крыніцах XVI—XVIII стст. [2], імён, рэканструяваных па сучасных беларускіх прозвішчах, і сучасных беларускіх імён. Па сучасных імёнах асноўны матэрыял склалі ўласныя запісы аўтара і шматлікія запісы студэнтаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (пад кіраўніцтвам

[2] Аб выкарыстаных крыніцах гл.: Бірыла М. В. Беларуская антрапанімія: Уласныя імёны, імёны-мянушкі, імёны па бацьку, прозвішчы.— Мн., 1966, с. 3—10.

прафесара Л. М. Шакуна), Гомельскага дзяржаўнага універсітэта (пад кіраўніцтвам прафесара У. В. Анічэнкі), Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта (пад кіраўніцтвам дацэнта В. І. Марозава), Брэсцкага педагагічнага інстытута (пад кіраўніцтвам дацэнта І. А. Шумскай, якая дазволіла выкарыстаць і свой уласны збор), Віцебскага педагагічнага інстытута (пад кіраўніцтвам дацэнта Л. М. Вардамацкага) і Мінскага педагагічнага інстытута (пад кіраўніцтвам прафесара П. У. Сцяцко). Усім ім выказваю глыбокую падзяку. Запісы праведзены ў больш як 500 населеных пунктах Беларусі ў 1978—1980 гг.

Аналіз імён вядзецца ў двух планах — парадыгматычным і сінтагматычным. У першым выпадку ставілася задача на аснове лексічнай дыстрыбуцыі выявіць і даследаваць варыянты імён агульнага паходжання — ад адной і той жа традыцыйна-царкоўнай формы. У другім — на аснове марфемнай дыстрыбуцыі даць класіфікацыю ўсіх выяўленых варыянтаў з пункту погляду выкарыстаных словаўтваральных сродкаў, па магчымасці поўна паказаць варыянты кожнай словаўтваральнай мадэлі з хроналагічнымі і тэрытарыяльнымі характарыстыкамі.

# ВЫНІКІ АДАПТАЦЫІ ХРЫСЦІЯНСКІХ ІМЁН

Сярод фанетычных змен, якія зазналі хрысціянскія імёны, вылучаюцца змены, абумоўленыя асаблівасцямі фанетычнай сістэмы беларускай мовы, і аўтаномныя для асвоеных імён. Першыя звычайна ахопліваюць лексічна неабмежаваны матэрыял — пашыраюцца на ўсе ці большасць імён, дзе ёсць адпаведныя фанетычныя ўмовы для рэалізацыі. Частка такіх змен звязана з фанетычнымі асаблівасцямі, у пэўнай меры ўласцівымі ўсім усходнеславянскім мовам, а таму характэрна не толькі для беларускай, але і для рускай і ўкраінскай антрапаніміі ці хаця для адной з іх. Да ліку падобных змен належаць:

1. Замена пачатковага [е] на [о] з частым [о]>[а] у выніку акання. Для некаторых імён зафіксаваны варыянты з пачатковымі [е//о//а]: *Евсей, Овсей, Авсей*<Евсевий; *Евстафий, Остафий, Остафей, Остаф, Остап, Остапей, Остапий, Астафей, Астап*<Евстафий; *Евтихий, Евтух, Елтух, Овтух, Олтух, Автух, Алтух*<Евтихий; *Евхим, Овхим, Олхим, Ольхим, Авхим, Авфим*< Евфимий; *Елисей, Олисей, Ольсей, Олесей, Алисей*<Елисей; *Емелиян, Омельян, Омелян, Амелян, Амеллян, Амелиан*<Емельян;

[е//о]: *Елиозар, Олйзар, Озар*<Елеазар; *Епимах, Опимах*<Епимах;

[е//а]: *Евстрат, Алистрат*<Евстратий;

[о//а]: *Овдаким, Авдоким*<Евдоким; *Олифер, Олихвер, Алихвер*<Елевферий; *Онтроп, Антроп*<Евтропий; *Охрем, Охрим, Охромей, Ахрем*<Ефрем; *Овгиня, Авгиня*<Евгения; *Овдотья, Овдотя, Авдотья, Авдотя*<Евдокия; *Олена, Алена*<Елена.

Не зафіксавана [е]>[о] у імёнах *Ермолай, Ермола, Ярмола, Ермол; Евлан, Евлаш*<Евлампий, хаця па СБП *Аламnieў* рэканструюецца *Олампий//Алампий.*

2. Замена [ф] на [п], [х] ці [хв] пры спарадычным захаванні [ф], відаць, пад уплывам арфаграфічнай тра-

дыцыі. Звычайна на месцы [ф] у кожным канкрэтным імені і яго варыянтах выступае які-небудзь адзін з трох названых замяшчальнікаў. Зафіксаваны [п] на месцы [ф]: *А(О)впей*<Алфий; *А(О)гапон, Гапон*<Агафон; *А(О)панас, Панас* і *А(О)фанас, Афанасий; Остапей, А(О)стап, Гостап* і *А(О)стафий, Евстафий; Осип, Асип, Есип* і *Есиф, Иосиф; Никипор, Никипер, Ничипор, Ничипер, Микипор* і *Микифор, Никифор; А(О)нопрей, Анапрый, Нопрей, Нупрей* і *Онуфрей, Онофрей, Онуфрий: Сопрон, Сопрун, Супрон, Супрун* і *Софрон*<Софроний; *Степан, Сцепан* і *Сцефан, Стефан; Пилип* і *Филип; Агапия, Агапъя, А(О)гапя* і *Гафия, Агафия*, хаця, магчыма, імя было ўспрынята ўжо з [п], бо ў календарах побач з *Агафия* ёсць і варыянт *Агапия; Просиня, Ефросиния; Степанида, Стефанида*;

[х] на месцы [ф]: *Анихим, Анхим*<Анфим; *Вархлом, Вархомей*<Варфоломей; *Е(О, А)вхим, Яхим, Алхим, Ольхим* і *Авфим*<Евфимий; *О(А)хрем, Охрим, Охромей* < Ефрем; *Сахон, Сахом* і *Софон*<Софония; *Трухон*<Трифон; *Трохим, А(О)трохим* і *Трофим; Ходос* і *Федосей, Федос*<Федосий, хаця, мяркуючы па прозвішчу *Хведасюк*, адпаведна [ф] выступала і спалучэнне [хв]: *Хрол*<Фрол; *Хома* і *Фома; Хотей*<Фотий; *Хотим, Хотиан; Хима*<Евфимия;

[хв] на месцы [ф]: *А(О)рехва* і *А(О)рефа*<Арефа; *Дорохвей* і *Дорофей; О(А)лихвер, Лыхвер, Волихвер* і *Олифер*<Елевферий; *Рахвал* і *Рафал*<Рафаил; *Матхвей* і *Матфей; Мехвед, Михвед* і *Мефед, Нефед*<Мефодий;

у паасобных імёнах на месцы [ф] адзначаны два замяшчальнікі [х] і [п]: *Хилимон, Халимон, Пилимон* і *Филон*<Филимон; [х] і [хв]: *Пархом, Пархим, Пархвен* і *Парфен*<Парфений; *Тимох, Цимох, Тимохвей, Цимохвей* і *Цимофей, Тимофей*; можна дапусціць, што [х] у *Тимох, Цимох* не непасрэдна з [ф], а з [хв] пры ўсячэнні асновы; *Ходор, Хведор* і *Федор*<Феодор; сучаснае імя *Тодар*, відаць, з польск. Teodor; *Хадора, Хведора* і *Феодора; Ходося, Ходосья, Ходосся*<Феодосия.

У некаторых рэдкаўжывальных імёнах замена [ф] іншымі гукамі не зафіксавана: *Панфир*<Парфирий; *Сарафим, Серафин*<Серафим; *Фалилей, Фалей*<Фалалей; *Феофан; Феофил; Христафор; Марфа.*

3. Спрашчэнне груп галосных [аа]>[а]: *Арон* (рэканструюецца па СБП *Аронаў*) <Аарон; *Аврам*<Авраам,

Авраамий, магчыма і непасрэдна ад Аврам, якое дапускалася царкоўнымі календарамі; *Варлам* (па СБП *Варламаў)*<Варлаам; *Исак*<Исаак, *Исаакий,* магчыма непасрэдна ад Исакий;

[аил]>[айло], [ало], [ал]: *Змайла*<Исмаил; *Михайло(а), Михал* і *Михаил, Михал* магчыма і з польск. Michał; *Рафал, Рахвал* і *Рафаіл,* хаця магчыма і з польск. Rafał;

[ая]>[ай]: *Исай*<Исаия;

[еа]>[ио] ці [и]: *Елиозар, Олизар*<Елеазар;

[ео]>[е], [ё]: *Ленид*<Леонид; *Семен*<Симеон; *Федор, Хведор, Ходор*<Феодор; *Федосий, Федосей, Федос*<Феодосий; *Федот* (рэканструюецца па СБП *Фядотаў)*<Феодот; *Федора, Хведора, Ходора*<Феодора; без спрашчэння адзначаны *Гедион, Гедеон; Георгий;*

[иан]>[ьян], [ъян], [ян]: *Демьян, Демъян, Демян, Демиян, Дамян*<Дамиан; *Касьян, Касян*<Кассиан; *Лукъян, Лукьян, Лукиян*<Лукиан; *Марциньян, Мартимъян*<Мартиниан; *Совостьян, Савосцян, Севостиан, Севастиян, Совастиян*<Севастиан; *Татьяна, Тацяна*<Татиана; *Ульяна, Улляна*<Иулиания; зафіксаваны без спрашчэння *Куприян, Купрыян, Киприан, Маркиан; Марияна*<Марианна;

[иак]>[ьяк]: *Кирьяк*<Кириак;

[иа]>[я] у пачатку слова: *Яков* і *Иаков;*

[ие]>[е//я], [о//а] у пачатку слова: *Еремей, Еромей*<Иеремия; *Ероним, Яроним* і *Иероним; Ерофей, Орофей, Арафей*<Иерофей;

[иил]>[ило]: *Гаврило, Гаврыло;* пры індывідуальных заменах [и] на [е], [у]: *Гаврело, Гавруло* і *Гавриил; Данило, Данила*<Даниил;

[ио]>[е] у сярэдзіне слова: *Демид*<Диомид;

[ио]>[о//а], [е] у пачатку слова: *Осип, Асип, Есиф, Есип* і *Иосиф;*

[иоа]>[е//я], [о//а] у пачатку слова: *Еким, Яким, Аким* і *Иоаким; Ян*<Иоанн, хутчэй, аднак, непасрэдна з польск. Jan; *Оникей, Аникей*<Иоанникий;

[ион]>[иан], [ьян], [ян]: *Куриан, Куриян, Курьян, Курян*<Кирион;

[иу]>[у], [jу] у пачатку слова: *Юда*<Иуда; *Устин*<Иустин; *Ульяна, Улляна*<Иулиана; *Усциння, Устиня, Усциня* і *Юстына*<Иустина, але магчыма і непасрэдна з польск. Justyna;

[ои]>[ой]: *Мойсей* і *Моисей;*

[уил]>[уйла]: *Мануйла* і *Мануил; Самуйла, Самуйло*<Самуил.

4. Спрашчэнне груп галосных пры дапамозе ўстаўнога зычнага [в]: *Левон* і *Леон* < Леонт, Леонтий ці з польск. Leon; *Левонтий* і *Леонтей, Леонтий; Родивон* і *Радион*<Родион; *Увар*<Уар.

5. Спрашчэнне груп зычных: [вв]>[в]: *Авакум*<Аввакум; *Сава*<Савва;

[гг]>[г]: *Агей, Огей*<Аггей;

[лл]>[л]: *Калиник, Каленик*<Каллиник; *Калистрат*<Каллистрат; *Кирил, Кирило, Курило, Курила*<Кирилл;

[нн]>[н]: *Марыяна*<Марианна;

[сс]>[с]: *Касян, Касьян*<Кассиан; *Василиса*<Василисса;

[пп]>[п]: *Архип*<Архипп; *Филип, Пилип*<Филипп;

[вкс]>[кс]: *Оксентей, Оксен, Аксён*<Авксентий;

[вф]>[ф], [хв]: *Олифер, О(А)лихвер, Волихвер, Лыхвер*<Елевферий;

[мпс]>[мс]: *Самсон*<Сампсон;

[нт]>[н]: *Созон*<Созонт;

[тф]>[тв], [т//ц]: *Матвей, Мацвей, Матей, Мацей* і *Матфей.*

Агульным для ўсходнеславянскай антрапаніміі было арфаграфічнае асваенне хрысціянскіх імён, якія ў царкоўна-кананічнай форме і ў мовах-першакрыніцах пачынаюцца галосным [а] і адпаведна перадаюцца на пісьме. У пісьмовых крыніцах XV—XVIII стст. рускай, украінскай, беларускай мовы такія імёны часта пішуцца з пачатковай літарай *О*. У беларускіх крыніцах зафіксаваны амаль для кожнага імені і варыянты з літарай *А*: *Обакун, Обакум* і *Авакум, Абакун*<Аввакум; *Овдей* і *Авдей*<Авдий; *Оверко, Оверкей, Оверян* і *Аверко, Аверкей*<Аверкий; *Оксентей, Оксен* і *Аксён, Аксём*<Авксентий; *Огапон* і *Агапон*<Агафон; *Огей* і *Агей*<Аггей; *Одам* і *Адам; Ондреян* і *Андриан, Андриян*<Адриан; *Озар* і *Азар*<Азария; *Окула, Акула*<Акила; *Олександро, Олександр* і *Александро, Александр; Олексей, Олекса* і *Алексей, Алекса*<Алексий; *Овпей* і *Авпей*<Алфий; *Онания* і *Анания; Ондрей* і *Андрей; Онтипа* і *Антипа; Онтон* і *Антон, Антоней*<Антоний; *Орефа, Орехва* і *Арехва, Арефа; Ортем* і *Артем*<Артема, Артемий; *Офанасей, Офа-*

*нас, Опанас, Афанас, Апанас, Афанасий; Огапя, Огапья* і *Агапия, Агапъя, Агапя, Агапия, Агафия; Огрепена, Огрефина*<Агриппина; без замены: *Августин, Авкгустын; Аврам, Абрам; Амврос*<Амвросий; *Амос; Антонин; Архип*<Архипп; *Александра; Анастасия; Артима.*

Напісанне імён, якія пачынаюцца на [а], з пачатковым [о], відаць, трэба тлумачыць гіперкарэктнасцю (звышправільнасцю). Не выключана, аднак, што гэта звязана толькі з арфаграфіяй.

Частка гукавых змен у хрысціянскіх імёнах адлюстроўвае фанетычныя з'явы беларускай мовы, асобныя з якіх уласцівы некаторым гаворкам рускай ці ўкраінскай мовы:

1. Лёс агульнаславянскага спалучэння «мяккі зычны+*и*+*j*» (умоўна *-нuj-*), якое ў розных усходнеславянскіх дыялектах дало розныя вынікі, што адпавядаюць розным этапам адзінага працэсу: 1) спалучэнне [-нij-] захавалася ў нязменным выглядзе, 2) адпаведна галоснаму [и] набыло рэдуцыраваны [ь] (-ньj), 3) зазнала прыпадабненне [j] да папярэдняга мяккага зычнага, у выніку чаго ўтварыліся падоўжаныя зычныя, 4) сцяжэнне падоўжанага зычнага ў зычны гук (н). У зафіксаваных імёнах адлюстраваны ўсе чатыры стадыі:

[нија]: *Анания, Онания* і *Онанья : Ананне : Ананя*<Анания; *Авгиння : Овгиня*<Евгения; *Просиня*<Евфросиния; *Ксения : Оксинья, Оксимья : Оксиня, Аксиня*<Ксения;

[льја], [лија]: *Емелиян, Омелиан, Амелиан : Омельян : Амеллян, Меллян : Омелян, Амелян*<Емельян; *Илия : Илья : Илля :* кантамінаваная форма (з Илля і Илия) *Иллия*<Илия; *Наталля : Наталя*<Наталия, Наталья; *Ульяна : Улляна*<Иулиания;

[сиан], [сија]: *Касьян : Касян*<Кассиан; *Ходосья : Ходосся : Ходося*<Феодосия; *Анастасия, Настасея : Настасья : Настася*<Анастасия;

[тьја]: *Овдотья, Авдотья : Овдотя, Авдотя*<Евдокия; *Татьяна : Тацяна.*

2. Прыстаўныя зычныя [в], [г]: *Вакула: Окула, Акула*<Акила; *Веремей: Еремей, Еромей*<Иеремия; *Гостап: Остафий, Остафей, Астафей, Остапей, Остаф, Остап, Астап: Евстафий*<Евстафий; *Волихвер: Олифер, Олихвер, Алихвер*<Елевферий.

3. Прыстаўны галосны [о//а] перад спалучэннем зыч-

ных: *Авлас : Влас : Улас*<Власий; *Отрафим, Атрафим, Отрохим : Трохим, Трофим; Оксиня, Оксинья, Аксиня : : Ксения.*

4. Страта пачатковага ненацiскнога галоснага [а] цi [о] з [а]: *Гапон : Агапон, Огапон*<Агафон; *Панас : Афанасий, Офанасей, Афанас, Офанас, Апанас, Опанас*<Афанасий; *Настася, Настасья : Анастасия;*

[е] цi [о] з [е]: *Лыхвер : Олифер, Олихвер, Алихвэр*<Елеферий; *Меллян : Омельян, Омелян, Амелян, Амеллян*<Емельян; *Катерина*<Екатерина; *Просиня*< Евфросиния; *Хима*<Евфимия;

[и]: *Патей, Потей*<Ипатий; *Сидор*<Исидор.

5. Змяненне [х] у [ф]: *Тифон : Тихон; Малафей, Малофей, Малохвей : Малахия.*

6. Змяненне ў спалучэннi [кт] зычнага [к] у [х]: *Вихтар : Виктар.*

7. Змяненне [в] у [у]: *Улас : Влас*<Власий.

8. Змяненне [л] у [в]: *Авпей, Овпей*<Алфий.

Шэраг фанетычных змен у хрысцiянскiх iмёнах не абумоўлен фанетычнымi асаблiвасцямi беларускай мовы, не мае паралелей у апелятыўнай лексiцы. Да iх належаць:

1. Замена [н] на [м]: *Мартимъян : Марциньян, Мартиан, Марциян, Мартиян, Марцян*<Мартиниан; *Микита : Никита; Микифор, Микипор : Никифор, Никипор, Никипер, Ничипер, Ничипор; Миколай : Николай; Пархом, Пархим : Парфен*<Парфений; *Сахом : Софон, Сахон*< Софония.

2. Замена [м] на [н]: *Обакун, Бакун : Авакум, Абакум, Обакум*<Аввакум; *Евлан*<Евлампий; *Нефед : Мефед, Михвед, Мехвед*<Мефодий; *Панфил : Помфил*< Памфил; *Серафин, Сарафин : Серафим.*

3. Замена [в] на [б]: *Абакум, Обакум, Обакун, Бакун*<Аввакум; *Абрам : Аврам*<Авраам, *Авраамий, Аврамий; Бенедикт, Бенедыкт, Бенадыкт : Венедыкт*<Венедикт.

4. Замена [и] на [у]: *Акула, Окула, Вакула*<Акила; *Евтух, Овтух, Автух, Олтух, Алтух*<Евтихий; *Куприян, Купрей, Цуприян, Циприан, Цыпрыян, Киприан; Курило, Курыло, Курила : Кирило, Кирил*<Кирилл; *Куриан, Курыан, Курян, Курьян*<Кирион; *Трухон*<Трифон.

5. Замена [и] на [е]: *Селивон : Силивон, Силуян, Си-*

*лоян*<Силван, *Силуан : Сальвестр : Сильвестер*<Сильвестр; *Семен : Симен, Симеон.*

6. Замена [и] на [а]: *Халимон : Хилимон, Филимон; Арина, Орина*<Ирина.

7. Замена [е] на [и]: *Аксиня, Оксиня, Оксинья, Оксимья : Ксения.*

8. Замена [е] на [а] магчыма праз[о] (е→о→а): *Пиман*<Пимен; *Савостиан, Совостиан, Савосцян, Савостей, Савоста*<Севастиан; *Сарафин : Серафин, Серафим.*

9. Замена [а] на [е]: *Демьян, Демъян, Демян, Дземян : Дамян.*

10. Замена [у] на [о], [а]: *Онофрей, Онопрей, Анопрей, Нопрей : Анапрый, Онапры : Нупрей, Онуфрий.*

11. Замена [о] на [е]: *Нестер, Несцер : Нестор.*

12. Замена [о] на [у]: *Микула: Миколай, Николай; Сопрун, Супрун : Софрон, Сопрон, Супрон*<Софроний; *Матруна*<Матрена, Матрона.

13. Замена [п] на [в]: *Свирид : Спирид, Спиридон.*

14. Замена [в] на [л]: *Елтух, Олтух, Алтух : Евтух, Овтух, Евтихий; Алхим, Ольхим : Евхим, Овхим, Авхим, Авфим*<Евфимий.

У працэсе бытавання ў народнай мове частка імён зазнала больш значныя змены, чым тыя, аб якіх толькі што гаварылася,— змены канцавой часткі, што выклікала змяненне марфалагічнай будовы імён, перамяшчэнне іх у іншыя структурныя групы. Да ліку такіх змен у мужчынскіх імёнах належаць:

1. Страта канцавога склада [ий] у імёнах грэчаскага, лацінскага і старажытнаяўрэйскага паходжання, кананічная (традыцыйна-царкоўная) форма якіх ва ўсходніх славян заканчвалася на [ий]: *Антон, Онтон*<Антоний; *Артем, Ортем*<Артемий; *Афанас, Офанас, Апанас, Панас*<Афанасий; *Василь*<Василий; *Влас, Улас, Авлас*<Власий; *Григор*<Григорий; *Денис*<Дионисий; *Остаф, Остап, Астап, Гостап*<Евстрафий; *Евстрат*<Евстратий; *Евтух, Овтух, Автух, Олтух, Алтух*<Евтихий; *Евхим, Овхим, Авхим, Ольхим*<Евфимий; *Олифер, Олихвер, Алихвер, Лыхвер*<Елевферий; *Игнат*<Игнатий; *Яром*<Иеремий, Иеремия; *Макар*<Макарий; *Мефед, Мехвед, Михвед, Нефед*<Мефодий; *Панкрат*<Панкратий; *Парфен*<Парфений; *Патап*<Патапий; *Пахом*<Пахомий; *Пракоп*<Прокопий; *Протас*<Протасий; *Софрон, Сопрон, Сопрун*<Софроний; *Тарас*<Тарасий; *Фядос.*

*Ходос*<Феодосий. У імёнах, у якіх пасля адпадзення канцавога [ий] на канцы засталася група зычных, адбылося спрашчэнне — канцавы зычны адпаў: *Аксён, Оксен*<Аксентий; *Евлан*<Евлампий; *Лаврен, Лаврин*<Лаврентий ці пасля групы зычных у канцы дабаўляўся галосны [о]: *Аверко, Аверка*<Аверкий. У паасобных імёнах захавалася на канцы група зычных: *Димитр, Дмитр, Дзмитр, Демитр*<Димитрий; *Климент*<Климентий.

2. Страта канцавога склада [ей]: *Тимох*<Тимофей.

3. Страта канцавой групы [ия]: *Азар*<Азария; *Анан, Ананъ*<Анания; *Малах*<Малахия; *Софон*<Софония.

4. Замена канцавога склада [ий] складам [ей]: *Авдей, Овдей*<Авдий; *Оксентей*<Авксентий; *Авпей, Овпей*<Алфий; *Антоней*<Антоний; *Артемей*<Артемий; *Офанасей*<Афанасий; *Василей*<Василий; *Гордей*<Гордий; *Григорей*<Григорий; *Дмитрей, Демитрей*<Дмитрий; *Остафей, Астафей, Остапей*<Евстафий; *Еремей, Еромей, Веремей*<Иеремий, Иеремия; *Аникей, Оникей*<Иоанникий; *Патей*<Ипатий; *Исакей*<Исакий, Исаакий; *Мелентей*<Мелетий; *Мокей*<Мокий; *Онуфрей, Анопрей, Нупрей*<Онуфрий; *Сергей*<Сергий; *Федосей*<Феодосий; *Юрей*<Юрий.

5. Замена канцавой групы [ия], відаць, праз стадыю [ий] складам [ей]: *Захарей*<Захарий<Захария; *Малафей*<Малахий<Малахия.

6. Замена канцавога склада [ей] складам [ий]: *Алексий*<Алексей, відаць, пад уплывам кананічных (царкоўна-традыцыйных) форм, магчыма, з польскага.

7. Афармленне пры дапамозе канцавога [ей] імён ад усечаных асноў кананічных (традыцыйна-царкоўных) імён, якія заканчваліся на [ин], [иан], і некаторых іншых, а таксама ад аднаскладовых і двухскладовых: *Валентей*<Валентин; *Данилей*<Данило<Даниил; *Дементей*<Дементиан; *Евсей, Овсей, Авсей*<Евсевий, хаця магчыма фанетычна з Евсев; *Охромей*<Ефрем; *Купрей*<Киприан; *Кирей*<Кир; *Корней*<Корнилий; *Маркей*<Марк; *Савостей*<Севастиан.

8. Афармленне пры дапамозе канцавога [ий] имён ад кананічных (традыцыйна-царкоўных), якія заканчваліся зычным або на -а: *Кондратий*<Кондрат, *Никитий*<Никита, *Савелий*<Савел.

9. Замена канцавога склада [ий] галосным [о]:

*Аверко, Оверко*<Аверкий; *Онико*<Иоанникий; *Корнило*<Корнилий.

10. Замена канцавога склада [ей] і канцавой групы [ия] галосным [а]: *Алекса, Олекса*<Алексей; *Тимоха*<Тимофей; *Ананя*<Анания; *Ерема, Ерома*<Иеремия.

11. Афармленне імён пры дапамозе канцавога галоснага [о]//[а] ад кананічных (традыцыйна-царкоўных), якія заканчваліся спалучэннем зычных ці на [ил]: *Александро*<Александр; *Карпо*<Карп; *Марко*<Марк; *Петро*<Петр; *Гаврило*<Гавриил; *Данило, Данила*<Даниил; *Кирило, Курило, Курила*<Кирилл; *Мануйла*<Мануил; *Михайло, Михайла*<Михаил; *Самуйло*<Самуил.

12. Афармленне пры дапамозе канцавога галоснага [о], [а] імён ад усечаных асноў *Савоста*<Севастиан.

У жаночых імёнах змены ў канцы слова закранулі толькі канцавое [ия], якое змянялася ў [ъя], [ья] ці [я]: *Агапъя, Агапя*<Агафия; *Настасья, Настася*<Анастасия; *Лукеря*<Гликерия; *Авгиня, Авгиння*<Евгения; *Просиня*<Евфросиния; *Маръя, Марья, Маря*<Мария; *Наталя, Наталля*<Наталия; *Хадосья, Хадося, Хадосся*<Феодосия.

Статыстычныя даныя аб колькасці фіксацый у абследаваных помніках пісьменнасці XVI—XVIII стст. варыянтаў імён, якія ўзніклі на аснове традыцыйна-царкоўных форм з канцавым *-ей* прыведзены ў табл. 1 на с. 136, з канцавым *-ий* — у табл. 2 на с. 140—141, з канцавым *-ия* — у табл. 3 на с. 143. У графе «кананічная форма ўласных імён» у квадратных дужках падаюцца кананічныя формы, не засведчаныя ў помніках, але варыянты якіх рэканструяваны па сучасных беларускіх прозвішчах. У такім разе ў графе «лік фіксацый у поўнай форме» стаіць зорачка (знак рэканструкцыі), а знакам + у адпаведных графах паказана форма, у якой імя рэканструявана. Статыстычныя даныя ў табліцах прыведзены па БА I.

## ВАРЫЯНТНАСЦЬ СУЧАСНЫХ МУЖЧЫНСКІХ ІМЕН

Штодзённае выкарыстанне імён у вусных зносінах пры самых разнастайных сітуацыях і неабходнасць перадачы шырокай гамы пачуццяў у адносінах да носьбіта імені абумовілі ўзнікненне для кожнага імені большага ці меншага ліку варыянтаў. Найбольш варыябельныя імёны, поўная афіцыйная форма якіх мала прыдатная для вуснага карыстання (доўгая па колькасці складоў, з нязвыклым для беларускай мовы гукавым складам і інш.), і ў першую чаргу імёны, якія выкарыстоўваюцца часта. «Магчымы адначасовыя і розначасовыя, стылістычныя і сітуацыйныя варыянты адных і тых жа імён, варыянты, якія існуюць у адным і тым жа і ў розных моўных калектывах, унутрыдыялектныя і прадстаўленыя ў розных дыялектах, а таксама літаратурныя і афіцыйныя варыянты, варыянты, што ўзніклі ў дадзенай мове, і запазычаныя» [1].

Адрозніваюцца арфаграфічныя варыянты (напрыклад, у старажытных пісьмовых крыніцах *Овсей — Авсей, Олена — Алена*), фанетычныя (*Фядос — Хвядос* — рэгіянальнае *Хвыдос, Філімон — Хілімон* — рэгіянальнае *Хылымон*), марфалагічныя (варыянты ад агульнай асновы пры дапамозе розных словаўтваральных сродкаў, напрыклад: *Адам, Адамачка, Адамей, Адамец, Адамка, Адамуля, Адамусь, Адамушка, Адамцё, Адамчык, Адасец, Адась, Адаська, Адзюня*) і лексічныя (напрыклад, для абазначэння носьбіта імені Аляксандр — *Алег, Алёша* ад Аляксей, *Сеня* ад Сямён).

Варыянтнасць беларускіх імён XV—XVIII стст. разгледжана ў адной з папярэдніх работ аўтара [2].

---

[1] Суперанская А. В. Структура имени собственного: Фонология и морфология.— М., 1969, с. 171.
[2] Бірыла М. В. Беларуская антрапанімія, с. 16—172.

У гэтым раздзеле прадстаўлены сучасныя беларускія марфалагічныя, зрэдку фанетычныя (лексікалізаваныя) і лексічныя варыянты імён.

Пастаўлена і ў межах магчымага вырашаецца задача максімальна поўнага выяўлення і апісання ўсяго корпуса варыянтаў мужчынскіх імён. У рамках гэтай задачы вырашаюцца наступныя прыватныя пытанні:

1. Усе варыянты суаднесены з сучаснымі беларускімі літаратурнымі і кананічнымі (праваслаўнымі і каталіцкімі) іменамі.

2. Распрацаваны гнёзды варыянтаў літаратурных імён.

3. Устаноўлены канкрэтныя дэрывацыйныя працэсы для ўсіх выяўленых варыянтаў: паказаны працэсы, якія зазналі ўтваральныя асновы, састаў і асаблівасці спалучальнасці дэрывацыйных афіксаў, устаноўлена колькасць дэрывацыйных радоў для варыянтаў кожнага літаратурнага імені і вызначана «лексічная напоўненасць» кожнага з іх.

4. Прыведзены і дэтальна пашпартызаваны ўсе зафіксаваныя варыянты, часта з указаннем узросту носьбітаў.

5. Для параўнання паказаны варыянты адпаведных літаратурных імён, выяўленыя ў старажытных пісьмовых крыніцах XVI—XVIII стст.

Кожная група варыянтаў, утвораных на базе агульнай асновы (ад аднаго імені), разглядаецца ў асобным слоўнікавым артыкуле, загалоўным словам для якога з'яўляецца сучасная літаратурная форма. Пасля загалоўнага слова падаецца кананічная (традыцыйна-царкоўная) форма імені як зыходная форма, на аснове якой у выніку адаптацыі, узаемаўплыву і дэрывацыі ўзніклі ўсе варыянты, разглядаемыя ў слоўнікавым артыкуле. Варыянты класіфікуюцца ў залежнасці ад характару ўтваральнай асновы: варыянты, утвораныя ад невытворнай асновы ці яе частак, складаюць першы дэрывацыйны рад; варыянты ад вытворных асноў, што склаліся ў рамках першага дэрывацыйнага рада, належаць да другога дэрывацыйнага рада; варыянты, асновай для ўтварэння якіх паслужылі дэрываты другога рада, адносяцца да трэцяга дэрывацыйнага рада і г. д. Такі аналіз матэрыялу дазваляе сістэмна прасачыць усе звенні дэрывацыі варыянтаў і паказаць месца кожнага з іх у

адносінах да іншых, літаратурнай формы і кананічнай формы. Усе зафіксаваныя варыянты ў артыкуле пада-юцца ў алфавітным парадку і з мэтай высвятлення арэалаў суправаджаюцца ўказаннем месца іх бытаван-ня. Матэрыял пашпартызуецца скарочаным абазначэн-нем назваў абласцей і раёнаў (гл. Спіс прынятых скара-чэнняў) у алфавітнай чарговасці. Калі які-небудзь варыянт зафіксаваны многа разоў, даецца абагульне-ная характарыстыка. У дужках пры наяўнасці даных паказан узрост носьбітаў імён.

АБРАМ, АЎРАМ, канан. правасл. Авраам, Авраамий, Аврамий, каталіц. польск. Abraham. Вытворныя варыян-ты: 1) ад асновы Абрам- з суфіксамі -ка, -ушка, -чык: *Абрамка, Абрамушка, Абрамчык;* 2) ад асновы Аўра- з суфіксам -ло: *Аўрало.* Зафіксаваны *Абрам* Брэст. *Абрамка* Бр. в. Жаб., *Абрамушка, Абрамчык* Брэст. *Аўрам* Маг. в. Хоц. *Аўрало* Бр. в. Лун. У XVI—XVIII стст. *Аврам* (16 фіксацый), *Абрам* (12) БА І 19—20.

АГАФОН, канан. Агафон. Імя вельмі рэдкае. Зафік-саваны *Агапон, Гапон, Гапонька* Бр. в. Драг. У XVI—XVIII стст. *Агапон, Огапон* (12 фіксацый), *Гапон* (16) БА І 21.

АДАМ канан. правасл. і каталіц. Імя не частае. Звычайна ў прадстаўнікоў сярэдняга і старшага пака-ленняў. Вытворныя адносяцца да двух дэрывацыйных радоў. Да першага — варыянты ад невытворнай асновы і яе частак: 1) ад асновы Адам- з суфіксамі -ей, -ец, -ка, -ук, -уля, -усь, -ушка, -цё: *Адамей, Адамец, Адамка, Адамук, Адамуля, Адамусь, Адамушка, Адамцё;* 2) ад усечанай асновы Ад- з суфіксамі -ік, -юня: *Адзік, Адзю-ня.* Другі рад складаюць варыянты ад вытворных асноў: 1) *Адамчык* ад Адамка; 2) ад асновы Адась- з суфікса-мі -ец, -ка: *Адасец, Адаська;* 3) *Адашка* ад гіпатэтыч-нага Адаш ці Адах. Зарэгістраваны *Адам* Бр. в. Івац. (45), Лях. (70); Гом. в. Акц. (22, 45), Ел. (45), Лельч. (15, 18, 21, 23, 30, 34, 48, 54, 57); Гр. в. Ашм. (45), Гродз. (70), Навагр.; Маг. в. Чэрык. (53); Мін. в. Нясв., Салі-гор., Сл. (42). *Адамачка* Мін. в. Сл. (42). *Адамей* Гом. в. Жытк. (52). *Адамец* Бр. в. Ганц. *Адамка* Віц. в. Глыб. (70); Мін. в. Сл. (42). *Адамук, Адамуля, Адамусь* Бр. в. Пруж. *Адамушка* Бр. в. Кам., Стол. *Адамцё* Бр. в.

Пін. *Адамчык* Бр. в. Кам., Пруж., Стол. (50); Гом. в. Акц. (52), Жытк. (60), Лельч. (57), Хойн.; Гр. в. Лід. (69); Маг. в. Чэрык. (53). *Адасец* Гр. в. Смарг. (69). *Адась* Гр. в. Навагр., Смарг. (69); Мін. в. Мядз., Нясв., Сл. (72). *Адашачка* Бр. в. Ів. *Адаська* Гр. в. Ашм. (40), Навагр. *Адзік* Бр. в. Брэст, Кам. *Адзюня* Мін. в. Дзярж. (73). У XVI—XVIII стст. *Адам* (20 фіксацый) БА I 22.

АДОЛЬФ канан. каталіц. Імя рэдкае, звычайна ў прадстаўнікоў каталіцкага веравызнання вышэй 40 гадоў. Вытворныя ад размоўнай формы Адо́ль (А′даль) пры дапамозе суфіксаў -ік, -ка, -юк, -як: *Адолік, Адалька, Адалюк, Адоляк.* Зафіксаваны *Адольф* Гр. в. Астр. (70). *Адаль* і *Адалька* Гр. в. Шч. (50). *Адалюк* Мін. в. Мядз. (82). *Адолік* Гр. в. Слонім (45); Мін. в. Мядз. (82). *Адоль* Віц. в. Шарк. (53); Гр. в. Бераст. (53), Гродз. (40, 60); Мін. в. Мядз. (82). *Адоляк* Гродз. (60).

АКІМ, ЯКІМ, канан. Иоаким. Імя вельмі рэдкае. Вытворныя ад асновы Акім- з суфіксамі -ка, -ушка, -чык: *Акімка, Акімушка, Акімчык* і ад асновы Якім: *Якімка.* Зафіксаваны ў Бр. в. *Акім, Акімчык* Бар., Жаб. *Акімушка* Брэст, Кам. *Якім, Якімка* Кам. У XVI—XVIII стст.— *Яким* (32 фіксацыі), *Еким, Аким, Ехим, Яхим* (3) БА I 83.

АЛЕГ, канан. Олег. Імя папулярнае. Звычайна ў моладзі, дзяцей, радзей у людзей сярэдняга пакалення. Вытворныя ўваходзяць у два дэрывацыйныя рады. У першы — варыянты ад невытворнай асновы і яе частак: 1) ад асновы Алег- з флексіяй -а: *Алега,* з суфіксамі -ак, -анька, -ачка, -ка, -ык пры чаргаванні г//ж: *Алежак, Алежанька, Алежачка, Алежка, Алежык;* 2) ад усечанай асновы Але- з суфіксамі -нь, -нька, -нушка, -чык: *Алень, Аленька, Аленушка, Алечык;* 3) ад усечанай асновы Ал- з суфіксамі -ік, -ічак, -ка, -чык, -юх: *Алік, Алічак, Алька, Альчык, Алюх.* Да другога рада адносяцца варыянты ад асновы вытворных імён: 1) ад усечанай асновы Алеж- з флексіяй -а: *Алежа;* 2) ад асновы Алежка шляхам усячэння пачатковага [а] і [ж] у сярэдзіне імені: *Лека;* 3) некаторыя вытворныя, аднесеныя да першага дэрывацыйнага рада: *Алежачка* ад Алежак, *Алежка* з суфіксам -ка. У якасці варыянтаў выкарыстоўваюцца і іншыя імёны: *Алёша* ад Аляксей, *Олек* ад польск. Aleksander. Зафіксаваны *Алег* Бр. в. Бар., Івац. (15); Віц. в. Віцебск (19), Гарад., Лёзн. (24),

Уш. (11,19, 21); Гр. в. Ваўк. (15), Гродз. (6), Гродна (9, 12, 16, 23, 48), Дзятл. (15), Лід. (18,19, 54); Маг. в. Бабр., Гор., Хоц., Чэрык. (21); Мін. в. Кап. (30), Мінск, Мядз., Пух., Салігор., Сл., Стаўбц. *Алега* Брэст. *Алежа* Бр. в. Пін. *Алежак* Віцебск (19); Гр. в. Ліда (5); Мін. в. Мінск, Мядз., Пух. *Алежанька* Бр. в. Драг., Кам., Кобр.; Гродна; Маг. в. Бабруйск; Мінск. *Алежачка* Бр. в. Брэст, Кам.; Гр. в. Кар. *Алежка* Бр. в. Бар., Драг., Івац. (15), Кам.; Віц. в. Віцебск (4,19), Лёзн. (24), Уш. (11, 21); Гом. в. Добр. (1,5, 10); Гр. в. Воран. (13), Гродз. (6), Гродна (40, 16), Кар., Лід. (7, 10); Маг. в. Бабр.; Мін. в. Дзярж., Кап., Мінск, Мядз., Пух., Сл., Стаўбц. *Алежык* Бр. в. Бар., Брэсц., Кам.; Віц. в. Лёзн. (24); Гр. в. Гродна (10), Кар.; Мінск. *Аленька* Віцебск (4). *Алень* Маг. в. Горкі (32). *Алечык* Мінск. *Алёнушак* Віцебск (4). *Алёша* Гр. в. Ваўк. (15). *Алік* Бр. в. Бар., Драг., Івац. (15, 18), Лун., Лях. (14); Віц. в. Гарад., Глыб., Міёр. (24), Паст. (30), Рас. (45), Уш. (11, 19, 21), Шум. (19); Гр. в. Ваўк. (15), Гродна (12, 16, 27, 48), Слонім (21), Навагр.; Маг. в. Магілёў, Бабруйск, Гор. (18), Хоц.; Мін. в. Дзярж., Кап. (30), Мінск, Мядз., Салігор., Стаўбц. *Алічак* Бр. в. Ів., Івац.; Гродна; Мін. в. Стаўбц. *Алька* Бр. в. Кам., Пін.; Мінск. *Альчык* Гродна. *Алюх* Маг. в. Гор. (18). *Лека* Віц. в. Уш. (19). *Олек* Віц. в. Міёры (24).

АЛІМП, канан. Алипий, Алимпий. Зафіксавана *Лімпей* Віц. в. Гарад. (76).

АЛЬФРЭД кніжн. ці праз польскую мову з лац. Зафіксаваны варыянты: *Альфрэд, Алег* Віцебск (45). *Алесь* Віц. в. Брасл. (20).

АЛЯКСАНДР, канан. Александр. Імя вельмі папулярнае. У залежнасці ад паслядоўнасці ўтварэння варыянтаў вылучаецца шэсць дэрывацыйных радоў. Да першага належаць варыянты ад невытворнай асновы і яе частак: 1) ад асновы Аляксандр і яе фанетычнага варыянта Ляксандр з флексіяй -а, з суфіксамі -ка, -ык: *Аляксандра, Ляксандра, Аляксандарка, Аляксандрык, Ляксандрык;* 2) ад усечанай асновы Аляксан- з суфіксам -ка: *Аляксанка;* 3) ад усечанай асновы Алекса-, Лекса- без афікса, з суфіксам -ша: *Алекса, Лекса, Лёкса, Аляксаша;* 4) ад усечанай асновы Але-, Оле-, Ле- з суфіксамі -к, -сь, -х: *Олек, Алесь, Олесь, Волесь, Лесь, Алех;* 5) ад усечанай асновы Ал-, Ол- з суфіксамі -ік,

-ка, -ісь: *Алік, Олік, Алька, Олісь;* 6) ад усечанай асновы Сан- без афіксаў: *Сан.*

Другі дэрывацыйны рад складаюць варыянты, утваральнай асновай для якіх сталі дэрываты першага рада: 1) ад гіпатэтычнай формы Аляксаня ўсечаная форма *Саня,* якая магчыма і ад асновы Сан- з флексіяй -я; 2) ад гіпатэтычнай асновы Аляксаха ўсечаная форма *Саха;* 3) ад асновы Аляксаша з суфіксам -ка *Аляксашка* і ўсечаная форма *Саша;* 4) ад асноў Алесь, Олесь, Волесь з суфіксамі -енька, -ік, -ка, -юк, -юшка: *Алесенька, Алесік, Алеська, Алясюк, Алесюшка;* 5) ад усечанай асновы Лесь з суфіксамі -ік, -ка, -ко, -юк, -юшка: *Лесік, Леська, Лясько, Лясюк, Лесюшка;* 6) ад формы Алех- з суфіксам -но: *Аляхно;* 7) ад усечанай асновы Сан- з флексіяй -я, з суфіксам -ко: *Саня, Санко.*

У трэці дэрывацыйны рад уваходзяць варыянты, што ўзніклі на базе дэрыватаў другога дэрывацыйнага рада: 1) ад асновы Сан- з суфіксамі -ец, -ёк, -ік, -ка, -ко, -юк, -юля, -юта, -юха, -ча: *Санец, Санёк, Санік, Санька, Санько, Санюк, Санюля, Санюха, Санча;* 2) ад асновы Сах- з суфіксамі -на, -но: *Сахна, Сахно;* 3) ад асновы Аляксашка ў выніку ўсячэння: *Сашка;* 4) ад формы Саша з суфіксамі -анька, -ка, -ко, -мель, -ок, -он, -ук, -уля, -уня, -ура, -ута, -ык: *Сашанька, Сашка, Сашко, Сашмель, Сашок, Сашон, Сашук, Сашуля, Сашуня, Сашура, Сашута, Сашык;* 5) ад формы Санко з суфіксам -ук: *Санчук.*

Варыянты чацвёртага дэрывацыйнага рада складаліся на аснове варыянтаў трэцяга дэрывацыйнага рада: 1) ад Санец — *Санчук,* Санёк — *Санёчак,* Санік — *Санічак,* Санька — *Санечка,* Санько — *Саньчык,* Санюк — *Санючок,* Санюля — *Санюлька,* Санюта — *Санютка,* Санюха — *Санюшка;* 2) ад Сахна, Сахно — *Сахнюк;* 3) ад Сашка, Сашко — *Сашачка,* Сашко, Сашок — *Сашочак,* Сашон — *Сашонік,* Сашук — *Сашучок,* Сашуля — *Сашулька,* Сашуня — *Сашунька,* Сашура — *Сашурка, Шура,* Сашута — *Сашутка,* Сашык — *Сашычак.*

Пяты дэрывацыйны рад: ад Сашонік — *Сашонічак,* Сашулька — *Сашулечка,* Сашунька — *Сашунечка,* Сашурка — *Сашурачка, Шурка,* Шура — *Шурка, Шурык,* Сашутка — Сашутачка.

Шосты дэрывацыйны рад: ад Шурка — *Шурачка,* Шурык — *Шурычак.* У якасці варыянтаў імені *Аляк-*

*сандр* выкарыстоўваюцца і формы іншых імён: *Алег; Алёша* ад Аляксей; *Сеня* ад Сямён. Магчымыя ўтваральныя асновы і паслядоўнасць утварэння імён паказаны на схеме (гл. схему на с. 26—27). Зафіксаваны *Алег* Віц. в. Паст. (18). *Алекса* Маг. в. Маг. (70). *Алесенька* Гр. в. Скідаль (3). *Алесік* Гр. в. Навагр. *Алесь* Бр. в. Драг., Ів., Лях. (70), Пруж.; Віц. в. Тал. (53); Гом. в. Петр.; Гр. в. Ашм. (34), Кар. (45, 60), Маст. (50), Навагр. (70, 78). *Алеська* Віц. в. Бешанковічы (24); Гр. в. Скідаль (5); Мінск. *Алех* Бр. в. Пін. *Алёша* Бр. в. Стол. (50); Гр. в. Маст. (50). *Алік* Бр. в. Ганц.; Віц. в. Паст. (17, 18); Гр. в. Астр. (20), Лід. (23), Маст. (19); Мін. в. Стаўбц. *Алька* Віц. в. Кругл. (26). *Аляксандарка* Бр. в. Пруж. *Аляксандр* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 68 фіксацый у 58 нас. пунктах для асоб рознага ўзросту. *Аляксандра* Бр. в. Драг.; Віц. в. Глыб. (70); Гр. в. Смарг. (68). *Аляксандрык* Гом. в. Акц. (80), Петр. (у любым узросце). *Аляксанка* Бр. в. Драг. *Аляксаша, Аляксашка* Гродна. *Волесь* Гом. в. Петр.; Гр. в. Гродз. (50); Мін. в. Нясв. *Лекса* Мін. в. Віл. (60). *Лесь, Леська* Бр. в. Лун. *Лесюшка* Гр. в. Скідаль (3). *Лёкса* Мін. в. Віл. (60). *Ляксандр* Бр. в. Драг., Ів. (56), Івац., Кобр., Пруж.; Віц. в. Чашн. (50), Шум. (50); Гродна (25); Маг. в. Маг. (4), Мсц., Мсціслаў. *Ляксандра* Бр. в. Драг., Івац.; Віц. в. Орша (22), Беш. (75), Сен. (70), Талачын (50), Шум. (50); Маг. в. Чав. (50, 65); Мін. в. Віл. *Ляксандрык* Бр. в. Стол. *Олек* Гр. в. Зэльв. (40), Навагр.; Мін. в. Пух., Стаўбц. *Олесь* Гр. в. Гродз. (87). *Олех* Бр. в. Пін. *Олік* Віц. в. Докш. (19). *Оліська* Бр. в. Малар., Пін.; Віц. в. Докш. (19). *Сан, Санечка* Бр. в. Бяроз. (63); Віцебск (19); Мін. в. Барысаў, Віл., Мінск. *Санёк* Гом. в. Хойн. (3); Гр. в. Ліда (22); Маг. в. Касц., Маг. (1), Мсціслаў; Мін. в. Барысаў, Віл., Маладзечна, Мін. *Санік* Бр. в. Ів. *Санча* Бр. в. Івацэвічы; Віц. в. Уш. (17); Гом. в. Карм. (14). *Санька* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 53 фіксацыі ў 52 нас. пунктах галоўным чынам для асоб 15—30 гадоў, аднак засведчана таксама ў дзяцей і ў старых. *Санько* Бр. в. Драг., Кобр., Малар.; Гом. в. Лельч. (12); Гр. в. Навагр. (48); Мінск. *Саньчык* Бр. в. Стол.; Гродна (15). *Санюк* Мінск. *Санюля* Мін. в. Пух. *Санюха* Бр. в. Стол. *Саня* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 94 фіксацыі ў 83 нас. пунктах пераважна для асоб 12—30 гадоў, але сустракаецца ў старэйшых і дзя-

цей. *Саха* Брэст. *Сахна* Бр. в. Брэсц. *Сахно* Віц. в. Кругл. (26); Гом. в. Петр. (14—17). *Саша* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 209 фіксацый у 167 нас. пунктах, галоўным чынам для асоб 12—40 гадоў, але адзначана і ў старэйшых людзей і ў дзяцей. *Сашанька* Бр. в. Баранавічы (4), Бяроз. (24); Віц. в. Віцебск (19), Паст. (75), Чашн. (18); Гродна (4, 5, 15, 25, 28); Маг. в. Бабруйск; Мін. в. Маладзечна, Мінск. *Сашачка* Віцебск (19); Гр. в. Гродз. (50), Маст. (19), Навагр. (7, 8, 9); Мін. в. Віл., Мінск, Нясв. *Сашка* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 128 фіксацый у 101 нас. пункце для асоб прыкладна таго ж узросту, што і *Саша*. *Сашко* Бр. в. Бяроз. (23, 24), Драг., Жаб., Івац., Стол.; Віцебск (40); Гом. в. Лельч. (4, 8); Маг. в. Маг. (8); Мін. в. Мінск, Стаўбц. (17). *Сашмель* Бр. в. Івац. *Сашок* Бр. в. Бар. (10), Баранавічы (5, 6), Бяроз. (12, 23), Ів. (12), Івац. (15), Кам., Пін. (8, 30), Стол. (18); Віц. в. Віцебск (19), Орша (22), Уш. (17), Шум. (14, 18); Гом. в. Добр. (1, 5, 10, 13—18), Жлоб. (5), Карм. (7); Гр. в. Воран. (8), Гродз. (12, 23), Гродна (5, 11, 24, 24, 25), Дзятл. (12), Кар., Навагр., Свісл. (6, 50), Шч. (14); Маг. в. Бабруйск, Касц., Клічаў, Мсц. (70), Мсціслаў; Мін. в. Барысаў, Віл., Люб. (17), Маладзечна (14—16), Мін., Мінск, Стаўбц. *Сашон* Гом. в. Гом. (8). *Сашонік* Мін. в. Сл. *Сашук* Бр. в. Бяроз.; Віц. в. Арш. *Сашулька* Гр. в. Свісл. (6). *Сашуля* Бр. в. Брэсц., Бяроз. (12), Івац. (15); Віц. в. Верхнядзвінск, Шум. (18); Гр. в. Гродна (2), Кар. (5), Навагр. (2, 3); Мін. в. Мін., Мінск. *Сашунечка* Гр. в. Навагр. *Сашунька* Бр. в. Драг.; Гр. в. Навагр.; Мін. в. Люб. *Сашуньчык* Бр. в. Бяроз.; Гр. в. Гродна, Навагр. (5). *Сашуня* Бр. в. Баранавічы (5), Брэст, Бяроз. (12, 24); Віц. в. Уш. (17), Чашн. (18); Гр. в. Гродна (5, 15), Лід. (2), Навагр.; Мін. в. Люб., Пух., Слуцк. *Сашура* Баранавічы. *Сашута* Мінск. *Сашутка* Віц. в. Гарад. (23); Гом. в. Карм. (3); Мін. в. Стаўбц. *Сашык* Бр. в. Ів., Івац., Лях. (23), Стол.; Гом. в. Лельч. (18), Петр. (12—14); Гр. в. Гродз. (10), Свісл. (6). *Сеня* Віц. в. Шум. (20); Гр. в. Бераст. (15), Гродна, Лід. (6); Маг. в. Глуск. (20). *Шура* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 95 фіксацый у 89 нас. пунктах для асоб 15—40 гадоў, аднак сустракаецца ў старэйшых асоб і дзяцей 10—12 гадоў. *Шурачка* Віц. в. Чашн. (18); Гр. в. Гродна (5), Навагр. (15); Маг. в. Бабруйск, Хоцімск; Мін. в. Ба-

рысаў, Лаг. (30, 35), Люб., Маладзечна, Мінск. *Шурка* Бр. в. Бяроз. (12); Віц. в. Сен. (40—43), Бешанковічы (24), Глыб., Докш. (45), Міёр.- (45), Расон. (54), Тал. (21), Талачын, Чашн. (18); Гом. в. Акц. (50), Б.-Каш. (18), Добр. (55); Гр. в. Гродна, Лід. (65), Навагр.; Маг. в. Бабр. (40), Бялын. (50), Краснап. (50), Мсц. (50), Слаўг. (46), Чав. (28), Чэрык. (46), Шкл. (35). *Шурык* Бр. в. Бар. (22), Баранавічы (14), Бяроз. (23), Лун. (19), Лях. (25, 26, 30, 50), Малар., Стол. (18, 19); Віц. в. Орша (22), Верхнядзвінск, Віцебск (19,21), Гарад. (50), Глыб., Кругл. (26), Паст. (22), Пол. (23), Тал. (21), Чашн. (18); Гом. в. Б.-Каш. (11, 19), Ел. (17), Рэч. (32), Хойн. (35), Чачэрск; Гр. в. Бераст. (15), Гродз., Скідаль (20), Гродна (5, 13, 15, 24, 25, 26), Зэльв. (15), Лід. (15), Масты (50), Навагр., Навагрудак (35, 60); Маг. в. Гор. (50), Касц., Касцюковічы (40), Мсціслаў, Хоцімск, Чав. (20); Мін. в. Барысаў, Люб., Мал., Мінск, Нясв. (10, 30), Пух. (16), Салігор., Стаўбц. (23). У XVI—XVIII стст. *А(О)лександр* (9 фіксацый), *А(О)лександро* (18), *Олехно* (21), *Алес, Олех, Санюк* БА I 23.

АЛЯКСЕЙ, канан. Алексий. Імя папулярнае. Разм. Ляксей. Вытворныя належаць да трох дэрывацыйных радоў. Да першага адносяцца варыянты ад невытворнай асновы і яе частак: 1) ад асновы Аляксей з суфіксамі -ка, -чык, -юшка: *Аляксейка, Аляксейчык, Аляксеюшка;* 2) ад усечанай асновы Алекс-, Лекс- з флексіяй -а: *Алекса, Лёкса;* 3) ад усечанай асновы Але-, Ле- з суфіксамі -ха, -ш, -ша: *Алёха, Алёш, Алёша, Лёха, Лёша.* У другі рад уваходзяць варыянты ад вытворных асноў: 1) ад усечаных асноў Алёш-, Лёш- з суфіксамі -анька, -ка, -ык: *Лёшанька, Лёшка, Лёшык;* 2) ад усечанай асновы Лёк-<Лёкса з флексіяй -а: *Лёка.* Ад вытворных асноў другога дэрывацыйнага рада ўтвораны варыянты трэцяга рада: *Алёшачка* ад Алёшка, *Лёшачка* ад Лёшка. Выкарыстоўваюцца формы іншых імён: *Алег, Алік; Алесь, Санё, Санік, Санька; Лёва; Лёнік, Лёня, Лёнька.* Зарэгістраваны *Алег* Віц. в. Паст. (18). *Алекса* Віц. в. Чашн. (18). *Алесь* Віц. в. Шум. (50); Мін. в. Нясв. (10, 50), Сл. (73). *Алёха* Бр. в. Брэсц., Жаб., Малар. Стол. (28); Віц. в. Паст. (19). *Алёш* Бр. в. Івац. *Алёша* Бр. в. Бяроз. (17, 68), Драг., Жаб., Ів. (53, 70), Івац. (25), Кам. (40), Лун. (10—45), Лях. (20), Стол. (28, 49);

Віц. в. Віцебск, Гарад. (50), Глыб., Паст. (19), Тал. (50), Чашн. (18), Шарк. (62); Гр. в. Бераст. (17), Гродна (2, 50), Дзятл. (45), Зэльв. (45), Кар. (25, 45, 50, 50, 55), Навагр. (45, 48, 50, 55), Свісл. (21); Маг. в. Бабруйск, Гор. (7), Касц.; Мін. в. Барысаў, Бярэз., Люб., Мінск, Мядз., Нясв., Пух., Сл. (70), Слуцк. *Алёшанька* Бр. в. Брэст, Стол. (28); Віц. в. Чашн. (18); Гр. в. Воран. (4), Гродна (2), Зэльв., Кар., Навагр.; Маг. в. Бабруйск; Мін. в. Бярэз., Мінск. *Алёшачка* Мінск. *Алёшка* Бр. в. Бар., Бяроз. (17), Драг., Івац. (19), Лях. (48), Малар., Стол. (49); Віц. в. Паставы (19); Гом. в. Акц. (60), Хойн. (35—40); Гр. в. Бераст. (17), Гродна (2, 20), Дзятл. (40), Кар., Маст. (30), Навагр., Свісл. (21); Маг. в. Касц., Хоц. (1); Мін. в. Барысаў, Бярэз., Люб., Мінск, Мядз., Пух., Сл. (70), Слуцк. *Алёшык* Гр. в. Свісл. (21). *Алік* Бр. в. Драг., Пін. *Аляксей* Бр. в. Бар., Бяроз. (17, 68), Ів. (53, 70), Івац. (65), Кам. (17, 45), Лун. (40—60), Лях. (40, 60); Віц. в. Віц. (41), Гарад. (50, 66), Леп. (64), Паст. (19), Тал. (50); Гом. в. Лоеў., Хойн. (60); Гр. в. Гродна (50), Зэльв. (50), Кар., Навагр.; Маг. в. Бабруйск, Гор. (40, 47, 48), Касц., Шкл. (50); Мін. в. Барысаў, Бярэз., Люб., Мал., Мінск, Мядз., Нясв., Сл. (70), Слуцк, Стаўбц. *Аляксейка* Бр. в. Драг., Ів.; Маг. в. Касц.; Мінск. *Аляксейчык* Маг. в. Касц.; Мінск. *Аляксеюшка* Віц. в. Чашн. (18). *Аляшун* Бр. в. Пін. *Лёва* Віц. в. Паставы (19). *Лёкса* Віц. в. Гарад. (52), Докш. (67), Паст. (19); Мін. в. Мал. *Лёнік* Бр. в. Бяроз., Пруж. *Лёнька* Бр. в. Кам. (17, 45). *Лёня* Бр. в. Бяроз. (17), Пін.; Віц. в. Паст. (19). *Лёха* Бр. в. Ів., Лях. (10, 40), Малар., Стол.; Віц. в. Беш. (20), Віц. (41), Гарад. (50), Паст. (19), Чашн. (18); Гр. в. Ліда (17, 27); Маг. в. Чэрык. (18); Мін. в. Мінск, Сл. (70). *Лёша* Бр. в. Бар., Жаб., Ів. (53), Івац. (25), Кам. (40, 45), Лях. (48), Малар.; Віц. в. Беш. (20), Бешанковічы (40), Верхнядзвінск, Глыб. (20), Лёзн., Леп., Міёр. (40), Паст. (19), Чашн. (18), Шарк. (20—30), Шум. (50); Гом. в. Акц. (18); Гр. в. Гродна (2, 15, 50), Масты (55), Навагр. (20); Маг. в. Гор. (55), Касц.; Мін. в. Барысаў, Люб., Мінск, Мядз., Нясв., Пух., Сл. (70), Стаўбц. *Лёшанька* Віц. в. Арш., Чашн. (18); Гродна (2). *Лёшачка* Мінск. *Лёшка* Бр. в. Бар., Бяроз. (17), Драг., Жаб., Івац., Лях. (7, 17), Стол.; Віц. в. Беш. (35), Бешанковічы (45), Віц. (41), Гарад. (66), Глыб. (20), Лёзн., Міёр. (40), Паста-


Аляксандра
Ляксандра
Аляк-
сандарка
Аляксандрык
Ляксандрык
Аляксанка
Аляксаня
Алекса
Лекса
Лёкса
Аляксаха
Саня
Саха
Санец
Санёк
Санік
Санька
Санько
Санюк
Санюля
Санюта
Санюха
Санча
Сахна
Сахно
Санчук
Санёчак
Санічак
Санечка
Саньчык
Санючок
Санюлька
Санютка
Санюшка
Сахнюк


Аляксаша
Алесь
Олесь
Волесь
Лесь
Сан
Алех
Олек
Олік
Оліcь
Алік
Алька
Аляксашка
Саша
Алеська
Алесік
Алесенька
Алесюшка
Алясюк
Леська
Лесюшка
Лесік
Лясько
Лясюк
Санко
Аляхно
Сашка
Сашко
Сашанька
Сашмель
Сашок
Сашон
Сашук
Сашуля
Сашуня
Сашура
Сашута
Сашык
Санчук
Сашачка
Сашочак
Сашонік
Сашучок
Сашулька
Сашунька
Сашурка
Шура
Сашутка
Сашычак
Сашонічак
Сашулечка
Сашунечка
Сашурачка
Шурка
Шурык
Сашутачка
Шурачка
Шурычак

вы (19), Тал. (62), Талачын, Шум. (40, 50); Гом. в. Б.-Каш. (16); Маг. в. Гор. (47), Чэр. (50, 55); Мін. в. Барысаў, Мінск, Мядз., Пух., Стаўбц. *Лёшык* Бр. в. Драг., Івац.; Гродна (50); Мінск. *Ляксей* Бр. в. Ів. (53, 70); Віц. в. Арш., Беш. (35), Бешанковічы (46), Верхнядзвінск, Віц. (41, 50, 70), Гарад. (50, 66), Докш. (67), Леп. (64, 75), Лёзн., Міёр. (40), Паставы (19), Пол. (80, 90), Сен. (40, 42), Тал. (62), Талачын, Шум. (40); Гом. в. Б.-Каш. (35), Ветк. (45), Лельч. (64), Хойн. (60). *Санё, Санік, Санька* Бр. в. Бяроз. У XVI—XVIII стст. *А(О)лексей* (42 фіксацыі), *Олексий, А(О)лекса* (5), *Алекшей* (8), *А(О)лекший* (4), *А(О)лекши* (16), *А(О)лекша* (2), *Олешко* (3), *Олеша, А(О)лехно* (53) БА І 24—26.

АНАНЬ і АНАНІЙ, канан. Анания. Імя нячастае. Вытворныя належаць да двух дэрывацыйных радоў. Да першага — варыянты ад невытворнай асновы Анань і яе частак: 1) ад асновы Анань з суфіксам -ік: *Ананік;* 2) ад асновы Ана- з суфіксам -сь: *Анась;* 3) ад асновы Ан- з суфіксам -ік: *Анік;* 4) ад асновы Нянь- з суфіксам -ка: *Нянька.* Другі рад: *Ананічак* ад Ананік. Зафіксаваны *Ананій* Гом. в. Лельч. (65); Гр. в. Навагр. *Ананік* Бр. в. Кобр. *Анась* Бр. в. Жаб. *Анік* Гр. в. Навагр. *Анічак* Гр. в. Навагр. *Нянька* Гом. в. Лельч. (65). *Фанань* Бр. в. Драг. У XVI—XVIII стст. *А(О)нания* (5), *Анання* (2), *Ананя, Анан, Анань* БА І 27—28.

АНАСТАС і АНАСТАСІЙ, канан. Анастасий. Зафіксавана ў форме *Стасё* Бр. в. Малар.

АНАТОЛЬ і АНАТОЛІЙ, канан. Анатолий. Імя папулярнае. Разм. *Натоль.* Вытворныя адносяцца да трох дэрывацыйных радоў. Да першага — варыянты ад невытворнай асновы і яе частак: 1) ад асновы Анатоль з суфіксамі -ік, -ка: *Анатолік, Анатолька;* 2) ад дэфарміраванай асновы Антоль- без афікса, з суфіксамі -ік, -ка: *Антоль, Антолік, Антолька;* 3) ад усечанай асновы Толь- з флексіяй -я: *Толя.* Варыянты другога рада ўтвораны ад асновы Толь- вытворнай формы Толя без суфікса, з суфіксамі -енька, -ечка, -ік, -іч, -ка, -ко, -ман, -юк, -юня, -юсь, -юша, -яй, -яка, -ян, -яна, -яш: *Толь, Толенька, Толечка, Толік, Толіч, Толька, Талько, Тольман, Талюк, Талюня, Талюсь, Талюша, Таляй, Таляка, Талян, Таляна, Таляш.* У трэці дэрывацыйны рад уваходзяць: 1) *Толічак, Талічок* ад Толік; 2) *Таляйчык* ад Таляй ці гіпа-

тэтычнага Таляйка; 3) *Талясцік* ад гіпатэтычнага Таляс(ь); 4) *Таляшта* ад Таляш. Выкарыстоўваюцца і формы іншых імён: *Антось, Антоша, Антошка, Тоня, Тонюсь, Тосік, Тоша* ад Антон. Зарэгістраваны *Анатолій* Бр. в. Бар. (42); Віц. в. Гарад. (27, 45); Гом. в. Петр.; Гр. в. Ваўкавыск (30), Гродз. (23), Гродна (20, 27), Навагр., Свісл. *Анатолік* Бр. в. Драг.; Мінск. *Анатоль* Бр. в. Бар., Баранавічы (23), Ів. (40), Івац. (19), Кам. (40), Кобр. (33); Віц. в. Міёр. (35), Паст. (50), Шарк. (40); Гом. в. Добр., Хойн.; Гр. в. Гродз., Дзятл. (21), Кар., Навагр., Свісл.; Маг. в. Бабр., Бабруйск (22), Кір., Магілёў (40), Мсц., Мсціслаў, Слаўг. (48); Мін. в. Віл., Лаг., Люб., Мін., Мінск, Мядз., Нясв., Пух., Сл., Стаўбц. *Анатолька* Мінск. *Антолік* Бр. в. Драг. *Антолька* Віц. в. Міёр. (52); Мінск. *Антось* Гр. в. Свісл. *Антоша* Віц. в. Орша (20), Паст. (23). *Антошка* Віц. в. Орша (20), Ушачы (20). *Натоль* Бр. в. Івац. *Талічок* Бр. в. Драг., Ів., Івац., Кам. *Талько* Гом. в. Лельч. (5, 8, 18, 21). *Талюк* Бр. в. Ів.; Віц. в. Шум. (16). *Талюн* Бр. в. Ів. *Талюня* Бр. в. Кобр. *Талюсь* Бр. в. Кам. *Талюша* Гом. в. Хойн. *Таляй* Бр. в. Івац.; Мін. в. Мінск, Стаўбц. *Таляйчык* Гр. в. Навагр. *Таляка* Бр. в. Драг. *Талян* Віц. в. Уш. (13); Гом. в. Добр. (1, 5), Жытк., Хойн. *Таляна* Бр. в. Пін. *Талясцік* Гродна (4). *Таляш* Бр. в. Стол. *Таляшта* Бр. в. Стол. *Толенька* Бр. в. Бяроз. (25), Драг., Жаб.; Гр. в. Ваўкавыск (4), Кар.; Мінск. *Толечка* Бр. в. Драг.; Мін. в. Дзярж., Люб., Мінск, Мядз., Стаўбц. *Толік* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 104 фіксацыі ў 86 нас. пунктах пераважна для асоб 10—40 гадоў. *Толіч* Бр. в. Пін. *Толічак* Бр. в. Бар., Брэсц., Івац. (19), Лун.; Гр. в. Ваўкавыск (1), Гродна (27), Кар., Навагр., Шч. (12); Мін. в. Бярэз., Мінск, Нясв., Сл., Слуцк. *Толь* Бр. в. Ів.; Мінск. *Толька* Бр. в. Бяроз. (25), Драг., Кам., Кобр., Стол.; Гр. в. Бераст. (47), Ваўкавыск (10), Воран. (29), Гродз., Кар., Свісл. (26); Мін. в. Бярэз., Люб., Мінск, Сл. *Тольман* Бр. в. Ів. *Толюсь* Віц. в. Уш. (13). *Толя* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 78 фіксацый у 67 нас. пунктах пераважна для асоб 10—40 гадоў, але ўжываецца і ў больш раннім і ў больш познім узросце. *Тонюсь, Тоня* Віц. в. Паст. (50). *Тосік* Гр. в. Кар. (13). *Тоша* Мінск. У XVI—XVIII стст. не адзначана.

АНДРЭЙ, канан. Андрей. Імя частае. Фанетычныя варыянты *Андрый, Гандрый*. Вытворныя варыянты аб'-

ядноўваюцца ў тры дэрывацыйныя рады. Варыянты першага рада ўтвораны ад невытворнай асновы і яе частак: 1) ад асновы Андрэй з суфіксам -ка: *Андрэйка;* 2) ад усечанай асновы Андр- з суфіксамі -он, -ук, -уль, -уля, -усь, -уха, -уша, -ык: *Андрон, Андрук, Андруль, Андруля, Андрусь, Андруха, Андруша, Андрык;* 3) ад усечанай асновы Дрэй-: *Дрэйка;* 4) ад асновы Андрый з суфіксам -ко: *Андрыйко;* 5) ад асновы Гандр- з суфіксамі -ось, -уша, -ык: *Гандрось, Гандруша, Гандрык;* 6) рэгіянальныя варыянты з суфіксам -ык: *Гандрэлык, Гэндрык, Хэндрык, Энджык, Яндрык.* Другі рад: 1) ад Андруль, Андруля — *Андрулік;* 2) ад Андруха, Андруша — *Андрушка;* 3) ад Андруша — *Андрушанька;* 4) ад Андрэйка — *Андрэйчык;* 5) ад Гандруша — *Гандрушка.* Трэці рад: ад Андрушка — *Андрушчык.* Зафіксаваны *Андрон* Гом. в. Петр. (17). *Андрук* Гр. в. Астр. (70). *Андрулік* Бр. в. Івац. *Андруль* Бр. в. Кам. *Андруля* Гродна (9). *Андрусь* Бр. в. Івац. *Андруха* Бр. в. Бар., Брэсц., Ів.; Віц. в. Лёзн.; Гом. (5); Гродна (5, 9, 14—16); Маг. в. Мсціслаў; Мін. в. Барысаў, Віл., Мін., Мінск. *Андруша* Бр. в. Драг. (50), Жаб., Ів. (13), Івац. (1, 37), Кам. (70), Малар., Стол.; Віц. в. Лёзна (10), Шум. (16, 19); Гом. в. Добр. (3—20), Петр. (10); Гр. в. Гродна (2, 9), Ліда (10), Навагр., Навагрудак (3, 54), Шч. (2); Маг. в. Бабруйск, Мсціслаў, Хоцімск; Мін. в. Барысаў, Бярэз., Віл., Дзярж., Люб., Мал., Мін., Мінск, Сл. (80), Стаўбц. *Андрушанька* Гр. в. Ваўкавыск (1), Гродна (9, 18); Мінск. *Андрушка* Бр. в. Бар. (7, 10), Ів. (13), Івац. (1), Кам., Малар., Пін., Віц. в. Шум. (16); Гом. в. Добр. (3—15), Петр. (10), Светлаг. (3); Гр. в. Ваўкавыск (да 10), Гродна (9, 18), Кар., Ліда (22), Навагр., Навагрудак (4, 5); Маг. в. Бабруйск; Мін. в. Барысаў, Віл., Люб., Мінск, Пух., Сл., Стаўбц. *Андрушчык* Мінск. *Андрый* Бр. в. Драг. (50), Кам. (70). *Андрык* Бр. в. Ів. *Андрэй* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 62 фіксацыі ў 50 нас. пунктах для асоб ад 5 да 90 гадоў. *Андрэйка* Бр. в. Бар., Бр., Жаб., Івац. (1), Кам., Лун. (9), Лях. (5), Пруж.; Віц. в. Лёзна (10), Шум. (19); Гом. в. Акц. (5), Ветк. (8), Гом. (5), Добр. (3—10), Карм. (5), Петр., Светлаг. (3); Гр. в. Ваўкавыск (4—6), Гродз. (7 ,10), Гродна (9, 7), Кар., Лід. (4), Ліда (10), Навагр., Навагрудак (54), Свісл. (80), Шч. (4); Маг. в. Бабруйск, Мсціслаў, Хоцімск; Мін. в. Барысаў, Бярэз., Віл., Дзярж., Люб., Мал., Мін.,

Мінск, Нясв., Пух., Сл., Стаўбц. *Гандрэсь* Бр. в. Драг. *Гандруша* Бр. в. Драг., Малар. *Гандрушка* Бр. в. Драг., Ів., Пін. *Гандрый* Бр. в. Драг., Жаб., Малар. *Гандрыйко* Бр. в. Драг. *Гандрэлык* Бр. в. Пін. *Гэндрык* Бр. в. Жаб. *Дрэйка* Бр. в. Брэсц., Пін. *Хэндрык* Бр. в. Кам. *Энджык* Бр. в. Ів. *Яндрык* Бр. в. Івац. У XVI—XVIII стст. *А(О)ндрей* (338 фіксацый), *Андрея, Андрейко* (5), *Андрушко, Андраш, Андрус, Андрюс* (5), *Андрос* (4), *Анрос* БА I 28—30.

АНТОН, канан. правасл. Антоний, каталіц. польск. Antoni. Імя даволі частае. Адзначана 45 вытворных варыянтаў, якія складаюць тры дэрывацыйныя рады. Першы рад — варыянты ад невытворнай поўнай асновы і яе частак: 1) ад асновы Антон з суфіксамі -ік, -ка, -ушка: *Антонік, Антонка, Антонушка;* 2) ад асновы Антонь-: *Антонька;* 3) ад усечанай асновы Ант- з флексіяй -ё, з суфіксамі -ак, -ась, -ік, -ось, -ош, -оша, -ук, -усь, -ык, -эк, -эка: *Анцё, Антак, Антась, Анцік, Антось, Антош, Антоша, Антук, Антусь, Антык, Антэк, Антэка;* 4) ад усечанай асновы Тонь- з флексіяй -я, з суфіксамі -ік, -ка, -юк, -юсь, -як: *Тоня, Тонік, Тонька, Танюк, Тонюсь, Тоняк;* 5) ад рэгіянальнай асновы Гантон: *Гантонко;* 6) ад усечанай асновы Гант-: *Гантось, Гантык.* Другі рад складаюць варыянты ад дэрыватаў першага рада: 1) ад Антось з суфіксамі -ей, -ік, -ка: *Антасей, Антосік, Антоська;* 2) ад усечанай асновы Тось- з флексіяй -я//-ё, з суфіксамі -ік, -ка: *Тося, Тосё, Тосік, Тоська;* 3) ад Антош- з суфіксамі -анька, -ка: *Антошанька, Антошка;* 4) ад Тош- з флексіяй -а, з суфіксам -ка: *Тоша, Тошка;* 5) ад Антонка — *Антончык,* ад Антак — *Антачак,* ад Антусь — *Антусёк,* ад Анцік — *Анцічак,* ад Тонік — *Тонічак,* ад Танюк — *Танючок,* ад Тонюсь — *Танюсёк,* ад Гантось — *Гантоська.* Трэці рад: ад Антосік — *Антосічак,* ад Антоська — *Антосечко,* ад Тосік — *Тосічак.* У якасці варыянтаў выкарыстоўваюцца формы імені Анатолій — *Толя, Толік.* Зарэгістраваны *Антак* Бр. в. Бар., Лях. (70); Віц. в. Глыб. (15); Гр. в. Ашм. (20), Бераст. (49), Гродз. (45, 54), Лід. (50, 68), Навагр., Шч. (30); Мін. в. Валож., Кап. (45), Пух. *Антасей* Бр. в. Пруж. *Антась* Гр. в. Шч. (45). *Антачак* Гр. в. Навагр. *Антон* Бр. в. Бар. (74), Лях. (20); Віц. в. Глыб. (37, 45), Докш. (45, 50, 56, 74), Паст. (45, 53), Расон. (45), Шарк. (40, 42, 50); Гом. в. Жытк. (50), Лельч. (12, 13, 23, 48);



Антон
Антонка
Гантонко
Антонік
Антонька
Антонушка
Антош
Антоша
Антончык
Гантончык
Антонічак
Антошанька
Антошка
Тоша
Тошка
Антось
Антась
Антасей
Антосік
Антоська
Тося
Тосё
Антосічак
Антосечка
Тоська
Тосік
Тосечка
Тосічак


Антук
Áнтусь
Антýсь
Антусёк
Анцё
Анцік
Анцічак
Тонік
Тонічак
Тоня
Тонька
Тонечка
Танюк
Танючок
Тонё
Таняк
Тонюсь
Танюсёк
Танюсёчак
Антак
Антачак
Антоні
Антык
Антэк
Антэка

Гр. в. (40), Ашм. (25), Бераст., Воран., Гродз. (17, 22), Гродна (45, 53), Дзятл. (20—30), Зэльв. (30), Лід. (40), Ліда (49), Навагр., Свісл.; Маг. в. Бабр., Бабруйск, Клім. (68), Крычаў (30, 40, 50), Чав. (70); Мін. в. Барысаў, Валож., Віл., Дзярж., Кап. (45), Люб., Мал., Мін., Мінск, Мядз. (50), Пух., Салігор., Слуцк, Стаўбц. *Антоні* Віц. в. Докш. (45, 50, 74); Гр. в. Воран. (50); Мін. в. Мядз. (89). *Антонік* Бр. в. Бар., Драг., Кобр., Лун.; Гр. в. Бераст. (75); Мін. в. Пух. *Антонка* Бр. в. Драг.; Гр. в. Лід. (15), Навагр.; Мін. в. Мін., Мінск, Слуцк, Стаўбц. *Антонушка* Мін. в. Стаўбц. *Антончык* Гр. в. Смарг. (55). *Антонька* Мін. в. Мядз. *Антосік* Бр. в. Івац.; Гом. в. Хойн. (60); Маг. в. Мсц., Мсціслаў; Мінск. *Антосічак* Мінск. *Антось* Бр. в. Бяроз., Драг., Ів., Івац., Лях. (80), Стол. (40), Пін., Пруж.; Віц. в. Глыб. (45), Докш. (60), Паст. (53, 60); Гом. в. Жытк., Лельч. (48—50), Хойн. (60); Гр. в. Воран. (25), Гродз. (5, 17, 20), Дзятл. (80), Зэльв. (70), Іўеў. (83), Лід. (70), Навагр., Шч. (45, 70); Маг. в. Мсц., Мсціслаў; Мін. в. Барысаў, Віл., Дзярж., Кап. (60), Люб., Мал., Мін., Мінск, Мядз. (89), Пух., Слуцк. *Антоська* Бр. в. Бяроз., Пін.; Гр. в. Астр. (30), Воран., Іўеў. (83), Лід. (50); Мін. в. Віл., Мал., Мін., Мінск, Пух. *Антош* Мін. в. Мін. *Антоша* Бр. в. Бар., Драг., Івац., Лях. (46), Стол. (30); Віц. в. Бешанковічы (50), Глыб. (45); Гр. в. Навагр.; Маг. в. Бабруйск; Мін. в. Барысаў, Мінск, Сл., Слуцк. *Антошанька* Мінск. *Антошка* Бр. в. Драг., Жаб., Ів., Кобр., Стол. (10); Гр. в. Лід. (22), Маст. (10), Навагр.; Маг. в. Бабр. (40), Мсц., Мсціслаў; Мін. в. Барысаў, Люб., Мін., Мінск, Пух. *Антук* Гр. в. Воран. (40). *А́нтусь* Віц. в. Докш. (45—50). *Анту́сь* Віц. в. Глыб. (37), Докш. (45—50). *Антык* Бр. в. Кам., Стол. (50); Віц. в. (50). *Антэк* Бр. в. Стол.; Віц. в. Паст.; Мін. в. Віл., Мін. *Антэка* Віц. в. Глыб. (50). *Анцё* Бр. в. Стол. *Анцік* Бр. в. Лях.; Мін. в. Дзярж. (62), Слуцк. *Анюсь* Гр. в. Дзятл., Навагр. (55). *Гантон* Бр. в. Драг., Ів. *Гантонка* Бр. в. Драг. *Гантончык* Бр. в. Драг., Стол. *Гантось, Гантосько, Гантык* Бр. в. Ів. *Танюк* Гр. в. Астр. (25). *Толік* Гр. в. Гродз. (18—20), Маст. (14). *Тонік* Бр. в. Бяроз., Кам., Лях. (5, 40), Стол.; Гр. в. Ашм. (10), Дзятл. (60), Лід. (32); Маг. в. Крычаў (17, 20, 25); Мін. в. Валож., Кап. (30), Мін., Мінск, Пух., Салігор., Слуцк. *Тонька* Гр. в. Ашм. (45); Мін. в. Віл. *Тонюсь* Віц. в. Паст. *Тоня* Бр. в.

Лях. (46); Гр. в. Дзятл. (60); Мін. в. Валож., Віл., Мін., Мінск. *Тоняк* Гр. в. Шч. *Тосё* Гродз. (17). *Тосік* Гродна (5—15). *Тоша* Бр. в. Бар., Івац., Кам.; Мін. в. Люб., Мінск. *Тошка* Мін. в. Люб., Мін., Мінск. У XVI—XVIII стст. *Антоней* (4 фіксацыі), *А(О)нтон* (50), *Онтошко* БА I 30.

АНУФРЫЙ, канан. правасл. Онуфрий, канан. каталіц. Онуфры. Імя рэдкае. Фанетычныя варыянты *Ануфрый, Анупрый, Нопрый, Анупрэй, Нупрэй, Нухрэй* з'явіліся ў выніку фанетычных змен [о]>[а], [ф]>[п] ці [х], [у]>[о], адпадзення пачатковага галоснага. Ад асновы Ануфрэй з суфіксам -чык: *Ануфрэйчык.* Зарэгістраваны *Ануфрый* Бр. в. Кобр.; Віц. в. Глыб. *Анупрый* Бр. в. Ів., Малар., Стол. *Анупрэй* Бр. в. Кобр. (56). *Ануфрэйчык* Гр. в. Навагр. *Нопрый* Бр. в. Івац. *Нупрэй* Бр. в. Лун., Стол.; Віц. в. Беш. (80), Глыб., Чашн. (70). *Нухрэй* Віц. в. Беш. (80), Сен. (90). У XVI—XVIII стст. рэдкае ў варыянтах: *Онуфрий, Онофрей, Анопрей, Анапрый, Онопрей, Онапры, Нупрей* БА I 130.

АПАЛІНАР, канан. Ополинарий. Імя рэдкае. Фанетычныя варыянты *Апулінар, Палінар.* Вытворныя: 1) усечаная форма *Апалін;* 2) ад асновы Пол- з суфіксам -ік: *Полік.* Зафіксаваны *Апалін* Бр. в. Лях. (43). *Апулінар* Мін. в. Нясв. *Палінар* Віц. в. Глыб. *Полік* Мін. в. Нясв. У XVI—XVIII стст. не адзначана.

АПАНАС, АФАНАСІЙ, канан. Афанасий. Імя нячастае, галоўным чынам у мужчын за 50—55 гадоў. Вытворныя складаюць адзін дэрывацыйны рад: 1) дэрываты ад асновы Апанас, Афанас з суфіксам -ка: *Апанаска, Афанаска;* 2) усечаная форма ад Афанасій: *Афанась,* без пачатковага а: *Фанась;* 3) ад асновы Афон- з суфіксам -я: *Афоня;* 4) поўная дыялектная форма *Панас;* 5) дэрываты ад асновы Панас з суфіксамі -ік, -ка, -юк: *Панасік, Панаска, Панасюк;* 6) ад асновы Пань- з суфіксам -ка: *Панька;* 7) ад асновы Фанас- з суфіксам -ок: *Фанасок;* 8) ад асновы Фонь- з суфіксам -ка, -я: *Фонька, Фоня.* Зафіксаваны *Апанас* Віц. в. Талачын, Шарк. (65), Шум. (70); Гр. в. Кар. *Апанаска* Бр. в. Драг., Пруж. *Апанася* Маг. в. Глуск. (70). *Афанас* Бр. в. Кам., Лун.; Віц. в. Горкі (60). *Афанаска* Бр. в. Драг. *Афанась* Гр. в. Масты (55). *Афоня* Брэст. *Панас* Віц. в. (50), Гарад. (56), Пол. (69), Талачын, Шум. (70); Маг. в. Хоц. (60, 70). *Панасік* Бр. в. Малар. *Панаска* Бр. в. Бяроз., Драг. *Панасюк*

Бр. в. Ів. *Панька* Віц. в. Талачын. *Фанас* Віц. в. Міёр. (60). *Фанась* Бр. в. Брэсц., Кам.; Гр. в. Масты (55). *Фонька* Віц. в. Шарк. (65). *Фоня* Бр. в. Кобр.

АРКАДЗІЙ, АРКАДЗЬ, канан. Аркадий. Поўныя формы з канцавым -ій, -ей: *Аркадзій, Аркадзей,* фанетычны варыянт *Яркадзей,* адаптаваная форма *Аркадзь.* Вытворныя: 1) ад асновы Аркадзь з флексіяй -я‖-ё, з суфіксамі -ей, -енька, -ечка, -ік, -ка, -юш: *Аркадзей, Аркадзенька, Аркадзечка, Аркадзё, Аркадзік, Аркадзька, Аркадзюш, Аркадзя;* 2) дэрываты ад асновы Арка- з суфіксамі -ша, -шанька, -шачка, -шка: *Аркаша, Аркашанька, Аркашачка, Аркашка,* тры апошнія, магчыма, ад асновы Аркаш-; 3) дэрываты ад асновы Кадзь- з -ё, з суфіксамі -ік, -ічак: *Кадзё, Кадзік, Кадзічак,* апошні магчымы і ад Кадзік. Зарэгістраваны *Аркадзей* Гр. в. Навагр. *Аркадзенька* Мінск. *Аркадзечка* Бр. в. Драг. *Аркадзё* Бр. в. Івац. (67), Стол.; Гр. в. Зэльв. (25). *Аркадзій* Бр. в. Брэсц., Івац., Кам., Пруж.; Віц. в. Міёр.; Гом. в. Рэч. (62); Гр. в. Навагр.; Маг. в. Магілёў (52), Мсціслаў; Мін. в. Віл., Мін., Мінск, Сл., Слуцк. *Аркадзік* Бр. в. Бар., Брэсц., Бяроз., Малар.; Гр. в. Бераст. (50, 56), Зэльв. (25), Лід. (65), Масты (19), Навагр.; Маг. в. Мсціслаў; Мін. в. Барысаў, Мядз. (52), Пух. (25). *Аркадзь* Віц. в. Міёр.; Гом. в. Жытк.; Гр. в. Гродз., Масты (19), Гродна (50); Маг. в. Магілёў (52), Мсц., Мсціслаў; Мін. в. Віл., Мін., Мінск, Мядз. (52), Сл., Слуцк. *Аркадзька* Гом. в. Рэч. (37); Маг. в. Мсц., Мсціслаў; Мін. в. Віл., Мін., Мінск. *Аркадзюш* Бр. в. Пін. *Аркадзя* Брэст; Віц. в. Беш. (60), Леп. (50), Міёр. (50), Уш. (48); Гом. в. Рэч. (56); Маг. в. Шкл. (42); Мін. в. Віл., Мін., Пух. (25), Сл. *Аркаша* Бр. в. Бар., Брэсц., Драг., Стол.; Віц. в. Міёр. (45, 50); Гом. в. Жытк.; Гр. в. Маст., Масты (19), Навагр.; Маг. в. Бых. (28), Магілёў (52), Мсц., Мсціслаў, Чавусы (47); Мін. в. Барысаў, Мін., Мінск, Мядз. (52), Сл., Слуцк. *Аркашанька, Аркашачка* Мінск. *Аркашка* Бр. в. Брэсц., Івац., Кам., Пін.; Гр. в. Навагр.; Магілёў (52); Мін. в. Мін., Мінск, Сл., Слуцк. *Кадзё* Бр. в. Ів. *Кадзік* Бр. в. Драг., Пін. *Кадзічак* Бр. в. Драг. *Яркадзей* Бр. в. Івац.

АРСЕНІЙ, АРСЕНЬ, канан. Арсений. Рэгіянальны фанетычны варыянт *Герцэній.* Імя рэдкае, звычайна ў людзей 60 і больш гадоў. Вытворныя варыянты належаць да аднаго дэрывацыйнага рада: 1) дэрываты ад

асновы Арсень з суфіксамі -ік, -чык, з флексіяй -я *Арсенік, Арсеньчык, Арсеня; Арсенцій* пад уплывам іншых імён на -цій: *Аўксенцій, Вікенцій, Ігнацій, Іпацій, Лаўрэнцій* і інш.; 2) ад асновы Арс- з суфіксамі -ей, -ешка: *Арсей, Арсешка;* 3) ад асновы Сень- з флексіяй -я, з суфіксам -ка: *Сеня, Сенька.* Зафіксаваны *Арсей* Гр. в. Маст. (64). *Арсенік* Гр. в. Навагр. *Арсенцій* Бр. в. Бар., Кам., Малар., Пруж. *Арсень* Бр. в. Ів., Кам., Кобр., Малар.; Віц. в. Міёр. (60); *Арсеньчык* Бр. Пруж.; *Арсеня* Бр. Кам.; *Арсешка* Гр. Навагр.; *Сеня* Бр. Іван.; *Сенька* Віц. Брасл. (80).

АРТУР. Імя рэдкае. Варыянты: 1) дэрываты ад формы Артур з суфіксамі -чык, -ык: *Артурчык, Артурык;* 2) ад асновы Арт- з суфіксам -усь: *Артусь;* 3) ад асновы Ар- з суфіксам -ык: *Арык.* Зафіксаваны *Артур* Віц. в. Глыб. (50); Мін. в. Барысаў, Мінск. *Артурчык, Артурык* Мін. в. Барысаў, Мінск. *Артусь* Віц. в. Глыб. (50). *Арык* Гр. в. Слонім; Мінск.

АРХІП, канан. Архипп. Імя вельмі рэдкае. Адзначана 5 разоў у Бр. в.: *Архіп* Драг., Кобр.; дыял. *Ярхіп* Івац. *Архіпка, Архіпушка* Жаб. У XVII—XVIII стст. адзначана *Архіп* 2 разы. БА І 32—33.

АРЦЁМ, канан. Артема, Артемий. Імя рэдкае. Рэгіянальны фанетычны варыянт *Гарцём.* Вытворныя варыянты ўваходзяць у адзін дэрывацыйны рад: 1) дэрываты ад асновы Арцём з суфіксамі -ік, -ка, -чык: *Арцёмік, Арцёмка, Арцёмчык;* 2) ад асновы Арц- з суфіксам -юша: *Арцюша.* Зарэгістраваны *Арцём* Маг. в. Маг. (60—70); Мін. в. Мінск, Пух. *Арцёмік* Бр. в. Драг. *Арцёмка* Бр. в. Брэсц., Драг., Пруж.; Мінск. *Арцёмчык* Бр. в. Драг., Пруж. *Арцюха* Мінск. *Гарцём* Бр. в. Драг. У XVI—XVIII стст. зафіксаваны *Артём* (44 разы), *Ортём* (5), *Артим, Артемей* БА І 32.

АРЭСТ, канан. Орест. Імя вельмі рэдкае. Варыянты: 1) літ. *Арэст* і поўныя дыял. *Хвораст, Хруст;* 2) *Алег, Алік.* Зафіксаваны *Алег, Алік, Арэст* Віц. в. Брасл. (18). *Хвораст, Хруст* Віц. в. Брасл. (60). У XVII ст. толькі 1 раз *Арест* БА І 31.

АЎГУСТЫН, канан. правасл. Августин, каталіц. Августын. Імя вельмі рэдкае, адзначана 3 разы ў Гр. в.: *Аўгуст, Аўгусцін* Навагр. *Агустын* Гродз. (50). У XVI ст. 10 разоў *Авгуштын, Авкгуштын* БА І 17.

АЎДЗЕЙ, канан. Авдий. Імя вельмі рэдкае: *Аўдзей-*

*чык* Бр. в. Пруж. У XVI—XVII стст. 10 разоў *Авдей, Овдей* БА I 17.

АЎКСЕНЦІЙ, АКСЁН, канан. Авксентий. Імя вельмі рэдкае: *Аксэнт* Віц. в. Глыб. (80). У XVI—XVIII стст. 8 разоў *Оксентей, Аксён, Оксен* БА I 19.

АФІНАГЕН, канан. Афиноген. Зафіксавана дыял. *Фінагей* Віц. в. Шарк. (48).

БАГДАН стараж. слав., калька з грэч. Феодот. Імя прынята хрысціянскай і каталіцкай царквой, аднак, як адзначае Б. А. Успенскі, у азбукоўніках XVI—XVII стст. прыводзіцца ў якасці прыкладу паганскіх імён (Из истории русских канонических имён.— М., 1969, с. 204—205). Адзначана 9 вытворных варыянтаў, якія належаць да аднаго дэрывацыйнага рада — усе ўтвораны ад асновы невытворнага імені: 1) ад асновы Багдан з суфіксамі -ік, -ка, -чык: *Багданік, Багданка, Багданчык;* 2) ад асновы Багдан у выніку пераносу націску на першы склад: *Богдан;* 3) ад усечанай асновы Багда- з суфіксам -ша: *Багдаша;* 4) ад усечанай асновы Бог- з суфіксам -усь: *Богусь;* 5) ад усечанай асновы Бод-(Багд-) з флексіяй -я, суфіксам -ік: *Бодзя, Бодзік;* 6) ад асновы Бон- (першы склад і апошні зычны імені *Багдан*) з флексіяй -я: *Боня.* Зарэгістравана *Багдан* Бр. в. Лях. (60); Гродна (18); Мін. в. Мінск, Мядз. *Багданік* Бр. в. Лях. (36, 40); Гродна (5). *Багданка* Мінск. *Багданчык* Бр. в. Жаб., Пруж.; Мінск. *Багдаша* Брэст. *Богдан* Бр. в. Брэсц., Кам.; Гр. в. Ашм. *Богусь* Гродна (10). *Бодзік* Гр. в. Гродз. (20). *Бодзя* Бр. в. Брэсц., Жаб., Кам., Малар., Пруж. *Боня* Гр. в. Ашм.

БАГУСЛАЎ стараж. слав. Зафіксавана *Богусь* Віц. в. Паст. (17—20); Гр. в. Іўеў. (14).

БАЛЯСЛАЎ стараж. слав. Асабліва шырока ўжываецца ў Польшчы з XIX ст. (Быстр. кн., 140). Ужываецца нячаста. Носьбітамі з'яўляюцца галоўным чынам мужчыны пасля 45—50 гадоў. Вытворныя належаць да двух дэрывацыйных радоў. Першы рад — варыянты ад усечанай асновы Баль-, Боль- з суфіксамі -ек, -есь, -ік, -ісь, -ка, -юк, -юсь: *Болек, Болесь, Болік, Боліcь, Болька, Балюк, Балюсь.* Другі рад — ад асновы Болесь з суфіксам -ка: *Болеська.* Зарэгістраваны *Балюк* Віц. в. Докш. (50). *Баляслаў* Гр. в. Ашм. (70). *Болек* Гр. в. Гродз. (40, 45). *Болесь* Віц. в. Шарк. (49); Мін. в. Валож. *Болеська* Мін. в. Валож. *Болік* Бр. в. Кобр.; Гом. в. Жытк. *Боліcь*

Віц. в. Докш. (50); Гр. в. Лід. (60). *Болька* Гр. в. Ашм. (20, 60). *Болюсь* Віц. в. Паст. (50); Гр. в. Астр. (40), Ашм. (7, 70), Гродз.; Мін. в. Мядз.

БАНІФАЦЫЙ, канан. каталіц. польск. Bonifacy. Зарэгістравана *Бонік* Віц. в. (38); Мін. в. Стаўбц. (45).

БАРЫС, канан. Борис. Імя пашыранае. Адзначана 15 вытворных варыянтаў, якія належаць да двух дэрывацыйных радоў. Першы рад — варыянты ад невытворнага імені і яго частак: 1) ад асновы Барыс з суфіксамі -ік, -ка, -ок: *Барысік, Барыска, Барысок;* 2) ад усечанай асновы Бор-, Бар- з флексіяй -а, з суфіксамі -анька, -ка, -уня, -уся, -ык: *Бора, Боранька, Борка, Баруня, Баруся, Борык;* 3) ад поўнай невытворнай формы ў выніку пераносу націску на першы склад: *Борыс.* Другі рад — варыянты ад вытворных асноў: ад Барыска — *Барысачка,* ад Борка — *Борачка,* ад Борык — *Борычак, Барычок,* ад Баруся — *Барусік, Баруська.* Зарэгістравана *Барусік, Баруська, Баруся* Мінск. *Барыс* Бр. в. Баранавічы; Віц. в. Віц. (38), Гарад., Глыб., Леп. (40), Пол. (50), Расон., Тал. (50); Гом. в. Гом. (50); Гр. в. Ашм. (60), Ваўк. (59), Гродз. (48), Гродна (20, 50), Дзятл. (23), Навагр.; Маг. в. Горкі (24), Клічаў, Краснаполле (42), Мсц., Мсціслаў; Мін. в. Барысаў, Віл., Лаг. (16), Люб., Мал., Мін., Мінск, Нясв., Сл. (39), Слуцк, Стаўбц. (30). *Барысачка* Бр. в. Пруж. *Барысік* Бр. в. Івац., Кобр. *Барыска* Бр. в. Бар., Брэсц., Івац., Кам., Кобр., Лун., Пін.; Віц. в. Пол. (10); Гродна (7); Мін. в. Люб., Стаўбц. *Барысок* Бр. в. Ів., Івац.; Мін. в. Лаг. (16), Стаўбц. *Барычок* Брэсц. *Бора* Бр. в. Драг., Ів., Івац., Кам., Лун., Лях. (29), Малар., Пін.; Віц. в. Віцебск, Гарад. (38), Пол. (50); Гом. в. Гом. (24), Хойн. (35); Гр. в. Гродна (14), Навагр. (14); Маг. в. Клічаў, Мсц., Мсціслаў; Мін. в. Барысаў, Віл., Люб., Мал., Мін., Мінск, Нясв., Сл. (16), Слуцк, Стаўбц. *Боранька* Брэст. *Борачка* Бр. в. Івац.; Гр. в. Навагр.; Мін. в. Мін., Мінск, Слуцк. *Борка* Бр. в. Драг., Івац., Кам., Стол.; Віц. в. Глыб., Пол. (10, 50); Гом. в. Гом. (24), Хойн. (35); Гр. в. Гродна (5, 16), Гродз. (18), Навагр.; Маг. в. Кліч., Мсц., Мсціслаў; Мін. в. Барысаў, Віл., Мал., Мін., Мінск, Сл. (16), Слуцк. *Борык* Бр. в. Кам.; Гродна (10); Маг. в. Горкі (24); Мін. в. Люб., Мінск, Нясв. *Борыс* Бр. в. Брэст, Драг., Лун.; Мін. в. Мін., Мінск. *Борычак* Мінск. У XVI—XVIII стст. *Борис* 49 разоў БА I 35.

БРАНІСЛАЎ стараж. слав., канан. каталіц. польск. Bronisław. Імя не частае. Вядома 15 вытворных варыянтаў. З іх 10, утвораныя ад усечаных асноў невытворнай поўнай формы *Браніслаў*, уваходзяць у першы дэрывацыйны рад: 1) ад усечанай асновы Бронь- з флексіяй *-я//-ё*, з суфіксамі -ік, -ісь, -ка, -юсь, -як: *Броня, Бронё, Бронік, Бронісь, Бронька, Бронюсь, Броняк;* 2) ад усечанай асновы Брон- з суфіксамі -ак, -усь, -ця: *Бронак, Бронусь, Бронця*. Пяць варыянтаў, утвораных ад вытворных асноў, належаць да другога дэрывацыйнага рада: ад Бронісь — *Броніська;* ад Бронька — *Бронечка;* ад Бронця — *Бронцік;* ад Бронік — *Бронічак* і ад незасведчанага Бронка — *Брончык*. Зарэгістраваны *Браніслаў* Гр. в. Воран., Іўе (70); Мін. в. Валож. Ракаў. *Броня* Бр. в. Брэст, Пружаны; Гр. в. Астр. (43, 55). *Бронё* Бр. в. Кам. *Бронісь* Бр. в. Бар.; Гр. в. Бераст., Лід. (60), Шч. (60); Мін. в. Стаўбц. (70). *Бронік* Бр. в. Малар.; Маг. в. Шкл. (68); Мін. в. Валож., Стаўбц. (30, 50). *Броніська* Гр. в. Лід. (60). *Бронічак* Мін. в. Стаўбц. *Бронюсь* Віц. в. Паст. (45); Гр. в. Гродз. (60), Іўе (70); Мін. в. Мядз. (45). *Бронусь* Гр. в. Бераст. (60). *Бронька* Гр. в. Астр. (50), Астравец (13), Гродз. (60), Смарг.; Віц. в. Брасл. (60), Докш. (45—50), Паст. (55); Мін. в. Валож., Мядз. (63). *Бронечка* Бр. в. Пруж. *Бронцік* Гр. в. Гродз. (60). *Бронця* Гродна. *Брончык* Гр. в. Воран. *Броняк* Гр. в. Шч. (48). *Бронак* Віц. в. Докш. (45—50); Гр. в. Свісл. (50); Мін. в. Мядз. (45).

ВАДЗІМ, канан. Вадим. Вытворныя варыянты адносяцца да двух дэрывацыйных радоў. Першы рад складаюць варыянты ад невытворнай асновы і яе частак: 1) фанетычны варыянт без пачатковага [в] *Адзім;* 2) ад асновы Вадзім з суфіксам -ка: *Вадзімка;* 3) ад усечанай асновы Вадзь- з флексіяй -я, з суфіксамі -ік, -ка, -юня: *Вадзя, Вадзік, Вадзька, Вадзюня;* 4) ад усечанай асновы Дзім- з флексіяй -а, з суфіксам -ка: *Дзіма, Дзімка.* Да другога рада належаць дэрываты ад асноў, якія ўзніклі ў межах першага дэрывацыйнага рада: ад Вадзік — *Вадзічак;* ад Дзімка — *Дзімачка.* Зарэгістравана *Адзім* Гр. в. Навагр. (5). *Вадзік* Бр. в. Бар., Брэсц., Драг., Кам.; Віц. в. Віцебск (20), Уш. (17); Гр. в. Гродна (12), Навагр. (3); Маг. в. Бабруйск, Маг. (23); Мін. в. Мінск, Мядз., Нясв. *Вадзім* Віцебск (20); Маг. в. Бабруйск, Маг. (23); Мін. в. Мінск, Мядз., Нясв. *Вадзімка*

Бр. в. Драг., Жаб., Кам. *Вадзічак* Пінск. *Вадзька* Бр. в. Брэсц., Драг., Кам. *Вадзюня* Брэст. *Вадзя* Бр. в. Брэсц., Кам., Лун.; Віцебск; Мін. в. Мінск, Мядз. *Дзіма, Дзімачка, Дзімка* Бр. в. Бар.

ВАЛЕРЫЙ, канан. Валерий. Імя не вельмі частае. Вядома 19 вытворных варыянтаў, якія належаць да двух дэрывацыйных радоў. Да першага належаць: 1) ад асновы Валер- без афікса, з флексіяй -а, з суфіксамі -ак, -анька, -ка, -ык: *Валер, Валера, Валерак* (ці [а] з [ы]), *Валеранька, Валерка, Валерык;* 2) ад усечанай асновы Валь- з флексіяй -я, з суфіксам -ік: *Валя, Валік*; 3) ад усечанай асновы Лерый- без афікса: *Лерый;* 4) ад усечанай асновы Лер- з флексіяй -а, з суфіксам -ка: *Лера, Лерка;* 5) ад асновы Вір- (першы і апошні гук формы *Валер)* з флексіяй -а: *Віра.* Да другога рада належаць варыянты ад вытворных асноў першага рада: ад Валерка — *Валерачка, Валерчык;* ад Валерык — *Валерычак.* За межамі непасрэднай дэрывацыі 1) варыянты іншых імён: *Вальдак* ад Вальдэмар; *Валяр'ян;* 2) сугучны з першай часткай імені апелятыў *Валет.* Зарэгістраваны *Валер* Бр. в. Драг., Ів., Івац., Стол.; Гом. в. Рэч. (15); Маг. в. Хоцімск. *Валера* Бр. в. Бар., Баранавічы (20), Драг. (12), Жаб., Ів. (20), Івац. (8), Лях. (20, 28), Пін., Стол.; Віц. в. Беш. (17), Глыб. (20, 21), Леп. (21), Шарк. (16); Гр. в. Гродз. (18), Гродна (17, 29, 30), Дзятл. (15, 20), Зэльв. (21), Кар., Ліда (10), Маст. (12, 24), Навагр., Навагрудак (24), Слонім (24), Шч. (21); Маг. в. Гор. (6, 19), Мсц., Мсціслаў, Хоцімск; Мін. в. Барысаў, Віл., Дзярж., Люб., Мал., Мін., Мінск, Нясв., Сл. (23), Слуцк, Стаўбц., Чэрв. *Валерак* Гр. в. Лід. (55), Шчучын (50). *Валеранька* Мінск. *Валерачка* Брэст; Мін. в. Барысаў, Люб., Мін., Мінск, Слуцк. *Валерка* Бр. в. Бар., Драг. (12), Жаб., Ів., Івац. (8), Кам.; Віц. в. Беш. (13), Паст. (17), Чашн. (30), Шарк. (10—30); Гр. в. Ашм. (14), Ваўкавыск (15), Гродз. (5, 18), Гродна (20, 29), Кар., Навагр. (5), Навагрудак (24), Слонім (24), Шч. (30, 35); Маг. в. Мсц., Мсціслаў, Хоцімск; Мін. в. Барысаў, Віл., Дзярж., Люб., Мал., Мін., Мінск, Слуцк, Стаўбц. *Валерчык* Бр. в. Кам.; Гр. в. Ліда (10); Мінск. *Валерый* Бр. в. Бар., Ів. (25); Віц. в. Глыб. (20); Гр. в. Гродз. (10), Гродна (25), Навагр.; Маг. в. Мсц., Мсціслаў, Хоцімск; Мін. в. Барысаў, Віл., Дзярж., Люб., Мал., Мін., Мінск, Сл. *Валерык* Бр. в. Бар. (15), Баранавічы

(12), Драг. (12), Ів. (7), Івац. (23), Стол.; Віц. в. Паст. (17), Чашн. (30); Гом. в. Рэч. (23); Гр. в. Гродна (5, 29), Дзятл. (17), Зэльв. (21), Кар., Ліда (10), Маст. (19), Навагр.; Маг. в. Гор. (20), Мсц., Мсціслаў; Мін. в. Барысаў, Віл., Дзярж., Мін., Мінск, Нясв., Слуцк, Стаўбц., Чэрв. *Валерычак* Бр. в. Драг.; Мінск. *Валет* Бр. в. Малар. *Валік* Бр. в. Ів. (25); Мін. в. Мінск, Чэрв. *Валя* Бр. в. Пруж.; Мінск. *Віра* Віц. в. Шум. (48). *Лера* Гродна (10). *Лерка* Мінск. *Лерый* Бр. в. Пін.

ВАЛЯНЦІН, канан. Валентин. Імя не вельмі папулярнае. Адзначана 15 варыянтаў. Да першага дэрывацыйнага рада (ад невытворнай асновы і яе частак) належаць варыянты: 1) ад асновы Валянц- з суфіксам -юк: *Валянцюк;* 2) ад усечанай асновы Вален без афікса: *Вален;* 3) ад усечанай асновы Валь- з флексіяй -я//-ё, з суфіксамі -ёк, -ік, -ка, -юк, -юсь: *Валя, Валё, Валёк, Валік, Валька, Валюк, Валюсь;* 4) ад усечанай асновы Ля- ў выніку рэдуплікацыі з суфіксам -ік: *Лялік;* 5) дэфарміраваныя формы: *Ліўцін* ад Валянцін, *Воля* ад Валя. Другі дэрывацыйны рад (ад вытворных асноў): *Валёчак* — ад Валёк; *Валічак* — ад Валік; *Валечка* — ад Валька. Зарэгістраваны *Вален* Віц. в. Міёр. (60). *Валечка* Мін. в. Мін., Мінск, Стаўбц. *Валё* Бр. в. Ів., Стол. *Валёк* Маг. в. Мсц., Мсціслаў; Мін. в. Віл., Мін., Мінск. *Валёчак* Мін. в. Віл. *Валік* Бр. в. Бар., Драг. (20), Ів., Кам., Стол.; Віц. в. Глыб. (20), Пол. (5), Тал. (45), Шарк. (25); Гом. в. Браг. (5, 40), Б.-Каш. (26), Хойн. (4, 6); Гр. в. Астравец (15), Ваўкавыск (21), Гродна (12), Дзятл. (35), Іўеў. (30), Лід. (15), Маст. (24), Масты (50), Мядз. (29), Навагр.; Маг. в. Гор. (35), Горкі (50), Мсц., Мсціслаў, Чэрык. (55); Мін. в. Барысаў, Віл., Люб., Мін., Мінск, Мядз. (29), Пух. (40), Сл., Стаўбц. *Валічак* Гр. в. Навагр.; Мін. в. Віл., Люб., Мін., Пух. *Валька* Бр. в. Бар., Драг., Кам.; Мін. в. Барысаў, Мін., Мінск, Стаўбц. *Валюк* Гр. в. Астр. (40), Іўеў. (53). *Валюсь* Віц. в. Шаркаўшчына (25); Гр. в. Астравец (15), Іўеў. (30, 53), Лід. (24), Навагр. *Валя* Бр. в. Бар., Брэсц., Драг. (20), Кам., Лях. (38), Пруж.; Віц. в. Міёр. (60); Гом. в. Браг. (40—70), Хойн. (40, 50); Маг. в. Клічаў, Мсціслаў; Мін. в. Барысаў, Віл., Мін., Мінск. *Валянцін* Бр. в. Бар.; Віц. в. Дзятл., Паст. (50); Гр. в. Іўеў. (30), Навагр.; Маг. в. Горкі (50), Мсц., Мсціслаў; Мін. в. Барысаў, Віл., Люб., Мін., Мінск, Нясв., Пух., Сл., Стаўбц.

*Валянцюк, Вэля* Віц. в. Паст. (50). *Ліўцін* Мінск. *Лялік* Гродна (4). У XVI ст. *Валентын* (14), *Валентый* (13), *Валентей* (2), *Валент, Валентон, Валянт* БА I 36.

ВАЛЯР'ЯН, канан. Валериан. *Валяр'ян* Бр. в. Бяроз.

ВАСІЛЬ, ВАСІЛІЙ, канан. правасл. Василий, каталіц. польск. Bazyli. Імя папулярнае. Адзначана 49 вытворных варыянтаў, якія можна аб'яднаць у тры дэрывацыйныя рады. Першы — дэрываты ад невытворнай формы і яе частак: 1) ад асновы Васіль з флексіяй -ё, з суфіксамі -ега, -ец, -ёк, -ік, -іна, -іска, -ка, -ко, -юга, -юха: *Васілё, Васілега, Васілец, Васілёк, Васілік, Васіліна, Васіліска, Васілька, Васілько, Васілюга, Васілюха;* 2) ад усечанай асновы Вась- без афікса, з флексіяй -я//-ё, з суфіксамі -енька, -ёк, -ік, -ка, -ко, -та, -юк, -юн, юня, -юта, -юха, -юша, -ята: *Вась, Вася, Васё, Васенька, Васёк, Васік, Васька, Васько, Васьта, Васюк, Васюн, Васюта, Васюха, Васюша, Васята;* 3) ад усечанай асновы Вас-: *Васа;* 4) ад усечанай асновы Ва- з суфіксам -ха: *Ваха.* Варыянты другога дэрывацыйнага рада ўтвораны ад вытворных асноў першага дэрывацыйнага рада: ад Васілёк — *Васілёчак,* ад Васілік — *Васілічак,* ад Васілька, Васілько — *Васілечка,* ад Васілюха — *Васілюшка,* ад Васёк — *Васёчак,* ад Васік — *Васічак,* ад Васька, Васько — *Васечка,* ад Васюта — *Васютка,* ад Васюк — *Васючок,* ад Васюн, Васюня — *Васюнёк, Васюнік, Васюнька,* ад Васюта — *Васютка,* ад Васюха, Васюша — *Васюшка,* ад Васята — *Васятка,* ад Ваха — *Вашка.* Да трэцяга рада належаць ад Васюнёк — *Васюнёчак,* ад Васюнька — *Васюньчык,* ад Васютка — *Васютачка.* Асобны дэрывацыйны рад утвараюць варыянты ад Базыль: *Базылёк, Базылька.*

Зарэгістраваны *Базылёк* Мін. в. Віл., Мінск, Стаўбц. *Базыль* Бр. в. Ганц., Пруж.; Віц. в. Віц. (22), Леп. (25), Пол. (47), Шум.; Гом. в. Браг. (19); Маг. в. Мсціслаў; Мін. в. Віл., Мін., Мінск, Пух., Стаўбц. *Базылька* Мін. в. Стаўбц. *Васа* Бр. в. Івац. *Васенька* Бр. в. Ів., Лун., Пін.; Віц. в. Гар. (16); Гродна (20), Масты (10); Маг. в. Касц.; Мінск. *Васечка* Бр. в. Кобр.; Гр. в. Навагр.; Маг. в. Касц.; Мін. в. Люб., Мінск. *Васё* Бр. в. Стол. *Васёк* Бр. в. Драг. (4), Жаб., Ів., Кам.; Віц. в. Гар. (16), Глыб., Леп. (20), Паст. (35), Тал. (45); Гом. в. Добр. (3—16); Гр. в. Кар., Масты (10), Свісл. (21), Шч. (35); Маг. в. Касц., Мсц., Мсціслаў; Мін. в. Барысаў, Люб.,


Васіль
Васілёк
Васілёчак
Васілік
Васілічак
Васілька
Васілько
Васілечка
Васілюха
Васілюшка
Васілега
Васілец
Васілешка
Васілё
Васіліна
Васіліска
Васенька
Васёк
Васёчак
Васік
Васічак
Васіня
Васінютка
Васька
Васечка
Васько
Васькітка
Васьта


Васілюга
Вась
Вася
Васё
Васа
Ваха
Васюк
Васюн
Васюня
Васюся
Васюта
Васюха
Васюша
Васята
Вашка
Васючок
Васюнёк
Васюнік
Васюнька
Васютка
Васюшка
Васятка
Васюнёчак
Васюньчык
Васютачка
Базыль
Базылёк
Базылька

Мал., Мін., Мінск, Нясв., Пух., Сл. (50). *Васік* Бр. в. Драг., Жаб., Івац., Кам., Кобр. (47), Стол. (5); Гом. в. Жытк. (1—10), Петр. (17). *Васілега* Маг. в. Бых. (46). *Васілец* Бр. в. Ганц. *Васілечка* Бр. в. Івац. *Васілешка* Бр. в. Ів. *Васілё* Бр. в. Пін. *Васілёк* Бр. в. Бар., Брэсц., Бяроз. (10, 29), Драг., Ів., Івац. (19), Пін. (1—4), Стол. (18); Віц. в. Докш. (70), Паст. (35), Уш. (18); Гом. в. Браг. (65), Б.-Каш. (1—3, 11), Ветк. (4), Добр. (3—20), Петр. (4, 17, 45), Хойн. (10); Гр. в. Гродна (20), Масты (10), Навагр. (12), Свісл. (50); Маг. в. Гор. (3), Касц. (да 8), Мсц., Мсціслаў; Мін. в. Барысаў, Віл., Люб. (50), Мал., Мін., Мінск, Мядз., Пух., Стаўбц. *Васілёчак* Бр. в. Ів., Івац., Лун.; Мін. в. Мінск, Стаўбц. *Васілій* Бр. в. Бяроз. (29), Пін. (18—25); Віц. в. Гарад. (38); Гр. в. Ваўк. (24), Гродна (20, 45), Кар. (45), Навагр.; Маг. в. Крычаў (пасля 20); Мін. в. Мал., Мядз., Нясв. *Васілік* Бр. в. Пін.; Гом. в. Гом. (50), Жлоб. (5); Гр. в. Кар. (13). *Васіліна* Бр. в. Бяроз., Ів., Стол. *Васіліска* Віц. в. Багушэўск (1). *Васілічак* Брэст. *Васіль* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 126 фіксацый у 109 нас. пунктах звычайна для асоб вышэй 20—25 гадоў. *Васілька* Бр. в. Кам. (60); Гродна (20); Мін. в. Барысаў, Мядз. *Васілько* Бр. в. Бяроз., Кобр., Малар., Пін. (50—60), Стол.; Гр. в. Бераст.; Мін. в. Стаўбц. *Васілюга* Маг. в. Бых. (46). *Васілюха* Бр. в. Стол. *Васілюшка* Брэст. *Васінюта* Бр. в. Ів. *Вась* Бр. в. Жаб.; Віц. в. Уш. (18). *Васька* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 101 фіксацыя ў 99 нас. пунктах галоўным чынам для асоб 10—30 гадоў, але сустракаюцца і ў больш познім узросце. *Васькітка* Бр. в. Кам. *Васько* Бр. в. Драг., Ів., Кобр., Лун., Малар., Стол. *Васьта* Бр. в. Ів. *Васюк* Бр. в. Малар. *Васючок* Бр. в. Кобр. *Васюн* Бр. в. Бяроз. *Васюнёчак* Брэст. *Васюнік* Бр. в. Кам., Кобр. (11). *Васюньчык* Бр. в. Бяроз. *Васюня* Бр. в. Бяроз. (5). *Васюся* Бр. в. Пін. *Васюта* Бр. в. Бяроз. (29), Лун.; Віц. в. Паст. (30); Мін. в. Мін., Мінск. *Васютачка* Брэст. *Васютка* Бр. в. Брэст, Драг. (4); Гом. в. Б.-Каш. (5); Гр. в. Кар., Навагр.; Маг. в. Касц.; Мін. в. Мінск, Стаўбц. *Васюха* Бр. в. Ів.; Віц. в. Уш. (18), Шум. (22); Гр. в. Масты. *Васюшка* Бр. в. Жаб. *Вася* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 112 фіксацый у 103 нас. пунктах пераважна для асоб 18—45 гадоў, але выкарыстоўваецца для дзяцей і людзей старэйшага ўзросту. *Васята* Гродна. *Васятка* Бр. в. Бар., Жаб., Стол.; Гр. в. Гродна, Мас-

ты; Мін. в. Мін. *Ваха* Гр. в. Гродз. (50). *Вашка* Бр. в. Івац. У XVI—XVIII стст. *Василий* (13 фіксацый), *Василей* (88), *Василь* (58), *Васили* (2), *Васко* (135), *Васько* (26), *Васюк* (3), *Базыли, Базыль* БА I 39—41.

ВАЦЛАЎ стараж. слав. (у чэшскай форме), папулярнае ў палякаў (Więcesław, Więcsław) (Быстр. Кн., с. 341—342). У нас з польскай мовы, нячастае. Вытворныя варыянты складаюць два дэрывацыйныя рады. Варыянты першага рада ўтвораны ад усечанай невытворнай асновы Вац-, Вадь- з флексіяй -я//-ё, з суфіксамі -ак, -ік, -ко, -усь, -эк, -юк, -юля, -юнька, -юня: *Ваця, Ваццё, Вацак, Вацік, Вацко, Вацусь, Вацэк, Вацюк, Вацюля, Вацюнька, Вацюня.* Другі рад — варыянт *Вацюнька* ад асновы Вацюня. Зарэгістраваны *Вацак* Гр. в. Гродна (40), Ліда (19); Віц. в. Глыб. (19). *Ваццё* Гр. в. Бераст. (47), Ваўкавыск (50). *Вацік* Бр. в. Бар.; Гр. в. Скідаль (19); Мін. в. Валож., Стаўбц. *Вацічак* Мін. в. Стаўбц. *Вацко* Гр. в. Бераст. (56). *Вацлаў* Віц. в. Брасл. (25, 35), Паст. (43); Мін. в. Валож., Стаўбц. *Вацусь* Гр. в. Ашм. (45). *Вацэк* Бр. в. Бяроз., Ів.; Гр. в. Шч. (53). *Вацюк* Віц. в. Докш. (27); Гр. в. Астр. (50), Бераст., Гродз. (60), Ліда (45), Мядз. (50), Шч. (60). *Вацюля* Гр. в. Гродз. (26). *Вацюнька* Гр. в. Ашм. (19). *Вацюня* Гродна. *Ваця* Бр. в. Пруж.; Віц. в. Докш. (27), Паст. (43); Гр. в. Астр. (15); Мін. в. Валож., Мядз. (18), Стаўбц.

ВЕНЬЯМІН, канан. Вениамин. Імя рэдкае. Да першага дэрывацыйнага рада належаць варыянты ад усечаных невытворных асноў Вень-: *Веня, Венька* і Мін-: *Мінька.* Да другога рада — варыянты ад вытворнай асновы Веньк-: *Венечка.* Зарэгістраваны *Венечка* Бр. в. Драг.; Гр. в. Навагр. *Венька* Бр. в. Драг.; Віц. в. Шарк. (40), Віцебск. *Веня* Бр. в. Драг., Кобр.; Віц. в. Віцебск; Гр. в. Навагр. *Мінька* Віц. в. Сен.

ВЕСЛАЎ стараж. слав., польск. Wiesław. Рэдкае. Зарэгістравана ў Гродна *Весаў* (10), *Весік* (10), *Вясюля* (5). *Слаўка* Віц. в. Брасл. (25).

ВІКЕНЦІЙ, ВІНЦЭНТ, канан. правасл. Викентий, каталіц. польск. Wincenty. Імя рэдкае. Вытворныя варыянты складаюць два дэрывацыйныя рады. У першы ўваходзяць дэрываты: 1) ад усечанай асновы Вінц- з суфіксамі -ук, -уль, -уля, -усь, -уся, -эк, -эсь, -юха: *Вінцук, Вінцуль, Вінцуля, Вінцусь, Вінцуся, Вінцэк, Вінцэсь,*

*Вінцюха;* 2) ад усечанай асновы Він- з суфіксамі -ак, -ка, -усь: *Вінак, Вінка, Вінусь;* 3) ад усечанай асновы Ке- (ад *Вікенцій): Кеша.* Другі рад складаюць варыянты ад вытворных асноў першага рада: ад Вінак — *Віначак;* ад Вінка — *Вінчак;* ад Вінцук — *Вінцучок;* ад Вінцусь, Вінцуся — *Вінцусёк.*

Зарэгістраваны *Вікенцій* Гр. в. Воран., Навагр. (50). *Вінак* Бр. в. Бар., Лях. (50, 90). *Вінусь* Віц. в. Міёр. (75). *Вінцук* Віц. в. Докш. (45); Гр. в. Ашм. (50), Воран. (60), Гродз. (60), Дзятл., Лід. (45); Мін. в. Мядз. *Вінцуль* Бр. в. Пруж. *Вінцуля* Мін. в. Дзярж. (70). *Вінцусёк* Мін. в. Мядз. *Вінцусь* Бр. в. Бяроз., Лях. (90), Малар.; Гр. в. Навагр. (48); Мін. в. Мядз. *Вінцуся* Мін. в. Мядз. *Вінцучок* Гр. в. Лід. (65). *Вінцэк* Гр. в. Гродз. (73). *Вінцэнт* Бр. в. Жаб., Лун.; Гр. в. Воран. (30); Мін. в. Стаўбц. *Вінцэнты* Бр. в. Лях. (80). *Вінцэсь* Бр. в. Лях. (50); Гр. в. Зэльв. (55). *Вінцюха* Бр. в. Ів. *Вінчак* Бр. в. Бар. *Віцэнт* Бр. в. Драг. *Віця* Віцебск. *Кеша* Віцебск.

ВІКТАР, канан. Виктор. Імя папулярнае. Адзначана 47 вытворных варыянтаў, якія складаюць тры дэрывацыйныя рады. Першы рад — варыянты ад поўнай невытворнай асновы і яе частак: 1) ад асновы Віктар з суфіксамі -ка, -ушка: *Віктарка, Віктарушка;* 2) ад асновы Віктор: *Вікторка*; 3) ад усечанай асновы Вікт- з флексіяй -я, з суфіксам -ось: *Вікця, Віктось;* 4) ад усечанай асновы Віць- з флексіяй -я//-ё, з суфіксамі -ейка, -енька, -ёк, -ік, -ка, -ко, -юк, -юля, -юн, -юня, -юха, -юша, -як, -ян, -яня, -яха, -яша: *Віця, Віцё, Віцейка, Віценька, Віцёк, Віцік, Віцька, Віцько, Віцюк, Віцюля, Віцюн, Віцюня, Віцюха, Віцюша, Віцяк, Віцян, Віцяня, Віцяха, Віцяша*; 5) ад усечанай асновы Віт- без афікса, з суфіксамі -ак, -аль, -уня, -эк: *Віт, Вітак, Віталь, Вітуня, Вітэк.* Другі рад — дэрываты ад вытворных першага рада: ад Віцька, Віцько — *Віцечка;* ад Віцюк — *Віцючок;* ад Віцюля — *Віцюлька, Віцюлік;* ад Віцік — *Віцічак;* ад Віцюн, Віцюня — *Віцюнька;* ад Віцюха, Віцюша — *Віцюшка;* ад Віцяй — *Віцяйка;* ад Віцяня — *Віцянёк;* ад гіпатэтычнага Віцята — *Віцятка;* ад гіпатэтычнага Віцяюк — *Віцяючык;* ад Віцяха, Віцяша — *Віцяшка;* ад Віталь — *Віталік.* Варыянты трэцяга рада ўтвораны ад вытворных асноў другога рада: ад Віцюлька — *Віцюльчык;* ад Віцюлік — *Віцюлічак;* ад Віцюнька — *Віцюнь-*

*чык.* У якасці варыянтаў выкарыстоўваюцца формы іншых імён: *Віталь, Віталік,* а таксама сугучны апелятыў *Вуця.* Зафіксаваны *Віктар*—ва ўсіх абласцях рэспублікі 64 фіксацыі ў 57 нас. пунктах для асоб ад 18 гадоў і вышэй, зрэдку і для падросткаў. *Віктарка* Мінск. *Вікторка* Бр. в. Драг., Ів.; Гр. в. Навагр. *Віктарушка* Гродна. *Віктось* Бр. в. Лях. (70). *Вікця* Бр. в. Бяроз. *Вінцук* Гр. в. Зэльв. *Віт* Маг. в. Чав. (44). *Вітак* Гр. в. Шч. (50). *Віталік* Гр. в. Гродз., Лід. (4), Маст. *Вітуня* Гр. в. Лід. (60). *Вітэк* Гродна (15); Мінск. *Віцак* Гр. в. Маст. *Віцейка* Бр. в. Івац. *Віценька* Бр. в. Бар., Жаб., Кам.; Гр. в. Воран. (6), Гродна (20, 24, 25), Лід. (5), Масты (19), Навагр.; Мін. в. Мінск, Сл. *Віцечка* Бр. в. Бар., Брэст, Бяроз. (12), Івац., Кам., Кобр.; Гр. в. Маст. (17), Навагр., Свісл. (16); Маг. в. Мсціслаў; Мін. в. Барысаў, Віл., Мінск. *Віцё* Бр. в. Бар., Лун., Пін., Стол.; Гр. в. Бераст. *Віцёк* Бр. в. Бар., Брэст, Бяроз. (12), Ів., Кам., Пін. (17—20); Віц. в. Беш. (24), Лёзн., Пол. (20); Гом. в. Жытк. (9); Гр. в. Лід. (12), Ліда (20), Маст., Навагр., Шч. (37); Маг. в. Мсціслаў; Мін. в. Барысаў, Віл., Люб., Мін., Мінск, Пух., Сл. *Віцік* Бр. в. Брэст., Бяроз., Кам. (20), Лях. (16); Гом. в. Рэч. (4); Гр. в. Гродна, Кар. (55), Маст. (43), Навагр.; Мін. в. Віл., Дзярж., Мінск, Пух., Сл. *Віцічак* Бр. в. Кам. *Віцька* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 82 фіксацыі ў 72 нас. пунктах пераважна для асоб 10—40 гадоў, але сустракаецца ў больш старых асоб і ў дзяцей. *Віцько* Бр. в. Драг., Івац. *Віцэк* Гр. в. Дзятл. (45). *Віцюк* Гр. в. Лід. (50). *Віцюлік* Гр. в. Свісл. (16). *Віцюльчык* Гом. в. Докш. (18). *Віцюля* Гр. в. Гродна, Зэльв.; Мін. *Віцюн* Бр. в. Пін. *Віцюньчык* Гом. в. Рэч. (1); Гродз. *Віцюня* Гродна; Мін. в. Валож. *Віцюха* Бр. в. Брэст, Ів. (16); Гродна (20); Мінск. *Віцюша* Бр.. в. Пін., Пруж.; Мін. в. Барысаў, Мінск. *Віцюшка* Бр. в. Пруж.; Віц. в. Беш. (24); Гр. в. Гродна (5—8), Лід. (10). *Віця* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 115 фіксацый у 92 нас. пунктах пераважна для асоб 12—40 гадоў, але засведчана для больш ранняга і больш позняга ўзросту. *Віцяй* Бр. в. Ів. (16), Івац. *Віцяк* Гр. в. Гродз. (50), Шч. (25, 50). *Віцян* Гр. в. Дзятл. (19). *Віцянёк* Бр. в. Бяроз. (12). *Віцяня, Віцятка* Бр. в. Бар. *Віцяха* Віц. в. Верхнядзвінск. *Вуця* Бр. в. Ганц. У XVI—XVII стст. *Виктор* (2 фіксацыі), *Вихтор* БА I 43.

ВІТАЛІЙ, канан. правасл. Виталий каталіц. польск.

Witalis. Імя даволі частае. Выяўлена 33 вытворныя варыянты, якія ўваходзяць у два дэрывацыйныя рады. У першы — дэрываты ад невытворнай асновы ці яе частак: 1) ад асновы Віталь без афікса, з флексіяй -я//-ё, з суфіксамі -енька, -ёк, -ік, -ка: *Віталь, Віталя, Віталё, Віталенька, Віталёк, Віталік, Віталька;* 2) ад асновы Віль- (першы склад Ві- і апошні зычны імені -ль) з флексіяй -я, з суфіксам -ік: *Віля, Вілік;* 3) ад усечанай асновы Віт- з флексіяй -а, з суфіксамі -ак, -ар, -ара, -ка, -уня, -усь, -уха: *Віта, Вітак, Вітар, Вітара, Вітка, Вітуня, Вітусь, Вітуха* — усе названыя формы магчымы таксама ад канан. правасл. і каталіц. Вит, але поўная форма ў Беларусі не адзначана, таму яны разглядаюцца як дэрываты імені *Віталій;* 4) ад усечанай асновы Віць- з флексіяй -я//-ё, суфіксамі -ёк, -ік, -ка, -юша: *Віця, Віцё, Віцік, Віцька, Віцюша;* 5) ад усечанай асновы Таль- з суфіксамі -ік, -ка: *Талік, Талька.* Другі дэрывацыйны рад складаюць варыянты ад вытворных асноў першага рада: ад Вілік — *Вілічак;* ад Віталёк — *Віталёчак;* ад Віталік — *Віталічак;* ад Віталька — *Вітальчык, Віталечка;* ад Вітка — *Вітачка;* ад Вітуня — *Вітунька;* ад Вітуха — *Вітушка;* ад Віцік — *Віцічак;* ад Віцюша — *Віцюшка;* ад Талік — *Талічак.*

Зарэгістраваны *Вілік, Вілічак* Віцебск. *Віля* Віцебск (22). *Віта* Бр. в. Ів. *Вітак* Гр. в. Гродз. (45), Гродна (19), Лід., Ліда (22), Маст. (22), Шч. (50). *Віталенька, Віталечка* Мінск. *Віталё* Бр. в. Пін., Стол. *Віталёк, Віталёчак* Віц. в. Шум. (3). *Віталій* Гродна (15, 18); Мін. в. Мін., Мінск, Нясв., Салігор. *Віталік* Бр. в. Бар., Жаб., Івац. (27), Кам., Пін., Пруж. (23), Стол.; Віц. в. Віцебск (22), Шум. (3); Гр. в. Астр. (2, 3), Гродна (16, 17); Маг. в. Клічаў, Мсціслаў; Мін. в. Віл., Люб., Мін., Мінск, Салігор. *Віталічак* Гр. в. Ваўкавыск (8); Мін. в. Віл., Мін., Мінск. *Віталь* Бр. в. Драг., Ів., Івац. (27), Кам.; Віц. в. Паст. (49); Гр. в. Зэльв. (21), Навагр.; Маг. в. Мсціслаў; Мін. в. Віл., Люб., Мін., Мінск, Салігор., Стаўбц. (40). *Віталька* Бр. в. Драг., Івац. (4), Кам., Малар., Пін.; Гр. в. Астр. (2, 3); Маг. в. Мсціслаў; Мін. в. Віл., Люб., Мінск. *Вітальчык* Бр. в. Івац.; Мінск. *Віталя* Бр. в. Івац. (27), Кам; Віц. в. Глыб., Шарк. (30—40); Мінск. *Вітар* Мін. в. Нясв. *Вітара* Віц. в. Беш. (24). *Вітачка* Мінск. *Вітка* Маг. в. Клічаў. *Вітунька* Гродна. *Вітуня* Гр. в. Лід. (60). *Вітусь* Гр. в. Навагр. (30, 40). *Ві-*

*туха* Бр. в. Івац. *Вітушка* Бр. в. Пін. *Віцёк* Мінск. *Віцік* Мін. в. Нясв. *Віцічак* Мін. в. Дзярж. *Віцька* Бр. в. Драг., Пруж. (23); Віц. в. Пол. (49); Мін. в. Нясв. *Віцюша* Мінск. *Віцюшка* Бр. в. Драг. *Віця* Бр. в. Драг., Кам., Лун., Пруж. (23); Віц. в. Глыб. (50); Гродна (18, 60); Мін. в. Нясв. *Талік, Талічак, Талька* Бр. в. Івац.

ВІТОЛЬД літоўск., папулярнае ў Польшчы (Witold) у XIX ст. (Быстр. Кн., с. 353). Вытворныя: 1) ад асновы Вітоль без афікса, з суфіксам -ка: *Вітоль, Вітолька;* 2) ад асновы з націскам на першым складзе без канцавога зычнага: *Віталь;* 3) ад усечанай асновы Віт- з суфіксамі -ак, -усь: *Вітак, Вітусь;* 4) ад усечанай асновы Віць-: *Віця*. Зарэгістраваны *Вітак, Вітусь, Віця* Гродз. (50). *Віталь* Бр. в. Бар., Пруж. *Вітоль* Бр. в. Кобр. *Вітольд* Бр. в. Кам. *Вітолька* Віц. в. Брасл. (60).

ВОЙЦЕХ стараж. слав., папулярнае ў палякаў. У нас рэдкае. Вытворныя належаць да аднаго дэрывацыйнага рада: 1) ад асновы Войт- з суфіксамі -ак, -ка, -усь: *Войтак, Войтка, Войтусь, Вольтусь* пры [й]>[ль]; 2) акцэнтуацыйны варыянт *Вайцех*. Зарэгістраваны *Вайцех* Гр. в. Шч. (45). *Войтак* Гр. в. Астр. (22). *Войтка, Войтусь, Войцех* Гр. в. Іўеў. (14). *Волтусь* Віц. в. Паст. (50). У XVI—XVII стст. *Войтех* (85), *Войтко* (5) БА I 46—47.

ВЯЧАСЛАЎ стараж. слав., канан. правасл. Вячеслав. Імя не вельмі папулярнае. Вытворныя варыянты ўваходзяць у тры дэрывацыйныя рады. Варыянты першага рада ўтвораны ад невытворных усечаных аснюў: 1) ад аснювы Вяч-: *Вячык;* 2) ад асновы Чэсь- без афікса, з флексіяй -я, з суфіксамі -ік, -ка, -юк, -юня, -як: *Чэсь, Чэся, Чэсік, Чэська, Часюк, Часюня, Чэсяк;* 3) ад асновы Слав- з флексіяй -а, з суфіксамі -ак, -анька, -ік, -іч, -ка, -ук, -уня, -усь: *Слава, Славак, Славанька, Славік, Славіч, Слаўка, Славук, Славуня, Славусь.* Другі рад — варыянты ад вытворных аснюў: ад Славік — *Славічак;* ад Слаўка, Славак — *Славачка;* ад Славук — *Славучок;* ад Славуня — *Славунька;* ад Славусь — *Славуська;* ад Слаўка — *Слаўчык.* Трэці рад — ад Славунька — *Славунчык.* У якасці варыянтаў выкарыстоўваюцца і формы: *Вацця, Вацё, Вацік* ад Вацлаў; *Сава, Саўка; Сява.*

Зарэгістраваны *Вацё* Бр. в. Стол. *Вацік* Бр. в. Лях. (10), Стол.; Гр. в. Кар. (44); Маг. в. Гор. (40—45); Мін. в. Кап. (40), Люб. (23). *Вацця* Мін. в. Мінск, Кап.

*лусь* Бр. в. Бяроз. *Паўлуха* Бр. в. Бар., Брэст; Віц. в. Верхнядзвінск (70); Мін. в. Стаўбц. *Паўлуша* Бр. в. Бар. (46), Брэст, Драг., Жаб., Ів., Кам., Лун. (16), Стол.; Віц. в. Глыб. (25—40), Паст., Пол. (48); Гр. в. Гродна (5), Скідаль (3), Ліда (2); Маг. в. Бабруйск, Клічаў, Хоцімск; Мін. в. Дзярж., Мінск, Нясв. (13), Слуцк. *Паўлушанька* Бр. в. Малар. *Паўлушка* Бр. в. Брэст, Малар.; Гр. в. Гродна (12), Скідаль (1); Мінск. *Паўлюк* Бр. в. Ганц., Кобр., Лях. (48, 60, 75), Пін., Пруж.; Віц. в. Беш. (19, 42, 60, 80), Докш. (63, 80), Паст. (60, 85), Уш.; Гр. в. Гродна (12), Гродз. (74), Дзятл. (60), Кар. (для старых), Маст. (50); Маг. в. Гор. (78), Мсціслаў (50), Чав. (54); Мін. в. Мал., Мінск. *Паўлюсь* Бр. в. Кобр.; Гр. в. Мядз. (50). *Паўлюша* Бр. в. Стол.; Гродна (5). *Паўлючок* Віц. в. Паст.; Гр. в. Воран. (5), Смарг. (80). *Паша* Бр. в. Брэсц., Драг., Жаб., Ів. (21), Івац. (40), Кам., Лун. (23), Лях. (30), Малар., Пін. (18), Стол. (47); Віц. в. Віцебск, Глыб. (9, 20, 25, 40), Міёр., Дзісна (47), Паст. (50), Уш., Шарк.; Гом. в. Жлоб. (20), Хойн. (60); Гр. в. Гродна (5, 20), Дзятл. (60), Маст. (30), Шчучын (31); Маг. в. Клім. (19), Клічаў, Хоцімск; Мін. в. Барысаў, Кл., Люб., Мінск, Сл. (13), Слуцк. *Пашанька* Бр. в. Ганц.; Мінск. *Пашачка* Бр. в. Бар.; Мін. в. Барысаў. *Пашка* Бр. в. Бяроз., Драг., Івац., Кам., Малар., Стол. (47); Віц. в. Беш. (13), Брасл. (24), Віцебск, Глыб. (9, 19, 20, 25—40), Талачын, Шарк.; Маг. в. Гор. (65); Мін. в. Барысаў, Дзярж., Люб., Мінск, Пух. (52), Слуцк. *Пашок* Мінск. У XVI—XVIII стст. папулярнае: *Павел* (182 разы), *Пашко* (11), *Павлюк* (10) БА I 131.

ПАЛІКАРП, канан., каталіц. і правасл. Поликарп, польск. Polikarp. Зарэгістравана Віц. в. Беш. (70); Гр. в. Навагр. У XVI ст. *Поликарп* (1 раз), *Поликарт* (1) БА I 137.

ПАНФІЛ, канан. правасл. Памфил. Зычны [н] на месцы [м] фанетычна, як у апелятывах іншамоўнага паходжання. Параўн. дыял. транвай, канбай(н) і інш. Зарэгістравана ў Гр. в. Гродз. (40). У XVI ст. *Панфил*, *Помфил* БА I 132.

ПАНЦЕЛЯЙМОН, канан. правасл. Пантелеймон. Зарэгістраваны *Пантылімон* Бр. в. Драг. *Пантюля* Бр. в. Івац.

ПАНЦЯЛЕЙ, канан. правасл. Пантелеймон. Зарэгі-

страваны *Пантылій* Бр. в. Драг. *Пантюля* Бр. в. Івац.

ПАРФЕН, канан. правасл. Парфений. Зарэгістравана ў Бр. в. Кобр. У XVI—XVIII стст. *Парфен* (30 разоў), *Парфей, Пархом* (4), *Пархим* БА I 133.

ПАРФІР і ПАРФІРЫЙ, канан. правасл. Порфирий. Зарэгістраваны *Парфір* Бр. в. Малар. *Парфірка* Гр. в. Смарг. (70). У XVI ст. *Парфирий, Панфир* БА I 138.

ПАТАП, канан. правасл. Патапий. Зарэгістраваны *Патап, Патапка, Патапчык* Бр. в. Драг. У XVI—XVIII стст. *Потап* (8 разоў) БА I 134.

ПАЎЛІН, канан. правасл. Павлин. Зарэгістравана *Паўлінка* Віц. в. Верхнядзвінск (70).

ПАФНУЦІЙ, канан. правасл. Пафнутий, каталіц. польск. Pafnucy. Зарэгістравана *Пахнуць* Віц. в. Міёр. (60).

ПЁТР, канан. правасл. Петр, каталіц. польск. Piotr. Імя папулярнае. Размоўныя варыянты *Пётра, Петра, Пятро* ўтварыліся ў выніку далучэння канцавога галоснага для ліквідацыі закрытага склада са збегам зычных, а варыянт *Пётар* з устаўным галосным. Гэта з'ява вядома і апелятыўнай лексіцы. Параўн. дыял. метра, літра, цігра і метар, літар, цігар (метр, літр, тыгр). Вытворныя адносяцца да двух дэрывацыйных радоў. Першы рад складаюць варыянты ад невытворных асноў і іх частак: 1) ад асноў Петр, Пётр з суфіксамі -ок, -ук, -уль, -усь, -уха, -уша, -ык, -ыска: *Пятрок, Пятрук, Пятруль, Петрусь, Пятрусь, Пятруха, Пятруша, Петрык, Пятрыска;* 2) ад усечанай асновы Пець- з флексіяй -я, з суфіксамі -енька, -ёк, -ёр, -ік, -ка, -ко, -юля, -юня, -юша, -яха: *Пеця, Пеценька, Пяцёк, Пецік, Пецька, Пяцько, Пяцюк, Пяцюля, Пяцюня, Пяцюша, Пяцяха;* 3) ад усечанай асновы Пе- індывідуальнае ўтварэнне *Пека.* У другі дэрывацыйны рад уваходзяць варыянты ад вытворных асноў: 1) ад Пятрок — *Петрачок, Пётрачка;* 2) ад Пятрук — *Петручок;* 3) ад Петрусь, Пётрусь, Пятрусь — *Петрусёк, Пятруська;* 4) ад Пятруха, Пятруша — *Пятрушка;* 5) ад гіпатэтычнага Пятрэня — *Пятрэнька, Пятрэнка;* 6) ад Петрык — *Петрычак, Петрычок;* 7) ад Пецька — *Пецечка;* 8) ад Пяцюля — *Пецюлік;* 9) ад Пяцёр — *Пецярко;* 10) ад Пяцюня — *Пяцюнка,* магчыма, ад гіпатэтычнага Пяцюн; 11) ад асновы Пусь- (першы зычны і апошні склад імені *Пятрусь*) — *Пусік.* Трэці рад: 1) ад Пяцюнка—*Пяцюнчык.* У якасці

варыянтаў выкарыстоўваюцца і сугучныя апелятывы: *Пятак, Пятух, Петушок.* Зарэгістраваны *Пека* Гом. в. Б.-Каш. (28). *Петра* Віц. в. Беш. (62), Міёр. (30), Пол. (50). *Петрачок* Віц. в. Пол. (43). *Петрусёк* Віц. в. Докш. (40), Паст.; Гом. в. Хойн. (23); Мін. в. Віл., Кап. (10), Мін., Мінск. *Петрусь* Бр. в. Лях. (68), Стол. (50); Гр. в. Іўе (35), Маст. (45), Свісл. (60). *Петручок* Гр. в. Ашм. (10). *Петрык* Бр. в. Бяроз., Ів., Івац., Кам., Кобр., Лун., Лях. (50, 55), Пін.; Віц. в. Паст. (7—10); Гом. в. Гом. (14), Добр. (3—20), Жытк. (17), Рэч. (18, 62); Гр. в. Гродз. (36), Дзятл. (68), Зэльв. (58), Кар., Лід. (40), Маст. (40), Навагр.; Маг. в. Гор. (18); Мін. в. Кап. (10), Круп. (32), Мінск, Стаўбц. (да 10). *Петрычак* Мін. в. Дзярж. *Петрычок* Мін. в. Пух. (40). *Петушок* Брэст; Гродна (13, 40); Маг. в. Бабруйск. *Пеценька* Бр. в. Брэст, Бар., Драг., Кам., Малар., Стол. (43); Віц. в. Арш.; Гр. в. Гродна (12, 40), Кар.; Маг. в. Бабруйск, Гор. (20); Мін. в. Барысаў, Бярэз., Мінск. *Пецечка* Бр. в. Брэст, Бяроз. (42), Драг., Жаб., Пруж.; Віц. в. Докш., Паст.; Маг. в. Мсціслаў, Шкл. (54); Мін. в. Барысаў, Кап. (16), Люб., Мінск, Пух., Сл., Стаўбц. *Пецік* Бр. в. Жаб., Лях. (10—15), Стол., Ів.; Гр. в. Гродна (40), Маст. (10); Маг . в. Клім. (30), Мсціслаў; Мін. в. Кл., Уздз. (25). *Пецька* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 90 фіксацый у 82 нас. пунктах пераважна для асоб 10—55 гадоў, выкарыстоўваецца зрэдку для дзяцей і старых. *Пецюлюк* Бр. в. Бяроз. (42). *Пеця* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 143 фіксацыі ў 108 нас. пунктах пераважна для асоб 5—60 гадоў. *Пецялюк* Бр. в. Бяроз. (42). *Пецярко* Бр. в. Ів. *Пётар* Бр. в. Бар. (50). *Пётр* Бр. в. Бар.; Віц. в. Беш. (70), Віцебск, Докш., Міёр., Паст. (21), Шарк., Шум. (48); Гом. в. Рэч. (56); Маг. в. Гор. (22), Магілёў (45), Мсціслаў (57); Мін., Пух., Сл., Слуцк, Стаўбц. *Пётра* Бр. в. Лун.; Віц. в. Беш. (70), Бешанковічы (45), Глыб., Докш. (40, 70), Міёр., Сен., (60), Талачын (60), Чашн. (60), Шарк.; Гр. в. Іўеў. (60); Мін. в. Віл., Мал. (70), Мядз. (60), Стаўбц. *Пётрачка* Віц. в. Шарк. *Пётрусь* Бр. в. Лях. (70); Віц. в. Докш. (40); Гродз. (6). *Пусік* Гродна (2). *Пятак* Гом. в. Б.-Каш. (40—45). *Пятро* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 84 фіксацыі ў 81 нас. пункце пераважна для асоб 36—60, 70 гадоў. *Пятрок* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 56 фіксацый (часцей Гр. в.— 27), пераважна для асоб

вышэй 40 гадоў, у Мін. в. і для дзяцей 8—10 гадоў. *Пятрук* Бр. в. Драг., Жаб., Кам. (15, 50), Кобр., Лун. (10, 15, 30, 40), Лях. (60); Віц. в. Паст. (30—35); Гр. в. Ашм. (70), Воран. (40), Гродз. (69), Іўеў. (72), Кар. (80), Маст. (50); Маг. в. Гор.; Мін. в. Кл. (70), Мін. *Пятруль* Гр. в. Воран. (36). *Пятрусь* Бр. в. Бар., Бярэз., Драг. (75), Івац., Кобр. (50), Лях. (48, 60), Малар., Пін., Стол.; Віц. в. Докш. (70), Паст., Чашн.; Гом. в. Ветк. (65), Гом. (14), Лельч. (43, 48), Петр., Хойн. (12, 17, 20); Гр. в. Дзятл. (60, 75), Зэльв. (45, 58, 60), Лід. (50), Маст. (60), Навагр.; Маг. в. Мсціслаў; Мін. в. Бярэз., Віл., Кап., Мін., Мінск, Сл., Стаўбц., Уздз. (64), Чэрв. *Пятруська* Мін. в. Віл., Мін., Мінск. *Пятруха* Бр. в. Івац., Стол.; Віц. в. Уш. (23). *Пятруша* Бр. в. Бар., Драг., Жаб., Івац.; Віцебск (18); Гр. в. Навагр.; Мін. в. Слуцк. *Пятрыска* Бр. в. Ів. *Пятрэнка* Бр. в. Ів. (35). *Пятрэнька* Бр. в. Драг., Лун. *Пятух* Бр. в. Кам., Лях.; Мін. в. Барысаў. *Пяцёк* Бр. в. Драг. *Пяцёр* Бр. в. Лун. *Пяцько* Бр. в. Ів. *Пяцюк* Гом. в. Б.-Каш. (40—45). *Пяцюля* Бр. в. Кам. *Пяцюнка* Бр. в. Івац. *Пяцюнчык* Бр. в. Брэст, Івац.; Гродна (40). *Пяцюня* Мін. в. Барысаў, Мінск. *Пяцюша* Бр. в. Пін.; Мінск. *Пяцяха* Віц. в. Верхнядзвінск (40). У XVI—XVIII стст. вельмі папулярнае: *Петр* (232 фіксацыі), *Петро* (4), *Петко, Петько* (6), *Петрок, Пятрок* (32), *Петрочок, Петрук* (2), *Петруха, Петроша, Петрош, Петруша* (2), *Петран, Пятрусь* БА I 135—136.

ПІЛІП, канан. правасл. Филипп, каталіц. польск. Filip. Імя не частае. Рэгіянальныя поўныя формы *Філіп, Хвіліп.* Вытворныя складаюць два дэрывацыйныя рады. Першы — варыянты ад невытворных асноў і іх частак: 1) ад асновы Піліп з суфіксамі -ей, -еш, -ка, -ок, -чык: *Піліпей, Піліпеш, Піліпка, Піліпок, Піліпчык;* 2) ад асновы Філіп з суфіксамі -ка, -ок: *Філіпка, Філіпок;* 3) ад усечанай асновы Піль- з флексіяй -я//-ё, з суфіксам -ка: *Піля, Пілё, Пілька;* ад усечанай асновы Філь- з флексіяй -я, суфіксам -ка: *Філя, Філька.* У якасці дэрывата другога рада можна разглядаць варыянт *Піліпчык* ад Піліпка. Зарэгістраваны *Пілё* Бр. в. Стол. *Піліп* Бр. в. Драг., Ів., Кам., Кобр., Малар., Пін.; Віц. в. Беш. (45), Гарад. (75), Докш. (50), Леп. (70), Міёр. (55), Пол. (60), Сен. (35), Багушэўск (60), Шум. (50); Гом. в. Жытк. (53); Маг. в. Глуск. (70—80); Мін. в.

Люб., Мал., Нясв. *Пілінеў* Бр. в. Ів., Пруж., Стол. *Пілінеш* Бр. в. Драг. *Пілінка* Бр. в. Драг., Кобр., Лун.; Мін. в. Люб., Мал. *Пілінок* Мін. в. Дзярж. *Пілінчык* Бр. в. Кобр. *Пілька* Бр. в. Стол. *Піля* Бр. в. Ів. *Філіп* Бр. в. Драг., Пін., Стол.; Віц. в. Леп. (48); Гродна (20); Мін. в. Нясв. *Філіпка* Мін. в. Нясв. *Філіпок* Гродна (2—6). *Філька* Бр. в. Івац., Кобр.; Гом. в. Добруш (57). *Філя* Бр. в. Бяроз., Ів.; Гродна (12—14). *Хвіліп* Віц. в. Шум. (50); Мін. в. Мал. У XVI—XVIII стст. *Филип* (24 разы), *Пилип* (33), *Филипец* БА I 168.

ПІМЕН, канан. правасл. Пимен. Зарэгістраваны *Пімен, Півун* Гом. в. Лоеў. У XVIII ст. *Пиман* (2 разы). БА I 137.

ПЛАТОН, канан. правасл. Платон. Імя рэдкае. Вытворныя аднаго дэрывацыйнага рада *Платонка, Платоша*. Зарэгістраваны *Платон* Бр. в. Драг.; Гр. в. Навагр.; Маг. в. Клім. (65); Мін. в. Стаўбц. *Платонка* Бр. в. Драг.; Гр. в. Навагр.; Мін. в. Стаўбц. *Платоша* Гр. в. Навагр. У XVIII ст. *Платон* (1 раз) БА I 137.

ПРАКОП, канан. правасл. Прокопий. Імя рэдкае. Поўны рэгіянальны варыянт *Прокоф*. Вытворныя складаюць два дэрывацыйныя рады. Да першага належаць дэрываты ад невытворнай асновы Пракоп з суфіксамі -ік, -ка, -чык: *Пракопік, Пракопка, Пракопчык*. Да другога рада — варыянт *Пракопчык* ад Пракопка. Зарэгістраваны *Пракоп* Бр. в. Драг., Ів., Кобр.; Віц. в. Гарад. (70); Гр. в. Навагр.; Мін. в. Бярэз., Сл. *Пракопік* Бр. в. Ів. *Пракопка* Бр. в. Бар., Драг.; Гр. в. Навагр.; Мін. в. Бярэз., Сл. *Пракопчык* Бр. в. Бар., Івац., Кобр. *Прокоф* Бр. в. Пін. У XVI—XVIII стст. *Прокоп* (34 разы), *Прокопец* БА I 138.

ПРАХОР, канан. правасл. Прохор. Імя рэдкае. Вытворныя складаюць два дэрывацыйныя рады. У першы ўваходзяць дэрываты ад невытворнай поўнай і ўсечанай асноў: 1) ад Прахор — *Прахорка;* 2) ад Прох- з суфіксам -ша: *Проша*. Да другога рада належыць варыянт *Прошка* ад вытворнай асновы Проша. Зарэгістраваны *Прахор* Віц. в. Леп. (56); Маг. в. Крыч. (70); Мін. в. Мядз. *Прохарка* Мін. в. Мядз. *Проша* Брэст. *Прошка* Бр. в. Кобр. У XVI—XVIII стст. *Прохор* (6 разоў), *Прошка* БА I 139.

РАДЗІВОН, канан. правасл. Родион. Імя не частае. Вытворныя: 1) ад усечанай асновы Радзь- з суфіксамі

-ік, -ка: *Радзька, Радзік;* 2) ад усечанай асновы Родзь- з флексіяй -я, з суфіксамі -ік, -ка: *Родзя, Родзік, Родзька.* Зарэгістраваны *Радзівон* Бр. в. Драг.; Віц. в. Шарк.; Гродз. в. Гродна (45), Кар.; Мінск. *Радзік* Мінск. *Радзька* Брэст. *Родзік* Бр. в. Драг.; Мінск. *Родзька* Брэст. *Родзя* Бр. в. Драг.; Віц. в. Шарк.; Гродна (45). У XVI—XVIII стст. *Радион* (2 разы), *Родивон* (6), *Родко, Радко* БА І 140.

РАДЗІСЛАЎ, стараж. слав. Радислав, Радослав. Зафіксаваны *Радзіслаў, Радзік, Родзік* Мінск.

РАМАН, канан. правасл. Роман, каталіц. польск. Roman. Імя частае. Вытворныя складаюць два дэрывацыйныя рады. Першы — дэрываты ад поўнай і ўсечанай невытворных асноў: 1) ад асновы Раман з суфіксамі -ец, -ік, -іца, -ка, -чык: *Раманец, Раманік, Раманіца, Раманка, Раманчык;* 2) ад усечанай асновы Рам-, Ром- з суфіксамі -аха, -ашка: *Рамаха, Рамашка;* 3) ад усечанай асновы Ром- з флексіяй -а, з суфіксамі -ак, -ась, -ік, -ка, -усь, -ця, -чык: *Рома, Ромак, Ромась, Ромік, Ромка, Ромусь, Ромця, Ромчык;* 4) ад усечанай дэфарміраванай асновы Рэм- з суфіксам -цё: *Рэмцё.* Да другога дэрывацыйнага рада адносяцца варыянты ад вытворных асноў: ад Раманка — *Раманчык;* ад Ромка — *Ромачка, Ромчык;* ад Ромусь — *Ромуська.* Зафіксаваны *Раман* Бр. в. Драг., Ів. (56), Івац. (78), Кам.; Віц. в. (48), Паст. (23), Пол. (80); Гом. в. Лельч. (48); Гр. в. Гродз. (16), Гродна (8, 20, 23, 45), Кар., Маст. (45), Навагр., Шч. (30); Маг. в. Бабруйск (19), Касц., Крыч. (65), Мсціслаў, Хоцімск; Мін. в. Барысаў, Бярэз., Люб., Мінск, Мін., Мядз. (48), Пух. *Раманец* Бр. в. Пін. *Раманік* Бр. в. Ів.; Мін. в. Віл., Мін. *Раманіца* Бр. в. Ів. *Раманка* Бр. в. Бяроз., Драг., Івац., Кар., Лун., Стол.; Маг. в. Касц., Мсціслаў; Мін. в. Мінск, Пух. *Раманчык* Бр. в. Драг., Малар.; Маг. в. Касц. *Рамаха* Брэст. *Рамашка* Брэст, Пінск; Гр. в. Гродз. (18, 19); Маг. в. Бабруйск, Хоцімск; Мін. в. Барысаў. *Рома* Бр. в. Брэст, Драг., Ів., Кам. Лях. (27), Пін., Стол.; Віц. в. (48), Паст., Пол. (80); Гр. в. Ашм. (10), Бераст. (46), Гродз. (19), Гродна (18), Кар., Навагр.; Маг. в. Бабруйск, Касц., Мсціслаў, Хоц., Хоцімск; Мін. в. Барысаў, Бярэз., Пух., Віл., Люб., Мін., Мінск. *Ромак* Бр. в. Бар., Лях. (27); Віц. в. Паст.; Гр. в. Гродз. (19), Навагр., Шч. (17); Мін. в. Віл., Мін., Мінск.

*Ромась* Мін. в. Віл., Мін. *Ромачка* Бр. в. Кам.; Віц. в. Паст.; Гр. в. Гродна (5), Кар., Навагр.; Маг. в. Бабруйск (да 15), Касц., Мсціслаў; Мін. в. Барысаў, Бярэз., Мінск, Пух. *Ромік* Бр. в. Брэст, Пін.; Гр. в. Гродна (27), Кар.; Маг. в. Бабруйск, Касц., Мсціслаў; Мін., Мінск. *Ромка* Бр. в. Бар., Брэст, Драг., Ів., Пінск; Віц. в. Беш. (40, 48, 50), Паст.; Гр. в. Гродз. (19), Кар., Навагр.; Маг. в. Касц.;Мін. в. Мінск, Бярэз., Люб., Мін., Мінск, Пух. *Ромусь* Бр. в. Ів. (56); Віц. в. Паст. (23); Гр. в. Ашм. (50), Гродна (20, 22); Мін. в. Мядз. (48). *Ромуська* Віц. в. Паст. *Ромця* Бр. в. Драг., Лун.; Віц. в. Пол. (80); Гр. в. Берает. (46); Мін. *Ромчык* Бр. в. Ів.; Гр. в. Навагр.; Мін. *Рэмцё* Віц. в. Пол. (80); Гр. в. Бераст. (46). У XVI—XVIII стст. *Роман* (65 разоў), *Романец, Ромашко* (2) БА I 141.

РАМУАЛЬД, канан. каталіц. польск. Romuald. Зафіксавана *Ромка* Гр. в. Ашм. (10); Мін. в. Валож.

РАСЦІСЛАЎ, стараж. слав. Ростислав, кананізаванае праваслаўнай царквой. Імя не частае. Вытворныя належаць да аднаго дэрывацыйнага рада — утвораны ад усечаных асноў: 1) ад асновы Рост- з флексіяй -а, суфіксамі -ечка, -ік: *Роста, Росцечка, Росцік;* 2) ад асновы Росць- з флексіяй -я, з суфіксамі -ечка, -ік: *Росця, Росцечка, Росцік;* 3) ад асновы Рось- з флексіяй -я, з суфіксамі -ік, -ка: *Рося, Росік, Роська;* 4) ад асновы Слаў- з флексіяй -а, з суфіксамі -ік, -ка: *Слава, Славік, Слаўка.* Зарэгістраваны *Расціслаў* Бр. в. Бар.; Гр. в. Дзятл. (37); Мін. в. Мядз., Сл. *Росік* Гр. в. Дзятл. (30). *Росцечка* Мін. в. Мядз. *Росцік* Бр. в. Бар., Жаб., Кам., Лях. (28), Малар., Пін.; Віц. в. Шарк. (20); Мін. в. Мядз., Сл. *Росця* Бр. в. Бар., Жаб., Івац., Лях. (28); Віц.в. Міёр. (30); Мін. в. Мядз., Сл. *Роська* Гр. в. Дзятл. (9). *Слава, Славік, Слаўка* Бр. в. Стол.

РАФАІЛ, канан. правасл. Рафаил, каталіц. польск. Rafał. Зафіксаваны *Рафаіл, Рафал* Віц. в. Глыб. (40). У XVI ст. *Рафал* (4 разы), *Рахвал* (2) БА I 140.

РОБЕРТ, канан. каталіц. Роберт, польск. Robert. *Роберт, Роберцік* Мінск.

РУСЛАН, відаць, пад уплывам паэмы А. С. Пушкіна «Руслан і Людміла». У казках сустракаецца імя *Еруслан, Оруслан,* якое, магчыма, выкарыстаў А. С. Пушкін у варыянце *Руслан.* Вытворныя адносяцца да двух дэрывацыйных радоў. Да першага — дэрываты ад

поўнай і ўсечанай асноў: 1) ад асновы Руслан з суфіксамі -ік, -ка, -чык: *Русланік, Русланка, Русланчык;* 2) ад усечанай асновы Рус- з суфіксам -ік: *Русік.* Другі рад: ад Русланка — *Русланчык.* Зарэгістраваны *Русік* Гом. в. Жытк.; Гр. в. Кар. (6); Маг. в. Гор. (6). *Руслан* Гом. в. Жытк.; Гр. в. Гродна (16), Кар. (6), Навагр. (5). *Русланік* Бр. в. Драг.; Гродна (1). *Русланка* Гр. в. Шч. (5). *Русланчык* Бр. в. Брэст, Драг., Ів., Мал., Пін.; Гом. в. Жытк.; Гр. в. Гродз. (3), Кар. (6).

РЫГОР, ГРЫГОРЫЙ, канан. правасл. Григорий, каталіц. польск. Grzegorz. Імя даволі частае. Літ. *Рыгор* узнікла ў працэсе адаптацыі кананічнай формы ў выніку страты канцавога -ий і спрашчэння пачатковай групы зычных [гр]>[р]. Поўная размоўная форма *Грыгор* — у выніку страты канцавога -ий. Вытворныя варыянты размяркоўваюцца па двух дэрывацыйных радах. Да першага належаць варыянты ад невытворнай асновы і яе частак: 1) ад асновы Рыгор з суфіксамі -ка, -ык, -эц: *Рыгорка, Рыгорык, Рыгорэц;* 2) ад усечанай асновы Рыг- з суфіксамі -ось, -оша, -усь: *Рыгось, Рыгоша, Рыгусь;* 3) ад усечанай асновы Гры- з суфіксамі -ль, -нь, -ня,-ц, -ша: *Грыль, Грынь, Грыня, Грыц, Грыша*; 4) ад усечанай асновы Гжэ- ад польск. Grzegorz з суфіксам -сь: *Гжэсь.* Другі рад складаюць варыянты ад вытворных асноў першага рада: 1) ад Рыгорка — *Рыгорачка;* ад Рыгось — *Рыгоська;* ад Рыгоша — *Рыгошанька, Гоша;* ад Рыгусь — *Рыгусёк;* 2) ад асновы Грынь- з флексіяй -я, з суфіксамі -ёк, -ка, -ко: *Грыня, Грынёк, Грынька, Грынько;* 3) ад асновы Грыц- з суфіксамі -ко, -оня, -ык: *Грыцко, Грыцоня, Грыцык;* 4) ад асновы Грыш- з суфіксамі -ан, -ка, -ко, -онак, -ук, -уня, -ута: *Грышан, Грышка, Грышко, Грышонак, Грышук, Грышуня, Грышута;* 5) ад Гжэсь — *Гжэська.* Варыянты трэцяга рада ад вытворных асноў другога рада: 1) ад Гоша (Рыгоша) — *Гошанька, Гошка;* ад Грынёк — *Грынёчак*; ад Грынька, Грынько — *Грыньчык*; ад Грышан — *Грышанок;* ад Грышонак — *Грышоначак;* ад Грышук — *Грышучок;* ад Грышуня — *Грышунька, Грышунёк;* ад Грышута — *Грышутка, Грышуцік;* 2) ад асновы Грышк- з суфіксамі -ка<-ька, -анок<-енок: *Грышачка, Грышчанок.* У чацвёрты рад уваходзяць варыянты ад вытворных асноў трэцяга рада: ад Гошка — *Гошачка;* ад Грышунька — *Грышуньчык;* ад Грышут-

ка — *Грышутачка.* Зафіксаваны *Гжэсь* Віц. в. Глыб. (45); Гр. в. Астр. (48). *Гжэська* Гр. в. Астр. (60). *Гоша, Гошанька* Брэст. *Гошка* Бр. в. Жаб. *Грыгор* Маг. в. Кліч. (90). *Грыгорый* Бр. в. Жаб.; Віц. в. Гарад. (22); Гродна (70); Маг. в. Бабруйск (60); Мін. в. Сл. *Грыль* Бр. в. Пін. *Грынёк* Мін. в. Барысаў. *Грынёчак, Грынь* Віц. в. Шум. (55). *Грынька* Бр. в. Ів., Кам., Кобр.; Віцебск (70); Мін. в. Барысаў. *Грынько* Бр. в. Кобр. *Грыньчык* Мін. в. Барысаў. *Грыня* Бр. в. Івац., Кам., Кобр., Малар., Стол.; Віц. в. Гарад. (22), Пол. (50, 65), Ушачы (22); Гом. в. Жытк.; Мін. в. Барысаў, Кап., Сл. *Грыц* Бр. в. Жаб., Ів., Кам., Лун., Лях., Пін. *Грыцко* Бр. в. Лун., Стол.; Гом. в. Жытк. *Грыцоня* Бр. в. Кам. *Грыцык* Бр. в. Пін. *Грычман* Бр. в. Бяроз. *Грыша* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 52 фіксацыі ў 50 нас. пунктах пераважна для асоб 18—50 гадоў, сустракаецца ў дзяцей 3—8 гадоў, у старых людзей 65, 74 гадоў. *Грышан, Грышанок* Бр. в. Бяроз. *Грышачка* Бр. в. Бар., Ів. (55); Мін. в. Нясв., Сл. *Грышка* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 43 фіксацыі ў 41 нас. пункце галоўным чынам для асоб 18—60 гадоў, хаця сустракаецца ў дзяцей і падросткаў (3, 5, 15 гадоў) і ў старых 70—80 гадоў. *Грышко* Бр. в. Бяроз. (45). *Грышонак* Бр. в. Лях. (40). *Грышоначак* Мінск. *Грышук* Бр. в. Лун. *Грышунёк, Грышунька, Грышуньчык* Мін. в. Дзярж. *Грышуня* Бр. в. Ів. *Грышута* Брэст. *Грышутачка* Мін. в. Сл. *Грышутка* Бр. в. Пін., Стол.; Мін. в. Сл. *Грышуцік* Бр. в. Пін. *Грышучок* Брэст. *Грышчанок* Віц. в. Леп. (42). *Рыгарэц* Бр. в. Ганц. *Рыгор* Бр. в. Бар., Драг., Ів. (47), Івац. (74), Кам. (10, 49), Кобр., Лун., Лях. (52), Пін.; Віц. в. Гарад. (22), Гарадок, Глыб. (45), Талачын, Чаш. (40); Гом. в. Акц. (42, 70), Браг. (40—70), Жытк., Хойн. (50); Гр. в. Зэльв. (70), Кар., (65), Навагр.; Маг. в. Бабруйск (23), Кліч. (20); Мін. в. Барысаў, Кап. (70), Кл. (53), Лаг. (60), Люб., Мінск, Слуцк. *Рыгорачка* Гр. в. Навагр. *Рыгорка* Бр. в. Драг., Кам. (10), Стол.; Гом. в. Акц. (70); Мін. в. Мінск, Сл. *Рыгорык* Бр. в. Кам. (57); Мін. в. Кап. (70). *Рыгось, Рыгоська* Бр. в. Ів. *Рыгоша* Бр. в. Брэсц., Бярэз. *Рыгошанька* Бр. в. Бярэз. *Рыгусёк* Брэсц. *Рыгусь* Бр. в. Стол. У XVI—XVIII стст. *Григорий* (24 фіксацыі), *Григорей* (75), *Григор* (10), *Григорко* (2), *Гридя* (2), *Гридко* (7), *Гриша, Гришка* (180), *Гришук, Грин* (12), *Гринь* (18),

*Гринько* (13), *Гринко* (14), *Гринец* (6), *Гринаш, Гриняш, Гринашко, Грись, Гриц* (5), *Грицко* (12), *Грицук* БА I 53—56.

РЫЧАРД, канан. каталіц. Ричард, польск. Ryszard. Імя рэдкае. Вытворныя належаць да двух дэрывацыйных радоў. Дэрываты першага рада ўтвораны ад усечаных асноў: 1) ад асновы Ры- з суфіксам -сь: *Рысь;* 2) ад асновы Рыт- — першы склад і апошні зычны імені ([т]<[д] у выніку аглушэння ў канцы слова) з суфіксам -ак: *Рытак*; 3) ад асновы Рыш- (Рышард): *Рышук.* У другі рад уваходзяць дэрываты ад вытворнай асновы Рысь- з суфіксамі -ёк, -ік, -ка, -як: *Рысёк, Рысік, Рыська, Рысяк.* Зафіксаваны *Рысёк* Гр. в. Іўе (44). *Рысік* Бр. в. Бар.; Віц. в. Брасл. (50). *Рысь* Гр. в. Іўе (44). *Рыська* Віц. в. Брасл. (50); Гр. в. Ашм. (50), Іўе (44). *Рысяк* Гр. в. Лід. (18). *Рытак* Мін. в. Мядз. (22). *Рычард, Рышук* Віц. в. Паст. (45).

САВА, канан. правасл. Савва. Імя рэдкае. Адзначаны *Сава* Бр. в. Жаб.; Мін. в. Бярэз. *Саўка* Бр. в. Драг., Кобр., Лун.; Гр. в. Лід. (55), Шч. (13). У XVI—XVIII стст. *Савва* (8 рэгістрацый), *Сава* (27), *Саво* (2), *Савка* (10) БА I 142.

САВЕЛІЙ, канан. правасл. Савел. Літаратурная форма *Савелій* узнікла як гіперкарэктная пад уплывам кананічных форм іншых імён з канцавым -ий, размоўная *Савель* — у выніку змякчэння канцавога [л], магчыма, таксама ў выніку адпадзення, як гэта было ў большасці кананічных форм з фіналіяй -ий, канцавога -ий. Варыянты ад Сава: *Савачка, Саўка.* Зарэгістраваны *Савачка* Мін. в. Бярэз. *Савелій* Мін. в. Бярэз. *Савель* Бр. в. Ів. *Савось* Бр. в. Ів. *Саўка* Бр. в. Ів., Кобр., Малар.; Віц. в. Бешанковічы (45), Леп. (70); Мін. в. Бярэз. У XVIII ст. *Савелий* (1 раз) БА I 142.

САФОН, канан. правасл. Софония. *Сафон* Маг. в. Клім. (18). У XVI—XVIII стст. *Софон* (1 раз), *Сахон* (14), *Сахом* БА I 153.

СВЯТАСЛАЎ, стараж. слав. Святослав. Вытворныя належаць да двух дэрывацыйных радоў. У першы ўваходзяць варыянты ад невытворных асноў: 1) ад усечанай асновы Свет- з флексіяй -а, з суфіксамі -ік, -оша: *Света, Свецік, Святоша;* 2) ад усечанай асновы Слав- з флексіяй -а, з суфіксамі -ік, -ка: *Слава, Славік, Слаўка.* Зафіксаваны *Света* Гр. в. Навагр. *Свецік, Свецічак* Гр. в.

Кар. *Свець* Бр. в. Пін. *Слава* Бр. в. Кобр.; Маг. в. Касц. *Славік* Гр. в. Навагр.; Маг. в. Касц. *Слайка* Гр. в. Навагр.; Маг. в. Касц. *Святаслаў* Гр. в. Кар., Навагр.; Маг. в. Касц. *Святоша* Бр. в. Пін.

СЕВАСЦЬЯН, канан. правасл. Севастиан, каталіц. польск. Sebastian. Зарэгістраваны *Савасцян* Бр. в. Стол. *Сева, Сейка* Брэст. У XVI—XVIII стст. *Севастиян* (1 раз), *Савостиян, Савостиян, Савостиан, Савосцян, Савостей* (3), *Савоста* (2), *Себестьян* (2), *Себестыян* (3), *Сабестиян, Собостьян* (8), *Собестыян, Собестын, Собостиян, Собостьян* (8), *Собосьян, Совош, Собех, Собко, Совостеец* БА I 144—146.

СЕВЯР'ЯН, канан. правасл. Севериан. *Сур'ян* Бр. в. Івац.

СЕЛІВОН, канан. правасл. Силван. *Сальфук* Гр. в. Астр. (66).

СЕРАФИМ, правасл. Серафим, польск. Serafin. Зарэгістраваны *Сарафім, Сіма* Віц. в. Верхнядзвінск (40).

СІГІЗМУНД ням., папулярнае ў Польшчы, дзе адзначана з XIV ст. (Быстр. Кн., с. 362). Разм. *Зыгмунд* запазычана з польскай мовы. Вытворныя ад усечанай асновы Зыгм- з флексіяй -а, з суфіксамі -ук, -усь. Зарэгістраваны *Дзыгмусь* Бр. в. Кобр. *Зыгма* Гр. в. Ашм. (25). *Зыгмук* Гр. в. Ашм. (40), Смарг. *Зыгмунд* Бр. в. Лях. (60); Гр. в. (40). *Зыгмусь* Бр. в. Ляд. (40); Віц. в. Глыб. (49); Гр. в. Ашм. (40), Гродз. (40), Смарг.; Мін. в. Салігор.

СІЛЬВЕСТР, канан. правасл. Сильвестр, каталіц. польск. Syliwester. Поўная размоўная форма *Сільвесцер* узнікла ў выніку ўключэння ўстаўнога [е] для ліквідацыі збегу зычных [стр] у канцы імені, у размоўнай поўнай форме *Сільверст* адбылася перастаноўка зычных [ст] і [р]. Поўная размоўная форма *Сальвестар*, відаць, узыходзіць да польск. Syliwester. Зарэгістраваны *Сальвестар* Бр. в. Івац. *Сальвесь* Гр. в. Зэльв. (70). *Сільверст* Віц. в. Брасл. (70). *Сільвесцер* Бр. в. Ів. *Селівесь* Бр. в. Кам. У XVI ст. *Селивестр* (1 фіксацыя) БА I 148.

СПІРЫДОН, канан. правасл. і каталіц. Спиридон. Зарэгістраваны *Свірыд* Гом. в. Гом. (70), Лоеў. *Шпірдон* Бр. в. Малар. *Шпірыдон* Бр. в. Стол. У XVI—XVIII стст. *Спиридон* (2 разы), *Свирид* (8) БА I 154.

СТАНІСЛАЎ стараж. слав., кананізавана каталіцкай царквой. Імя папулярнае ў сем'ях каталіцкага веравы-

знання. Вытворныя належаць да трох дэрывацыйных радоў. Да першага — варыянты ад невытворнай усечанай асновы: 1) ад асновы Ста- з суфіксамі -с, -сь, -х: *Стас, Стась, Стах;* 2) ад асновы Слав- з флексіяй -а, з суфіксамі -ік, -ка, -усь: *Слава, Славік, Слаўка, Славусь.* Другі рад складаюць варыянты ад вытворных асноў: 1) ад асновы Стас-, Стась- з флексіяй -я//-ё, з суфіксамі -ечка, -ёк, -ік, -ка, -юк, -юня, -як: *Стася, Стасё, Стасечка, Стасёк, Стасік, Стаська, Стасюк, Стасюня, Стасяк;* 2) ад асновы Стах- з флексіяй -а, з суфіксам -ак: *Стаха, Сташак.* У трэці рад уваходзяць варыянты ад вытворных асноў, што ўзніклі ў рамках другога дэрывацыйнага рада: 1) ад Стасік — *Стасічак;* ад Стасюня — *Стасюнька;* ад Слаўка — *Славачка.* Зарэгістраваны *Станіслаў* Бр. в. Бар., Баранавічы (35), Івац. (21), Лях. (20); Віц. в. Верхнядзвінск (50), Шарк. (73); Гр. в. Ашм. (40), Ваўк. (58), Воран., Гродна (20, 23, 24), Кар., Навагр.; Мін. в. Барысаў, Мінск, Нясв., Пух. (40), Стаўбц. *Станіслаў* Бр. в. Ів.; Мін. в. Пух. (пры выказванні павагі). *Стас* Бр. в. Пін., Стол.; Мінск. *Стасечка* Гр. в. Астр. (70); Мін. в. Стаўбц. *Стасё* Бр. в. Малар.; Гродз. (45). *Стасёк* Мін. в. Мядз. (43), Стаўбц. *Стасік* Бр. в. Бар., Брэсц., Івац. (17), Кам., Кобр., Стол.; Віц. в. Віцебск, Докш. (22), Тал. (5); Гр. в. Ашм. (11), Бераст. (7), Гродз. (5), Гродна (9, 10, 23), Зэльв., Ліда (7, 14), Маст., Навагр.; Мін. в. Барысаў, Валож., Кап., Мінск, Нясв., Пух. (10). *Стасічак* Гр. в. Гродз. (50), Кар. *Стась* Бр. в. Бар., Брэст, Івац. (17), Лях. (20), Стол.; Віц. в. Верхнядзвінск (50), Глыб. (51), Докш. (22, 44, 45, 50, 57), Міёр. (50), Паст. (50), Пол. (50), Тал. (58), Шарк. (58, 73); Гом. в. Лельч. (28, 42); Гр. в. Астр. (43, 45, 50), Астравец (10), Ашм. (40, 42), Бераст. (17, 18, 50), Ваўк. (50, 58), Воран., Гродз. (45, 47, 50), Гродна (20, 23), Зэльв., Кар., Лід. (55), Ліда (50), Маст. (60, 70), Мядз. (50), Навагр., Шч. (22, 29, 42), Шчучын (50); Маг. в. Чэрык. (53); Мін. в. Барысаў, Бярэз. (25), Валож., Віл. (50), Кап. (27, 40), Лаг. (30, 54), Мінск, Нясв., Пух., Стаўбц. *Стаська* Бр. в. Ів. (17); Віц. в. Шарк. (30); Гр. в. Астр. (16, 50), Астравец (10); Ашм. (35, 40), Бераст. (13, 50, 60), Лід. (40), Свісл. (70). *Стасюк* Віц. в. Докш. (44), Паст. (43, 50); Гр. в. Астр. (55, 60), Ашм. (30), Воран., Лід. (43, 55), Шч. (70). *Стасюнька* Гр. в. Ашм. (19). *Стасюня* Гр. в. Ашм. *Стасяк* Гродз. (50). *Стах*

Бр. в. Лях. (25), Пруж. (46); Гродз. (45). *Стаха* Гр. в. Бераст. (18), Ліда (25). *Сташак* Віц. в. Глыб. (51). *Слава* Бр. в. Баранавічы (21), Брэст, Кобр.; Віцебск; Маг. в. Гор. (10); Мін. в. Кап. (27), Мінск. *Славачка* Мінск. *Славік* Бр. в. Баранавічы (6); Гом. в. Б.-Каш. (43); Віц. в. Міёр. (50); Маг. в. Гор. (23); Мін. в. Лаг. (16). *Славусь* Гом. в. Б.-Каш. (40). *Слаўка* Бр. в. Баранавічы (6); Гом. в. Б.-Каш. (40); Гродна; Мінск. У XVI—XVIII стст. папулярнае: *Станислав* (225 фіксацый), *Станко* (4), *Станько* (14), *Стань* (2), *Станюк, Стась* (101), *Стасюк* (8), *Стасючок, Сташко* (3), *Сташель, Сташкель* БА I 155—156.

СЦЯПАН, канан. правасл. Стефан, каталіц. польск. Stefan. Імя даволі частае. Літаратурная форма *Сцяпан* склалася ў выніку фанетычных змен пры адаптацыі кананічнай праваслаўнай формы *Стефан,* а размоўныя *Стафан, Стэфан, Стахван* — кананічнай каталіцкай *Стэфан.* Вытворныя належаць да двух дэрывацыйных радоў. Першы складаюць варыянты ад невытворнай асновы і яе частак: 1) ад асновы Сцяпан з суфіксамі -ец, -ёк, -ік, -ка, -ок, -ушка, -юк: *Сцепанец, Сцепанёк, Сцяпанік, Сцяпанка, Сцяпанька, Сцяпанушка, Сцепанюк;* 2) ад усечанай асновы Сцеп- з флексіяй -а, з суфіксамі -ік, -ка, -уза, -ук, -ун, -ушка, -цё: *Сцёпа, Сцёпік, Сцёпка, Сцяпуза, Сцёпук, Сцяпук, Сцяпун, Сцёпушка, Сцёпцё;* 3) ад усечанай асновы Цёп-: *Цёпа;* 4) ад усечанай асновы Стаф-: *Стафук;* 5) ад асновы Сцен- (першы склад і апошні зычны ад Сцяпан): *Сценка.* У другі рад уваходзяць варыянты ад вытворных асноў: 1) ад Сцяпук — *Сцепучок;* ад Сцёпка — *Сцёпачка, Сцёпчык;* ад гіпатэтычнага Сцёпуша — *Сцёпушка;* ад Сцяпанка — *Сцяпачка, Сцяпанчык;* ад гіпатэтычнага Сцяпануша — *Сцяпанушка.* Зарэгістраваны *Стафан* Мін. в. Дзярж. (70). *Стафун* Гр. в. Астр. (40). *Стахван* Маг. в. Касц. (70). *Стэфан* Бр. в. Дабр., Івац., Пін.; Гр. в. Воран. (42), Гродна (47); Мін. в. Кл. (55). *Сцепанец* Бр. в. Лун. *Сцепанёк* Мін. в. Мядз. *Сцепанок* Бр. в. Ганц. *Сцепанюк* Бр. в. Стол. *Сцепучок* Гом. в. Жытк. *Сцепцё* Бр. в. Бярэз., Пін. *Сцёпа* Бр. в. Бар., Брэст, Бяроз. (12, 70), Драг. (45), Ів. (20, 40, 50), Івац. (40), Лун. (41); Віц. в. Глыб., Докш. (25), Паст., Пол. (50), Шарк. (43); Гом. в. Жытк., Лельч. (17), Петр. (50), Рэч. (18), Хойн. (45); Маг. в. Горкі, Маг. (75); Мін. в. Люб., Мінск, Слуцк,

Стаўбц. *Сцёпачка* Бр. в. Брэст, Драг., Жаб., Кам.; Віц. в. Докш., Паст.; Гом. в. Жытк.; Гр. в. Кар., Навагр.; Мін. в. Барысаў, Віл., Мінск, Слуцк. *Сцёпік* Бр. в. Бяроз., Драг.; Гродз. (19); Мінск. *Сцёпка* Бр. в. Бяроз. (12, 70), Драг., Ів. (17), Івац., Кам., Лях. (20, 47); Віц. в. Гарад., Докш., Міёр. (42), Пол. (50), Расон. (60), Уш. (25); Гом. в. Ветк. (8), Жытк., Лельч. (4), Петр. (50); Гр. в. Ашм. (30), Гродз. (20), Гродна (4, 47); Маг. в. Кір. (18); Мін. в. Барысаў, Віл., Кап. (40), Люб., Мінск, Мядз., Сл., Стаўбц. *Сцёпук* Бр. в. Ів. *Сцёпушка* Бр. в. Івац., Пінск, Пруж.; Мінск. *Сцёпчык* Бр. в. Пін.; Мінск. *Сцяпан* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 52 фіксацыі ў 48 нас. пунктах звычайна для асоб старэйшых за 40—45 гадоў. *Сцяпаначка* Пінск. *Сцяпанік* Бр. в. Кобр. *Сцяпанка* Бр. в. Брэст, Бяроз. (70), Драг. (45), Ів. (50), Івац., Кобр., Лун., Малар., Пін., Стол.; Віц. в. Паст.; Гом. в. Петр.; Гр. в.; Мін. в. Люб., Мінск, Слуцк, Стаўбц. *Сцяпанушка* Мін. в. Слуцк. *Сцяпанчык* Бр. в. Лях. (40); Мінск. *Сцяпанька* Мін. в. Мядз. *Сцяпуза* Гом. в. Петр. (19). *Сцяпун* Бр. в. Драг., Стол. У XVI—XVIII стст. папулярнае: *Стефан* (47 фіксацый), *Степан* (130), *Стэфан* (3), *Щепан* (30), *Щефан* (2), *Счепан, Степанец, Степка, Стец* (5), *Стецко* (17), *Стецук* (3), *Стецуш* БА І 156—158.

СЯМЁН, канан. правасл. Симеон. Імя даволі частае. На думку Б. А. Успенскага, руская форма *Семен* узыходзіць не непасрэдна да грэчаскай *Симеон,* а да паўночнагрэчаскай *Сьменъ,* у якой адлюстроўваецца ўтрата ненаціскнога галоснага ў першым складзе (Б. А. Успенскі. Из истории..., 1969, с. 98; М. Р. Фасмер. Грекославянские этюды.— ОРЯС, 1909, т. 36, с. 22). Поўная размоўная форма *Сымон,* відаць, узыходзіць да канан. правасл. *Симон.* Вытворныя адносяцца да двух дэрывацыйных радоў. Да першага належаць варыянты ад невытворных асноў і іх частак: 1) ад асновы Сямён з суфіксамі -ка, -ушка: *Сямёнка, Сямёнька, Сямёнушка;* 2) ад асновы Сымон з суфіксамі -ёк, -ёха, -ік, -ка: *Сыманёк, Сыманёха, Сымонік, Сымонка, Сымонька;* 3) ад усечанай асновы Сем- з флексіяй -а, з суфіксамі -ка, -ушка: *Сёма, Сёмка, Сёмушка;* 4) ад асновы Сен- (першы склад і апошні зычны імені *Семен*) з флексіяй -я, з суфіксамі -ік, -ка: *Сеня, Сенік, Сенька.* Да другога рада адносяцца варыянты ад вытворных асноў: ад Сёмка —

*Сёмачка, Сёмчык;* ад Сенька — *Сенечка, Сенчык.* Зафіксаваны *Сенечка* Бр. в. Кам.; Гр. в. Навагр.; Маг. в. Бабруйск; Мін. в. Мядз., Сл. *Сенік* Гр. в. Гродз. (7, 30, 35), Навагр. *Сенька* Бр. в. Драг., Кам. (30); Віц. в. Віц. (50), Гарад., Паст. (50), Пол. (45, 55), Расон. (90), Уш. (63), Шум. (40); Гр. в. Навагр.; Маг. в. Бабруйск, Кір.; Мін. в. Мядз. *Сенчык* Бр. в. Пін.; Гродз. (7). *Сеня* Бр. в. Драг., Жаб., Кам. (30), Стол. (24); Віц. в. Беш. (50), Віц. (40, 50), Паст. (20), Уш. (63); Гом. в. Жытк.; Гр. в. Гродз. (7, 30), Лід., Ліда (72), Навагр., Шч. (28); Маг. в. Бабруйск; Мін. в. Кап. (26), Кл., Люб., Сл. *Сёма* Бр. в. Брэст, Драг., Ів. (60), Івац., Кам., Кобр. (58), Малар., Стол. (24); Віц. в. Віц. (40); Гр. в. Гродз. (30), Кар., Навагр. (50); Маг. в. Бабруйск; Мін. в. Кл., Мінск. *Сёмачка* Гр. в. Кар. *Сёмка* Бр. в. Бар., Драг., Жаб., Ів. (60), Івац., Кам. (57), Кобр., Пін.; Гом. в. Рэч. (20); Гр. в. Кар., Навагр.; Маг. в. Бабруйск, Бабр. (10, 15, 50); Мін. в. Кл., Люб., Мінск, Сл., Слуцк. *Сёмушка* Мін. в. Мінск, Слуцк. *Сёмчык* Бр. в. Стол. (24). *Сыманёк* Гр. в. Смарг. (81). *Сыманёха* Бр. в. Ів. *Сымон* Бр. в. Драг., Ів.; Гом. в. Лельч. (53); Гр. в. Навагр. (60), Смарг. (80, 81); Мін. в. Лаг. (68), Мал., Уздз. (59). *Сымонік* Бр. в. Кобр. *Сымонка* Бр. в. Драг., Івац.; Мін. в. Мал. *Сымонька* Гр. в. Смарг. (80). *Сямён* Бр. в. Бар., Драг., Жаб., Ів. (60, 76), Кам. (49, 67), Кобр., Малар., Стол.; Віц. в. Віц. (40, 50), Гарад., Уш. (63); Гом. в. Петр. (70); Гр. в. Гродз. (40), Кар., Маст. (50, 66), Навагр.; Маг. в. Бабруйск, Бабр., Чэрык. (83), Шкл. (52); Мін. в. Кап. (26), Люб., Мінск, Мядз., Сл., Слуцк. *Сямёнка* Бр. в. Ганц., Драг., Ів., Івац.; Гр. в. Навагр.; Мін. в. Сл. *Сямёнушка, Сямёнька* Віц. в. Уш. (63). У XVI—XVIII стст. імя папулярнае: *Семён* (205 фіксацый), *Сёмка* (21), *Семенко, Семашко* (8), *Сень, Сенко, Сенка* (14), *Сенько* (37), *Сенчило, Сенюта* БА I 149—150. Ад канан. правасл. Симон: *Симон* (6 фіксацый), *Сымон* (7), *Самон* (3), ад канан. каталіц. Шимон: *Шиман, Шимон* (10), *Шимко* (45), *Шимук* БА I 151—152.

СЯРГЕЙ, канан. правасл. Сергий. Імя папулярнае. Пры адаптацыі замест канцавога -ий (пад уплывам іншых імён на -ей) засвоіла фіналію -ей. Вытворныя складаюць тры дэрывацыйныя рады. У першы ўваходзяць варыянты ад невытворнай асновы і яе частак: 1) ад асновы Сяргей з суфіксамі -ка, -ятка: *Сяргейка,*

*Сергіятка* (пры [е]>[і] у першым складзе перад націскам, таму што ў беларускай мове немагчыма спалучэнне [гя]); 2) ад усечанай асновы Серг- з флексіяй -а, -о, з суфіксамі -ала, -уля, -уня, -усь, -уша: *Серга, Сярго, Сергала, Сяргуля, Сяргуня, Сергусь, Сяргуша;* 3) ад асновы Сярог- (з устаўным [о]<[е]) з флексіяй -а, з суфіксам -ja: *Сярога, Сярожа;* 4) ад усечанай асновы Гей- без афікса: *Гей*; 5) ад асновы Сей- (першы склад і апошні зычны імені *Сергей*) без афікса: *Сей*; 6) ад запазычанай асновы Серж- без афікса, з суфіксам -ік: *Серж, Сержык.* Да другога рада адносяцца варыянты ад вытворных асноў: 1) ад асновы Сека (першы і апошні склады формы *Сяргейка): Сека;* 2) ад асновы Сёга (першы і апошні склады формы *Сярога): Сёга;* 3) ад гіпатэтычнага Сяргун — *Сергунок;* ад Сяргейка — *Сяргейчык;* ад Сяргуня — *Сяргунька;* ад асновы Сярож- з суфіксамі -анька, -ка, -ык: *Сярожанька, Сярожка, Сярожык.* У трэці рад уваходзяць варыянты ад вытворных асноў, якія ўзніклі ў рамках другога дэрывацыйнага рада: 1) ад Сяргунька — *Сяргунчык;* ад Сярожка — *Сярожачка;* 2) ад асновы Сяронька (*Сярожанька* без склада [жа]) —*Сяронька.* У якасці варыянтаў імені *Сяргей* выступаюць і формы іншых імён: *Сеня* (Сямён), *Сёва* (Севасцьян) і сугучныя з *Сяргей* апелятывы *Серанькі, Серы; Сяржант.* Зафіксаваны *Гей* Мін. в. Круп. (14). *Сей* Бр. в. Пін. *Сека* Бр. в. Лях. (19). *Сеня* Віц. в. (19). *Серанькі* Бр. в. Баранавічы (3), Брэст; Гродна (3, 17, 21). *Серга* Бр. в. Жаб. *Сергало* Бр. в. Стол. *Сергіятка* Гр. в. Свісл. (60). *Сергунок* Гом. в. Жытк. *Сергусь* Бр. в. Івац. *Серж.* Бр. в. Баранавічы (10), Брэст, Лях. (19), Малар.; Віц. в. Гарад. (20), Уш. (20); Гом. в. (10); Гр. в. Гродна [16, 18, 20, да 20), Зэльв. (19), Кар. (17), Маст., Масты (17, 18), Шч. (10); Маг. в. Касцюковічы (15), Маг. [18); Мін. в. Маладзечна, Мінск, Нясв. (10), Сл. (23). *Сержык* Бр. в. Бяроз. (15), Івац., Кам.; Віц. в. Лёзна (10); Гом. в. Карм. (5), Петр. (10); Гр. в. Гродна (17), Масты, Шч. (10); Маг. в. (10), Хоцімск; Мін. в. Мінск, Стаўбц. *Серы* Бр. в. Брэст, Івац., Пінск; Віц. в. Верхнядзвінск, Лёзна (10), Уш. (20), Ушачы (10); Гр. в. Гродна (14, 15, 18, 21), Гродз. *Сёва* Бр. в. Бяроз., Кобр. *Сёга* Гродна (18). *Сэра, Сэрык* Бр. в. Івац.; Маг. в. Касцюковічы (15). *Сяргей* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 136 фіксацый у 105 нас. пунктах для асоб усіх узростаў, але галоўным

чынам для асоб ад 30 да 50 гадоў. *Сяргейка* Бр. в. Бар., Драг., Ів. (10, 26), Лун., Малар., Пруж.; Гом. в. Жытк. (1, 10), Карм. (12), Петр. (10); Гр. в. Гродна (15), Кар., Лід. (8); Маг. в. Бабруйск, Бабр. (70), Касц.; Мін. в. Барысаў, Маладзечна, Мінск, Мядз., Сл., Слуцк, Стаўбц. *Сяргейчык* Бр. в. Кобр. *Сярго* Бр. в. Івац., Лях. (19); Віц. в. Ушачы (10); Мінск. *Сяргуля* Гродна (14). *Сяргунчык* Гродна (5, 17); Мін. в. Люб., Мінск. *Сяргунька* Бр. в. Лун. (15); Гродна (3, 7); Мін. в. Маладзечна, Мінск, Мядз. *Сяргуня* Бр. в. Брэст, Бяроз. (17), Пінск; Віц. в. Верхнядзвінск; Гр. в. Гродна (3), Лід. (18), Масты; Мін. в. Маладзечна. *Сяргуша* Бр. в. Бар. *Сяржант* Гродна (17). *Сярога* Бр. в. Бар., Брэст, Бяроз. (17), Драг., Жаб., Ів. (26), Кам., Малар.; Віц. в. Брасл. (22), Глыб. (19), Сен. (18); Гр. в. Гродна (17, 23), Масты (18); Маг. в. Хоцімск; Мін. в. Нясвіж, Сл. (23), Слуцк, Стаўбц. *Сяропса* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 90 фіксацый у 75 нас. пунктах пераважна для асоб ад 3—5 да 20—25 гадоў, але зафіксаваны выпадкі і для больш пажылых (40—50 гадоў). *Сярожанька* Брэст; Віц. в. Лёзна (10), Уш. (20); Гр. в. Воран. (7), Гродна (3, 4, 12, 17, 21), Масты; Маг. в. Бабруйск, Касц.; Мін. в. Барысаў, Маладзечна, Мінск, Стаўбц. *Сярожачка* Бр. в. Бар., Брэст; Гр. в. Кар.; Мін. в. Барысаў, Мінск, Мядз., Стаўбц. *Сярожка* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 71 фіксацыя ў 65 нас. пунктах звычайна як сінонім варыянта *Сярожа*. *Сярожык* Бр. в. Бар., Ів. (26), Івац. Стол.; Гом. в. Жытк. (1—10); Гр. в. Бераст. (25), Кар. (12); Маг. в. Мсц.; Мін. в. Мінск, Нясв., Стаўбц. *Сяронька* Бр. в. Драг. У XVI—XVIII стст. рэдкае: *Сергей* (14 фіксацый) БА I 147.

ТАДЭВУШ, канан. каталіц. польск. Tadeusz. Поўная літаратурная форма *Тадэвуш* узнікла ў выніку ўключэння ўстаўнога [в] перад [у]. Вытворныя складаюць два дэрывацыйныя рады. Першы — варыянты 1) ад усечанай асновы Тадзь- з флексіяй -я//-ё, з суфіксамі -ік, -юк, -юня: *Тадзя, Тадзё, Тадзік, Тадзюк, Тадзюня;* 2) ад усечанай асновы Тад- з суфіксам -эй: *Тадэй*. Зафіксаваны *Тадзё* Бр. в. Бар.; Гр. в. Свісл. (45, 50). *Тадзік* Бр. в. Бар., Кам., Пруж.; Віц. в. Брасл. (30), Паст. (20, 23); Гр. в. Гродз. (15), Гродна (20, 45), Зэльв., Лід. (70), Мядз. (30), Свісл. (45, 48), Шч. (30); Мін. в. Сл. (25), Стаўбц. (40). *Тадзічак* Віц. в. Паст.; Мін. в. Стаўбц.

*Тадзюк* Віц. в. Паст. (20, 50); Гр. в. Астр. (45), Ашм. (18), Свісл. (45). *Тадзюня* Віц. в. Паст. (50), Свісл. (48). *Тадзя* Бр. в. Бар.; Віц. в. Паст.; Гр. в. Астр. (15). *Тадэвуш, Тадэуш* Бр. в. Бар., Стол.; Віц. в. Паст. (50); Гр. в. Гродна (20, 30), Свісл. (43). *Тадэй* Бр. в. Малар. Параўн. *Фадзей.*

ТАМАШ, канан. каталіц. польск. Tomasz. Гл. ФАМА.

ТАРАС, канан. правасл. Тарасий. Зарэгістраваны *Тарас* Маг. в. Бабруйск. *Тарасік* Бр. в. Стол.; Маг. в. Бабруйск. *Тараска* Бр. в. Драг. *Тарасок* Бр. в. Ів. У XVI—XVIII стст. *Тарас* (14 фіксацый).

ТРАФІМ, канан. правасл. Трофим. Імя не частае, галоўным чынам у асоб сярэдняга і старэйшага ўзросту. Поўная размоўная форма *Трахім* з'явілася ў выніку [ф]> [х]. Вытворныя складаюць два дэрывацыйныя рады. У першы ўваходзяць варыянты ад невытворных асноў і іх частак: 1) ад Трафім — *Трафімка;* ад Трахім — *Трахімка;* 2) ад усечанай асновы Тро- з суфіксамі -ня, -ха, -ша: *Троня, Троха, Троша.* У другі рад уваходзяць варыянты ад вытворных асноў: ад Трафімка—*Трафімчык;* ад Троня — *Тронька;* ад Троха — *Троша, Трошка;* ад гіпатэтычнага Фіша, якое ад усечанай асновы Фі- з суфіксам -ша: *Фішка.* Зарэгістраваны *Трафім.* Бр. в. Бяроз. (50), Івац. (72), Стол. (33); Гр. в. Гродз. (50), Дзятл. (65); Мінск. *Трафімка* Бр. в. Бяроз., Пін.; Мінск. *Трахім* Бр. в. Бяроз., Драг., Ів., Кам. (49), Кобр., Малар., Пін., Стол.; Маг. в. Глуск. (70—80). *Трахімка* Бр. в. Бяроз. (50), Драг., Стол. *Трахімчык* Бр. в. Кобр. *Тронька, Троня* Бр. в. Стол. (33). *Троха* Бр. в. Стол. (33). *Троша* Бр. в. Івац.; Гродна (50). *Трошка* Брэст, Лун., Стол. (33). *Фішка* Бр. в. Стол. (33). У XVI—XVIII стст. *Трофим* (6 фіксацый), *Трохим* (15), *А(О)трофим* (8), *А(О)трохим* (3), *А(О)трошка* (19) БА I 162.

ТЭАФІЛ, канан. каталіц. польск. Teofil. Зарэгістраваны *Тахвель* Гр. в. Лід. (50). *Тахвіля* Гр. в. Зэльв. (60).

ТЭЛЕСФОР, канан. каталіц. польск. Telesfor. *Тылесфар* Мін. в. Мядз. (50).

УЛАДЗІМІР, стараж. слав. Владимир, усх.-слав. Володиме(и)р, кананізаванае праваслаўнай царквой. Імя папулярнае. Рэгіянальная поўная форма *Ладымер, Ладзімар.* Вытворныя належаць да трох дэрывацыйных

радоў. Першы рад складаюць варыянты ад невытворнай асновы і яе частак: 1) ад Уладзімір—*Уладзімірка;* 2) ад усечанай асновы Уладзь- з флексіяй -я//-ё, з суфіксамі -ік, -ка, -юк: *Уладзя, Уладзё, Уладзік, Уладзька, Уладзюк;* 3) ад усечанай асновы Улад- з суфіксамі -ак, -ка, -ук, -ысь, -эк: *Уладак, Уладка, Уладук, Уладысь, Уладэк;* 4) ад усечанай асновы Ладзь- з флексіяй -я//-ё, з суфіксамі -ік, -юн, -юнё: *Ладзя, Ладзё, Ладзік, Ладзюн, Ладзюнё;* 5) ад усечанай асновы Лодзь- (Валодзя): *Лодзька;* 6) ад усечанай асновы Валодзь- з флексіяй -я//-ё, з суфіксамі -ей, -енька, -ечка, -ёк, -ік, -іч, -ка, -юк, -юн, -юшка: *Валодзя, Валодзё, Валадзей, Валодзенька, Валодзечка, Валадзёк, Валодзік, Валодзіч, Валодзька, Валадзюк, Валадзюн, Валадзюшка;* 7) ад усечанай асновы Валод-: *Валодка;* 8) ад усечанай асновы Вало- з суфіксам -ха: *Валоха;* 9) ад рэдупліцыраванай асновы Вов- з флексіяй -а, з суфіксамі -анька, -ік, -ка, -ок, -уля, -унь, -уня, -уся, -ця: *Вова, Вованька, Вовік, Воўка, Вавок, Вавуля, Вавунь, Вавуня, Вавуся, Воўця;* 10) ад рэгіянальнай усечанай асновы Балодзь-: *Балодзька;* 11) ад рэгіянальнай усечанай асновы Бладзь-: *Бладзік.* У другі рад уваходзяць варыянты ад вытворных асноў: 1) ад Валодзька — *Валодзечка;* 2) ад Валодзік — *Валодзічак;* 3) ад гіпатэтычнага Валодзюша — *Валодзюшка;* 4) ад Валоха — *Валашок;* 5) ад Воўка — *Вовачка, Воўчык;* 6) ад Вовік—*Вовічак;* 7) ад Уладак—*Уладачак;* 8) ад гіпатэтычнага Уладзімка — *Уладзімчык;* 9) ад Воўця — *Ваўцюль.* Да трэцяга рада адносіцца варыянт *Вуся* ад Вавуся. У якасці варыянтаў сустракаюцца *Вадзім, Вальдэмар,* сугучны апелятыў *Воўк, Ваўчок.* Зарэгістраваны *Балодзька* Бр. в. Кам. (20). *Бладзік* Мін. в. Дзярж. (40, 65). *Вавок* Мін. в. *Вавуля* Віц. (14); Гродна (18); Мін. в. Барысаў. *Вавунчык* Гом. в. Добр. (1, 3). *Вавунь, Вавуня* Брэст; Віц. в. Пол. (30); Гр. в. Навагр. *Вавуська* Маг. в. Клім. (3). *Вавуся* Гр. в. Навагр.; Маг. в. Кір. (10). *Вадзім* Мін. в. Барысаў. *Валадзей* Гродна (18). *Валадзёк* Гр. в. Смарг. (80). *Валадзюк* Бр. в. Бяроз., Івац. *Валадзюн* Бр. в. Ів. (45). *Валадзюшка* Гродна (18). *Валашок* Гом. (4). *Валодзенька* Бр. в. Драг. (24); Гродна (18); Маг. в. Бабруйск; Мін. в. Барысаў, Мінск, Стаўбц. *Валодзечка* Бр. в. Пін.; Віц. в. Віц. (14); Гом. в. Жытк.; Маг. в. Бабруйск. *Валодзё* Бр. в. Лун., Стол. *Валодзік* Бр. в. Бар.,

Івац., Кобр. (15), Кам., Лях. (10, 14, 31, 40); Віц. в. Орша (21), Глыб. (14); Гом. в. Лоеў.; Гр. в. Дзятл., Навагр. (50, 60, 80); Мін. в. Кап. (35), Мін., Мінск, Нясв., Пух., Сл., Стаўбц. *Валодзіч* Бр. в. Стол. *Валодзічак* Бр. в. Жаб.; Мінск. *Валодзька* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 90 фіксацый у 79 нас. пунктах прыкладна з аднолькавай частатой для асоб усіх пакаленняў. *Валодзюшка* Бр. в. Пін.; Гродна (18); Мін. в. Стаўбц. *Валодзя* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 208 фіксацый у 170 нас. пунктах пераважна для асоб 10—40 гадоў, але нярэдка і для старэйшага ўзросту — да 60 гадоў. *Валодка* Бр. в. Івац. *Валоха* Мін. в. Стаўбц. *Вальдэмар* Мін. в. Кл. (34). *Ваўцюль* Гом. в. Б.-Каш. (18). *Ваўчок* Гом. в. Хойн. (6). *Вова* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 117 фіксацый у 105 нас. пунктах, галоўным чынам для асоб ад 10 да 20—25 гадоў, зрэдку сустракаецца і ў старэйшага пакалення (40—50 гадоў). *Earl* *Вованька* Гом. в. Рэч. (2); Гродна (3). *Вовачка* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 39 фіксацый у 34 нас. пунктах (ад 6 да 20—22 гадоў). *Вовік*—ва ўсіх абласцях рэспублікі 53 фіксацыі ў 45 нас. пунктах (ад 1 да 38 гадоў). *Вовічак* Бр. в. Бар. *Воўк* Бр. в. Бар. (50), Драг., Кам. (14); Віц. в. Леп. (20); Гр. в. Дзятл. (13). *Воўка* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 92 фіксацыі ў 80 нас. пунктах звычайна для асоб 10—25 гадоў, зрэдку для маладзейшых і старэйшых. *Воўця* Гр. в. Лід. *Воўчык* Бр. в. Брэст, Івац., Кам. (19); Гродна (4, 10, 15, 18, 26), Маст.; Мін. в. Барысаў, Маладзечна, Мінск, Слуцк. *Вуся* Мінск (2—3). *Ладзё* Бр. в. Ів., Стол. *Ладзік* Бр. в. Стол.; Гр. в. Лід. (60); Мін. в. Пух. *Ладзімір* Бр. в. Бяроз. *Ладзюн* Бр. в. Ів. *Ладзюнё* Бр. в. Бярэз.; Мін. в. Пух. *Ладымар* Бр. в. Ганц.; Маг. в. Глуск. (72). *Лодзька* Віц. в. Шум. (50). *Уладак* Бр. в. Лях. (60); Віц. в. Глыб., Шаркоўшчына (30); Гр. в. Астр. (30), Бераст. (20), Гродз. (24), Дзятл. (за 40), Лід. (47), Маст. (40), Мядз. (19), Навагр. (55, 72, 75), Шч. (13); Мін. в. Віл., Мін., Пух. *Уладачак* Гр. в. Навагр. *Уладзё* Бр. в. Малар.; Гр. в. Гродз. (24), Кар. (45). *Уладзік* Бр. в. Бар., Лях. (48), Пін.; Віц. в. Чашн. (22); Гом. в. Акц. (70), Б.-Каш. (12), Жытк.; Гр. в. Ашм. (20), Гродз. (60), Гродна (15), Дзятл. (60), Кар. (25), Навагр. (54), Паст. (5—10); Маг. в. Мсц. (17), Мсціслаў; Мін. в. Нясв., Сл., Стаўбц. *Уладзімір* Бр. в. Бар. (18), Лун. (40), Малар.; Віц. в. Беш. (50), Верхнядзвінск (30,

60), Віц. (40), Докш., Паст., Шарк. (81), Шаркоўшчына (30); Гом. в. Ветк. (45), Жытк., Лельч. (47), Рэч. (30); Гр. в. Ваўк. (45), Гродна (10, 15, 19, 21, 49), Ліда (23), Масты (25), Навагр., Навагрудак (40); Маг. в. Бабруйск, Касц., Клім. (30), Слаўг. (53), Слаўгарад, Мсц. (45); Мін. в. Барысаў, Мін., Мінск, Нясв., Салігор., Слуцк, Стаўбц. *Уладзімірка* Мін. в. Дзярж. (20). *Уладзімчык* Мінск. *Уладзька* Віц. в. Пол. (70); Мінск. *Уладзюк* Віц. в. Паст. (50), Шарк. (81); Гр. в. Астр. (50, 52). *Уладзя* Бр. в. Ганц., Драг., Стол.; Гр. в. Маст. (70); Мін. в. Віл., Мін., Стаўбц. *Уладка* Гр. в. Ашм. (50). *Уладук* Гр. в. Смарг. *Уладысь* Гр. в. Астр. (60). *Уладэк* Бр. в. Бяроз. (40—50), Кам., Лях. (54); Віц. в. Паст.; Гр. в. Навагр. (60); Мін. в. Кл. (34), Мін., Нясв. У XVI—XVIII стст. рэдкае, у поўнай форме не адзначана. *Володко* (2 фіксацыі), *Володько* (3), *Владек* БА I 44.

УЛАДЗІСЛАЎ, старaж. слав. Владислав. Імя нечастае. Вытворныя складаюць два дэрывацыйныя рады. У першы ўваходзяць варыянты ад усечаных частак невытворнай асновы: 1) ад асновы Уладзь- з флексіяй -я//-ё, з суфіксамі -ік, -ка: *Уладзя, Уладзё, Уладзік, Уладзька;* 2) ад асновы Улад-: *Уладэк*; 3) ад асновы Лад-: *Ладусь;* 4) ад асновы Слав- з флексіяй -а, з суфіксамі -ік, -ка; *Слава, Славік, Слаўка.* Другі рад — варыянты ад вытворных асноў: ад Уладзік — *Уладзічак;* ад Слаўка — *Славачка.* Зарэгістраваны *Ладусь* Гр. в. Дзятл. (65—70). *Слава, Славачка* Гродна (40). *Славік, Слаўка* Бр. в. Баранавічы. *Уладзё* Гродз. (18). *Уладзік* Бр. в. Лях. (50); Гр. в. Кар.; Мін. в. Люб., Мінск, Сл. (10). *Уладзіслаў* Мінск. *Уладзічак* Гр. в. Кар. *Уладзька* Віц. в. Багушэўск (10); Мін. в. Люб. *Уладзя* Бр. в. Лях. (40); Мін. в. Люб. *Уладэк* Бр. в. Лях. (70); Гр. в. Астр. (69), Гродз. (22, 40), Гродна (30), Ліда, Свісл. (65).

УЛАС, канан. правасл. Власий. Адзначана *Улас* Бр. в. Драг., Кобр.; Гр. в. Навагр. *Уласка* Бр. в. Драг.

УЛЬЯН, канан. правасл. Иулиан. Адзначана *Віліян* Віц. в. Сен. (65).

УСЕВАЛАД, старaж. слав. Всеволод. Адзначаны *Сева, Севік, Севушка,* Мінск. *Сеўка* Гр. в. Шч. (25). *Усевалад* Мінск.

УСЦІН, канан. правасл. Иустин. Зарэгістраваны

*слаў* Гр. в. Кар., Навагр., Маг. в. Касц.; *Станіслаў* Бр. в. Баранавічы, Бар., Івац., Лях., Віц. в. В.-дзв., Шарк., Гр. в. Ашм., Ваўк., Воран., Гродна, Кар., Навагр., Мін. в. Барысаў, Мінск, Нясв., Пух., Стаўбц.; *Уладзіслаў* Мінск.

5. Імёны, запазычаныя праз літаратуру: *Артур* Віц. в. Глыб., Мін. в. Барысаў, Мінск; *Руслан* Гом. в. Жытк., Гр. в. Гродна, Кар., Навагр.

**Імёны з фіналіяй -ияш** запазычаны з польскай мовы, у якой яны ўзыходзяць да лацінскіх на *-іа* ці *-і*. Варыянты з *-ияш* адзначаны ў асноўным для імён, праваслаўная кананічная форма якіх характарызуецца фіналіяй *-ия* (гл. с. 143). Улічваючы спарадычнасць ужывання імён з фіналіяй *-ияш* у пісьмовых крыніцах XVI—XVIII стст., можна думаць, што практычна ў Беларусі яны не бытавалі. Носьбітамі іх, відаць, былі прадстаўнікі каталіцкага веравызвання, а ў некаторых выпадках, магчыма, у пісьмовыя крыніцы яны ўнесены пісцамі, якія добра валодалі польскай мовай ці былі палякамі па нацыянальнасці. Сустракаюцца, напрыклад, выпадкі, калі адна асоба ў розных дакументах запісана рознымі варыянтамі імені: от пана *Малахия* Андреевича Казкевича 1691 Маг., ИЮМ VIII 10 і пра яго ж: *Малахияш* Андреевич Гуторович Казкевич 1706 Маг., ИЮМ XI 203. У XVI—XVIII стст. зарэгістраваны *Еремияш* 1594 Віц. в., параўн. польск. Jeremiasz, канан. правасл. Иеремия; *Захарыяш* (2) 1582 Мін. п., *Захариаш* 1746 Маг., параўн. польск. Zachariasz, канан. правасл. Захария; *Ильяш* (5) 1528 Гр., 1567 Кобр. п., Навагр. п., *Иляш* канец XVI ст. Мін. п., *Гелияш* 1634 Віц. в., параўн. польск. Heliasz, канан. правасл. Илия; *Изаяш* 1636 Маг., *Езаяш* 1582 Мін. п. *Заяш* 1567 Ашм. п., параўн. польск. Izajasz, канан. правасл. Исаия; *Малахияш* 1706 Маг., параўн. польск. Małachiasz, канан. правасл. Малахия.

Формы з фіналіяй *-іяш*//*-ьяш* зараз сустракаюцца зрэдку толькі ў размоўна-бытавой сферы: *Гальяш* Бр. в., Стол., Віц. в. Глыб., *Ільяш* Бр. в. Драг., Кобр., Пін., *Ляш* Бр. в. Драг., Ів.— **варыянты ад Илия.**

**Імёны з фіналіяй -аш** таксама запазычаны з польскай мовы, у якой яны адпавядаюць лацінскім на *-а*, і суадносяцца з кананічнымі праваслаўнымі імёнамі з фіналіяй *-а*. У пісьмовых крыніцах XVII ст. адзначаны выпадкі, калі адна асоба ў двух розных запісах зафіксавана адзін раз кананічнай каталіцкай формай імені, пры-

нятай у Польшчы, а другі раз — кананічнай праваслаўнай формай імені: *Лукаш Полуда* 1684 Маг., ИЮМ II 193 і *Лука Полуда* там жа 196; *Лукаш Демидов* 1691 Маг., ИЮМ VIII 168 і *Лука Демидов* там жа. У XVI—XVIII стст. зафиксаваны: *Лукаш* (61) 1528 Ашм. дв., Гр., Рад., Ваўк., Пін., Вас., Астр., 1567 Ваўк. п., Мін. п., Бр., Ашм. п., Навагр. п., Слон. п., Кобр., 1577, 1591 Маг., 1582, 1599 Мін. п., 1670, 1772 Віц. в., 1726 Чач. ст., 1764 Ула (параўн. польск. Łukasz, канан. правасл. Лука); *Томаш* (14) 1528 б. Гр., 1567 Рад. хар., Бр. п., Ашм. п., Слон. п., 1582, 1589 Мін. п., 1646 Арш. п., 1746 Маг., 1764 Віц. (параўн. польск. Tomasz, канан. правасл. Фома).

У сучаснай беларускай мове варыянты *Лукаш, Тамаш* кадыфікаваны як размоўныя да *Лука, Фама.* У размоўна-бытавой сферы рэдкія: *Лукаш* Бр. в. Брэсц., Ів., Кам., Гом. в. Лоеў — варыянт да *Лука,* Бр. в. Стол.— варыянт да *Лук'ян; Тамаш* Бр. в. Драг., Гр. в. Кар., *Тумаш* Віц. в. Міёр.— варыянты да *Фама.* Пад уплывам польскай мовы адзначана і *Янаш*<Ян Бр. в. Лун.

**Імёны з фіналіяй -уш -юш** запазычаны з польскай мовы ці абазначаюць асоб каталіцкага веравызнання. Адзначаны толькі ў размоўна-бытавой сферы: *Аркадзюш* Бр. в. Пін., параўн. польск. Arkadiusz; *Януш* Гр. в. Астр., Гродз., Гродна, Мін. в. Мін., параўн. польск. разм. *Janusz*<Ian; *Тадэвуш* Бр. в. Бар., Стол., Віц. в. Паст., Гр. в. Гродна, Свісл., параўн. польск. *Tadeusz,* разм. *Tadewusz,* канан. правасл. *Фадзей.*

**Польскія імёны з фіналіямі «галосны+зычны» і «збег зычных».** У гэту групу ўваходзяць кананічныя каталіцкія імёны і іх варыянты. Носьбітамі такіх імён, відаць, былі прадстаўнікі каталіцкага веравызнання. У XVI—XVIII стст. зафіксаваны *Альфонс* Гр. в. Шч.; *Базыль* Бр. в. Ганц., Пруж., Віц. в. Віц., Леп., Пол., Шум., Гом. в. Браг., Маг. в. Мсціслаў, Мін. в. Віл., Мін., Мінск, Пух., Стаўбц.; *Войцех* Гр. в. Іўеў, *Вайцех* Гр. в. Шч.; *Вальдэмар* Мін. в. Кл.; *Вінцэнт* Бр. в. Жаб., Лун., Гр. в. Воран., Мін. в. Стаўбц., *Вінцэнт* Бр. в. Драг.; *Вітольд* Бр. в. Кам.; Геранім: *Гароім* Віц. в. Глыб.; *Дамінік* Віц. в. Паст.; *Зыгмунд* Бр. в. Лях., Гр. в. Баяры; *Зянон* Гр. в. Гродна, *Зэнон* Бр. в. Бар., Віц. в. Паст.; *Казімір* Бр. в. Лях., Віц. в. Глыб., Міёр., Паст., Гр. в. Ашм., Бераст., Воран., Гродна, Навагр., Мін. в. Мінск, Нясв., Пух., Стаўбц., *Казімер* Бр. в. Лях., Мін. в. Стаўбц., *Казімеж*

Гр. в. Ашм. Гродна, Мін. в. Стаўбц., *Казьмер* Гр. в. Адэльск; Карл: *Кароль* Гом. в. Жытк., Гр. в. Астр., *Кáраль* Гом. в. Лельч., *Карэль* Бр. в. Лун., Стол.; Каятан: *Кайтан* Мін. в. Мядз.; Людвіг: *Людвік* Гом. в. Лельч., Гр. в. Шч.; *Люцыян* Бр. в. Бар.; Матэвуш: *Матэуш* Бр. в. Пін.; *Міхал* Бр. в. Лях., Гр. в. Шч., *Міхаль* Бр. в. Брэсц., Ганц., Жаб., Кам., Кобр., Лун., Гом. в. Ветк., Добр., Петр., Мін. в. Кап., Кл., Пух., Сл.; *Рафал* Віц. в. Глыб.; *Рычард* Віц. в. Паст.; *Станіслаў* Бр. в. Ів., Мін. в. Пух.; *Стэфан* Бр. в. Драг., Івац., Пін., Гр. в. Воран., Гродна, Мін. в. Кл., *Стафан* Мін. в. Дзярж., *Стахван* Маг. в. Касц.; Тэафіл: *Тахвель* Гр. в. Лід.; Тэлесфор: *Тылесфар*, польск. Telesfor Мін. в. Мядз.; *Фелікс* Віц. в. Глыб., Гр. в. Гродз., Дзятл., Мін. в. Мядз.; *Франц* Віц. в. Глыб., Паст., Шарк.; *Юзаф* Віц. в. Уш., Гом. в. Петр., Гр. в. Ашм. Бераст., Гродз., Дзятл., Шч., Мін. в. Віл., Мядз., Стаўбц., *Юзап* Мін. в. Віл., *Юзэ́ф* Віц. в. Віц., Глыб., Паст., Гр. в. Астр., Ашм., Маст., Мін. в. Кл., *Юзэп* Бр. в. Бяроз., Кам., Малар., Гр. в. Дзятл., *Езаф* Гр. в. Гродз., *Ёзеф* Гр. в. Гродз., *Язэп* Бр. в. Бяроз., Івац., Лун., Пін., Стол., Віц. в. Докш., Гом. в. Жытк., Лельч., Гр. в. Кар., Навагр.; *Ян* Бр. в. Кам., Лях., Пін., Пруж., Віц. в. Пол., Чашн., Шум., Гом. в. Лельч., Петр., Рэч., Гр. в. Ашм., Воран., Гродз., Гродна, Навагр., Маг. в. Мсц., Мсціслаў, Мін. в. Барысаў, Віл., Мал., Мін., Мінск, Мядз., Пух., Сл., Стаўбц.

## ВЫТВОРНЫЯ ІМЕНЫ

Аналіз уласных асабовых імён у дакументах XVI—XVIII стст. паказвае, што ў той час побач з поўнымі традыцыйна-царкоўнымі і размоўна-бытавымі формамі, якія мелі нейтральнае значэнне, шырока выкарыстоўваліся дэмінутыўныя, гіпакарыстычныя і пеяратыўныя дэрываты з памяншальна-ласкальнымі і павелічальнымі суфіксамі. Генетычна гэта эмацыянальна-ацэначныя формы імён, але, відаць, у XVI—XVIII стст. многія з іх ужо ўжываліся і ў якасці нейтральных размоўна-бытавых імён, а некаторыя нават набылі патранімічнае значэнне. Аб магчымасці выкарыстання эмацыянальна-ацэначных форм імені ў якасці поўных імён з нейтральным значэннем сведчаць шматлікія факты сучаснай беларускай антрапаніміі.

Неаднаразова адзначаны выпадкі, калі некалькі асоб, што пражываюць у адной вёсцы і маюць аднолькавае афіцыйнае імя, практычна называюцца рознымі варыянтамі гэтага імені, частка якіх з'яўляецца эмацыянальна-ацэначнымі. Так, у вёсцы Скварцы Дзяржынскага раёна некаторы час назад 4 чалавекі мелі афіцыйнае імя *Іван*, але практычна кожны называўся не так, як іншыя,—*Ванька Капач, Янук Карачун, Яська Жэўжык, Янка Бірыла;* ці імя *Пётр* — *Петрык Карачун, Пецька Карачун, Пётра Лычко*; імя *Міхаіл* — *Міша Карачун, Мішка Бірыла;* імя *Антон* — *Антось Карачун, Антон Зубавіч, Анцік Юшкевіч;* імя *Уладзімір* — *Бладзік Хамёнка, Валодзя Вашына* і інш. Для некаторых імён няма такой разнастайнасці. Для розных асоб ужываюцца адны і тыя ж варыянты: эмацыянальна-ацэначная форма *Юзік, Коля* і інш. Прыведзеныя формы ў практычных зносінах з'яўляюцца сталымі. Афіцыйна-юрыдычныя поўныя формы *Іван, Уладзімір* выкарыстоўваюцца значна радзей.

Ужыванне эмацыянальна-ацэначных форм у нейтральным значэнні (для абазначэння дарослых асоб) галоў-

ным чынам абумоўлена дзвюма прычынамі: неабходнасцю дыферэнцыраваць асоб з аднолькавым афіцыйным імем і патрэбнасцю характарыстыкі індывідуальных прыкмет асобы. І ў тым і ў другім выпадку за дарослым чалавекам захоўваецца памяншальнае імя, якое ён атрымаў у дзіцячыя гады. Розніца толькі ў тым, што ў першым выпадку імя мае нейтральнае значэнне — служыць сродкам адрознення адной асобы ад другой, а ў другім мае экспрэсіўную афарбоўку — падкрэслівае, што чалавек ростам, выглядам, характарам, голасам ці паводзінамі падобны да дзяцей. У такім разе імя ў пэўным сэнсе выконвае ролю імені-мянушкі. Памяншальныя імёны надаюцца і непасрэдна дарослаto чалавеку, калі хочуць падкрэсліць яго адмоўны характар ці востры язык («добрая цаца», «добрая штучка»).

Эмацыянальна-ацэначныя формы ў помніках беларускай пісьменнасці XVI—XVIII стст. ужываліся і ў якасці аднаго са сродкаў сацыяльнай стылістыкі. Памяншальную форму імён выкарыстоўвалі прадстаўнікі прывілеяваных колаў у адносінах да асоб залежных ці ніжэй стаячых на сацыяльнай лесвіцы; у памяншальнай форме ўжывалі сваё імя таксама пісцы ў тэкстах запісаў і подпісах і прасіцелі, якія ў пісьмовай форме звярталіся да асобы, што займала ў грамадстве больш высокае становішча.

Названыя выпадкі выкарыстання эмацыяльна-ацэначных форм, па сутнасці, з'яўляюцца матываванымі — спецыяльна выбраны з мэтай падкрэсліць характэрную рысу ці грамадскае становішча асобы.

Улічваючы сучасную практыку выкарыстання імён пры вусных зносінах у неафіцыйных умовах, калі звычайна ўжываюцца не афіцыйныя поўныя формы імені, а размоўна-бытавыя, якія найчасцей бываюць эмацыянальна-ацэначнымі, можна думаць, што ў XVI—XVIII стст. размоўна-бытавыя формы імён у вусных зносінах выкарыстоўваліся не радзей, чым зараз. Пры перапісах насельніцтва, складанні інвентароў, напісанні розных юрыдычных дакументаў са сферы вуснага ўжывання імёны (у адпаведнасці з указаннем носьбіта ці якой-небудзь іншай асобы) пераходзілі ў пісьмовую мову.

## Імёны, утвораныя шляхам усячэння невытворнай асновы

Пры ўтварэнні імён шляхам усячэння асновы звычайна апускаецца апошні склад, у выніку чаго двухскладовыя імёны пераўтвараюцца ў аднаскладовыя, а трохскладовыя — у двухскладовыя, хаця нярэдка і апошнія пераўтвараюцца ў аднаскладовыя, г. зн. усякаюцца ў іх два апошнія склады. У помніках XVI—XVIII стст. адзначана 4 усечаныя формы ад 4 імён: *Мац*<Мацей 1528 Пін.; *Свирид*<Свиридон (8) 1577, 1635, 1685, 1698, 1746 Маг., 1790 Віц. в.; *Стань*<Станислав 1528 Ваўк., Слон.; *Яц*< польск. Jacek 1567 Пін. п.

Па СБП рэканструююцца (у дужках пасля імені падаецца прозвішча, па якім зроблена рэканструкцыя): *Атрох* (Атрохаў, Атраховіч)<Атрохим<Трофим; *Аўгусць* (Аўгусць)<Августин; *Аўдак* (Аўдакоўскі)<Авдоким< Евдоким; *Бань* (Бань) < Банедикт < Бенедикт; *Вах* (Вах)<Вахтисий; *Владыс* (Владысенка)<Владислав; *Дзём* (Дзём)<Демьян; *Еўдак* (Еўдачэнка)<Евдоким; *Епіх* (Епіхаў)<Епифаний; *Зен* (Зенаў)<Зенон; *Клім* (Клім)<Климентий; *Ладзіс* (Ладзіс)<Владислав; *Мац* (Мац)<Мацвей; *Міх* (Міховіч)<Михаил; *Нікод* (Нікодаў)<Никодим; *Пас* (Пасевич)<Пасикрат; *Пац* (Пац)< Ипатий; *Радзь* (Радзь, Радзевіч)<Родион; *Сак* (Сак, Сакевіч)<Сакердон; *Сел* (Селіч)<Селивон; *Свірыд* (Свірыд)<Свиридон<Спиридон; *Спірыд* (Спірыдовіч)< Спиридон; *Стань* (Станевіч)<Станіслаў; *Сыс* (Сыс)< Сисой; *Ціх* (Ціховіч)<Тихон; *Яц* (Яцэвіч)<польск. Jacek.

У размоўна-бытавой сферы імёны, утвораныя шляхам усячэння асновы, сустракаюцца рэдка, а носьбітамі іх пераважна з'яўляюцца асобы сярэдняга ці старэйшага ўзросту. Зарэгістраваны 1) імёны з усечанай канцавой часткай: *Андрон* (Андронік) Віц. в. Пол., Гом. в. Петр.; *Апалін* (Апалінар) Бр. в. Лях.; *Болесь* (Баляслаў) Віц. в. Шарк., Мін. в. Вал., *Болісь* (Баляслаў) Віц. в. Докш., Гр. в. Лід.; *Вален* (Валянцін) Віц. в. Міёр.; *Вась* (Васіль) Бр. в. Жаб., Віц. в. Уш.; *Віт* (Віталій) Маг. в. Чав.; *Вітоль* (Вітольд) Бр. в. Кобр., *Віталь* (Вітольд) Бр. в. Бар., Пруж.; *Гарась* (Гарасім) Бр. в. Ів., *Гень* (Генадзь) Бр. в. Драг.; *Гіполь* (Гіпаліт<Іпаліт) Мін. в. Мядз.; *Ёсь* (Ёсіф) Бр. в. Ів.; *Здзісь* (Здзіслаў) Бр. в.

Бар.; *Імполь* (Іпаліт) Гр. в. Гродз., *Лёнь* (Лянід<Леанід) Бр. в. Драг., Івац.; *Лявонь* (Леванід<Леанід) Бр. в. Пруж.; *Макс* (Максім) Бр. в. Брэст, Кам., Лях., Пін., Стол., Гом. в. Жытк., Мінск; *Мар* (Мар'ян) Маг. в. Мсц.; *Мель* (Мяльян<Амяллян) Бр. в. Ів.; *Меч* (Мечыслаў) Мін. в. Стаўбц.; *Міх* (Міхаіл) Віц. в. Глыб.; *Міць* (Мітрый<Дзмітрый) Бр. в. Лун.; *Нік* (Нікалай) Бр. в. Кам.; *Олек* (Аляксандр) Гр. в. Зэльв., Навагр., Мін. в. Пух., Стаўбц.; *Свець* (Святаслаў) Бр. в. Пін.; *Свірыд* (Свірыдон) Гом. в. Гом., Лоеў.; *Флёр* (Флёрыян) Бр. в. Лях., *Францiш* (Францішак) Гр. в. Ашм.; *Цім* (Цімафей) Бр. в. Брэст, Жаб., Віц. в. Орша; *Чэсь* (Часлаў) Віц. в. Брасл., Гарад., Докш., Паст., Шарк., Гр. в. Гродз., Навагр., Шчуч., Мін. в. Мядз., Стаўбц.; *Эд* (Эдуард) Бр. в. Пінск; *Сальвесь* (Селівестр) Гр. в. Зэльв., *Селівесь* (Селівестр) Бр. в. Кам.; 2) імёны з усечанай пачатковай часткай: *Гей* (Сяргей) Мін. в. Круп.; *Лерый* (Валерый) Бр. в. Пін.; *Сак* (Ісак) Бр. в. Кобр., Мін. в. Сл.; *Толь* (Анатоль) Бр. в. Ів., Мінск; *Ян* (Мар'ян) Маг. в. Мсц.; 3) імя з усечанай пачатковай і канцавой часткай: *Чэсь* (Вячаслаў) Бр. в. Лях., Гр. в. Астр., Ашм., Мінск; 4) імёны з усечанай сярэдняй часткай: *Сей* (Сяргей) Бр. в. Пін.; *Сёга* (Сярога) Гродна.

## Імёны ад невытворных асноў і іх частак з флексіяй *-а//-я, -ё//-о*

Пры дапамозе флексіі-суфікса *-а* ўтвораны імёны ад усечаных асноў і ад асноў імён, якія страцілі канцавыя *-ий, -ей, -ия*. У пісьмовых крыніцах XVI—XVIII стст. зафіксаваны *Ананя*<Анания 1583 Маг.; *Дема* (3)<Демьян 1578, 1746 Маг.; *Костя* (15)<Костантин 1528 Віц. з-ля, Кл., Мін. дв., 1577, 1584, 1596, 1609, 1746 Маг., *Коста*<Костантин 1528 Навагр. з-к; *Купра*<Куприан 1578 Маг.; *Савоста*<Савостьян 1578, 1720 Маг.

Па СБП рэканструяваны (у дужках пасля імені падаецца прозвішча, на аснове якога зроблена рэканструкцыя): *Афоня* (Афонін)<Афоний, Афанасий; *Багдзя* (Багдзя)<Богдан; *Валодзя* (Валодзін); *Ваня* (Ванін); *Вася* (Васін); *Віця* (Віцін); *Даля* (Даля)<Далмат; *Косця* (Косцін); *Кузя* (Кузя)<Кузьма; *Купра* (Купрэвіч)<Купрей, Куприан<Киприан; *Лёня* (Лянёвіч)<Леанід; *Мойса* (Майса)<Мойсей; *Мітроха* (Мітраховіч)<Митрофан; *Пава* (Павіч)<Павел; *Панця* (Пан-

цевіч) <Пантелеймон; *Родзя* (Родзін) <Родион; *Рома* (Рома) <Роман; *Савоста* (Савостаў) <Савастьян <Севастиан; *Свіра* (Свірын) <Свиридон <Спиридон; *Сёма* (Сёмін) <Семён; *Сіса* (Сісін), *Сыса* (Сыса) <Сисой, Сысой; *Соза* (Соза) <Созонт; *Сцёпа* (Сцёпін); *Трыша* (Трышын) <Трифон; *Цярэня* (Цярэня) <Терентий; *Юра* (Юрэвіч); *Юха* (Юхін) <Юхим <Евфимий; *Ямеля* (Ямелін) <Емельян.

Размоўна-бытавыя варыянты імён з суфіксам-флексіяй *-а* ўтвораны ад поўных невытворных імён і ад усечаных пачатковай, канцавой ці цэнтральнай часткі імён:

1. Ад невытворных поўных імён з фіналіяй «галосны+зычны»: *Іваня* Бр. в. Ів., *Йваня* Бр. в. Ів., Кобр., *Ваня* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 170 фіксацый у 150 нас. пунктах; *Лёва* <Леў Бр. в. Драг., Кам., Малар., Пін., Віц. в. Віцебск, Гр. в. Ваўкавыск, Гродна, Навагр., Мін. в. Мінск, Кап., Сл.; *Марка* <Марк Бр. в. Бяроз., Ів., Кам., Малар., Пін., Стол., Віц. в. Докш., Маг. в. Горац.; *Паўла* Віц. Беш., В.-дзв., Глыб., Леп., Пол., Уш., Шум., Мін. в. Круп.

2. Ад невытворных імён з фіналіяй «галосны+зычны», якія ўтварыліся ад кананічных форм з фіналіяй *-ий* ці непасрэдна ад імён на *-ій* пасля ўсячэння яго: *Апанася* Маг. в. Глуск.; *Аркадзя* Бр. в. Брэст, Віц. в. Беш., Леп., Міёр., Уш., Гом. в. Рэч., Маг. в. Шкл., Мін. в. Віл., Мін., Пух., Сл.; *Арсеня* Бр. в. Кам.; *Валера* Бр. в. Бар., Баранавічы, Драг., Жаб., Ів., Івац., Лях., Пін., Стол., Віц. в. Беш., Глыб., Леп., Шарк., Гр. в. Гродз., Гродна, Дзятл., Зэльв., Кар., Лід., Маст., Навагр., Слонім, Шч., Маг. в. Гор., Мсц., Хоц., Мін. в. Барысаў, Віл., Дзярж., Люб., Мал., Мін., Мінск, Нясв., Сл., Слуцк, Стаўбц., Чэрв.; *Віталя* Бр. в. Івац., Кам., Віц. в. Глыб., Шарк., Мін. в. Мінск; *Генадзя* Віц. в. Шарк.; *Дзімітра* Віц. в. Докш., Леп., *Змітра* (Змітрый) Віц. в. Беш., Тал., Мін. в. Бярэз., Кап., Мін.; *Мілеця* (Мілецій) Віц. в. Глыб.; *Мітра* (Мітрый) Віц. в. Міёр.; *Міфодзя* Віц. в. Глыб., *Міхода* Маг. в. Крыч.; *Фядоса* (Феадосій) Гом. в. Лельч.; *Юра* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 41 фіксацыя ў 39 нас. пунктах.

Ад поўных невытворных імён: *Ніколя* (Нікола) Мінск; *Тахвіля* (Тэафіл) Гр. в. Зэльв.

Ад поўных невытворных імён, якія заканчваюцца збегам зычных: *Аляксандра* Бр. в. Драг., Віц. в. Глыб.,

Гр. в. Смарг., *Ляксандра* Бр. в. Драг., Івац., Віц. в. Арш., Беш., Сен., Тал., Шум., Маг. в. Чав., Мін. в. Віл.; *Марка* Бр. в. Бяроз., Ів., Кам., Малар., Пін., Стол., Віц. в. Докш., Маг. в. Горац.; *Петра* Віц. в. Беш., Міёр., Пол., *Пётра* Бр. в. Лун., Віц. в. Беш., Глыб., Докш., Міёр., Сен., Тал., Чашн., Шарк., Гр. в. Іўеў., Мін. в. Віл., Мал., Мядз., Стаўбц.

3. Ад усечаных асноў: Аляксей: *Алекса* Віц. в. Чашн., *Лёкса* (Ляксей) Віц. в. Гарад., Докш., Паст., Мін. в. Мал., *Лёка* (Ляксей) Віц. в. Паст.; Аляксандр: *Алекса* Маг. в. Маг., *Лёкса* (Ляксандр) Мін. в. Віл.; *Афоня* Брэст; *Бора* (Барыс) Бр. в. Драг., Ів., Івац., Кам., Лун., Малар., Пін., Віц. в. Віцебск, Гарад., Пол., Гом. в. Гом., Хойн., Гр. в. Гродна, Навагр., Маг. в. Клічаў, Мсціслаў, Мін. в. Барысаў, Віл., Люб., Мал., Мін., Мінск, Нясв., Сл., Стаўбц.; *Броня* Бр. в. Лях., Гр. в. Астр.; *Вадзя* Бр. в. Бр., Кам., Лун., Віц. в. Віцебск, Мін. в. Мінск, Мядз.; *Валя* (Валерый) Бр. в. Пруж., Мінск; *Валя* (Валянцін) Бр. в. Бар., Бр., Драг., Кам., Лях., Пруж., Віц. в. Міёр., Маг. в. Клічаў, Мсціслаў, Мін. в. Барысаў, Віл., Мін., Мінск; Васіль: *Вася*—ва ўсіх абласцях рэспублікі 112 фіксацый у 103 нас. пунктах, *Васа* Бр. в. Івац.; *Ваця* (Вацлаў) Віц. в. Докш., Паст., Гр. в. Астр., Мін. в. Мядз.; *Веня* (Веніямін) Бр. в. Драг., Кобр., Віц. в. Віцебск, Гр. в. Навагр.; Віталій: *Віта* Бр. в. Ів., *Віця* Бр. в. Драг., Кам., Лун., Пруж., Віц. в. Глыб., Гр. в. Гродна, Мін. в. Нясв.; *Віця* (Віктар) — ва ўсіх абласцях рэспублікі 115 фіксацый у 92 нас. пунктах; (Віталь) Бр. в. Драг., Кам., Лун., Пруж., Віц. в. Глыб., Гр. в. Гродна, Мін. в. Нясв.; (Вітольд) Гр. в. Гродз.; Гардзей: *Гордзя* Бр. в. Кобр., Пруж.; Генадзій: *Гена* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 77 фіксацый у 69 нас. пунктах, *Геня* Бр. в. Бар., Івац., Кобр., Лях., Драг., Віц. в. Пол., Сен., Шарк., Гр. в. Ашм., Бераст., Гродз., Гродна, Навагр., Смарг., Шч., Мін. в. Кап., Сл., Слуцк; *Гена* (Генрых) Гр. в. Гродз.; Геронім: *Гера* Мінск; *Гора* (Гаронім) Бр. в. Ів.; Даніла: *Даня* Бр. в. Ганц., Ів., Лун., Мін. в. Барысаў, Мінск, Мін., Сл.; *Доня* Маг. в. Мсціслаў, Мін. в. Бярэз., Мін.; Дарафей: *Дора* Бр. в. Драг., Віц. в.; Дзмітрый: *Дзіма* (Дзімітрый) — ва ўсіх абласцях рэспублікі 62 фіксацыі ў 52 нас. пунктах, *Міця* (Мітрый) — ва ўсіх абласцях рэспублікі 52 фіксацыі ў 49 нас. пунктах; Дзям'ян: *Дзёма* Бр. в. Драг., Ів., Маг. в. Мсціслаў, Мін. в. Віл.,

Мінск; Дзяніс: *Дзіна* Мін. в. Мін., *Дзіня* Гродна, Маг. в. Касц.; Емяльян: *Ямеля* Бр. в. Брэст, Пін., *Гамеля* (Гамельян) Бр. в. Ів.; *Жора* (запазыч. Жорж) — ва ўсіх абласцях рэспублікі 25 фіксацый у 25 нас. пунктах; Зігмунд: *Зыгма* (Зыгмунд) Гр. в. Ашм., *Зыма* (Зыгмунд) Бр. в. Бар.; *Казя* (Казімір) Бр. в. Лях., Стол., Віц. в. Паст., Гр. в. Навагр., Шч., Мін. в. Мінск, Стаўбц.; *Каліна* Бр. в. Малар.; *Калістра* Віц. в. Чашн.; Канстанцін: *Косця* (Канстанцін) — ва ўсіх абласцях рэспублікі 62 фіксацыі ў 56 нас. пунктах, *Коста* Віц. в. Докш.; *Кіра* (Кірыла) Гр. в. Навагр.; *Кузя* (Кузьма) Бр. в. Жаб., Ів., Лун., Малар., Стол.; *Купра* (Купрыян) Бр. в. Лун.; Леанід: *Лёня* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 79 фіксацый у 72 нас. пунктах; Лявон: *Лёва* Бр. в. Драг., Гр. в. Маст.; Майсей: *Мойса* Бр. в. Лун., *Мося* Бр. в. Ів.; *Макса* (Максім) Маг. в. Бабр.; Мацей: *Моця* Віц. в. Гарад., Мінск, *Меця* Гр. в. Лід.; Мікалай: *Міка* Гом. в. Б.-Каш., *Ніка* (Нікалай) Бр. в. Ів., Гродна; *Міня* (Мінай) Віц. в. Уш.; *Міха* (Міхаіл) Бр. в. Бар., Брэсц., Івац., Віц. в. Пол., Сен., Мінск; Нікадзім: *Мікода* (Мікодым) Гр. в. Іўеў., Мін. в. Мядз.; *Пеця* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 143 фіксацыі ў 108 нас. пунктах; Піліп: *Піля* Бр. в. Ів., *Філя* (Філіп) Бр. в. Бяроз., Ів., Гродна; *Родзя* (Радзівон) Бр. в. Драг., Віц. в. Шарк., Гродна; *Рома* (Раман) Бр. в. Брэст, Драг., Ів., Кам., Лях., Пін., Стол., Віц. в. Паст., Пол., Гр. в. Ашм., Бераст., Гродз., Гродна, Кар., Навагр., Маг. в. Бабруйск, Касц., Мсц., Хоц., Мін в. Барысаў, Бярэз., Віл., Люб., Мінск, Мін., Пух.; Расціслаў: *Росця* Бр. в. Бар., Жаб., Івац., Лях., Віц. в. Міёр., Мін. в. Мядз., Сл., *Роста* Бр. в. Малар.; *Света* (Святаслаў) Гр. в. Навагр.; Сцяпан: *Сцёпа* Бр. в. Бар., Брэст, Бяроз., Драг., Ів., Івац., Лун., Віц. в. Глыб., Докш., Паст., Пол., Шарк., Гом. в. Жытк., Лельч., Рэч., Хойн., Маг. в. Горкі, Маг., Мін. в. Люб., Мінск, Слуцк, Стаўбц.; *Сёма* (Сямён) Бр. в. Брэст, Драг., Ів., Івац., Кам., Кобр., Малар., Стол., Віц. в. Віц., Гр. в. Гродз., Кар., Навагр., Маг. в. Бабруйск, Мін. в. Кл., Мінск; Сяргей: *Серга* Бр. в. Жаб., *Сярога* Бр. в. Бар., Брэст, Бяроз., Драг., Жаб., Ів., Кам., Малар., Віц. в. Брасл., Глыб., Сен., Гр. в. Гродна, Масты, Маг. в. Хоцімск, Мін. в. Нясвіж, Слуцк, Сл., Стаўбц.; *Тадзя* (Тадэвуш) Бр. в. Бар., Віц. в. Паст., Гр. в. Астр.; *Сярожа* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 90 фіксацый у 75 нас. пунктах, *Сэра* Бр. в. Івац., Маг. в. Касцюковічы;

Уладзімір: *Валодзя* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 208 фіксацый у 170 нас. пунктах, *Уладзя* Бр. в. Ганц., Драг., Стол., Гр. в. Маст., Мін. в. Віл., Мін., Стаўбц.; *Ладзя* (Ладзімір) Бр. в. Бяроз., Мін. в. Пух.; Уладзіслаў: *Уладзя* Бр. в. Лях., Мін. в. Люб.; Фелікс: *Фэля* Віц. в. Глыб.; Фёдар: *Федзя* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 69 фіксацый у 64 нас. пунктах, *Хведзя* (Хвёдар) Бр. в. Ганц., Ів., Івац., Лун., Пін., Віц. в. Беш., Віцебск, Леп., Тал., Гом. в. Хойн., Мін. в. Пух.; Франц: *Проня* (Пронцісь) Бр. в. Пін.; Фядот: *Федзя* Бр. в. Драг.; Цімафей: *Ціма* Бр. в. Брэст, Жаб., Малар., Віцебск, Пол., Уш, Гр. в. Кар., Мін. в. Люб., Мінск, *Цёма* Бр. в. Драг., Мін. в. Слуцк; *Ціма* (Цімур) Бр. в. Малар.; Эдмунд: *Эдма* Гродна; Эдуард: *Эдзя* Бр. в. Івац., Кобр., Стол., Віц. в. Шум., Гом. в. Жытк., Гр. в. Астр., Мін. в. Барысаў, Ракаў, Мінск; *Юзя* (Юзаф) Бр. в. Бяроз., Лях., Віц. в. Докш., Гр. в. Астр., Лід., Шч., Мін. в. Мінск, Стаўбц.; *Юра* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 41 фіксацыя ў 39 нас. пунктах.

4. Ад асновы, усечанай у пачатковай частцы імені: *Гена* (Яўген) Бр. в. Бар., Брэст, Віц. в. Міёр., Гр. в. Кар., *Геня* (Яўген) Бр. в. Бар., Гр. в. Гродз.; *Дзіма* (Вадзім) Бр. в. Бар., *Жэня* (Яўген) Бр. в. Бар., Брэст, Драг., Івац., Лун., Віц. в. Брасл., Глыб., Лёзн., Міёр., Паст., Гом. в. Б.-Каш., Гом., Добр., Рэч., Гр. в. Гродна, Кар., Маст., Навагр., Маг. в. Бабруйск, Магілёў, Мін. в. Кл., Круп., Лаг., Люб., Мінск, Сл., Стаўбц.; *Коля* (*Мікола*) — ва ўсіх абласцях рэспублікі 268 фіксацый у 215 нас. пунктах; *Лера* (Валерый) Гр. в. Гродна; *Саня* (Аляксандр) — ва ўсіх абласцях рэспублікі 94 фіксацыі ў 83 нас. пунктах; *Сеня* (Арсен) Бр. в. Бар., Ів., Гр. в. Маст.; *Слава* (Вячаслаў) Бр. в. Бар., Баранавічы, Бяроз., Драг., Жаб., Івац., Кам., Лун., Стол., Віц. в. Глыб., Леп., Чашн., Гом. в. Лельч., Гр. в. Ваўкавыск, Гродна, Іўеў., Кар., Навагр., Маг. в. Гор., Хоц., Мін. в. Барысаў, Кап., Люб., Мін., Мінск, Нясв., Сл., Слуцк, Стаўбц., (Расціслаў) Бр. в. Стол., (Святаслаў) Бр. в. Кобр., Маг. в. Касц., (Станіслаў) Бр. в. Баранавічы, Брэст, Кобр., Віцебск, Маг. в. Гор., Мін. в. Кап., Мінск, (Уладзіслаў) Гродна, (Яраслаў) Гом. в. Жытк., Мінск; *Толя* (Анатоль) — ва ўсіх абласцях рэспублікі 78 фіксацый у 67 нас. пунктах; *Тоня* (Антон) Бр. в. Лях., Гр. в. Дзятл., Мін. в. Валож., Віл., Мін., Мінск.

5. Ад асноў, усечаных у пачатку і ў канцы імені: *Фоня* (Афанасій) Бр. в. Кобр.; *Цёпа* (Сцяпан) Бр. в. Брэсц.; *Чэся* (Вячаслаў) Гом. в. Лельч.

6. Ад гукаў першага і апошняга складоў імені: *Бодзя* (Багдан) Бр. в. Брэсц., Жаб., Кам., Малар., Пруж.; *Віля* (Віталь) Віцебск; *Дызя* (польск. Dyonizy) Гр. в. Лід.

7. Ад аднаго са складоў імені шляхам паўтарэння зычнага гуку: *Вова* (Валодзя) — ва ўсіх абласцях рэспублікі 117 фіксацый у 105 нас. пунктах; *Зюзя* (Юзаф) Гр. в. Скідаль.

У Брэсцкай і радзей у Гродзенскай абласцях імёны, ад якіх магчымы варыянты з флексіяй *-а*//*-я* тыпу *Гена, Аркадзя, Ваня,* пры непасрэдным звароце да носьбіта імені выкарыстоўваюцца з флексіяй *-о.* Пры цвёрдых асновах: *Гено* (Генадзій) Брэст; *Геро* (Герман) Бр. в. Стол; *Дмітро* Бр. в. Драг., Кам.; *Змітро* (Дзмітрый) Бр. в. Лун., Стол.; *Ізо* (Іозаф, Юзаф) Бр. в. Пруж.; *Яно* (Ян) Бр. в. Пін. Пасля мяккіх асноў: *Аркадзё* Бр. в. Івац., Стол., Гр. в. Зэльв.; *Валё* (Валянцін) Бр. в. Ів., Стол.; *Валодзё* Бр. в. Лун., Стол.; *Васё* Бр. в. Стол., *Васілё* Бр. в. Пін.; *Вацё* Бр. в. Стол.; *Віталё* Бр. в. Пін., Стол.; *Віцё* (Віктар) Бр. в. Бар., Лун., Пін., Стол., Бр. в. Бераст.; *Генё* (Генадзь) Бр. в. Кам., Лун., Стол., Гр. в. Бераст., Навагр.; *Данё* (Даніла) Бр. в. Ів., Лун., Люб.; *Езё* (Езаф, Юзаф) Гр. в. Гродз., *Ёзё* (Ёзаф, Юзаф) Бр. в. Пруж.; *Жэнё* (Яўген) Бр. в. Ів., Івац., Пін., Стол.; *Зэнё* (Зянон) Бр. в. Бар.; *Кадзё* (Аркадзь) Бр. в. Ів.; *Казё* (Казімір) Бр. в. Івац., Кам., Малар., Стол., Гр. в. Гродз., Навагр., Свісл.; *Колё* Бр. в. Лун.; *Косцё* Бр. в. Лун.; *Ладзё* (Уладзімір) Бр. в. Ів., Стол.; *Ленё* Бр. в. Лун., Пін., Стол.; *Максё* (Максім) Бр. в. Пін.; *Мелё* (Емяльян) Бр. в. Лун.; *Міцё* (Мітрый, Дзмітрый) Бр. в. Пін., Стол.; *Мосё* (Масей, Майсей) Бр. в. Стол.; *Паўлё* Бр. в. Ів.; *Пілё* (Піліп) Бр. в. Стол.; *Тадзё* (Тадэвуш) Бр. в. Бар., Гр. в. Свісл.; *Уладзё* Бр. в. Малар., Гр. в. Гродз., Кар., (Уладзіслаў) Гр. в. Гродз.; *Франё* (Франц) Бр. в. Бар.; *Фэлё* (Фелікс) Гр. в. Гродз.; *Хведзё* (Хведар, Фёдар) Бр. в. Лун.; *Чэсё* (Часлаў) Бр. в. Бар.; *Эдзё* Бр. в. Пін., Стол., Гр. в. Гродз., Свісл.; *Юзё* (Юзаф) Бр. в. Бяроз., Кам., Малар., Пін.; *Юлё* (Юльян) Бр. в. Малар., Стол.; *Янё* Бр. в. Пін.

Пры дапамозе флексіі-суфікса *-о* ўтвораны варыян-

ты: *Пайло* Бр. в. Драг., Жаб., Ів., Лун., Малар., Стол., Гом. в. Жытк.; *Пятро* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 84 фіксацыі ў 80 нас. пунктах; *Сярго* Бр. в. Івац., Лях.

## Імёны з суфіксальным зычным -*к*-. Суфікс -*ко*//-*ка*

Суфікс -*ко*//-*ка* ва ўсходнеславянскіх мовах утварае назоўнікі мужчынскага і ніякага роду з памяншальна-ласкальным значэннем, малапрадуктыўны [7]. У антрапаніміі ён выступае ў эмацыянальна-ацэначных формах імён і прозвішчах, утвораных ад іх. Як сведчаць помнікі пісьменнасці, у XVI—XVIII стст. суфікс -*ко*//-*ка* ў антрапаніміі быў самым прадуктыўным. Эмацыянальна-ацэначныя формы з гэтым суфіксам зафіксаваны ад многіх ужывальных у той час імён праваслаўнага і каталіцкага календара. Выключэннем былі імёны рэдкія (*Алфий, Аполлон, Галлактион, Гермоген, Дада, Калист, Лисимах* і інш.) і імёны, поўная ці ўсечаная аснова якіх заканчваецца на -*ка* ці -*к* (*Аверка, Аніка, Верк, Кирик* і інш.). Эмацыянальна-ацэначныя формы на -*ко*//-*ка* ўтвараліся ад поўных ці ўсечаных традыцыйна-царкоўных і размоўна-бытавых форм імені. Аб прадуктыўнасці суфікса -*ко*//-*ка* ў антрапаніміі XVI—XVIII стст. сведчыць тое, што ў помніках названага перыяду з гэтым суфіксам засведчаны 72 формы ад 50 імён. На аснове сучасных беларускіх прозвішчаў (СБП) рэканструявана 157 форм на -*ко*//-*ка*, з якіх 12 у абследаваных помніках не адзначаны. Разам зафіксавана ў помніках і рэканструявана па СБП 195 форм на -*ко*//-*ка* ад 143 уласных асабовых мужчынскіх імён.

У пісьмовых крыніцах XVI—XVIII стст. зафіксаваны (у дужках падаецца лік фіксацый): *Андрейко, Андрейка* (5) 1567 Гр. п., Слон. п.; *Богданко* 1614 Арш. п.; *Васко* (135), *Васько* (26) 1528 Астр., Ваўк., Гр., Кл., Кобр., Навагр. з-к, Пін., Пол. з-ля, 1567 Бр., Брасл. п., Гр. п., Мін. п., Навагр. п., Пін. п., 1582 Мін. п., 1578, 1580, 1593 Маг., 1614 Арш. п., 1683 Маг., 1724 Чач. ст., 1730 Пол., 1746 Маг.; Бенедикт: *Бенко, Бенько* (4) 1528

[7] Грамматика русского языка, т. 1: Фонетика и морфология.— М., 1960, с. 265—266; Граматыка беларускай мовы, т. 1: Марфалогія.— Мн., 1962, с. 97.

Лід. дв., 1567 Рад. хар., 1609 Маг.; Вит: *Витко* (2) 1528 Рад., 1567 Астр. хар.; *Володко* (2) 1528 Ваўк.; Войтех: *Войтко* (5) 1528 Вас., Лід., Слон., 1580 Маг.; *Гаврилка* 1528 Бр.; *Гараска* 1746 Маг.; *Григорко* (2) 1578 Маг.; Гурий: *Гурко* 1528 Віц. з-ля; Демьян: *Демко* 1580 Маг.; Даниил: *Данько* 1600 Маг.; Дасий: *Дасько* 1764 Маг.; Евстафий>Остапей, Остап: *Остапко* (8) 1528 Мсц., 1567 Ашм. п., Ваўк. п., Гр. п., Слон. п.; Евтихий>Овтух, Автух: *Овтушко, Автушко* (12) 1577, 1578, 1635, 1683, 1689, 1690, 1691, 1746 Маг., *Олтушко* (4) 1577, 1578 Маг.; Евфимий>Юхим: *Юшко* (7) 1528 Ваўк., Рад., 1567 Мін. п., Слон. п.; Елисей>Олисей: *Олиско* 1567 Мін. п.; Емельян>Омельян: *Омелко* 1567 Пін. п.; Енох: *Енько* 1597 Маг.; Захария: *Захарка* 1577 Маг.; ад Еремей, Ерома ці Ероним, Ерофей: *Ерко* (3) 1578, 1596 Маг.; Илья: *Илько* 1528 Ваўк.; Илларион>Ларион: *Ларко, Ларка* (23) 1578, 1617, 1637, 1647, 1679, 1685, 1698, 1746, 1758 Маг.; *Иванко* (8) 1567 Бр. п., Гр. п., Рэч. п., Слон. п.; Иосиф>Ёсиф, Есип: *Еско* (24), *Есько* (1) 1528 Ваўк., Гр., Кобр., Лід., Мсц., Пол. з-ля, 1567 Бр. п., Гр. п., Навагр. п., 1577, 1578 Маг., 1582 Мін. п.; Иустин>Юстын: *Юско* (2) 1567 Ваўк. п.; Климентий: *Климко* (3) 1567 Бр. п., Навагр. п.; ад Лев ці Леонт>Левон: *Левко* (7) 1528 Кл., Кобр., Навагр. з-к, 1567 Бр. п., 1578 Маг.; *Мефедко* 1528 Ваўк.; *Михалко, Михалка* (30) 1528 Навагр. з-к, Пол. з-ля, 1567 Ашм. п., Бр. п., Брасл. п., Гр. п., Лід. п., 1578, 1590, 1621, 1632 Маг., 1730 Пол. в., 1746 Маг.; ад Онисий ці Онисим: *Ониско* (5) 1528 Бр., Мсц., 1567 Гр. п., Пін. п., Слон. п.; *Петко* (1), *Петько* (6) 1528 Гр., Рад., Слон.; Родион: *Родко, Радко* (2) 1528 Віц. з ля, Рад.; *Савка* (10) 1630, 1684, 1685, 1690, 1698, 1746 Маг.; Севастиан>Собестьян: *Собко* 1567 Ваўк. п.; *Семенко* 1567 Навагр. п., *Сёмка* (21) 1746 Маг.; Станислав: *Станко* (4), *Станько* (14) 1528 Ашм. дв., Віц. з-ля, Гр., Навагр. п., Слон., 1567 Гр. п., Мін. п.; Тимофей: *Тимка, Цимка* (7) 1746, 1766 Маг.; Тихон>Тиша: *Чышка* 1582 Мін. п.; Томаш з польск. Tomasz: *Томашко* 1567 Ваўк. п., *Томко* (29) 1528 Астр., Ашм., Вас., Ваўк., Гр., Лід., Рад., Слон., 1567 Бр. п., Вас. хар., Гр. п., Мін. п., Слон. п., 1582 Мін. п.; Трифон>Трухон: *Трушко* 1651 Маг.; Трофим>Отрохим, Атрахим: *Отрошко, Атрошка* (19) 1580, 1581, 1593, 1620, 1623, 1636, 1681, 1689, 1691, 1698, 1746 Маг.; *Федко* (41), *Федько* (9) 1528 Ашм. дв., Бр., Віц.

з-ля, Гр., Мін. дв., Мсц., Навагр. з-к, Пін., Пол. з-ля, Слон., 1567 Ашм. п., Бр. п., Ваўк. п., Гр. п., Пін. п., 1580 Маг., 1582 Мін. п., 1597, 1611 Маг., *Фецко* 1584 Маг.; *Ходко* (3), *Ходько* (2) 1528 Гр., 1588, 1634, 1636, 1652 Пол., *Хотка* 1683 Маг.; Фома>Хома: *Хомка* (7) 1746 Маг.; *Шимон* з польск. Szymon: *Шимко* (45) 1528 Астр., Ашм. дв., Бр., Вас., Ваўк., Гр., Кобр., Рад., 1567 Ашм. п., Гр. п., Рад. хар., 1582 Мін. п.; *Юрко, Юрка* (36) 1567 Бр. п., Гр. п., Навагр. п., 1582 Мін. п., 1614 Арш. п., 1623 Віц. п., 1636, 1638 Маг., 1642 Пол. в., 1646 Арш. п., 1670 Віц. в., 1730 Пол. в., 1746 Маг., 1764 Ула; Яцек: *Яцко* (22) 1528 Ваўк., Віц. з-ля, Гр., Кл., Кобр., Навагр. п., Пол. з-ля, Слон., 1567 Бр. п., Гр. п., Навагр. п., Слон. п.

Па СБП рэканструяваны імёны (у дужках пасля імені падаюцца прозвішчы, па якіх зроблена рэканструкцыя): *Абрамка* (Абрамчанка); *Агейка* (Агейка); *Адамка* (Адамкевіч); *Азарка* (Азарка)<Азар, Азария ці Елеазар; *Акулка* (Акулка)<Акула<Акила; *Аліферка* (Аліферка)<Алифер<Елевферий; *Аляксанка* (Аляксанкін); *Амелька* (Амелькін); *Ананька* (Ананька); *Анапрэйка* (Анапрэйка); *Андрэйка* (Андрэйкаў); *Аніска, Аніська* (Аніскoвіч, Аніська); *Анціпка* (Анціпкін); *Астапка* (Астапковіч); *Атрошка* (Атрошчанка)<Атрофим<Трофим; *Аўласка* (Аўласка)<Авлас<Власий; *Аўсейка* (Аўсейка)<Аўсей<Евсевий; *Аўтушка* (Аўтушка)<Аўтух<Евтихий; *Афонька* (Афонькін), *Аханько* (Аханькоў)<Афоний; *Ахрэмка* (Ахрэмкін)<Ахрем<Ефрем; *Банько* (Банько), *Бенька, Бянько* (Бенька, Бянько, Бянькоў)<Банадыкт, Бенедыкт<польск. Benedykt; *Валадко, Валодка, Валадзько, Валодзька* (Валадкевіч, Валадковіч, Валодчанка, Валадзько, Валодзька); *Ванко, Ванько* (Ванковіч, Ванько); *Вараўка* (Вараўка)<Варава<Варнава; *Васілька, Васька, Васько* (Васільчанка, Васькін, Васько); *Вілько* (Вільковіч)<Вил; *Вінко, Вінько* (Вінчонак, Вінькевіч) ад польск. Wincenty; *Вітка, Вітко* (Вітка, Вітко)<Вит ці Виталий; *Віцько* (Віцько)<Витя<Виктор ці Вит, Виталий; *Войтка, Вайтко* (Войтка, Вайтко)<Войтех; *Гайко* (Гайко)<Гаий; *Гапонька* (Гапонька)<Гапон<Агафон; *Гардзейка* (Гардзейка); *Гераська* (Гераськін); *Глебка, Глябко* (Глебка, Глябко)<Глеб; *Грыгорка* (Грыгаркевіч); *Гурка, Гурко* (Гурка, Гурко)<Гурий; *Давыдка, Давыдзька* (Давыдка, Давыдзька); *Данілка, Данілька* (Данілковіч, Данільчан

ка); *Дасько* (Дасько)<Дасий; *Дзёмка, Дзям'янка, Дзям'янька* (Дзёмкін, Дзям'янка, Дзем'яньчонак); *Дзямідка* (Дзямідка); *Дзяніска* (Дзеніскевіч); *Домка* (Домкін, Домчанка)<Домн ці Домиан, магчыма, ад польск. Domienik; *Епішка* (Епішка)<Епифаний; *Занко, Занька, Занько* (Занковіч, Занька, Занько), *Зенка, Зенька, Зянько* (Зянкевіч, Зенька, Зянько)<Зенон; *Захарка* (Захарка); *Зінко, Зінько* (Зінкевіч, Зінько)<Зина; *Зяноўка* (Зяноўка)<Зенов, Зиновий; *Іванка, Іванько* (Іванка, Іванько); *Ілько* (Ількевіч)<Илья; *Ісайка* (Ісайкін)<<Исаия; *Іўко* (Іўкоў)<Иов; *Калінка* (Калінкоў)<Калина<Каллинник; *Калько* (Калько)<Коля<Николай; *Каролька* (Каролька)<польск. Karol; *Каско, Касько* (Каскевіч, Касько)<Кассиан; *Кастко* (Кастко)<Костантин<Константин; *Кашперка* (Кашперка)<польск. Kasper; *Кірко* (Кіркевіч)<Кир ці Кирик, Кирилл; *Кірылка* (Кірылка); *Клімка, Клімко* (Клімка, Клімко); *Крыско, Крыська* (Крыскевіч, Крыська)<Крискент; *Кузько* (Кузько)<Кузьма; *Курылка* (Курылкін)<Курила<Кирилл; *Лазарка* (Лазаркоў); *Ленько, Лянко, Лянько* (Ленька, Лянкевіч, Лянько)<Леня<Леонид; *Леўка, Лёўка, Ляўко* (Леўкін, Лёўкін, Ляўко)<Лев; *Лотка* (Лотка, Лоткін)<Лот; *Лукашка* (Лукашка)<<польск. Łukasz; *Макарка* (Макарчанка); *Максімка* (Максімкін); *Малашка* (Малашкевіч)<Малахия; *Манко, Манько, Мануйка* (Манчанка, Манько, Мануйка)<<Мануил; *Маронка* (Маронка)<Марон; *Мацейка, Мацко, Мацько* (Мацейка, Мацейкін, Мацко, Мацько)<Мацей; *Машко* (Машко)<Мах<Епимах; *Мелька, Мільянка, Мялянка* (Мелька, Мельчанка, Мільянка, Мялянка)<Мельян<Емельян; *Мікулка* (Мікулка)<Микула<<Николай; *Мілько* (Мілько, Мількевіч)<Милий; *Мінко, Мінько* (Мінко, Мінько)<Мина; *Міронка, Мірко* (Міронкаў, Міркін); *Мітка, Мітко* (Міткевіч)<Митрий<Димитрий; *Міхалка* (Міхалка) <Михал ці з польск. *Michał*; *Міхейка* (Міхейкаў)<Михей; *Міцко, Міцько* (Міцкевіч, Міцько)<Митрий<Димитрий; *Мішка, Мішко* (Мішкін, Мішко); *Мяхедзька* (Мяхедзькін)<Мяхед<Мефодий; *Назарка* (Назарка); *Наумка* (Наумкін); *Нікалайка* (Нікалайчанка); *Нікітка* (Нікітка); *Палуянка* (Палуянка)<Полиен; *Панко, Панько, Панцялейка* (Панчанка, Панька, Панцялейка); *Пасько* (Пасько)<Паскрат; *Патапка* (Патапкаў); *Паўка* (Паўчанка)<Па-

вел; *Пацейка, Пацэйка, Пацка, Пацко* (Пацейка, Пацэйка, Пацкевіч) <Пацей<Ипатий; *Пецька* (Пецька); *Пілька* (Пілька) <Пилимон<Филимон; *Пранко, Пранько* (Пранкевіч, Пранько) <Прантишек<Франтишек; *Працко, Протка, Процка, Процька* (Працко, Працкевіч, Проткін, Протчанка, Процка, Процька) <Протасий; *Прошка* (Прошка) <Прохор; *Пулко* (Пулко) <Пулий; *Пупка, Пупко* (Пупка, Пупко) <Пуплий; *Пятко, Пяцько* (Пяткевіч, Пяцько) <Петр; *Радзька, Радзько, Радко, Родка, Родзька* (Радзька, Радзькоў, Радкевіч, Радковіч, Родзька) <Родион; *Раманка, Раманька* (Раманка, Раманькоў); *Рымка* (Рымка) <Римма; *Савінка* (Савінкін) <Савин; *Савоська* (Савоська) <Савостиан<Севастиан; *Савулька* (Савулькін) <Савул<Савел; *Садко* (Садковіч) <Садок; *Сайка, Сайко* (Сайка, Сайко) <Сай< Исаия; *Салошка* (Салошкін) <Солохон; *Самонка* (Саманкоў) <Самон; *Санька, Санько* (Санька, Санько) < Александр; *Саско* (Саско) <Сасоний; *Саўка, Саўко* (Саўкін, Саўко) <Сава; *Сафонка, Сахонька, Саханько* (Сафонкін, Сахонька, Саханько) <Софония; *Свірка, Свірко* (Свірка, Свірко) <Свирид<Спиридон; *Серафімка* (Серафімка); *Сеўка* (Сеўка) <Севастиан; *Сідорка* (Сідорчанка) <Сидор<Исидор; *Сіліванька* (Сіліванькоў) <Силиван<Силван; *Сілко, Сілько* (Сілко, Сілько) <Сила; *Сімка, Сімко* (Сімкоў, Сімчанка) <Сим; *Сісько* (Сіськевіч) <Сисой; *Станко* (Станкевіч) <Станислав; *Сцёпка* (Сцёпкін); *Сялько* (Сяльчонак) <Селивон<Силван, магчыма, і ад Селиний; *Сямёнка, Сямко* (Семянкоў, Сямко); *Тарашка* (Тарашкевіч) <Тарах; *Томка* (Томка) <польск. Tomasz; *Трошка* (Трошка) < Трохим<Трофим; *Трыфонька* (Трыфонька); *Фалько* (Фалько) <Фалалей; *Федка, Фёдарка* (Федчанка, Фёдаркевіч); *Фенка, Фенька, Фянько* (Фенчанка, Фенька, Фянько) <Фена<Феона; *Філіпка* (Філіпчанка); *Філонка* (Філончык) <Филюн<Филимон; *Філька, Філько* (Фількевіч, Фільчанка) <Филя<Филимон; *Флёрка* (Флёрка) < польск. Florian; *Фомка* (Фомчын); *Франко, Францко* (Франчанка, Францкевіч) <Франц; *Фролка* (Фралкоў) < Фрол<Флор; *Фядзько, Фядко* (Фядзько, Федчанка); *Фярко* (Фярко) <Ферапонт; *Фяско, Фясько* (Фешчанка, Фясько) <Феспесий; *Хадорка* (Хадорка, Хадоркін) <Ходар<Фёдор; *Халько* (Халько, Хальчэня) <Халалей< Фалалей; *Хамко, Хомка* (Хамко, Хомка, Хомчанка) <Хо-

ма<Фома; *Харко* (Харко)<Харитон; *Хвядко, Хвятко, Хвяцко* (Хвядчэня, Хвяткевіч, Хвяцковіч)<Хведар<Фёдор; *Хілька, Хілько* (Хілька, Хілько)<Хилимон<Филимон; *Цімка, Цімко* (Цімка, Цімко)<Тимофей; *Цітко* (Цітко)<Тит; *Цішка, Цішко* (Цішкаў, Цішкін, Цішко) Тихон; *Шымка, Шымко* (Шымкавіч, Шымко, Шымковіч)<польск. Szymon, *Юдко* (Юдчанка)<Юда<Иуда; *Юнко* (Юнковіч)<Юний; *Юрка* (Юркевіч, Юрчанка); *Юсько* (Юсько)<Юстын, Иустин; *Юшка, Юшко* (Юшка, Юшко)<Юхим, Евфимий; *Якаўка* (Якоўчанка)< *Якімка* (Якімка); *Янка, Янко* (Янчын, Янкевіч); *Ясько* (Яськоў); *Яцка, Яцко* (Яцка, Яцко, Яцкевіч)<польск. Jacek.

У размоўна-бытавой сферы імёны з суфіксам *-ка//-ко* самыя пашыраныя як па колькасці, так і тэрытарыяльна. Яны засведчаны ад пераважнай большасці невытворных імён з фіналіяй «галосны+зычны» і невытворных і вытворных імён з фіналіяй *-а*.

Суфікс *-ко* выступае толькі ў націскным складзе, малапрадуктыўны. Зафіксавана з гэтым суфіксам усяго шэсць варыянтаў: *Васілько* Бр. в. Бярэз., Кобр., Малар., Пін., Стол., Гр. в. Бераст., Мін. в. Стаўбц.; *Васько* Бр. в. Драг., Ів., Кобр., Лун., Малар., Стол.; *Віцько* (Віктар) Бр. в. Драг., Івац.; *Калько* (Мікалай) Бр. в. Пін.; *Ляўко* (Лявон) Бр. в. Драг.; *Максімко* Гр. в. Маст.; *Пецярко* (з устаўным галосным у спалучэнні [тр], як у *Пётарка)* Бр. в. Ів.; *Пяцько* Бр. в. Ів.; *Санько* (Аляксандр) Бр. в. Драг., Кобр., Малар., Гом. в. Лельч., Гр. в. Навагр., Мін. в. Мінск; *Талько* (Анатоль) Гом. в. Лельч.; *Хведко* (Фёдар) Бр. в. Івац.; *Юленько* (Юльян) Бр. в. Стол.; *Юрко* Бр. в. Драг., Івац., Стол.

З суфіксам *-ка* адзначаны 232 варыянты, з якіх 126 утвораны ад поўных асноў і 106 — ад усечаных.

Ад поўных асноў утвораны імёны: *Аляксейка* Бр. в. Драг., Ів., Маг. в. Касц., Мінск; *Анатолька* Мінск, *Антолька* (Анатолій) Віц. в. Міёр., Мінск; *Антонка* Бр. в. Драг., Гр. в. Лід., Навагр., Мін. в. Мін., Мінск, Сл., Стаўбц., *Антонька* Мін. в. Мядз.; *Апанаска* Бр. в. Драг., Пруж.; *Аркадзька* Гом. в. Рэч., Маг. в. Мсц., Мін. в. Віл., Мін. в. Мінск; *Архіпка* Бр. в. Жаб.; *Арцёмка* Бр. в. Брэсц., Драг., Пруж., Мін. в. Мінск; *Амялянка* Бр. в. Драг.; *Астапка* Бр. в. Драг., Ів., Лун.; *Афанаска* Бр. в. Драг.; *Ахрэмка* Мін. в. Люб.; *Багданка* Мінск; *Базылька*

Мін. в. Стаўбц.; *Барыска* Бр. в. Бар., Брэсц., Івац., Кам., Кобр., Лун., Пін., Віц. в. Пол., Гр. в. Гродна, Мін. в. Люб., Стаўбц.; *Вадзімка* Бр. в. Драг., Жаб., Кам.; *Валерка* Бр. в. Бар., Драг., Жаб., Ів., Івац., Кам., Віц. в. Беш., Паст., Чашн., Шарк., Гр. в. Ашм., Гродз., Гродна, Кар., Навагр., Шч., Маг. в. Мсц., Хоц., Мін. в. Барысаў, Віл., Дзярж., Люб., Мал., Мін., Мінск, Сл., Стаўбц.; *Васілька* Бр. в. Кам., Гр. в. Гродна, Мін. в. Барысаў, Бярэз., Мін., Мінск, Мядз.; *Віктарка* Мін. в. Мінск, *Вікторка* Бр. в. Драг., Ів., Гр. в. Навагр.; *Віталька* Бр. в. Драг., Івац., Кам., Малар., Пін., Гр. в. Астр., Маг. в. Мсціслаў, Мін. в. Віл., Люб., Мін., Мінск; *Восіпка* (Іосіф) Віц. в. Шарк., Гр. в. Шч.; *Гандрыйко* (Андрэй) Бр. в. Драг.; *Гантонко* (Антон) Бр. в. Драг.; *Гордзейка* Бр. в. Стол.; *Героімка* (Геранім) Віц. в. Глыб.; *Гаўрылка* Бр. в. Драг., Івац., Малар.; *Германко* Бр. в. Стол.; *Гнатко* (Ігнат) Бр. в. Драг., Ів., Лун., Пін., Стол.; *Давыдка* Бр. в. Драг., Гр. в. Навагр.; *Данілка* Бр. в. Брэст, Драг., Ів., Івац., Кам., Кобр., Пін., Стол., Віц. в. Докш., Гр. в. Навагр., Маг. в. Мсціслаў, Мін. в. Барысаў, Віл., Мін., Мінск; *Дзям'янка* Бр. в. Бяроз., Драг., Івац., *Дзямянка* Мін. в. Дзярж.; *Дзяніска* Бр. в. Бар., Брэст, Драг., Ів., Кобр., Малар., Стол., Віц. в. Леп., Гр. в. Гродна, Лід., Свісл., Маг. в. Бабр., Бых., Касц., Мсц., Мін. в. Мін., Мінск, Сл.; *Дміцерка* Бр. в. Драг., Ів., Пін.; *Ерамейка* Бр. в. Бар., *Ерка* (*Еры* з польск. Jerzy) Гр. в. Смарг.; *Есіпко* (Іосіф) Бр. в. Кобр., Стол., *Есіпка* (Іосіф) Бр. в. Драг.; *Захарка* Бр. в. Брэст., Драг., Пруж., Стол., Маг. в. Мсціслаў, Мін. в. Віл., Мін., Мінск, Сл.; Іван: *Іванка* Бр. в. Бяроз., Ганц., Драг., Жаб., Ів., Івац., Кобр., Лун., Лях., Пін., Стол., Віц. в. Міёр., Шум., Гом. в. Ветк., Жытк., Лельч., Петр., Хойн., Гр. в. Навагр., Маг. в. Бабруйск, Касц., Крыч., Маг., Мсц., Мін. в. Барысаў, Віл., Кап., Кл., Люб., Пух., Стаўбц.; *Іванька* Бр. в. Жаб., Ів., Кобр., Пін., Віц. в. Леп., Гом. в. Браг., Б.-Каш., Гом., Добр., Лоеў., Рэч., Хойн., Чач., Маг. в. Бабруйск, Гор., Касц., Кір. Клім., Мсц., Шкл., Мін. в. Лаг., Мядз.; *Ігарка* Віц. в. Чашн., Гр. в. Навагр., Мін. в. Віл., Сл., Стаўбц.; *Ігнатка* Бр. в. Ів., Пруж., Стол., Мін. в. Кл., *Ігнацька* Віц. в. Шум.; *Ілька* (Ілья) Бр. в. Жаб., Віц. в. Лёзн., Мін. в. Мінск; *Йванко* Бр. в. Драг., Ів.; *Кандратка* Бр. в. Драг., Гр. в. Навагр.; *Карнілка* Бр. в. Драг., Кам., Малар.; *Кірылка* Бр. в.

Брэст., Драг., Пін., Гр. в. Навагр.; *Кузёмка* (Кузьма) Бр. в. Ів., Лун.; *Лёўка* (Леў) Гр. в. Навагр., Мін. в. Мінск; *Лук'янка* Гр. в. Навагр.; *Лявонка* (Лявон) Бр. в. Драг., Кобр., Гр. в. Навагр., *Лявонька* (Лявон) Мін. в. Мядз.; *Майсейка* Бр. в. Пруж.; *Макарка* Бр. в. Драг., Пін., Пруж., Гр. в. Навагр., Мін. в. Бярэз., Віл., Мін., Сл.; *Максімка* Бр. в. Брэсц., Бяроз., Драг., Жаб., Івац., Кобр., Пін., Стол., Гр. в. Маст., Навагр., Мін. в. Бярэз., Мінск, Стаўбц.; *Марцінка* Бр. в. Бар., Гр. в. Навагр., *Мартынка* Бр. в. Драг.; *Мар'янка* Бр. в. Ів., Мін. в. Стаўбц.; *Мацвейка* Бр. в. Бяроз., Драг., Ів., Малар., Стол., Гр. в. Навагр., *Мацейка* Мін. в. Дзярж.; *Мікалайка* Бр. в. Івац., Кам., Кобр., Лях., Пін., Гом. в. Петр., Мін. в. Віл., Круп., Люб., Мінск, Мядз., Стаўбц.; *Мікітка* Бр. в. Драг., Івац., Кам., Малар., Пруж., Стол., Гом. в. Хойн.; *Міколка* Бр. в. Бар., Драг., Жаб., Ів., Кам., Кобр., Віц. в. Паст., Гом. в. Б.-Каш., Жытк., Рэч., Гр. в. Кар., Маст., Навагр., Маг. в. Гор., Касц., Краснап., Мін. в. Віл., Мінск, Мін., Нясв., Пух., Сл., Стаўбц.; *Міронка* Бр. в. Івац.; *Міхалка* Бр. в. Бяроз., Драг., Ів., Івац., Кобр., Лун., Лях., Малар., Пін., Стол., Віц. в. Паст., Пол., Гом. в. Хойн., Гр. в. Іўеў., Кар., Маг. в. Гор., Касц., Кругл., Шкл., Мінск; *Нагумко* (Навум) Бр. в. Драг.; *Несцерка* Бр. в. Драг., Малар., Пін.; *Нікалайка* Мінск; *Нічыпарка* Бр. в. Ів., Стол.; *Осіпка* (Іосіф) Бр. в. Кам.; *Павелка* Бр. в. Драг., Стол.; *Панаска* Бр. в. Бяроз., Драг.; *Парфірка* Гр. в. Смарг.; *Патапка* Бр. в. Драг.; *Паўлінка* (Паўлін) Віц. в. Верхнядзвінск; *Пілінка* Бр. в. Драг., Кобр., Лун., Мін. в. Люб., Мал.; *Платонка* Бр. в. Драг., Гр. в. Навагр., Мін. в. Стаўбц.; *Пракопка* Бр. в. Бар., Драг., Гр. в. Навагр., Мін. в. Бярэз., Сл.; *Прохарка* Мін. в. Мядз.; *Раманка* Бр. в. Бяроз., Драг., Івац., Кар., Лун., Пін., Стол., Маг. в. Касц., Мсц., Мін. в. Мінск; *Русланка* Гр. в. Шч.; *Рыгорка* Бр. в. Драг., Кам., Стол., Гом. в. Акц., Мін. в. Мінск, Сл.; *Саўка* (Сава) Бр. в. Драг., Кобр., Лун., Гр. в. Лід., Шч.; *Сцяпанка* Бр. в. Брэст, Бяроз., Драг., Ів., Івац., Кобр., Лун., Малар., Пін., Стол., Віц. в. Паст., Гом. в. Петр., Гр. в., Мін. в. Люб., Мінск, Сл., Слуцк, Стаўбц.; *Сцяпанька* Мін. в. Мядз.; *Сямёнка* Бр. в. Ганц., Драг., Ів., Івац., Гр. в. Навагр., Мін. в. Сл., *Сямёнька* Віц. в. Уш.; *Сымонка* Бр. в. Драг., Івац., Мін. в. Мал., *Сымонька* Гр. в. Смарг.; *Сяргейка* Бр. в. Бар., Драг., Ів.,

Лун., Малар., Пруж., Гом. в. Жытк., Карм., Петр., Гр. в. Гродна, Кар., Лід., Маг. в. Бабруйск, Бабр., Касц., Мін. в. Барысаў, Маладзечна, Мінск, Мядз., Сл., Стаўбц.; *Тараска* Бр. в. Драг.; *Тадорка* (*Тодар* разм.) Гр. в. Дзятл., Мін. в. Віл.; *Трафімка* Бр. в. Бяроз., Пін., Мінск, *Трахімка* Бр. в. Бяроз., Драг., Стол.; *Уладзімірка* Мін. в. Дзярж.; *Федорка* Бр. в. Ганц., Пінск, *Фёдарка* Бр. в. Бар., Гр. в. Навагр.; *Філіпка* Мін. в. Нясв.; *Флёрка* (Фларыян) Мін. в. Бярэз., Мядз.; *Фомка* (Фама) Мін. в. Люб.; *Фядорка* Гр. в. Навагр.; *Фядоска* Бр. в. Драг.; *Фядотка* Бр. в. Драг.; *Хартонко* (Харытон) Бр. в. Лун., *Харытонка* Бр. в. Драг., Ів., Пін.; *Хведарка* Бр. в. Кобр., Бельск, Пін., Віц. в. Расон., Мін. в. Пух., *Хвядосько* Бр. в. Стол.; *Хомка* (Фама) Бр. в. Драг., Кобр., Віц. в. Беш.; *Цімафейка* Бр. в. Драг., Гр. в. Навагр., Мін. в. Стаўбц., *Цімошка* (Цімох, Цімафей) Бр. в. Бяроз., Кам., Кобр., Пін., Пруж., Віц. в. Брасл., Докш., Гр. в. Кар., Мін. в. Мінск, Пух., Сл.; *Ціханка* Бр. в. Драг., Ів., Пін.; *Юзафка* (Юзаф) Гр. в. Шч., *Юзэпка* (Юзаф) Бр. в. Кам.; *Юльянка* (Юліян) Віц. в. Шарк.; *Юрка* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 47 фіксацый у 42 нас. пунктах; *Юхімка* (Юхім, Яфім) Бр. в. Драг., Кобр.; *Ягорка* Бр. в. Брэст, Івац., Кам., Віц. в. Сен., Маг. в. Бабруйск, Мін. в. Барысаў, Люб.; *Язэпка* (Іосіф) Бр. в. Кам., Гр. в. Навагр., Мін. в. Стаўбц.; *Якаўка* Бр. в. Ганц., Ів., Драг., Кобр., Мін. в. Бярэз.; *Янка* Бр. в. Бар., Івац., Пін., Віц. в. Глыб., Докш., Міёр., Паст., Чашн., Шум., Гом. в. Браг., Жытк., Хойн., Гр. в. Астр., Ашм., Бераст., Воран., Дзятл., Маг. в. Касц., Мсц., Мін. в. Валож., Віл., Лаг., Мін., Мінск, Мядз., Пух.; *Яромка* (Ерамей) Бр. в. Бар.; *Яўсейка* Гр. в. Навагр.; *Яўхімка* (Яфім) Мін. в., *Яфімка* Маг. в. Чав.

Ад усечаных невытворных асноў ці ад утвораных ад іх варыянтаў імён з фіналіяй *-а* адзначаны *Алька* (Аляксандр) Віц. в. Кругл.; *Амелька* (Амяльян) Бр. в., *Омэлько* Стол.; *Балодзька* (Уладзімір) Бр. в. Кам.; *Болеська* (Баляслаў) Мін. в. Валож., *Болька* (Баляслаў) Гр. в. Ашм.; *Борка* Бр. в. Драг., Івац., Кам., Стол., Віц. в. Глыб., Пол., Гом. в. Гом., Хойн., Гр. в. Гродна, Гродз., Навагр., Маг. в. Кліч., Мсц., Мін. в. Барысаў, Віл., Мал., Мін., Мінск, Сл.; *Вадзька* (Вадзім) Бр. в. Бр., Драг., Кам.; *Валодзька* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 90 фіксацый у 79 нас. пунктах; *Валодка* Бр. в. Івац.;

*Валька* (Валянцін) Бр. в. Бар., Драг., Кам., Мін. в. Барысаў, Мін., Мінск, Стаўбц.; *Ванька* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 135 рэгістрацый у 122 нас. пунктах; *Васька* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 101 фіксацыя ў 99 нас. пунктах; *Венька* (Веніямін) Бр. в. Драг., Віц. в. Шарк.; *Вітка* (Віталій) Маг. в. Клічаў, *Вітолька* (Вітольд) Віц. в. Брасл.; *Віцька* (Віктар) — ва ўсіх абласцях рэспублікі 82 фіксацыі ў 72 нас. пунктах; (Віталій) Бр. в. Драг., Пруж., Віц. в. Пол., Мін. в. Нясв.; *Войтка* (Войцех) Гр. в. Іўеў; *Воська* (Іосіф) Гом. в. Б.-Каш., Добр.; *Воўка* (Уладзімір) — ва ўсіх абласцях рэспублікі 92 фіксацыі ў 80 нас. пунктах; *Гамелька* (Емяльян) Бр. в. Ів.; *Гараська* (Гарасім) Бр. в. Кобр.; *Генка* (Генадзій) Бр. в. Бар., Брэст, Бяроз., Драг., Жаб., Ів., Кам., Віц. в. Віцебск, Гарад., Глыб., Докш., Краснап., Леп., Паст., Пол., Шарк., Шум., Гом. в. Мазыр., Гр. в. Астр., Ашм., Воран., Гродз., Гродна, Зэльв., Лід., Маст., Маг. в. Крыч., Чэрык., Мін. в. Бярэз., Люб., Мал., Мін., Мінск, Нясв., Сл., Стаўбц.; *Генка* (Яўгеній) Віц. в. Глыб., Паст., Гр. в. Кар.; *Генька* (Генадзій) Бр. в. Івац., Малар., Віц. в. Брасл., Гарад., Глыб., Сен., Гр. в. Ашм., Зэльв., Мін. в. Мядз., Уздз.; (Яўгеній) Віц. в. Глыб.; *Гэнька* (Генадзій) Віц. в. Глыб., Гр. в. Астр., Ашм., Зэльв.; (Генрых) Гр. в. Гродз.; *Данька* (Даніла) Бр. в. Малар., Маг. в. Мсціслаў, Мін. в. Барысаў, Віл., Мін., Мінск; *Дзёмка* (Дзям'ян) Бр. в. Ів., Пін., Віц. в. Докш., Расон., Мін. в. Мін., Мінск; *Дзімка* (Дзмітрый) — ва ўсіх абласцях 42 фіксацыі ў 40 нас. пунктах, *Міцька* — 34 фіксацыі ў 32 нас. пунктах; (Вадзім) Бр. в. Бар.; *Дзінька* (Дзяніс) Гр. в. Свісл.; *Донька* (Даніла) Мін. в. Віл., Дзярж., Мал.; *Дрэйка* (Андрэй) Бр. в. Брэсц., Пін.; *Дэнька* (Дзяніс) Віц. в. Леп.; *Ерка* (Яраслаў) Гр. в. Навагр.; *Еська* (Іосіф) Бр. в. Ганц., *Еська* (Іосіф) Віц. в. Віц., Гом. в. Добр.; *Жорка* (Георгій) Бр. в. Бар., Брэст., Драг., Пруж., Віц. в. Глыб., Міёр., Чашн., Гр. в. Гродз., Дзятл., Мін. в. Лаг., Люб., Мінск, Пух.; *Жэнька* (Яўген) — ва ўсіх абласцях рэспублікі 36 фіксацый у 36 нас. пунктах; *Зэнька* (Зянон) Віц. в. Паст.; *Іоська* (Іосіф) Гр. в. Лід.; *Казька* (Казімір) Віц. в. Паст., Мін. в. Мінск; *Колька* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 87 рэгістрацый у 82 нас. пунктах; *Косцька* Бр. в. Брэст; *Ларка* (Ларыён) Віц. в. Расон.; *Лерка* (Валерый) Мін. в.

Мінск; *Лёнька* (Леанід) — ва ўсіх абласцях рэспублікі 59 фіксацый у 55 нас. пунктах; *Лёўка* (Лявон) Бр. в. Драг., Кам.; *Лодзька* (Уладзімір) Віц. в. Шум.; *Лявонка* Бр. в. Лях., Гом. в. Жытк., Гр. в. Кар.; *Марка* (Мар'ян) Віц. в. Паст.; *Мелька* (Емяльян) Бр. в. Брэсц.; *Мечка* (Мечыслаў) Гр. в. Ашм.; *Мінька* (Мінай) Віц. в. Паст., Уш.; (Веніямін) Віц. в. Сен.; *Мішка* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 172 фіксацыі ў 146 нас. пунктах; *Моська* (Майсей) Бр. в. Стол.; *Моцька* (Мацвей) Віц. в. Гарад.; *Нянька* (Ананій) Гом. в. Лельч.; *Оська* (Іосіф) Бр. в. Кам.; *Панька* (Афанасій) Віц. в. Талачын; *Паўка* (Павел) Бр. в. Стол., Віц. в. Беш., Брасл., Пол., Гр. в. Гродна, Кар., Навагр., Мін. в. Дзярж., Мінск; *Пека* Гом. в. Б.-Каш.; *Пецька* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 90 фіксацый у 82 нас. пунктах; *Пілька* (Піліп) Бр. в. Стол.; *Прошка* (Прохар) Бр. в. Кобр.; *Радзька, Родзька* (Радзівон) Брэст; *Ромка* (Раман) Бр. в. Бар., Брэст, Драг., Ів., Пінск, Віц. в. Беш., Паст., Гр. в. Гродз., Кар., Навагр., Маг. в. Касц., Мін. в. Бярэз., Віл., Люб., Мінск, Мін., Пух.; (Рамуальд) Гр. в. Ашм., Мін. в. Валож.; *Роська* (Расціслаў) Гр. в. Дзятл.; *Санька* (Аляксандр) — ва ўсіх абласцях рэспублікі 53 фіксацыі ў 52 нас. пунктах; *Саўка* (Савелій) Бр. в. Ів., Кобр., Малар., Віц. в. Беш., Леп., Мін. в. Бярэз.; *Сека* (Сяргей) Бр. в. Лях.; *Сенька* (Арсен) Віц. в. Брасл.; *Сёмка* Бр. в. Бар., Драг., Жаб., Ів., Івац., Кам., Кобр., Пін., Гом. в. Рэч., Гр. в. Кар., Навагр., Маг. в. Бабр., Мін. в. Кл., Люб., Мінск, Сл.; *Сімко* (Максім) Бр. в. Лун.; *Слаўка* (Вячаслаў) Бр. в. Баранавічы, Бяроз., Драг., Жаб., Івац., Кам., Лун., Лях., Віц. в. Міёр., Пол., Шарк., Гр. в. Гродна, Іўеў., Лід., Навагр., Мін. в. Барысаў, Валож., Люб., Мін., Мінск, Сл., Стаўбц.; (Расціслаў) Бр. в. Стол.; (Святаслаў) Гр. в. Навагр., Маг. в. Касц.; (Станіслаў) Бр. в. Баранавічы, Гом. в. Б.-Каш., Гродна, Мінск; (Уладзіслаў) Баранавічы; (Яраслаў) Гом. в. Жытк., Мін. в. Мінск; *Сцёпка* Бр. в. Бяроз., Драг., Ів., Івац., Кам., Лях., Віц. в. Гарад., Докш., Міёр., Пол., Расон., Уш., Гом. в. Ветк., Жытк., Лельч., Гр. в. Ашм., Гродз., Маг. в. Кір., Мін. в. Барысаў, Віл., Кап., Люб., Мінск, Мядз., Сл., Стаўбц.; *Сярожка* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 71 фіксацыя ў 65 нас. пунктах; *Талька* (Віталій) Бр. в. Івац.; *Толька* (Анатоль) Бр. в. Бяроз., Драг., Кам., Кобр.,

Стол., Гр. в. Бераст., Воран., Гродз., Кар., Свісл., Мін. в. Бярэз., Люб., Мін., Мінск, Сл.; *Томка* (Тамаш) Бр. в. Ів., Гр. в. Воран.; *Тонька* (Антон) Гр. в. Ашм., Мін. в. Віл.; *Трошка* (Трафім) Брэст, Лун., Стол.; *Уладзька* (Уладзімір) Віц. в. Пол., Мінск; (Уладзіслаў) Віц. в. Багушэўск, Мін. в. Люб.; *Уладка* (Уладзімір) Гр. в. Ашм.; *Федзька* (Фёдар) — ва ўсіх абласцях рэспублікі 39 фіксацый у 39 нас. пунктах; (Фядот) Бр. в. Драг.; *Федка* (Фёдар) Бр. в. Івац.; *Філька* (Філімон) Бр. в. Івац., Кобр., Віц. в. Беш., Гом. в. Добруш; *Фімка* (Трафім) Бр. в. Стол.; *Флёрка* (Фларыян) Мін. в. Бярэз., Мядз.; *Фонька* Віц. в. Шарк.; *Франка, Франька* (Франц) Віц. в. Паст.; *Фэлька* (Фелікс) Віц. в. Глыб., Докш., Паст., Гр. в. Іўеў., Мін. в. Мядз.; *Хведзька* (Фёдар) Бр. в. Ганц., Ів., Лях., Віц. в. Чашн., Шум., Гом. в. Ветк., Добр., Маг. в. Касц., Крыч., Слаўг., Мін. в. Люб., Пух.; *Цімка* (Цімафей) Бр. в. Бяроз., Пруж., Віц. в. Орша, Пол., Гр. в. Кар., Мін. в. Люб., Мінск, Пух.; (Цімур) Бр. в. Брэст, Малар.; *Цішка* (Ціхан) Бр. в. Бар.; *Чэська* (Вячаслаў) Гр. в. Астр., Ашм., Бераст., Лід., Мін. в. Мінск; *Эдзька* (Эдуард) Бр. в. Бар., Віц. в. Глыб., Докш., Паст., Гр. в. Ашм., Гродна, Іўеў., Мін. в. Барысаў, Валож., Мінск, Мядз.

Колькаснае павелічэнне варыянтаў імён з суфіксам *-ко//-ка,* рэканструяваных па СБП (157) і зафіксаваных на тэрыторыі Беларусі ў 1978—1980 гг. (232) у параўнанні з фіксацыямі ў пісьмовых крыніцах XVI—XVIII стст. (72), само па сабе не можа служыць прамым сведчаннем актывізацыі гэтага суфікса ва ўтварэнні варыянтаў імён. У старажытных юрыдычных актах, у якіх у прававых мэтах імкнуліся найбольш дакладна ідэнтыфікаваць асобу, разам з канцылярскай традыцыяй іменаваць асобу поўным (звычайна ў разглядаемы перыяд размоўна-бытавым) іменем выкарыстоўваліся ў многіх выпадках і дэмінутыўныя формы (калі яны ў адносінах да канкрэтных асоб былі найбольш вядомымі ці нават адзінымі). Гэта значыць практычна ў пісьмовых крыніцах адлюстраваны толькі асобныя выпадкі рэальна ўжываных у размоўна-бытавых умовах дэмінутыўных форм, у матэрыялах жа, сабраных у 1978—1980 гг., па магчымасці поўна адлюстраваны ўсе формы, якія бытуюць у абследаваных населеных пунктах. Што ж адносіцца да рэканструкцый па СБП, то лік іх адносна ўмоўны. З ад-

нага боку, відаць, засталіся не ўлічанымі некаторыя прозвішчы, па якіх можна было рэканструяваць новыя варыянты імён, а з другога — асобныя рэканструяваныя варыянты можна разглядаць як умоўныя, гіпатэтычныя.

Варыянты з суфіксам *-ко//-ка* часцей утвараюцца ад усечаных асноў. У большасці выпадкаў і ў поўных і ўсечаных асновах цвёрдасць-мяккасць апошняга зычнага перад суфіксам захоўваецца. Аднак ва ўсіх трох крыніцах адзначаны выпадкі ацвярдзення мяккага зычнага ці змякчэння цвёрдага, у выніку чаго ўзніклі дублеты з парнымі цвёрдымі-мяккімі зычнымі [н]-[н'], [л]-[л'], [с]-[с'], [т]-[т'], [ц'], [д]-[д'], [дз']: *Антонка — Антонька, Бенко — Бенько, Винко — Вінька, Зенка — Зенька, Іванка — Іванька, Лявонка — Лявонька, Станка — Станько, Сцяпанка — Сцяпанька, Сымонка — Сымонька, Сямёнка — Сямёнька; Илко — Илько, Омелко — Амелька, Хілко — Хілько; Васко — Васько, Гараска — Гараська, Еско — Еcько, Каско — Касько, Ониско, Аніска — Аніська; Витко — Віцько, Ігнатка — Ігнацька, Матко — Матько, Петко — Петько, Пятко — Пяцько; Володко — Валодка — Валодзька, Давыдка — Давыдзька, Радзько, Родка — Родька, Федко(а) — Федько, Федзька, Ходко — Ходько.*

Для часткі прыведзеных дублетных форм канцавы зычны ўтваральнай асновы (звычайна ўсечанай асновы поўнай формы) з'яўляецца мяккім: *Бен'(едикт)+ко, Стан'(ислав)+ко, Ил'(ja)+ко, Омел'(jан)+ко, Хил'(имон)+ко, Вас'(илий)+ко, Гарас'(им)+ко, Ес'(иф)+ко, Кас'(jан)+ко, Род'(ион)+ко,* а для другой часткі — цвёрдым: *Вин(цент)+ко, Зен(он)+ко, Пет(р)+ко, Фед(ор)+ко, Ход(ор)+ко, Иван+ко, Лявон+ка, Сцяпан+ка, Ігнат+ка, Давыд+ка.* Дублетныя для прыведзеных формы ўзніклі ў выніку універсалізацыі суфікса *-ко//-ка.* Пад уплывам форм, што з'явіліся на базе асноў з канцавым цвёрдым зычным (*Винко, Зенко, Петко, Федко, Ходко, Иванко, Лявонка, Ігнатка* і інш.), узніклі дублетныя формы з цвёрдым зычным перад суфіксам для форм, утвораных ад асноў з канцавым мяккім зычным (*Бенко, Васко, Гараско, Еско, Илко, Каско, Омелко, Радко, Родка, Станко, Хилко*). І наадварот, пад уплывам форм, што ўзніклі на базе асноў з канцавым мяккім зычным (*Бенько, Васько, Гараська, Еcько, Илько, Касько, Омелько, Радзька, Родзька, Станько, Хилько* і інш.),

з'явіліся дублетныя формы з мяккім зычным перад суфіксам для форм, утвораных ад асноў з канцавым цвёрдым зычным (*Вінька, Зенька, Петько, Федько, Ходько, Иванько, Лявонька, Ігнацька, Давыдзька*).

Ад утваральных асноў на [х] і на [ф], якое змянілася ў [х], [хв], дэрывацыя ажыццяўлялася пры ўдзеле суфікса *-ько*, у выніку чаго адбывалася чаргаванне *х//ш* і на стыку асновы і суфікса ўзнікаў гукавы комплекс *шко//шка*. Так узніклі формы *Асташка, Атрошка, Аўтушка, Вайцешка, Дарошка, Малашка, Мішка, Прошка, Сташко* і інш.

У сучасных размоўна-бытавых варыянтах з суфіксам *-ка*, утвораных ад поўных асноў, захоўваецца націск утваральнай асновы (*Апанаска, Багданка, Васілька, Захарка, Ігнатка, Міколка* і інш.). У тым выпадку, калі варыянт утвораны ад усечанай асновы, а націск ва ўтваруючым імені падаў на ўсечаную частку, у дэрываце з суфіксам *-ка* націск перасоўваецца на адзін склад к пачатку слова ці падае на суфікс *-ко* (*Фомка*<Фама, *Зянько*<Зянон). У гаворках паўднёвай часткі Брэсцкай вобласці часцей, чым на астатняй тэрыторыі Беларусі, ужываюцца імёны з націскным суфіксам *-ко*. Часта яны ўжываюцца ва ўкраінскай мове [8].

**Імёны з суфіксам -шко//-шка** складаюць адзіную групу толькі па знешняй прыкмеце — па наяўнасці агульнага гукавога комплексу *шко//шка*. На самай жа справе тут аб'ядналіся формы, што належаць да трох словаўтваральных мадэлей: 1) формы, утвораныя пры дапамозе суфікса *-ко//-ка* ад вытворнай асновы з суфіксам *-ша* (*Алёшка*<Алёша); 2) формы, утвораныя пры дапамозе суфікса *-ко//-ка* ад вытворнай асновы з суфіксам *-х* ці *-ха* пры *х//ш* (*Цярэшка*<Церах); 3) формы, утвораныя пры дапамозе складанага суфікса *-шко//-шка* (*Лявошка*<Лявон).

Практычна зараз цяжка ці нават немагчыма вызначыць, якім з трох названых шляхоў утворана тая ці іншая канкрэтная форма. Напрыклад, імя *Олешко* магло з'явіцца на аснове формы *Олеша* і формы *Олеха* пры ўдзеле суфікса *-ко//-ка*, а таксама на базе ўсечанай ас-

[8] Гринченко Б. Д. Словарь украинского языка, т. 4.— Киев, 1909, с. 548—563; Чучка П. П. Словотвір закарпатьукраїнських чоловічих імен: Тези доповидей до XIX навукової конференції.— Ужгород, 1965, с. 30.

новы форм *Але-ксей, Але-кса* пры ўдзеле суфікса *-шко//-шка*. Таму ўсе формы на *-шко//-шка* падаюцца разам.

У XVI—XVIII стст. зафіксаваны *Олешко*<Алексей (3) 1528 Гр., Навагр. з-к, 1567 Навагр. п.; *Онтошко* 1609 Маг.; *Гришко, Грышко, Гришка, Грышка* (180) 1528 Ваўк., Віц. з-ля, Кам., Кобр., Пін., Слон., 1567 Ашм. п., Брасл. п., Ваўк. п., Гр. п., Лід. п., Навагр. п., Слон. п., 1577, 1581 Маг., 1582 Мін., 1597 Маг., 1614 Арш. п., 1623 Віц. в., 1635 Маг., 1642 Пол. в., 1646 Арш. п., 1670 Віц. в., 1684, 1691 Маг., 1704 Чач. ст., 1717 Віц. в., 1726 Чач. ст., 1730 Пол. в., 1746, 1758 Маг., 1764 Віц. в., Ула, 1765 Маг., 1769 Чач. ст., 1790 Віц. в.; *Дашко*<Дасий (18) 1528 Ваўк. п., Віц. з-ля, Гр., Кобр., Навагр., Пін., Пол. з-ля, Рад., 1567 Бр. п., Пін. п., 1577, 1578, 1588, 1610 Маг.; *Дешко*<Демьян (4) 1528 Ваўк., Гр., 1578 Маг.; *Демешко*<Дементий (2) 1580, 1689 Маг.; *Ивашко*<Иван (51) 1528 Астр., Віц. з-ля, Гр., Кам., Кобр., Мін. дв., Мсц., Навагр. з-к, Рад., 1567 Гр. п., Слон. п., 1577, 1578 Маг., 1582 Мін. п., 1630 Віц.; *Клишко*<Климент (13) 1577, 1578, 1579, 1580, 1606, 1679, 1688, 1691, 1692 Маг.; *Левошко* 1577 Маг.; *Пашка*<Павел (11) 1528 Ашм. дв., Гр., Лід. дв., Навагр. з-к, Рад.; *Ромашко*<Роман (2) 1528 Ваўк., 1567 Слон. п.; *Семашко*<Семен (8) 1528 Мсц., Рад., 1567 Гр. п., 1582 Мін. п.; *Сташко*<Станислав (3) 1528 Ашм. дв., Гр., Мін. дв.; *Терешко, Церешка*< Терентий (6) 1590 Мін. п., 1617, 1746 Маг.

Па СБП рэканструяваны: *Адашка* (Адашкевіч)< Адам; *Алёшка, Алешка* (Алёшчанка, Алешчанка)< Алексей; *Амяляшка* (Амяляшка)<Амялян<Емельян; *Анашка* (Анашка)<Анания; *Андрыяшка* (Андрыяшка)< Андриян<Андриан; *Антошка* (Антошка)<Антон; *Антрошка* (Антрошка)<Антроп<Евтропий; *Аўдошка* (Аўдошка)<Овдоким<Евдоким; *Дзямешка* (Дзямешка)< Дементиан ці Дамиан; *Івашка* (Івашка)<Иван; *Кірышка* (Кірышкевіч, Кірышчанка)<Кирик ці Кирилл; *Купрышка, Купрэшка* (Купрышчанка, Купрэшчанка)<Куприян, Купрей<Киприан; *Лаўрышка* (Лаўрышка)<Лаврин<Лаврентий; *Лявошка* (Лявошка)<Левон<Леонтий; *Марцішка* (Марцішка)<Мартин; *Мікішка* (Мікішка)<Микита<Никита; *Мірошка* (Мірошкін)<Мирон; *Мялешка* (Мялешка)<Мялян<Емельян; *Пашка, Пашко* (Пашкін, Пашко)<Павел; *Рамашка* (Рамашка)<Роман; *Селівашка* (Селівашка)<Селиван; *Сцёшка, Сцяш-*

*ко* (Сцёшка, Сцяшко) <Стефан; ***Сямешка*** (Сямешка) < Семен; ***Тарэшка, Цярэшка*** (Тарэшка, Цярэшка) <Терентий; *Юрашка* (Юрашкевіч) <Юра, Юрий; *Ярмошка* (Ярмошка) <Ермолай.

У размоўна-бытавой сферы адзначаны: *Алёшка* Бр. в. Бар., Бяроз., Драг., Івац., Лях., Малар., Стол., Віц. в. Паставы, Гом. в. Акц., Хойн., Гр. в. Бераст., Гродз., Гродна, Дзятл., Кар., Маст., Навагр., Свісл., Маг. в. Касц., Хоц., Мін. в. Барысаў, Бярэз., Люб., Мін., Мінск, Мядз., Пух., Сл., Слуцк; *Аляксашка* Гродна; *Антошка* Бр. в. Драг., Жаб., Ів., Кобр., Стол., Гр. в. Лід., Маст., Навагр., Маг. в. Бабр., Мсц., Мін. в. Барысаў, Люб., Мін., Мінск, Пух.; *Антошка* (Анатолій) Віц. в. Орша, Ушачы; *Аркашка* Бр. в. Брэсц., Івац., Кам., Пін., Гр. в. Навагр., Маг. в. Магілёў, Мін. в. Мінск, Сл., Слуцк; *Арсешка* (Арсенцій) Гр. в. Навагр.; *Васілешка* (Васілей) Бр. в. Ів.; *Гаўрышка* (Гаўрыла) Мін. в. Дзярж.; *Гешка* (Генадзій) Гр. в. Кар.; *Гошка* (Горгій<Георгій) Віц. в. Шарк.; *Грышка* Бр. в. Бар., Бяроз., Драг., Жаб., Ів., Івац., Кам., Лун., Лях., Пін., Стол., Віц. в. Віцебск, Гарад., Леп., Паст., Пол., Тал., Шум., Гом. в. Акц., Б.-Каш., Докш., Лельч., Хойн., Гр. в. Кар., Маст., Маг. в. Бабр., Кліч., Чэрык., Шкл., Мін. в. Барысаў, Кап., Лаг., Люб., Мал., Мін., Мінск, Нясв., Сл., Слуцк, Уздз.; *Івашка* (Іван) Бр. в. Драг., Віц. в. Леп., Гр. в. Шч., Маг. в. Крыч.; *Ігнашка* Бр. в. Малар., Пруж., Віц. в. Шум., Маг. в. Кір.; *Касцяшка* (Касцянцін, Косця<Канстанцін) Віц. в. Чашн.; *Лёшка* (Аляксей) Бр. в. Бар., Бяроз., Драг., Жаб., Івац., Кобр., Лях., Стол., Віц. в. Бешанк., Віц., Гарад., Глыб., Лёзн., Міёр., Паст., Паставы, Тал., Шум., Гом. в. Б.-Каш., Гр. в. Гродна, Ліда, Масты, Шч., Маг. в. Гор., Чэрык., Мін. в. Барысаў, Мінск, Мядз., Пух., Стаўбц.; *Мікалашка* Бр. в. Ів., Мін. в. Мінск; *Пашка* Бр. в. Бяроз., Драг., Івац., Кам., Малар., Стол., Віц. в. Беш., Брасл., Віцебск, Глыб., Тал., Шарк., Маг. в. Гор., Мін. в. Барысаў, Дзярж., Люб., Мінск, Пух., Сл. Слуцк; *Рамашка* (Раман) Бр. в. Брэст, Пінск, Гр. в. Гродз., Маг. в. Бабруйск, Хоцімск, Мін. в. Барысаў; *Сашка* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 128 фіксацый у 101 нас. пункце; *Тошка* (Антон) Мін. в. Люб., Мінск; *Цішка* (Цімафей) Бр. в. Бар., Жаб.; *Цярэшка* (Цярэнцій) Маг. в. Бабр.; *Юрашка* (Юра) Бр. в. Пінск; *Ярмошка* (Ярмола) Віц. в. Сен.; *Ярошка* (Яраслаў) Бр. в. Брэсц.; *Яўгешка*

(Яўгеній) Мінск; *Яшка* (Якаў) Бр. в. Брэст, Кам., Кобр., Малар., Віц. в. Уш., Гом. в. Добруш., Гр. в. Гродна, Мінск.

**Суфіксы -ешко//-ешка, -ишко//-ишка//-ышко//-ышка, -ошко//-ошка, -ашко//-ашка, -ушко//-ушка.**

Суфікс *-шко//-шка*, як правіла, далучаецца да асноў, што заканчваюцца галосным гукам, а таму ў спалучэнні з галосным асновы [е], [и], [ы], [о], [а], [у] набывае двухскладовую будову. У працэсе працяглага выкарыстання галосны асновы стаў элементам суфікса, у выніку чаго склаліся новыя суфіксы: *-ешко//-ешка, -ишко//-ишка//-ышко//-ышка, -ошко//-ошка, -ашко//-ашка,* пры дапамозе якіх утвараюцца эмацыянальна-ацэначныя імёны ад асноў на зычны ці ад асноў на галосны гук, які адрозніваецца ад першага галоснага суфікса. Аналагічную структуру маюць і імёны, утвораныя другасным суфіксам *-ко//-ка* ад вытворных асноў з суфіксамі *-еш(а), -иш(а), -ош(а), -аш(а), -уш(а), -ех(а), -их(а), -ох(а), -ах(а), -ух(а).*

З суфіксам *-ешко//-ешка* рэканструяваны на СБП: *Мікешка* (Мікешка)<Микита; *Мілешка* (Мілешка)< Милий, магчыма таксама ў выніку фанетычнай замены [е] на [і] ад Мельян<Емельян; *Пятрэшка* (Пятрэшка)< Петр. У размоўна-бытавой сферы: *Яхімешка* Бр. в. Стол.

З суфіксам *-ишко//-ишка//-ышко//-ышка* па СБП рэканструяваны: *Дадышка* (Дадышка)<Дада; *Паўлішка* (Паўлішка)<Павел; *Пракапышка* (Пракапышка)< Прокопий; *Раманішка* (Раманішка)<Роман.

З суфіксам *-ошко//-ошка* адзначана ў XVI—XVIII стст. *Оношко* 1528 Ваўк. п.; па СБП рэканструяваны: *Аношка* (Аношка)<Анания; *Вітошка* (Вітошкін)< Вит; *Захарошка* (Захарошка)<Захар; *Лукошка* (Лукошка)<Лука ці Лукиан; *Матошка* (Матошка)<Матвей.

У размоўна-бытавой сферы адзначаны: *Гошка* (Грыгорый) Бр. в. Жаб.; *Ігарошка* Бр. в. Бар., Пінск; *Лукошка* Гр. в. Кар.

З суфіксам *-ашко//-ашка* ў XVI—XVIII стст. адзначана *Семашко* (8) 1528 Мсцісл., Рад., 1567 Гр. п., 1582 Мін. п., хаця магчыма і ад *Сёма* пры дапамозе суфікса *-шко.* Па СБП рэканструяваны: *Грыгарашка* (Грыгарашчанка); *Пятрашка* (Пятрашка); *Сімашка* (Сімашка)<Сим, магчыма таксама ў выніку фанетычнага [е]<[і] ад *Семен; Сямашка* (Сямашка)<Семен.

Суфікс *-ушко//-ушка* больш прадуктыўны. У XVI—XVIII стст. зафіксаваны: *Андрушко* 1528 Ваўк.; *Анцушка* 1528 Пін.; *Илюшка* 1578 Маг.; *Костюшко* (8) <Константин 1528 Вас., Кам., Мін. дв., 1567 Бр. п., Мін. п.; *Лаврушка*<Лавр 1567 Гр. п.; *Янушко* (2) <Ян 1528 Ваўк. Рэканструяваны па СБП: *Адамушка* (Адамушка); *Амялюшка* (Амялюшка); *Андрушка* (Андрушкевіч); *Анюшка* (Анюшкевіч) <Анания; *Арцюшка* (Арцюшка) <Артем; *Балтрушка, Баўтрушка* (Балтрушка, Баўтрушка) < польск. Bartłomiej; *Вакушка* (Вакушка) <Вакула; *Васюшка* (Васюшка); *Гаўрушка* (Гаўрушчанка); *Іванушка, Іванюшка* (Іванушкін, Іванюшка); *Ільюшка* (Ільюшкін, Ільюшчанка) <Илья; *Канюшка* (Канюшка) <Конон; *Карпушка* (Карпушка) <Карп; *Касцюшка* (Касцюшка) <Константин; *Кірылушка* (Кірылушкін); *Клімушка* (Клімушка); *Лаўрушка* (Лаўрушкоў,Лаўрушкін) <Лавр ці Лаврентий; *Лукушка* (Лукушка) <Лука; *Мікушка* (Мікушкін) <Миколай ці Микита; *Мялюшка* (Мелюшкевіч) <Мелян<Емельян; *Паўлушка, Паўлюшка* (Паўлушкін, Паўлюшчанка); *Пацюшка* (Пацюшкін) <Пац<Ипатий; *Пятрушка* (Пятрушка); *Салушка* (Салушка) < Солохон; *Сяргушка* (Сяргушка); *Фамушка* (Фамушкоў); *Філіпушка* (Філіпушка); *Фядзюшка* (Фядзюшка); *Ягорушка* (Ягорушкін); *Якімушка* (Якімушкін); *Якушка* (Якушкін, Якушчонак) <Яков; *Янушка, Янушко* (Янушка, Янушко) <польск. Janusz; *Ярушка* (Ярушчанка) < Еромей ці Ерофей; *Яцушка* (Яцушкевіч) <Яц<польск. Jacek.

У размоўна-бытавой сферы адзначаны 50 варыянтаў: *Адамушка* Бр. в. Кам., Стол.; *Аляксеюшка* Віц. в. Чашн.; *Андрушка* Бр. в. Бар., Івац., Кам., Малар., Пін., Віц. в. Шум., Гом. в. Добр., Петр., Светлаг., Гр. в. Ваўкавыск, Гродна, Кар., Лід., Навагр., Маг. в. Бабруйск, Мін. в. Барысаў, Віл., Люб., Мін., Мінск, Пух., Сл., Стаўбц.; *Антонушка* Мін. в. Стаўбц.; *Архіпушка* Бр. в. Жаб.; *Валадзюшка* Гродна, *Валодзюшка* Бр. в. Пін., Гр. в. Гродна, Мін. в. Стаўбц.; *Ванюшка* Бр. в. Ів., Івац., Кобр., Віц. в. Расон., Гом. в. Б.-Каш., Добр., Рэч., Хойн., Гр. в. Астр., Воран., Гродз., Гродна, Кар., Смарг., Маг. в. Бабр., Касц., Мін. в. Мін., Мінск, Пух., Стаўбц.; *Васілюшка* Бр. в. Брэст; *Васюшка* Бр. в. Жаб.; *Віктарушка* Гродна; *Вітушка* (Віт ці Віталій) Бр. в. Пін.; *Віцюшка* (Віктар) Бр. в. Пруж., Віц. в. Беш., Гр. в. Грод-

на, Лід.; (Віталій) Бр. в. Драг.; *Гандрушка* (Андрэй) Бр. в. Драг., Ів., Пін.; *Данілушка* Бр. в. Пін.; *Данюшка* (Даніла) Мінск; *Дзёмушка* Мінск; *Дзімушка* Бр. в. Кам., Пінск; *Ермалаюшка* Бр. в. Пін.; *Захарушка* Мін. в. Слуцк; *Іванушка* Бр. в. Кам., Маг. в. Клічаў, Мін. в. Мінск, Пух., Сл.; *Іванюшка* Бр. в. Пін.; *Ігарушка* Бр. в. Стол.; *Ільюшка* Бр. в. Івац., Кам., Пін., Пруж., Стол., Мін. в. Кл., Мінск, Нясв.; *Калюшка* Гр. в. Ашм., Гродна, Маг. в. Касц.; *Касцюшка* Бр. в. Драг.; *Кірушка (Кірыл)* Бр. в. Брэст, Брэсц.; *Кірылушка* Бр. в. Ів.; *Колюшка* Гродна, Мінск, Пух.; *Лесюшка* Гр. в. Скідаль; *Лёвушка* Бр. в. Кам., Пін., Гр. в. Ваўкавыск; *Люшка (Ілья)* Бр. в. Драг., Мін. в. Нясв.; *Макарушка* Бр. в. Ів., Мін. в. Слуцк; *Максімушка* Бр. в. Брэст, Кам., Пінск, Пруж.; *Мар'юшка (Мар'ян)* Мін. в. Стаўбц.; *Міколушка* Бр. в. Пінск, Мін. в. Стаўбц.; *Міцюшка* Гродна; *Нікадзімушка* Бр. в. Пруж.; *Паўлушка* Бр. в. Брэст, Малар., Гр. в. Гродна, Скідаль, Мінск; *Пятрушка* Мін. в. Сл., Слуцк; *Сёмушка* Мін. в. Мінск, Слуцк; *Сцёпушка* Бр. в. Івац., Пінск, Пруж., Мін. в. Мінск; *Сцяпанушка* Мін. в. Слуцк; *Сямёнушка* Віц. в. Уш.; *Фядорушка* Бр. в. Пін.; *Ягорушка* Бр. в. Брэст, Маг. в. Бабруйск; *Якімушко* Бр. в. Івац.; *Ямелюшка* Брэст; *Янушка* Гр. в. Ліда.

**Суфіксы -ечка, -ачка** склаліся ў выніку ўзаемадзеяння другаснага суфікса *-ка(-ко)*<*-ько* пры ўтварэнні імён ад вытворных асноў з суфіксам *-ка(-ко)*<*-ько, -ъко* ці суфіксам *-еко* (зычны галосны першаснага суфікса *-ка (-ко)*, пры гэтым перад галосным [ь] даў [ч]). Напрыклад, ад вытворнага Васько пры дапамозе суфікса *-ько* ўтвараецца імя *Васечка,* ад Адамка — *Адамачка,* ад Карпека — *Карпечка.*

У крыніцах XVI—XVIII стст. імёны з разглядаемымі суфіксамі не засведчаны. Па СБП рэканструяваны: *Данілачка* (Данілачка); *Карпечка* (Карпечкін)<Карп; *Кірэчка* (Кірэчка)<Кир ці Кирик, ці Кирилл; *Паўлечка* (Паўлечка)<Павел; *Сёмачка* (Сёмачкин); *Цімошачка* (Цімошачкін)<Цімохвей<Тимофей; *Ягорачка* (Ягорачкін); *Яначка* (Яначкін).

У запісах 1978—1980 гг. зарэгістравана 69 варыянтаў: *Адамачка* Мін. в. Сл.; *Аркадзечка* Бр. в. Драг.; *Барысачка* Бр. в. Пруж.; *Борачка* Бр. в. Івац., Гр. в. Навагр., Мін. в. Мінск, Слуцк; *Валерачка* Бр. в. Брэст, Мін. в.

Барысаў, Люб., Мін., Мінск, Слуцк; *Валечка* (Валянцін) Мін. в. Мін., Мінск, Стаўбц.; *Валодзечка* Бр. в. Пін., Віц. в. Віц., Жытк., Маг. в. Бабруйск, Мін. в. Маладзечна, Мінск; *Ванечка* Бр. в. Бар., Брэст, Бяроз., Драг., Жаб., Кам., Стол., Віц. в. Глыб., Паст., Сен., Шарк., Гом. в. Жытк., Хойн., Гр. в. Бераст., Гродз., Гродна, Лід., Навагр., Маг. в. Бабруйск, Крыч., Мсціслаў, Хоцімск, Мін. в. Барысаў, Віл., Кап., Люб., Мінск, Нясв., Сл.; *Васечка* Бр. в. Бар., Кобр., Гр. в. Навагр., Маг. в. Касц., Мін. в. Люб., Мінск; *Васілечка* Бр. в. Івац.; *Венечка* Бр. в. Драг., Гр. в. Навагр.; *Віталечка* Мінск; *Вітачка* (Віталій) Мінск; *Віцечка* Бр. в. Бар., Брэст, Бяроз., Івац., Кам., Кобр., Гр. в. Маст., Навагр., Свісл., Маг. в. Мсціслаў, Мін. в. Барысаў, Віл., Мінск; *Вовачка* Бр. в. Бар., Брэст, Бяроз., Драг., Ів., Кам., Пруж., Віц. в. Орша, Гом. в. Браг., Жытк., Рэч., Хойн., Гр. в. Ашм., Гродна, Кар., Навагр., Маг. в. Бабруйск, Касц., Хоцімск, Мін. в. Барысаў, Маладзечна, Мінск, Мін., Нясв., Слуцк, Стаўбц., Уздз.; *Геначка* (Генадзій) Бр. в. Бар., Брэст, Драг., Івац., Кам., Пін., Віц. в. Глыб., Докш., Леп., Паст., Гр. в. Ашм., Бераст., Гродна, Навагр., Маг. в. Бабруйск, Мін. в. Бярэз., Люб., Мінск, Слуцк, Стаўбц.; (Яўгеній) Гр. в. Кар.; *Генечка* (Генадзій) Гр. в. Ашм., Мін. в. Мядз., Пух., Слуцк; *Герачка* (Герасім) Мінск; *Данечка* (Даніла) Мінск; *Данілачка* Брэст; *Дзёмачка* Мінск; *Дзімачка* (Дзмітрый) Бр. в. Баранавічы, Брэст, Драг., Кам., Кобрын, Лях., Віц. в. Міёр., Гом. в. Рэч., Гр. в. Гродна, Кар., Навагр., Мін. в. Барысаў, Віл., Кап., Люб., Мін., Мінск, Пух., Сл., Стаўбц.; (Вадзім) Бр. в. Бар.; *Донечка* (Даніла) Мін. в. Дзярж.; *Жэнечка* (Яўген) Бр. в. Бар., Брэст, Драг., Кобр., Пруж., Гр. в. Навагр., Маг. в. Бабруйск, Мін. в. Клец., Мінск, Стаўбц.; *Жэнечка* (Генадзь) Мінск; *Жорачка* (Георгій) Бр. в. Пруж., Маг. в. Бабруйск, Мін. в. Люб., Слуцк; *Захарачка* Мін. в. Сл.; *Іваначка* Бр. в. Пін., Гом. в. Хойн., Мін. в. Віл., Мінск; *Казечка* Мінск; *Колечка* Бр. в. Бяроз., Драг., Івац., Кобр., Малар., Віц. в. Паст., Шарк., Гом. в. Жытк., Маг. в. Мсціслаў, Мін. в. Віл., Лаг., Мінск, Мін., Нясв., Пух., Сл.; *Косцечка* Бр. в. Бяроз., Драг., Віц. в. Паст., Гр. в. Навагр.; *Лёвачка* (Леў) Гр. в. Навагр., Мін. в. Кап., Мінск, Сл.; (Лявон) Бр. в. Драг.; *Лёнечка* Бр. в. Бар., Брэст, Драг., Кобр., Малар., Пруж., Гом. в. Жытк., Гр. в. Гродна,

Кар., Навагр.; *Макарачка* Бр. в. Пруж., Мін. в. Мін.; *Максімачка* Бр. в. Драг.; *Марачка* (Марк) Бр. в. Ів.; *Мікітачка* Бр. в. Пруж.; *Міколачка* Мін. в. Мін.; *Мітрафаначка* Мін. в. Сл.; *Міцечка* (Дзмітрый) Бр. в. Бар., Гр. в. Навагр., Мін. в. Мін.; *Мішачка* Бр. в. Бар., Бяроз., Віц. в. Дзісна, Гом. в. Жытк., Гр. в. Дзятл., Навагр., Свісл., Смарг., Маг. в. Мсціслаў, Хоцімск, Мін. в. Барысаў, Люб., Мінск, Мядз., Нясв., Пух., Сл.; *Павачка* Віц. в. Леп.; *Пецечка* Бр. в. Брэст, Бяроз., Драг., Жаб., Пруж., Віц. в. Докш., Паст., Маг. в. Мсціслаў, Шкл., Мін. в. Барысаў, Кап., Люб., Мінск, Пух., Сл., Стаўбц.; *Пётрачка* Віц. в. Шарк.; *Ромачка* (Раман) Бр. в. Кам., Віц. в. Паст., Гр. в. Гродна, Кар., Навагр., Маг. в. Бабруйск., Касц., Мсц., Мін. в. Барысаў, Бярэз., Мінск, Пух.; *Росцечка* (Расціслаў) Мін. в. Мядз.; *Рыгорачка* Гр. в. Навагр.; *Савачка* (Савелій) Мін. в. Бярэз.; *Санечка* (Аляксандр) Бр. в. Бяроз., Віц. в. Віцебск, Мін. в. Барысаў, Віл., Мінск; *Сенечка* (Сямён) Бр. в. Кам., Гр. в. Навагр., Маг. в. Бабруйск, Мін. в. Мядз., Сл.; *Сёмачка* (Сямён) Гр. в. Кар.; *Славачка* (Вячаслаў) Бр. в. Баранавічы, Драг., Гр. в. Ваўкавыск, Навагр., Мін. в. Люб., Мінск, Нясв., Стаўбц.; (Станіслаў) Мінск; (Уладзіслаў) Гродна; (Яраслаў) Гом. в. Жытк., Мін. в. Мінск; *Сцёпачка* Бр. в. Брэст, Драг., Жаб., Кам., Віц. в. Докш., Паст., Гом. в. Жытк., Гр. в. Кар., Навагр., Мін. в. Барысаў, Віл., Мінск, Слуцк; *Сцяпаначка* Пінск; *Сярожачка* Бр. в. Бар., Брэст, Гр. в. Кар., Мін. в. Барысаў, Мінск, Мядз., Стаўбц.; *Толечка* (Анатоль) Бр. в. Драг., Мін. в. Дзярж., Люб., Мін., Мінск, Мядз., Стаўбц.; *Федзечка* (Фёдар) Бр. в. Брэсц., Івац., Віц. в. Паст., Гр. в. Кар., Навагр., Мін. в. Мінск, Мядз., Пух., Сл.; (Фядот) Бр. в. Драг.; *Фэлечка* (Фелікс) Мін. в. Мядз.; *Цімачка* (Цімафей) Гр. в. Кар., Мінск; *Цімошачка* (Цімафей) Бр. в. Пруж.; *Чэсечка* (Часлаў) Мін. в. Стаўбц.; *Юрачка* Бр. в. Баранавічы, Бар., Драг., Ів., Івац., Кам., Пруж., Стол., Віц. в. Паст., Гом. в. Жытк., Мазыр, Чачэрск, Гр. в. Гродна, Масты, Навагр., Мін. в. Барысаў, Мінск, Мядз., Сл., Слуцк, Стаўбц.; *Янычка* Віц. в. Паст., Гр. в. Дзятл., Смарг., Маг. в. Касц., Мін. в. Віл.; *Янэчка* (Янэк, Ян) Мін. в. Мядз.

Прыведзены матэрыял сведчыць аб ужывальнасці імён з суфіксамі *-ечка, -ачка* на ўсёй тэрыторыі рэспублікі. Адсутнасць іх у старажытных пісьмовых крыніцах

13*

тлумачыцца тым, што яны маюць выразнае эмацыянальнае значэнне — з'яўляюцца імёнамі ласкальнымі.

**Суфіксы -шачка, -унечка, -сечка, -утачка** трохкампанентныя, з'яўляюцца вынікам далучэння суфікса *-ка* пры ўтварэнні імён ад вытворных асноў з суфіксамі *-ш-ка, -унь-ка, -сь-ка, -ут-ка.* Варыянты адзначаны толькі ў сучасных запісах, выкарыстоўваюцца ў размоўна-бытавой сферы: *Адашачка* Бр. в. Ів.; *Алёшачка, Аркашачка* Мінск; *Грышачка* Бр. в. Бар., Ів., Мін. в. Нясв., Сл.; *Лёшачка* Мінск; *Пашачка* Бр. в. Бар., Мін. в. Барысаў; *Сашачка* (Аляксандр) Віцебск, Гр. в. Гродз., Маст., Навагр., Мін. в. Віл., Мінск, Нясв.; *Васюнечка, Мішунечка* Мінск; *Міхасечка* Бр. в. Бар.; *Стасечка* Гр. в. Астр.; *Васютачка* Брэст.

**Суфіксы -шунечка, -шутачка, -шурачка** чатырохкампанентныя, склаліся ў працэсе паслядоўнай дэрывацыі варыянтаў імён.

З суфіксам *-шунечка* (-ш(а) + -ун(я) + -ьк(а) + -ька) адзначана ў сучасным размоўна-бытавым ужыванні імя *Сашунечка* Гр. в. Навагр. Яно ўзнікла шляхам паслядоўнай дэрывацыі ад усечанай асновы імені *Аляксандр: Алякса+ша — Саша — Саш+уня — Сашун'+ька — Сашуньк+ька* пасля паяўлення [е] на месцы [ь] і змянення [к] у [ч] перад [ь] — *Сашунечка.*

З суфіксам *-шутачка* (-ш(а) + -ут(а) + -ък(а) + ька) адзначана ў сучасным размоўна-бытавым ужыванні імя *Грышутачка* Мін. в. Сл., якое ўзнікла аналагічна ад імені *Грыгорый: Гры+ша — Грыш+ута — Грышут+ъка — Грышутк+ька* (пасля паяўлення на месцы [ъ] беглага [о]>[а] і змянення [к] перад [ь] у [ч] — *Грышутачка).*

З суфіксам *-шурачка* (-ш(а) + -ур(а) + ък(а) + -ька) адзначана сучаснае размоўнае бытавое імя *Шурачка* Віц. в. Чашн., якое ўзнікла аналагічна ад імені *Аляксандр* і складаецца з суфіксальнага комплекса: *Алекса+ша — Саша — Саш+ура—Сашур+ъка—Сашурк+ька//Сашурачка — Шурачка.*

**Суфіксы -ейка, -ойка, -уйка, -сейка, -шэйка** ўзніклі ў выніку спалучэння другаснага суфікса *-ко//-ка* з суфіксамі *-ей, -ой, -уй* вытворнай утваральнай асновы. Дэрываты з суфіксамі *-ейка, -ойка, -уйка* галоўным чынам рэканструяваны па СБП. З суфіксам *-ейка: Адамейка* (Адамейка); *Ахрамейка* (Ахрамейка)<Охрем<Ефрем; *Барысейка* (Барысейка); *Іллейка* (Іллейка); *Калінейка*

(Калінейка)<Калина<Каллиник; *Карпейка* (Карпейка); *Кірэйка* (Кірэйчанка)<Кир; *Макарэйка* (Макарэйка); *Марэйка* (Марэйка)<Марцін ці Марк, Мар; *Мілейка* (Мілейка)<Милий; *Мірэйка* (Мірэйка)<Мирон; *Патапейка* (Патапейка); *Пилейка* (Пілейка)<Філімон ці Піліп; *Пупейка* (Пупейка)<Пуплий; *Радзейка* (Радзейка)<Радзівон; *Раманейка, Рамейка* (Раманейка, Рамейка)<Раман; *Савейка* (Савейка)<Сава; *Свірэйка* (Свірэйка)<Свирид; зафіксаваны ў запісах 1978—1980 гг.: *Астапейка* Бр. в. Стол.; *Віцейка* Бр. в. Івац.; *Кірэйка* (Кірыл) Гом. в. Ветк.

З суфіксамі *-ойка, -уйка, -сейка, -шэйка: Канойка* (Канойка)<Конон; *Мануйка* (Мануйка)<Мануил; *Місейка* (Місейка)<Місь<Михаил; *Пашэйка* (Пашэйка)<Паша<Павел.

**Суфіксы -лька, -олька, -улька, -шулька.** Першыя тры склаліся ў выніку спалучэння другаснага суфікса *-ка* з суфіксамі *-ля, -оля, -оль, -уля* ўтваральнай асновы. З суфіксамі *-лька, -улька* зафіксаваны ў сучасным ужыванні *Ігналька* (Ігнат) Мін. в. Дзярж.; *Палька* (Павел) Бр. в. Пін.; *Генулька* (Генадзій), *Дзімулька* Бр. в. Брэст, Драг. З суфіксам *-олька* рэканструявана *Матолька* (Матолька)<Матвей. З суфіксам *-шулка,* які ўключае тры суфіксальныя кампаненты (-ш(а)+-ул(я)+-ка), адзначана *Сашулька* (Аляксандр) Гр. в. Свісл. Магчыма паслядоўнае, ланцужковае ўтварэнне імён *(Саша — Сашуля — Сашулька)* і непасрэднае — пры дапамозе двайнога суфікса *-улька (Саша — Сашулька).* Практычна сустракаюцца і імёны *Грышулька, Цішулька* (Цімафей).

**Суфіксы -нка, -нька, -енка, -енька, -анька//-янька, -унка, -унька//-юнька**—вынік спалучэння другаснага суфікса *-ко//-ка* з суфіксамі вытворнай утваральнай асновы *-н, -нь, -ен, -ень, -ан, -ань.*

З суфіксамі *-нко(-нка), -нько(-нька)* у XVI—XVIII стст. адзначаны: *Гринко* (14)<*Григорий* 1528 Навагр. з-к, *Гринько* (13) 1528 Ваўк., Навагр. з-к; *Сенко, Сенка* (14)<Семен 1567 Бр. п., Гр. п., Пін. п., 1580, 1588, 1594, 1610, 1690, 1691 Маг., *Сенько* (37) 1528 Астр., Бр., Ваўк., Віц. з-ля, Гр., Кобр., Мсцісл., Мін. дв., Навагр. з-к, Пін., Пол. з-ля, Рад., 1567 Гр. п., Навагр. п., Пін. п. Па СБП рэканструяваны: *Астанька* (Астанька)<Астап<Евстафий; *Грынко, Грынько* (Грынкоў, Грынкевіч, Грынько)<Григорий; *Касцянка* (Касцянка)<Костянтин<Кон-

стантин; *Сянко, Сенка, Сянько, Сенька* (Сянкевіч, Сенчанка, Сянько, Сенька)<Сямён; *Фенка, Фянько, Фенька* (Фенчанка, Фянько, Фенька)<Феофіл ці Феофан. У запісах 1978—1980 гг. адзначаны: *Грынька* (Грыгорый) Бр. в. Ів., Кам., Кобр., Віц. в. Віцебск, Мін. в. Мінск, Барысаў; *Сенька* (Сямён) Бр. в. Драг., Кам., Віц. в. Віц., Гарад., Паст., Пол., Расон., Уш., Шум., Гр. в. Навагр., Маг. в. Бабруйск, Кір., Мін. в. Мядз.; *Сяронька* (Сярога, Сяргей) Бр. в. Драг.; *Тронька* (Трафім) Бр. в. Стол.

З суфіксамі *-енка, -енька* (пасля зацвярдзелых не пад націскам *-анка, -анька), -анька* ў пісьмовых старажытных крыніцах выяўлен толькі адзін варыянт — *Стенка*<Степан 1690 Маг., а ў запісах 1978—1980 гг. — 25 варыянтаў. З суфіксам *-енка: Мішэнка* Гр. в. Лід.; *Пятрэнка* Бр. в. Ів.; *Сценка* (Сцяпан) Гом. в. Петр. З суфіксамі *-енька, -анька: Аркадзенька* Мінск; *Боранька* Брэст, Гродна; *Валеранька* Мінск; *Валодзенька* Бр. в. Драг., Гр. в. Гродна, Маг. в. Бабруйск, Мін. в. Барысаў, Мінск, Стаўбц.; *Васенька* Бр. в. Ів., Лун., Пін., Віц. в. Гар., Гр. в. Гродна, Масты, Маг. в. Касц., Мін. в. Мінск; *Віталенька* Мінск; *Віценька* Бр. в. Бар., Жаб., Кам., Гр. в. Воран., Гродна, Лід., Маст., Навагр., Мін. в. Мінск, Сл.; *Вованька* Гом. в. Рэч., Гр. в. Гродна; *Коленька* Бр. в. Бар., Брэст, Бяроз., Драг., Ів., Кам., Малар., Гр. в. Гродна, Маст., Маг. в. Бабруйск, Касц., Хоц., Мін. в. Барысаў, Мінск, Пух.; *Косценька* Бр. в. Стол., Віц. в., Гр. в. Кар.; *Мартынанька* Бр. в. Драг.; *Міколенька* Бр. в., Мінск, Пінск; *Міценька* Мінск; *Мішанька* Бр. в. Брэсц., Ганц., Докш., Кам., Кобр., Віц. в. Новалукомль, Гр. в. Гродна, Дзятл., Зэльв., Маг. в. Бабруйск, Касц., Мсціслаў, Хоцімск, Мін. в. Мінск, Слуцк; *Пеценька* Бр. в. Бар., Брэст, Драг., Кам., Малар., Стол., Віц. в. Арш., Гр. в. Гродна, Кар., Маг. в. Бабруйск, Гор., Мін. в. Барысаў, Бярэз., Мінск; *Пятрэнька* Бр. в. Драг., Лун.; *Славанька* Гр. в. Навагр.; *Сярожанька* Брэст, Віц. в. Лёзна, Уш., Гр. в. Воран., Гродна, Масты, Маг. в. Бабруйск, Касц., Мін. в. Барысаў, Маладзечна, Мінск, Стаўбц.; *Толенька* Бр. в. Бяроз., Драг., Жаб., Гр. в. Ваўкавыск, Кар., Мін. в. Мінск; *Федзенька* Бр. в. Бар., Брэст, Гр. в. Лід., Мін. в. Мінск; *Эдзенька* Бр. в. Бар., Кам.; *Юранька* Бр. в. Кам., Гр. в. Гродна, Маг. в. Касц.

З суфіксамі *-унка, -унька//-юнька* зафіксаваны імёны толькі ў размоўна-бытавой сферы: *Вітунька* (Віталій)

Гродна; *Зюнька* (Юзаф) Гродна; *Ігарунька* Бр. в. Кам.; *Пяцюнка* Бр. в. Івац.; *Славунька* Брэст; *Сяргунька* Бр. в. Лун., Гр. в. Гродна, Мін. в. Маладзечна, Мінск, Мядз.; *Фядзюнька* Баранавічы.

**Суфіксы -шанька, -ушанька, -сенька** ўключаюць па два суфіксальныя кампаненты — суфікс утваральнай асновы *(-ша, -уша, -сь)* і суфікс *-енька* (пасля шыпячых *-анька)*, пры дапамозе якога ад вытворнай асновы ўтворана імя другога дэрывацыйнага рада *(Алёша+анька, Андруша+анька, Алесь+енька)*. З разглядаемымі суфіксамі адзначаны толькі сучасныя размоўна-бытавыя імёны.

З суфіксам *-шанька* (-ш(а)+-анька): *Алёшанька* Бр. в. Брэст, Стол., Віц. в. Чашн., Гр. в. Воран., Гродна, Зэльв., Кар., Навагр., Маг. в. Бабруйск, Мін. в. Бярэз., Мінск; *Антошанька, Аркашанька* Мінск; *Гошанька (Грыгорый)* Брэст, (Ігар) Віц. в Уш.; *Лёшанька* Віц. в. Арш., Чашн., Гр. в. Гродна; *Пашанька* (Павел) Бр. в. Ганц., Мін. в. Мінск; *Рыгошанька* Бр. в. Бяроз.; *Сашанька* Бр. в. Баранавічы, Бяроз., Віц. в. Віцебск, Паст., Чашн., Гр. в. Гродна, Маг. в. Бабруйск, Мін. в. Маладзечна, Мінск; *Яшанька* (Якаў) Мін. в. Мінск, Сл.; з суфіксам *-ушанька (-уш(а)+-анька): Андрушанька* Ваўкавыск, Гродна; *Ванюшанька* Мінск; *Ігарушанька* Бр. в. Кам.; *Ільюшанька* Гр. в. Гродз., Навагр., Мінск; з суфіксам *-сенька: Алесенька* Гр. в. Скідаль; *Ясенька* Гр. в. Зэльв., Іўеў; Маст.

**Суфіксы -шунька, -сюнька** трохкампанентныя, склаліся ў выніку ўтварэння імён пры дапамозе суфікса *-ка* ад вытворных асноў з суфіксамі *-шуня* (-ш(а)+-ун(я)), *-сюня* (-сь+-ун(я)). Магчымы таксама той жа вынік пры дэрывацыі ад вытворных асноў з суфіксамі *-ш(а), -сь* пры дапамозе састаўнога суфікса *-унька*. З суфіксам *-шунька* адзначаны сучасныя размоўна-бытавыя імёны: *Грышунька* Мін. в. Дзярж.; *Сашунька* Бр. в. Драг., Гр. в. Навагр., Мін. в. Люб.; *Яшунька* (Якаў) Бр. в. Малар.; з суфіксам *-сюнька: Стасюнька* (Станіслаў) Гр. в. Ашм.

**Суфікс -урка, -шурка.** Суфікс *-урка* ўзнік у выніку спалучэння другаснага суфікса *-ко//-ка* з суфіксам *-ура* ўтваральнай асновы. Дэрываты з суфіксам *-урка* рэканструяваны па СБП: *Кузюрка* (Кузюркін)<Кузьма; *Сцяпурка* (Сцяпурка)<Сцяпан; *Фядурка* (Фядуркін)<

Фёдар; у сучасных запісах адзначаны *Дміцюрка* Бр. в. Драг.

Суфікс *-шурка* (-ш(а)+-ур(а)+-ка) сам выступае ў якасці імені *Шурка* (Аляксандр), якое ўтварылася шляхам паслядоўнага далучэння суфіксаў да ўсечанай асновы: *Аляксандр — Алякса+ша — Саша—Саш+ура— Сашур-ка — Шурка* ці *Саша — Саш+ура — Шура — Шурка.*

**Суфіксы -ська//-ска, -еська, -аська, -уська.** Суфікс *-ська//-ска* ўтварыўся ў выніку спалучэння другаснага суфікса *-ко/-ка* з суфіксам *-сь* вытворнай утваральнай асновы, а суфікс *-еська* — у выніку спалучэння *-ко/-ка* з суфіксам *-есь,* якім заканчвалася ўтваральная аснова.

З суфіксамі *-сько//-ська//-ско//-ска* ў XVI ст. адзначаны: *Мисько* (4)<Мись (Михаил) 1567 Ашм. п., Гр. п., Слон. п., *Миско* (8) 1528 Гр., 1567 Гр. п., Лід. п.; *Яска*< Ясь (Ян) 1582 Мін. п. Рэканструяваны па СБП: *Адаська* (Адаська)<Адась<Адам; *Алеська, Леська, Лясько* (Алеська, Леська, Лясько)<Алесь, *Лесь*<Александр; *Місько, Міско* (Місько, Міско)<Мись<Михаил; *Стасько, Стаско* (Стасько, Стаскоў)<Стась<Станислав; *Ясько, Яско* (Ясько, Яско)<Ясь<польск. Jan. Сучасныя размоўна-бытавыя формы: *Адаська* (Адам) Гр. в. Ашм., Навагр.; *Алеська* (Аляксандр) Віц. в. Бешанковічы, Гр. в. Скідаль, Мін. в. Мінск; *Антоська* (Антон) Бр. в. Бяроз., Пін., Гр. в. Астр., Воран., Іўеў., Лід., Мін. в. Віл., Мал., Мін., Мінск, Пух.; *Быська* (Збігнеў) Гр. в. Шчучын; *Гантосько* (Антон) Бр. в. Ів.; *Гжэська* (польск. Grześka) Гр. в. Астр.; *Іваська* (Іван) Мінск; *Ігнаська* (Ігнат) Гр. в. Ашм.; *Левська* (Аляксандр) Бр. в. Лун.; *Міхаська* (Міхаіл) Бр. в. Драг., Івац., Лях., Стол., Віц. в. Паст., Гр. в. Лід., Навагр., Маг. в. Бабруйск, Касц., Мсціслаў, Хоцім., Мін. в. Віл., Кл., Мінск, Мін., Нясв., Стаўбц.; *Рыгоська* (Рыгор) Бр. в. Ів.; *Рыська* (Рыгор) Віц. в. Брасл., Гр. в. Ашм., Іўеў.; *Стаська* (Станіслаў) Бр. в. Івац., Віц. в. Шарк., Гр. в. Астр., Ашм., Бераст., Лід., Свісл., Мін. в. Кап., Мінск, Стаўбц.; *Фядоська* (Фёдар) Гом. в. Лельч.; *Яська* (Ян) Бр. в. Жаб., Лях., Стол., Віц. в. Паст., Гр. в. Астр., Ашм., Гродна, Ліда, Свісл., Маг. в. Мсціслаў, Мін. в. Валож., Віл., Кап., Мядз.

Суфікс *-сь* пры ўтварэнні новых форм імён ад усечаных асноў спалучаўся з асновамі на галосныя гукі [е], [а], [о] (*Але-сь* ад Александр, *Міха-сь* ад Міхаіл,

*Анто-сь* ад Антон). З цягам часу гэтыя галосныя сталі кампанентам суфікса, у выніку чаго склаліся суфіксы *-есь, -ась, -ось, -усь,* якія ўтваралі імёны ад асноў на зычны гук. Ад такіх вытворных імён пры дапамозе другаснага суфікса *-ка* ўтвараліся імёны новага дэрывацыйнага рада, якія характарызуюцца састаўнымі, ці двухкампанентнымі, суфіксамі *-еська, -аська, -уська.* З суфіксам *-еська* па СБП рэканструявана імя *Марэська* (Марэська) ад Мартын ці Марк, Мар; з суфіксам *-аська* — сучаснае памяншальна-ласкальнае імя *Юраська* Мінск; з суфіксам *-уська* — сучасныя памяншальна-ласкальныя імёны: *Баруська* (Барыс) Мінск; *Вавуська* (Вова<Уладзімір) Маг. в. Клім.; *Генюська* (Генадзь) Віц. в. Паст., Гр. в. Шч.; *Геруська* (Герасім) Віц. в. Глыб.; *Лёнюська* (Леанід) Гр. в. Іўеў.; *Пятруська* Мін. в. Віл., Мінск, Мін.; *Ромуська* (Раман) Віц. в. Паст.; *Франуська* (Франц) Віц. в. Паст.

**Суфіксы -атка, -утка, -шутка.** Суфікс *-атка,* узнікшы на аснове спалучэння суфіксаў *-ат* і *-ка,* зараз утварае новыя імёны ад невытворных асноў. З суфіксам *-атка* адзначаны памяншальна-ласкальныя імёны: *Ванятка* Бр. в. Бар., Гом. в., Добр., Гр. в. Гродз., Гродна; *Васятка* Бр. в. Бар., Жаб., Стол., Гр. в. Гродна, Масты, Мін. в. Мін.; *Віцятка* Бр. в. Бар.; *Сергіятка* Гр. в. Свісл. Дэрываты з суфіксамі *-утка* ўзніклі ў выніку спалучэння другаснага суфікса *-ко//-ка* з суфіксам *-ута.*

З суфіксам *-утка* па СБП рэканструяваны: *Марутка* (Марутка)<Мартын ці Марк, Мар; *Машутка* (Машутка)<Мах<Епимах; *Мірутка* (Мірутка)<Мирон; *Пахутка* (Пахутка)<Пахута<Пахом; *Пацютка* (Пацютка)< Пац<Пацей<Ипатий; *Сямутка* (Сямуткін)<Семута< Сямён; *Сяргутка* (Сяргуткін)<Сергей; у запісах 1978—1980 гг. зафіксаваны сучасныя памяншальна-ласкальныя імёны: *Ванютка* Гр. в. Гродз., Мінск; *Васютка* Бр. в. Брэст, Драг., Гом. в. Б.-Каш., Гр. в. Кар., Навагр., Маг. в. Касц., Мін. в. Мінск, Стаўбц.; *Зютка* (Юзаф) Гр. в. Іўеў.; *Мішутка* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 34 фіксацыі ў 34 нас. пунктах.

Суфікс *-шутка* ўзнік у выніку ўтварэння ад вытворных імён на *-ш(а)* новых імён пры дапамозе суфікса *-утка: Грышутка* Бр. в. Пін., Стол., Мін. в. Сл.; *Сашутка* Віц. в. Гарад., Гом. в. Карм., Мін. в. Стаўбц.

## Суфікс *-ік*

Суфікс *-ік* ва ўсходнеславянскіх мовах прадуктыўны, ужываецца для ўтварэння назоўнікаў мужчынскага роду з памяншальна-ласкальным значэннем [9]. Да ліку прадуктыўных ён адносіцца і ў антрапаніміі. Праўда, у помніках пісьменнасці XVI—XVIII стст. зарэгістраваны ўсяго 2 формы ад 2 імён: *Коник* (Конон) 1746 Маг.; *Остик* (Остап) 1567 Бр. Па СБП рэканструяваны 85 форм ад 76 імён: *Акулік* (Акулік)<Акула<Акила; *Алік* (Алікевіч)<Александр; *Антонік* (Антонік)<Антон; *Апанасік, Афанасік* (Апанасік, Афанасік)<Апанас<Афанас; *Асіпік* (Асіпік)<Осип<Иосиф; *Базылік* (Базылік)<польск. Bazyli; *Бандзік, Бандык* (Бандзік, Бандык)<польск. Benedykt; *Барысік* (Барысік); *Боўтрык* (Боўтрык)<польск. Bartłomiej; *Вайцешык* (Вайцешык)<польск. Wojciech; *Валенцік* (Валенцік)<Валентин; *Владысік* (Владысік)<Владислав; *Власік* (Власік); *Войцік, Вуйцік* (Войцік, Вуйцік)<польск. Wojciech; *Гапонік* (Гапонік)<Гапон<Агафон; *Гаўрык, Гаўрылік* (Гаўрык, Гаўрылік)<Гаўрыла; *Герасік* (Герасік)<Герасим; *Глебік* (Глебік); *Грыгорык* (Грыгорык); *Гурык* (Гурыкаў)<Гурий; *Давыдзік* (Давыдзік); *Данік* (Данік)<Дан ці Даніла; *Дзмітрык* (Дзмітрычэнка); *Дзямянік* (Дзямянік); *Дзянісік* (Дзянісік); *Захарык* (Захарык); *Ігнацік* (Ігнацік); *Канонік* (Канонік)<Конон; *Каролік* (Каролік)<польск. Karol; *Карпік* (Карпік); *Кас'янік* (Кас'янік); *Кірык* (Кірык)<Кир ці Кирилл, магчыма кананічная форма *Кирик; Кондрык* (Кондрык)<Кандрат; *Косцік* (Косцік); *Крыштофік* (Крыштофік)<польск. Krzysztof; *Кузьмік* (Кузьмік)<Кузьма; *Купрык* (Купрык)<Купрэй; *Лаўрык* (Лаўрык)<Лавр ці Лаврентий; *Лаўрэнцік* (Лаўрэнцік); *Ладзік* (Ладзік)<Уладзімір; *Лукашык* (Лукашык)<польск. Łukasz; *Лявонік* (Лявонік); *Манулік* (Манулік)<Мануил; *Марчык* (Марчык)<Марк; *Матысік, Матыяс* з польск. Mateusz; *Мікулік* (Мікулік)<Микула<Миколай; *Міхайлік, Міхалік* (Міхайлік, Міхалік); *Нікіцік* (Нікіцік); *Нупрык* (Нупрык)<Онуфрий; *Панасік* (Панасік)<Панас<Афанасий; *Паўлік* (Паўлік); *Петрык* (Петрык); *Пракопік* (Пракопік); *Пуплік* (Пуплікаў)<Пуплий; *Пянкрацік* (Пянкрацік)<Пян-

[9] Грамматика русского языка, т. 1, с. 265; Граматыка беларускай мовы, т. 1, с. 95.

крат<Панкратий; *Радзік, Родзік* (Радзік, Родзік)<Родион; *Савік* (Савік)<Савва; *Савосік, Савосцік* (Савосік, Савосцік)<Севастиан; *Садзік* (Садзік)<Садок; *Сазонік* (Сазонік)<Сазон; *Саламонік* (Саламонік)<Саламон; *Самойлік* (Самойлік)<Самойла<Самуил; *Самсонік* (Самсонік)<Самсон; *Санік* (Санікевіч)<Саня<Александр; *Селявонік* (Селявонік)<Селивон; *Сідорык* (Сідорык); *Сілік* (Сілік)<Сила; *Сосік* (Сосік)<Сосий; *Станік* (Станік)<Станислав; *Супрык* (Супрык)<Сафроний; *Тарасік* (Тарасік); *Трафімік* (Трафімік); *Уласік* (Уласік)<Улас; *Фацік* (Фацік)<польск. Bonifacy; *Філік, Філонік* (Філічонак, Філонік)<Филимон; *Фядосік* (Фядосік); *Хартонік* (Хартонік)<Харитон; *Цімошык* (Цімошык)<Тимофей; *Юдзік* (Юдзік)<Юда; *Юзік* (Юзік)<Юзя з польск. Józef; *Юнік* (Юнік)<Юний; *Якубік* (Якубік)<Якуб з польск. Jakub; *Ярмолік* (Ярмолік)<Ермолай; *Яромік* (Яромік)<Еремей; *Ярошык* (Ярошык)<Ерофей; *Яўгенік* (Яўгенік); *Яфімік* (Яфімік).

У сучаснай моўнай практыцы, як паказваюць запісы 1978—1980 гг., размоўна-бытавыя імёны з суфіксам *-ік* выкарыстоўваюцца вельмі шырока. Засведчана 148 варыянтаў, з якіх 49 ад поўных асноў, 80 ад асноў, усечаных у канцавой частцы, і 19 ад асноў, усечаных у пачатковай частцы.

Ад поўных асноў утвораны: *Адвардзік* (Эдуард) Мін. в.; *Аляксандрык* Гом. в. Акц., Петр.; *Ананік* Бр. в. Кобр.; *Анатолік* Бр. в. Драг., Мін. в. Мінск; *Антолік* (Анатолій) Бр. в. Драг.; *Антонік* Бр. в. Бар., Драг., Кобр., Лун., Гр. в. Бераст., Мін. в. Пух.; *Аркадзік* Бр. в. Бар., Брэсц., Бяроз., Малар., Гр. в. Бераст., Зэльв., Лід., Маст., Навагр., Маг. в. Мсц., Мін. в. Барысаў, Мядз., Пух.; *Арсенік* Гр. в. Навагр.; *Артурык* Мін. в. Барысаў, Мінск; *Арцёмік* Бр. в. Драг.; *Астапік* Бр. в. Пін.; *Багданік* Бр. в. Лях., Гр. в. Гродна; *Барысік* Бр. в. Івац., Кобр.; *Валерык* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 32 фіксацыі ў 31 нас. пункце; *Васілік* Бр. в. Пін., Гом. в. Гом., Жлоб., Гр. в. Кар.; *Вінадзік* (Генадзь) Гр. в. Бераст.; *Віталік* Бр. в. Бар., Жаб., Івац., Кам., Пін., Пруж., Стол., Віц. в. Віцебск, Шум., Гр. в. Астр., Гродна, Навагр., Маг. в. Клічаў, Мсціслаў, Мін. в. Віл., Люб., Мінск, Салігор.; *Гінадзік* Мін. в. Дзярж.; *Данілік* Бр. в. Івац.; *Дзянісік* Бр. в. Бар., Івац., Маг. в. Касц., Мін. в. Слуцк; *Дмітрык* Бр. в. Ів., Кам., Кобр.; *Захарык* Мінск;

*Змітрык* Гр. в. Кар., Мін. в. Кап.; *Іванік* Бр. в. Бяроз., Ів.; *Ігнацік* Гом. в. Гом., Мін. в. Кап.; *Кандрацік* Бр. в. Малар.; *Каролік* Гр. в. Астр.; *Клімік* Бр. в. Жаб.; *Лявонік* Бр. в. Лях.; *Лёвік* Гр. в. Ваўкавыск; *Ляксандрык* Бр. в. Стол.; *Максімік* Бр. в. Кобр.; *Мітрык* Бр. в. Стол.; *Міфодзік* Гр. в. Маст.; *Міхалік* Бр. в. Бар., Стол.; *Панасік* Бр. в. Малар.; *Паўлік* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 65 фіксацый у 61 нас. пункце; *Петрык* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 31 фіксацыя ў 30 нас. пунктах; *Пракопік* Бр. в. Ів.; *Раманік* Бр. в. Ів., Мін. в. Віл., Мін.; *Роберцік* Мінск; *Русланік* Бр. в. Драг., Гр. в. Гродна; *Рыгорык* Бр. в. Кам., Мін. в. Кап.; *Сцяпанік* Бр. в. Кобр.; *Сымонік* Бр. в. Кобр.; *Тарасік* Бр. в. Стол., Маг. в. Бабруйск; *Фядосік* (Фядос) Маг. в. Кір.; *Юрык* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 33 фіксацыі ў 29 нас. пунктах; *Янік* Бр. в. Бар., Ів., Кам., Малар.

Ад асноў, усечаных у канцавой частцы, утвораны: *Адзік* (Адам) Бр. в. Брэст, Кам.; *Алік* (Аляксандр) Бр. в. Ганц., Віц. в. Паст., Гр. в. Астр., Лід., Маст., Мін. в. Стаўбц.; (Аляксей) Бр. в. Драг., Пін.; *Андрык* (Андрэй) Бр. в. Ів.; *Анік* (Ананій) Гр. в. Навагр.; *Антык* (Антон) Бр. в. Кам., Стол., Віц. в.; *Анцік* (Антон) Бр. в. Лях., Мін. в. Дзярж., Слуцк; *Арык* (Артур) Гр. в. Слонім, Мін. в. Мінск; *Бладзік* (Уладзімір) Мін. в. Дзярж.; *Бодзік* (Багдан) Гр. в. Гродз.; *Болік* (Баляслаў) Бр. в. Кобр., Гом. в. Жытк.; *Бонік* (Баніфацый) Віц. в., Мін. в. Стаўбц.; *Борык* Бр. в. Кам., Гр. в. Гродна, Маг. в. Горкі, Мін. в. Люб., Мінск, Нясв.; *Вадзік* Бр. в. Бар., Бр., Драг., Кам., Віц. в. Віцебск, Уш., Гр. в. Гродна, Навагр., Маг. в. Бабруйск, Маг., Мін. в. Мінск, Мядз., Нясв.; *Валік* (Валянцін) — ва ўсіх абласцях рэспублікі 39 фіксацый у 37 нас. пунктах; (Валерый) Бр. в. Ів., Мін. в. Мінск, Чэрв.; *Валодзік* Бр. в. Бар., Івац., Кам., Кобр., Лях., Віц. в. Орша, Глыб., Гом. в. Лоеў., Гр. в. Дзятл., Навагр., Мін. в. Кап., Мінск, Мін., Нясв., Пух., Сл., Стаўбц.; *Ванік* Бр. в. Брэст, Драг., Івац., Кам., Кобр., Лун., Віц. в. Лёзна, Гом. в. Б.-Каш., Жытк., Гр. в. Гродз., Зэльв., Маст., Навагр., Мін. в. Мінск, Нясв., Сл.; *Васік* Бр. в. Драг., Жаб., Івац., Кам., Кобр., Стол., Гом. в. Жытк., Петр.; *Вацік* (Вячаслаў) Бр. в. Лях., Стол., Гр. в., Маг. в. Гор., Мін. в. Кап., Люб.; *Віцік* (Віктар) Бр. в. Брэст, Бяроз., Кам., Лях., Гом. в. Рэч., Гр. в. Гродна, Кар., Маст., Навагр., Мін. в. Віл., Дзярж.,

Мінск, Пух., Сл.; (Віталій) Мін. в. Нясв.; *Вячык* (Вячаслаў) Бр. в. Драг., Ів.; *Гантык* (Антон) Бр. в. Ів.; *Гардзік* (Гардзей) Бр. в. Ів.; *Гаўрык* (Гаўрыла) Бр. в. Брэст, Віц. в. Брасл.; *Генік* (Генадзій) Бр. в. Бар., Драг., Жаб., Ів., Івац., Кам., Лях., Малар., Віц. в. Віцебск, Докш., Гом. в. Хойн., Гр. в. Гродна, Зэльв., Маст., Навагр., Маг. в. Хоцімск, Мін. в. Бярэз., Кап., Нясв., Пух., Слуцк; *Герык* Віц. в. Шарк.; *Гэндрык* (Андрэй) Бр. в. Жаб.; *Гэнік* (Генадзь) Мін. в. Стаўбц.; *Данік* (Даніла) Бр. в. Івац., Кобр., Гр. в. Гродна, Мін. в. Мінск, Мядз., Сл.; *Донік* (Даніла) Мін. в. Віл., Мінск, Мін.; *Ёзік* (Юзаф) Бр. в. Івац., Пруж., Гр. в. Бераст., Гродз., Зэльв., Свісл., Шч., Мін. в. Нясв.; *Ёсік* (Іосіф) Мін. в. Сл.; *Жоржык* Бр. в. Бар., Малар., Пін., Віц. в. Глыб., Леп., Міёр., Шарк., Гр. в. Кар., Навагр.; *Жорык* Бр. в. Бар., Брэст, Малар., Пін., Пруж., Стол., Гом. в. Лоеў., Гр. в. Дзятл., Кар., Навагр., Маг. в. Бабр., Мін. в. Мінск, Нясв., Пух.; *Жэнік* (Генадзій) Віц. в. Пол., Мін. в. Мядз.; *Зэнік* (Зянон) Віц. в. Паст.; *Імполік* (Іпаліт) Віц. в. Паст.; *Казік* (Казімер) Бр. в. Бар., Брэсц., Жаб., Лях., Стол., Віц. в. Верхнядзвінск, Глыб., Докш., Паст., Шарк., Гом. в. Жытк., Гр. в. Ашм., Бераст., Гродз., Гродна, Лід., Навагр., Шч., Мін. в. Мінск, Нясв., Пух., Стаўбц.; *Косцік* (Канстанцін) Бр. в. Бар., Бяроз., Драг., Івац. Лун., Лях., Малар., Пін., Пруж., Стол., Віц. в. Докш., Паст., Гом. в. Акц., Браг., Гом., Добр., Петр., Хойн., Чач., Гр. в. Дзятл., Зэльв., Кар., Лід., Навагр., Шч.; *Ладзік* (Уладзімір) Бр. в. Стол., Гр. в. Лід., Мін. в. Пух.; *Лаўрык* (Лаўрын) Віц. в. Багуш.; *Лёвік* (Лявон) Мін. в. Кап.; *Лёнік* (Леанід) Бр. в. Бар, Бяроз., Драг., Івац., Кам., Кобр., Лях., Пін., Пруж., Стол., Віц. в. Бешанковічы, Докш., Пол., Паст., Талачын, Гом. в. Жытк., Бераст., Гродз., Гродна, Дзятл., Кар., Лід., Ліда, Маст., Навагр., Шч.; *Лёнік* Бр. в. Бар., Бяроз., Пруж.; *Максік* (Максім) Бр. в. Брэсц., Лях.; *Марык* (Марк) Гр. в. Навагр.; *Марык* (Мар'ян) Маг. в. Мсц.; *Мечык* (Мечыслаў) Віц. в. Міёр., Паст., Шарк., Гр. в. Іўеў., Лід., Мін. в. Мядз., Стаўбц.; *Мосік* (Майсей) Бр. в. Лун.; *Олік* (Аляксандр) Віц. в. Докш.; *Пецік* (Петр) Бр. в. Жаб., Лях., Стол., Ів., Гр. в. Гродна, Маст., Маг. в. Клім., Мсц., Мсціслаў, Мін. в. Кл., Уздз.; *Радзік* (Радзівон і Радзіслаў) Мінск; *Родзік* (Радзівон) Бр. в. Драг., Мінск; (Радзіслаў) Мінск; *Ромік* (Раман) Бр. в. Брэст, Пін., Гр. в. Гродна, Кар.,

Маг. в. Бабруйск, Касц., Мсц., Мін. в. Мінск, Мін.; *Росік* (Расціслаў) Гр. в. Дзятл.; *Росцік* (Расціслаў) Бр. в. Бар., Жаб., Кам., Лях., Малар., Пін., Віц. в. Шарк., Мін. в. Мядз., Сл.; *Русік* (Руслан) Гом. в. Жытк., Гр. в. Кар., Маг. в. Гор.; *Свецік* (Святаслаў) Гр. в. Кар.; *Сержык* Бр. в. Бяроз., Івац., Кам., Віц. в. Лёзна, Гом. в. Карм., Гр. в. Гродна, Масты, Шч., Маг. в. Краснаполле, Хоцімск, Мін. в. Мінск, Стаўбц.; *Сцёпік* Бр. в. Бяроз., Драг., Гр. в. Гродз., Мінск; *Сярожык* Бр. в. Бар., Ів., Івац., Стол., Гом. в. Жытк., Гр. в. Бераст., Кар., Маг. в. Мсц., Мін. в. Мінск, Нясв., Стаўбц.; *Тадзік* Бр. в. Бар., Кам., Пруж., Віц. в. Брасл., Паст., Гр. в. Гродз., Гродна, Зэльв., Лід., Мядз., Свісл., Шч., Мін. в. Сл., Стаўбц.; *Томік* (Тамаш) Гр. в. Навагр.; *Уладзік* (Уладзімір) Бр. в. Бар., Лях., Пін., Віц. в. Чашн., Гом. в. Акц., Б.-Каш., Жытк., Гр. в. Ашм., Гродна, Гродз., Дзятл., Кар., Навагр., Паст., Маг. в. Мсціслаў, Мсц., Мін. в. Нясв., Сл., Стаўбц.; (Уладзіслаў) Бр. в. Лях., Гр. в. Кар., Мін. в. Люб., Мінск, Сл.; *Федзік* (Фёдар) Бр. в. Бар., Ганц., Малар., Гр. в. Гродз., Навагр.; *Фэлік* (Фелікс) Гр. в. Зэльв.; *Харык* (Харытон) Бр. в. Стол.; *Хведзік* (Фёдар) Бр. в. Кам.; *Хэндрык* (Андрэй) Бр. в. Кам.; *Цэсік* (Часлаў) Бр. в. Кам.; *Эдзік* (Эдуард) — ва ўсіх абласцях рэспублікі 29 фіксацый у 27 нас. пунктах; *Энджык* (польск Andrzej) Бр. в. Ів.; *Юзік* (Юзаф, Іосіф) — ва ўсіх абласцях рэспублікі 91 фіксацыя ў 87 нас. пунктах; *Юлік* (Юльян) Бр. в. Драг., Кам., Лун., Лях., Малар., Віц. в. Докш., Шарк., Гр. в. Дзятл., Мін. в. Кап., Нясв.; *Яндрык* (Андрэй) Бр. в. Івац.

Ад асноў, усечаных у пачатковай частцы, утвораны *Гарык* (Ігар) Віц. в. Пол., Гом. в. Гом., Мін. в. Мінск, Саліг., Слуцк; *Генік* (Яўгеній) Віц. в. Докш., Гр. в. Кар., Маст.; *Жэнік* (Яўгеній) Бр. в. Брэст, Жаб., Івац., Малар., Пін., Стол., Віц. в. Глыб., Докш., Леп., Гр. в. Маст., Навагр., Мін. в. Кап., Кл., Пух., Сл.; *Кадзік* (Аркадзь) Бр. в. Драг., Пін.; *Колік* Бр. в. Бар., Брэст, Бяроз., Драг., Івац., Кам., Лях., Малар., Пін., Гом. в. Жытк., Гр. в. Бераст., Гродз., Дзятл., Зэльв., Кар., Маст., Навагр., Шч., Мін. в. Кап., Мінск, Нясв., Сл., Уздз.; *Полік* (Апалінарый) Мін. в. Нясв.; *Санік* (Аляксандр) Бр. в. Ів.; *Славік* (Вячаслаў) — ва ўсіх абласцях рэспублікі 41 фіксацыя ў 38 нас. пунктах; (Расціслаў) Бр. в. Стол.; (Святаслаў) Гр. в. Навагр., Маг. в. Касц.; (Ста-

нíслаў) Бр. в. Баранавічы, Гом. в. Б.-Каш., Віц. в. Міёр., Маг. в. Гор., Мін. в. Лаг., Мінск; (Уладзіслаў) Бр. в. Баранавічы; (Яраслаў) Гом. в. Жытк., Мін. в. Мінск; *Талік* (Віталій) Бр. в. Івац.; *Толік* (Анатоль) — ва ўсіх абласцях рэспублікі 104 фіксацыі ў 86 нас. пунктах; *Тонік* (Антон) Бр. в. Бяроз., Кам., Лях., Стол., Гр. в. Ашм., Дзятл., Лід., Маг. в. Крычаў, Мін. в. Валож., Кап., Мінск, Пух., Салігор., Слуцк; *Ходзік* (Мефодзій) Бр. в. Ганц.; *Чэсік* (Вячаслаў) Гом. в. Лельч., Гр. в. Бераст., Гродна, Лід., Мін. в. Мінск; (Часлаў) Бр. в. Бар., Кам., Віц. в. Гарад., Докш., Шарк., Гр. в. Гродз., Дзятл., Навагр., Шч., Мін. в. Стаўбц.

Імёны з суфіксам *-ік,* утвораныя ад поўнай асновы імені і ад асноў з усечанай ненаціскной часткай, захоўваюць месца націску ўтваральных асноў, а ў імёнах, утвораных ад асноў з усечанай націскной часткай, націск размяшчаецца на складзе перад суфіксам.

Суфікс *-ік* выкарыстоўваецца ў сучасных букавінскіх гаворках для ўтварэння памяншальна-ласкальных імён ад імён, аснова якіх заканчваецца на два зычныя гукі: *Павлик, Петрик, Олексик, Михайлик* і інш.[10]; а ў закарпацкіх гаворках — і ад асноў, што заканчваюцца адным зычным: *Василик, Якубик, Михалик* і інш.[11]

Другасны суфікс *-ик* разам з суфіксам (ці суфіксамі) вытворнай асновы ўтварае складаныя суфіксы *-елик, -олик, -ник, -оник, -сик, -асик, -усик, -уцик, -шик//-шык, -ашик//-ашык, -ушик//-ушык, -чык, -учик//-учык, -шчик//-шчык, -ашчик//-ашчык, -ошчик//-ошчык, -ешчик//-ешчык, -ушчик//-ушчык, -нчик//-нчык, -ончик//-ончык, -енчик//-енчык, -инчик//-инчык, -унчик//-унчык, -льчик//-льчык, -альчик//-альчык, -ульчик//-ульчык, -утчик//-утчык, -ейчик//-ейчык.*

**Суфікс -чык** узнік у выніку спалучэння другаснага суфікса *-ік* з вытворнымі ўтваральнымі асновамі, якія заканчваюцца суфіксамі *-ка, -ік.* У старых пісьмовых крыніцах, абследаваных пры падрыхтоўцы працы, імёны з суфіксамі *-чык* не выяўлены. Затое прадуктыўныя

---

[10] Лук'янюк К. М. Словотвір здрібніло-пестливих власних імен у буковинських говірках. Міжвузівська наукова конференція з питань укладання обласних діалектологічних словників. Тези доповідей.— Чернівці, 1960, с. 46, 47.

[11] Чучка П. П. Словотвір закарпатьукраїнських чоловічих імен, с. 30.

такія дэрываты ў сучасных беларускіх прозвішчах. Па СБП рэканструююцца 183 варыянты ад поўных і ўсечаных асноў: *Абакунчык* (Абакунчык) < Аввакум; *Абрамчык* (Абрамчык); *Агейчык* (Агейчык); *Адакімчык* (Адакімчык) < Евдоким; *Адамчык* (Адамчык); *Адашчык* (Адашчык) < Адам; *Аксенчык, Аксёнчык* (Аксенчык, Аксёнчык) < Авксентий; *Алісейчык* (Алісейчык) < Елисей; *Алісімчык* (Алісімчык) < Онисим; *Аляксейчык* (Аляксейчык); *Амбражэйчык* (Амбражэйчык) < польск. Ambroży; *Амяльянчык* (Амяльянчык); *Анапрэйчык* (Анапрэйчык) < Онуфрий; *Андрончык* (Андрончык) < Андроник; *Андрэйчык* (Андрэйчык); *Анікейчык* (Анікейчык) < Оникей < Иоанникий; *Анішчык* (Анішчык) < Онисий ці Онисим; *Антончык* (Антончык); *Апанасчык* (Апанасчык) < Апанас < < Афанасий; *Арцёмчык* (Арцёмчык); *Асіпчык* (Асіпчык) < Осип < Иосиф; *Астапчык* (Астапчык) < Остап < Евстафий; *Атапчык* (Атапчык) < Отап < Евстафий; *Аўгустынчык* (Аўгустынчык); *Аўдзейчык* (Аўдзейчык); *Аўрамчык* (Аўрамчык); *Аўсейчык* (Аўсейчык) < Евсевий; *Ахрэмчык* (Ахрэмчык) < Ефрем; *Багданчык* (Багданчык); *Базыльчык* (Базыльчык) < < польск. Bazyli; *Бакунчык* < Абакум < Аввакум; *Вайцешчык* (Вайцешчык) < польск. Wojciech; *Вакульчык* (Вакульчык) < Вакула < Вукол; *Вальчык* (Вальчык) < Валентин; *Варывончык* (Варывончык) < Варивон < Илларион; *Васільчык* (Васільчык); *Верамейчык* (Верамейчык) < Веремей < Иеремия; *Вікторчык* (Вікторчык); *Габрыельчык* (Габрыельчык) < польск. Gabriel; *Гапончык* (Гапончык) < Гапон < Агафон; *Гардзейчык* (Гардзейчык) < Гордий; *Гаўрыльчык* (Гаўрыльчык) < Гаврило < Гавриил; *Герасімчык* (Герасімчык); *Давідчык, Давыдчык* (Давідчык, Давыдчык); *Данільчык* (Данільчык) < Данило < Даниил; *Дарафейчык* (Дарафейчык); *Дзямідчык* (Дзямідчык); *Дзям'янчык* (Дзям'янчык); *Дзянішчык* (Дзянішчык) < Денис < Дионисий; *Емяльянчык* (Емяльянчык); *Ерамейчык* (Ерамейчык) < Иеремий, Иеремия; *Ермалайчык* (Ермалайчык); *Есіпчык* (Есіпчык) < Есип < Иосиф; *Зеньчык* (Зеньчык) < Зенон; *Іванчык* (Іванчык); *Ісайчык* (Ісайчык); *Іўчык* (Іўчык) < Ивко < Иов; *Казімірчык, Казімерчык* (Казімірчык) < польск. Kazimierz; *Кандратчык* (Кандратчык); *Канон-*

*чык* (Канончык); *Карнейчык* (Карнейчык) < Корней < Корнилий; *Карольчык* (Карольчык) < польск. Karol; *Касьянчык* (Касьянчык) < Кассиан; *Кірыльчык* (Кірыльчык); *Кірэйчык* (Кірэйчык) < Кир; *Клімчык* (Клімчык) < Клим < Климент; *Куземчык* (Куземчык) < Кузьма < Косма; *Купрыянчык* (Купрыянчык) < Куприян < Киприан; *Курыльчык* (Курыльчык) < Курило < Кирилл; *Лаворчык* (Лаворчык) < <Лавор < Лавр; *Лазарчык* (Лазарчык); *Леўчык* (Леўчык) < Лев < Леонт ці Леонтий; *Лук'янчык* (Лук'янчык) < Лукиан; *Лявончык, Ляончык* (Лявончык, Ляончык) < Леонт ці Леонтий; *Майсейчык* (Майсейчык); *Макарчык* (Макарчык); *Макейчык* (Макейчык) < Мокий; *Максімчык* (Максімчык); *Малафейчык* (Малафейчык) < Малафей < Малахия; *Мамончык* (Мамончык) < Мамонт; *Манчык* (Манчык) < Манyил; *Мартынчык, Марцінчык* (Мартынчык, Марцінчык); *Матвейчык, Мацвейчык* (Матвейчык, Мацвейчык); *Машчык* (Машчык) < Мах < Епимах; *Мікалайчык* (Мікалайчык); *Мікульчык* (Мікульчык) < Микула < Николай; *Міронччык* (Міронччык); *Міхейчык* (Міхейчык); *Навумчык, Наумчык* (Навумчык, Наумчык); *Назарчык* (Назарчык); *Нарывончык* (Нарывончык) < Наривон < <Варивон < Илларион; *Нікалайчык* (Нікалайчык); *Ніканчык, Нікончык* (Ніканчык, Нікончык); *Осіпчык* (Осіпчык) < Осип < Иосиф; *Палуянчык* (Палуянчык) < Полуян < Полиен; *Панашчык* (Панашчык) < Панас < Апанас < Афанасий; *Парамончык* (Парамончык); *Парфёнчык* (Парфёнчык); *Патапчык* (Патапчык); *Пахомчык* (Пахомчык); *Піліпчык* (Піліпчык)< Пилип<Филипп; *Пракопчык* (Пракопчык); *Прохарчык* (Прохарчык); *Радзівончык* (Радзівончык) < Родион; *Савульчык* (Савульчык) < Савул <Савел; *Сазончык* (Сазончык); *Сайчык* (Сайчык) < Сай < Исаия; *Салівончык* (Салівончык) < Саливон < Силван; *Самончык* (Самончык) < Самон < Сампсон; *Самсончык* (Самсончык); *Саўчык* (Саўчык) < Савва; *Сафончык, Сахончык, Сапончык* (Сафончык, Сахончык, Сапончык) < Сафон, Сахон, Сапон < Софония; *Свірыдчык* (Свірыдчык) < Свирид < Спиридон; *Севасцьянчык, Севасцянчык* (Севасцьянчык, Севасцянчык); *Селівончык, Селявончык* (Селівончык, Селявончык)<Силван; *Семенчык, Сёмчык* (Семенчык, Сёмчык); *Сідорчык* (Сідорчык)<

Исидор; *Сілівончык* (Сілівончык) < Сілівон < Силван; *Сіманчык* (Сіманчык) < Симон; *Станчык* (Станчык) < польск. Stanisław; *Супрунчык* (Супрунчык) < Супрун < Софроний; *Сымончык* (Сымончык) < Симон; *Сяленчык* (Сяленчык) < Селений; *Сямёнчык* (Сямёнчык); *Сяргейчык* (Сяргейчык); *Трафімчык* (Трафімчык); *Уласчык* (Уласчык) < Улас < Власий; *Фалейчык* (Фалейчык) < Фалей < Фалалей; *Федчык* (Федчык) < Федор < Феодор; *Філёнчык, Філончык, Філімончык* (Філёнчык, Філончык, Філімончык); *Філіпчык* (Філіпчык); *Фядорчык* (Фядорчык); *Халімончык* (Халімончык) < Халимон < Филимон; *Хартончык, Харытончык* (Хартончык, Харытончык); *Хведчык* (Хведчык) < Хведор < Феодор; *Хілімончык, Хільчык* (Хілімончык, Хільчык) < Хілімон < Филимон; *Цімошчык* (Цімошчык) < Тимох < Тимофей; *Ціханчык* (Ціханчык); *Цупрыянчык* (Цупрыянчык) < Цуприян < Киприан; *Шуманчык, Шыманчык, Шымчык* (Шуманчык, Шыманчык, Шымчык) < польск. Szymon; *Юрчык* (Юрчык); *Язэпчык* < Язеп < Езоф з польск. Józef; *Якаўчык* (Якаўчык); *Якімчык* (Якімчык) < Яким < Иоаким; *Якубчык* (Якубчык) < польск. Jakob; *Янчык* (Янчык) < польск. Jan; *Ярмольчык* (Ярмольчык) < Ермолай; *Ярэмчык* (Ярэмчык) < Иеремия; *Яўменчык* (Яўменчык); *Яўсейчык* (Яўсейчык)<Евсевий; *Яўстратчык* (Яўстратчык); *Яфімчык, Яўхімчык* (Яфімчык, Яўхімчык) < Ефим, Евхим<Евфимий; *Яфрэмчык* (Яфрэмчык); *Яхімчык* (Яхімчык) < Ехим < Евфимий.

Матэрыял, сабраны ў 1978—1980 гг., паказвае, што імёны з суфіксам *-чык* у размоўна-бытавых умовах ужываюцца даволі часта — адзначана 48 варыянтаў.

Ад поўных асноў засведчана 34 варыянты: *Адамчык* Бр. в. Кам., Кобр., Пруж., Стол., Гом. в. Акц., Жытк., Лельч., Хойн., Гр. в. Лід., Маг. в. Чэрык.; *Аляксейчык* Маг. в. Касц., Мін. в. Мінск; *Амялянчык* Бр. в. Кобр.; *Антончык* Гр. в. Смарг.; *Ануфрэйчык* Гр. в. Навагр.; *Арсеньчык* Бр. в. Пруж.; *Артурчык* Мін. в. Барысаў, Мінск; *Арцёмчык* Бр. в. Драг., Пруж.; *Астапчык* Бр. в. Бар., Пін., Пруж.; *Аўдзейчык* Бр. в. Пруж.; *Багданчык* Бр. в. Жаб., Пруж., Мін. в. Мінск; *Валерчык* Бр. в. Кам., Гр. в. Ліда, Мін. в. Мінск; *Вітальчык* Бр. в. Івац., Мін. в. Мінск; *Гантончык* (Антон) Бр. в. Драг., Стол.; *Дзямянчык* Мін. в. Мінск; *Захарчык* Бр. в. Бар., Мін. в.

Мін., Слуцк; *Іванчык* Бр. в. Драг., Стол., Гом. в. Ветк., Лельч., Петр., Рэч., Мін. в. Мядз.; *Іваньчык* Гом. в. Ельск., Хойн., Гр. в. Шч.; *Майсейчык* Бр. в. Пруж.; *Максімчык* Бр. в. Кобр.; *Мартынчык* Бр. в. Драг.; *Мікалайчык* Бр. в. Ганц., Драг., Маг. в. Мсціслаў, Мін. в. Стаўбц.; *Навумчык* Бр. в. Бар., Малар.; *Нікадзімчык* Бр. в. Пруж.; *Патапчык* Бр. в. Драг.; *Піліпчык* Бр. в. Кобр.; *Пракопчык* Бр. в. Бар., Івац., Кобр.; *Раманчык* Бр. в. Драг., Малар., Маг. в. Касц.; *Русланчык* Бр. в. Брэст, Драг., Ів., Мал., Пін., Гом. в. Жытк., Гр. в. Гродз., Кар., Лід., Ліда; *Сцяпанчык* Бр. в. Лях.; Мінск; *Сяргейчык* Бр. в. Кобр.; *Трахімчык* Бр. в. Кобр.; *Юрчык* Гр. в. Гродна, Гродз., Маг. в. Мсц., Мін. в. Мінск; *Янчык* Бр. в. Пін., Віц. в. Пол.

Ад усечаных асноў зафіксавана 14 варыянтаў: *Ваньчык* Гродна; *Генчык* Бр. в. Івац., Гр. в. Гродна, Мін. в. Мінск; *Дзімчык* Бр. в. Кам., Мін. в. Мінск; *Жэньчык* Віц. в. Лёзна; *Кольчык* Віц. в. Лёзна; *Лёньчык* Бр. в. Жаб., Ів., Малар., Віц. в. Лёзна; *Мішчык* Бр. в. Драг.; *Ромчык* (Раман) Бр. в. Ів., Гр. в. Навагр., Мін. в. Мін.; *Саньчык* Бр. в. Стол., Гродна; *Сёмчык* Бр. в. Стол.; *Слаўчык* (Вячаслаў) Мінск; *Сцёпчык* Бр. в. Пін., Мінск; *Уладзімчык* Мінск; *Войчык* Брэст, Гродна, Мін. в. Барысаў, Маладзечна, Мінск, Слуцк.

**Суфікс -учык** узнік у выніку спалучэння другаснага суфікса *-ик* з суфіксам утваральнай асновы *-ук*. Па СБП рэканструяваны формы: *Карпучык* (Карпучык) < Карпук < Карп; *Касцючык* (Касцючык) < Костюк < Константин; *Матучык* (Матучык) < Матук < Матфей; *Паўлючык* (Паўлючык) < Павлюк < Павел; *Пятручык* (Пятручык) < Петрук < Петр; сучаснае *Мішучык* Бр. в. Драг.

**Суфіксы -шчык, -ушчык.** Імёны з такімі суфіксамі ўтвараюцца ў тры этапы паслядоўным далучэннем суфіксаў: першага *(-(у)сь, -(у)х(а), -(у)ш(а))* да невытворнай асновы, другога *(-ка, -ько)* — да вытворнай і трэцяга *(-ик)* — да вытворнай з двума суфіксамі.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Адам | Адась | Адаська | Адасьчык//Адашчык |
| | Адах | Адашка | Адашчык |
| | Адаш | | |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Пётр | Пятрусь | Пятруська | Пятрусьчык//Пятрушчык |
| | Пятрух | Пятрушка | Пятрушчык |
| | Пятруша | | |

Суфікс *-чык* (гл. с. 207) можа ўтвараць імёны з суфіксамі *-шчык, -ушчык* непасрэдна ад вытворных імён першага дэрывацыйнага рада:

| | | |
|---|---|---|
| Адам | Адась<br>Адах<br>Адаш | Адасьчык//Адашчык<br>Адашчык |
| Пётр | Пятрусь<br>Пятруха<br>Пятруша | Пятрусьчык//Пятрушчык<br>Пятрушчык |

З суфіксам *-шчык* па СБП рэканструяваны імёны: *Адашчык* (Адашчык) < Адасько, Адашко, Адась, Адах, Адаш < Адам; *Амяляшчык* (Амяляшчык) < Омеляшко, Омеляша < Емельян; *Кіршчык* (Кіршчык) < Киршко, Кирша < Кир; *Мялешчык* (Мялешчык) < Мелешко, Мелех < Емельян; *Самушчык* (Самушчык) < Самусько, Самусь < Самуил.

З суфіксам *-ушчык* рэканструяваны: *Валюшчык* (Валюшчык) < Валюшка, Валюша < Валентин; *Гаўрушчык* (Гаўрушчык) < Гаврушко, Гаврусько, Гавруха, Гавруша, Гаврусь < Гавриил; *Лаўрушчык* (Лаўрушчык) < Лаврушка, Лавруха, Лавруша < Лавр ці Лаврентий; *Паўлюшчык* (Паўлюшчык) < Павлюшка, Павлюха, Павлюша < Павел; *Пятрушчык* (Пятрушчык) < Петрушко, Петруська, Петруха, Петруша, Петрусь < Петр; *Савушчык* (Савушчык) < Савушка < Савва. У сучаснай размоўна-бытавой практыцы адзначана толькі адно імя — *Андрушчык* Мінск.

**Суфіксы -ейчык, -айчык, -льчык, -ульчык, -нчык, -ньчык, -енчык, -інчык, -ончык -анчык, -унчык, -уньчык, -шуньчык,** узнікшыя ў выніку спалучэння ў працэсе дэрывацыі трох (а суфікс *-шуньчык* — чатырох) суфіксальных кампанентаў, малапрадуктыўныя. Агульная іх прыкмета — заключная частка *-чык.*

З суфіксам *-ейчык* (-ей+-ко+-ик) вядомы толькі рэканструяваныя па СБП варыянты: *Іванейчык* (Іванейчык) < Иванейко < Иван; *Кірэйчык* (Кірэйчык) < Кирейко, Кирей < Кир; *Купрэйчык* (Купрэйчык) < Купрэйко, Купрей < Киприан; *Мікейчык* (Мікейчык) < Микейко < Микита; *Мірэйчык* (Мірэйчык) < Мирейко, Мирей < Мирон; *Паланейчык* (Паланейчык) < Полонейко < Аполлон; *Фалейчык* (Фалейчык) < Фалейко, Фалей < Фалалей.

З суфіксам *-айчык* (-ай+-ко+-ик) адзначаны два сучасныя ўжыванні: *Каляйчык* (Коля, Мікалай), *Таляйчык* (Толя, Анатолій) — абодва Гр. в. Навагр.

З суфіксамі *-льчык* (-ль+-ьк+-ик), *ульчык* (-уль+-ьк+-ик), *-нчык, -ньчык* (-нь+-ьк+-ик), *-енчык* (-ень+-ко+-ик), *-інчык* (-ин+-ок+-ик), *-ончык* (-он+-ко (ці -ок)+-ик), *-анчык* (-ан+-ок+-ик) рэканструяваны *Грыгальчык* (Грыгальчык) < Грыгалёк, Грыгаль < Григорий; *Савульчык* (Савульчык) < Савулёк, Савулька, Савуль < Савва; *Грынчык* (Грынчык) < Грынко < Григорий; *Гурынчык* (Гурынчык) < Гурынко, Гурын < Гурий; *Гурэнчык* (Гурэнчык) < Гурэнка < Гурий; *Ільінчык* (Ільінчык) < Ільінок < Илья; *Карпінчык* (Карпінчык) < Карпінок < Карп; *Пятрынчык* (Пятрынчык) < Петрынок < Петр; *Федарынчык* (Федарынчык) < Федарынок < Федор; *Савончык* (Савончык) < Савонка, Саванок, Савон < Савва; зафіксаваны ў сучасным ужыванні *Грыньчык* (Грыгорый) Барысаў; *Сенчык* (Сямён) Бр. в. Пін., Гр. в. Гродз.; *Калянчык* (Мікалай) Бр. в. Драг.; з суфіксам *-унчык* (-ун(я)+-ко+-ик) *Сяргунчык* (Сяргунчык) < Сергунок < Сергей; адзначана 13 сучасных варыянтаў імён: *Вавунчык* Гом. в. Добр.; *Васюньчык* Бр. в. Бяроз.; *Віцюньчык* Гом. в. Рэч., Гр. в. Гродз.; *Ігарунчык* Брэст, Гродна; *Ігаруньчык* Віц. в. Лёзна; *Калюнчык* Бр. в. Драг., Жаб., Лун.; *Калюньчык* Бр. в. Драг., Гр. в. Навагр.; *Мішунчык* Бр. в. Драг.; *Пяцюнчык* Бр. в. Брэст., Івац., Гр. в. Гродна; *Сашуньчык* Бр. в. Бяроз., Гр. в. Гродна, Навагр.; *Славунчык* (Вячаслаў) Бр. в. Драг.; *Сяргунчык* Гродна, Мінск, Урэчча.

З суфіксам *-шуньчык* (-ш(а)+-ун(я)+-к(а)+-ік) — *Грышуньчык* Мін. в. Дзярж.

**Суфіксы -лік, -елік, -улік.** З суфіксам *-лік* (-ля+-ик) адзначана толькі *Толік* (Антон) Гр. в. Гродз., Маст., якое, магчыма, перанесена з *Анатолій,* дзе *Толік* з суфіксам *-ік.*

З суфіксам *-елік* (-ель+-ик) рэканструявана па СБП *Бяндзелік* (Бяндзелік)<польск. Benedykt.

З суфіксам *-улік* (-уля+-ик) у сучаснай моўнай практыцы адзначаны: *Андрулік* (Андрэй) Бр. в. Івац.; *Віцюлік* (Віктар) Гр. в. Свісл.; *Генулік* (Генадзь) Бр. в. Ів.

**Суфіксы -нік, -анік, -унік, -шонік** узніклі ў выніку спалучэння другаснага суфікса *-ік* з суфіксамі ўтвараль-

най асновы *-н(я), -но, -ан, -ун(я).* З суфіксам *-нік* (-н(я)+-ик ці -но+-ик) рэканструявана *Юхнік* (Юхнік) < Юхно < Юхим < Евфимий, адзначана сучаснае *Сенік* (Сямён) Гр. в. Гродз., Навагр.; з суфіксам *-анік* (-ан+-ик) — *Юранік* (Юрый) Барысаў; з суфіксам *-унік* (-ун(я)+-ик) — *Васюнік* Бр. в. Кам., Кобр.; *Зюнік* (Юзаф) Гр. в. Ваўк., Гродз., Гродна, Іўеў., Лід., Маст.; *Мішунік* Бр. в. Кобр.; з суфіксам *-шонік* (-ш(а)+-он+-ик) — *Сашонік* Мін. в. Сл.

**Суфікс -арык** (-ар+-ик) адзначаны ў форме *Дзімарык* (Дзмітрый) Гродна.

**Суфіксы -сік, -осік, -асік, -усік** узніклі ў выніку спалучэння другаснага суфікса *-ік* з суфіксамі ўтваральнай асновы *-с, -сь, -ес, -есь, -іс, -ос, -ась, -усь.* З суфіксам *-сік* (-сь+-ик ці -с+-ик) рэканструяваны па СБП: *Алесік* (Алесік) < Алесь < Александр; *Андросік* (Андросік) < Андрос < Андрон; *Бянасік* (Бянасік) < Бенадыкт з польск. Benedykt; *Стэсік* (Стэсік) < польск. Stanisław. У сучасным ужыванні адзначаны: *Алесік* Гр. в. Навагр.; *Антосік* Бр. в. Івац., Гом. в. Хойн., Маг. в. Мсц., Мін. в. Мінск; *Міхасік* Віц. в. Паст., Гр. в. Гродна; *Рысік* (Рычард) Бр. в. Бар., Віц. в. Брасл.; *Стасік* (Станіслаў) Бр. в. Бар., Брэсц., Івац., Кам., Кобр., Стол., Віц. в. Віцебск, Докш., Тал., Гр. в. Ашм., Бераст., Гродз., Гродна, Лід., Маст., Навагр., Мін. в. Барысаў, Валож., Кап., Мінск, Нясв., Пух.; *Тосік* (Антон) Гродна; (Анатоль) Гр. в. Кар.; *Ясік* (Ян) Гр. в. Лід.; з суфіксам *-осік* (-ось+-ик) — *Ярмосік* (Ярмосік) < Ярмось < Ермолай; з суфіксам *-асік* (-ась+-ик) — *Юрасік* (Юрасік) < Юрась < Юрий; сучаснае *Юрасік* Бр. в. Пруж., Стол., Гр. в. Масты, Навагр.; з суфіксам *-усік* (-усь+-ик) — *Амялюсік* (Амялюсік) < Омеля < Емельян; *Кандрусік* (Кандрусік) < Кондрусь < Кондрат; *Лаўрусік* (Лаўрусік) < Лаврусь < Лавр ці Лаврентий; *Рамусік* (Рамусік) < Роман; *Самусік* (Самусік) < Самусь < Самуил; *Якусік* (Якусік) < Яков, сучаснае *Барусік* (Барыс) Мінск.

**Суфіксы -уцік, -шуцік.** Суфікс *-уцік* узнік у выніку спалучэння другаснага суфікса *-ик* з суфіксамі ўтваральнай асновы *-ута, -уць.* Па СБП рэканструяваны: *Маруцік* (Маруцік) < Марута < Мар ці Марк; *Пілюцік* (Пілюцік) < Пілюта < Пилат ці Пилимон < Филимон; *Пятруцік* (Пятруцік) < Петруць < Петр; *Яку-*

*цік* (Якуцік) < Якута, Якуць < Яков; сучаснае *Мішуцік* Гр. в. Лід. З суфіксам *-шуцік* (-ш(а)+-ут(а)+-ик) адзначана сучаснае *Грышуцік* Бр. в. Пін.

**Суфіксы -шык, -ашык, -ушык** узніклі ў выніку спалучэння другаснага суфікса *-ик* з суфіксамі ўтваральнай асновы *-ш, -ша, -аш, -аша, -уш, -уша.*

З суфіксам *-шык* (-ш(а)+-ик) па СБП рэканструяваны *Мацешык* (Мацешык) < Мацеша, Мац < Мацвей; *Пашык* (Пашык) < Паша < Павел; *Сцешык* (Сцешык) < Сцеша < Стефан; *Цімошык* (Цімошык) < Цімоша < Тимофей; *Ярошык* (Ярошык) < Ярош < Ерофей; з суфіксам *-ашык* (-аш+-ик) рэканструяваны *Дамашык* (Дамашык) < Дамаш < Дамиан; *Якушык* (Якушык) < Якуш < Яков, адзначаны сучасныя імёны *Алёшык* (Аляксей) Гр. в. Свісл.; *Лёшык* (Аляксей) Бр. в. Драг., Івац., Гр. в. Гродна; *Сашык* (Аляксандр) Бр. в. Ів., Івац., Лях., Стол., Гом. в. Лельч., Петр., Гр. в. Гродз., Свісл.; з суфіксам *-ушык* (-уш(а)+-ик) рэканструяваны *Якушык* (Якушык) < Якуш(а) < Якаў; зарэгістраваны сучасныя імёны *Ванюшык* Гр. в. Гродз.; *Данюшык* (Даніла) Мінск; *Ілюшык* (Ілья) Бр. в. Драг.

## Суфікс *-ок*

Ва ўтварэнні назоўнікаў мужчынскага роду з памяншальна-ласкальным значэннем суфікс *-ок* у беларускай мове прадуктыўны, а ў рускай і ўкраінскай малапрадуктыўны. У беларускай антрапаніміі суфікс *-ок* малапрадуктыўны.

У помніках пісьменнасці XVI—XVIII стст. зафіксавана толькі 5 форм ад 4 традыцыйна-царкоўных імён: *Дмитрок* (3) 1679, 1690 Маг., *Змитрок* (5) 1746 Маг.; *Денисок* 1600 Маг.; *Иванок* 1582 Мін. п.; *Пятрок* (32) 1621, 1746 Маг., 1746 Віц. в.

Па СБП рэканструявана 48 форм ад 39 кананічных імён: *Асіпок* (Асіпкоў) < Осип < Иосиф; *Багданок* (Багданевіч); *Васілёк* (Васілёк); *Грыгарок* (Грыгаркевіч); *Далёк* (Далькоў) < Даль < Далмат; *Дземідок* (Дземідок) < Демид < Диомид; *Дзмітрок, Дмітрок, Змітрок* (Дзмітрачэнка, Дмітрачэнка, Змітрачкоў) < Димитрий; *Еранок* (Еранкевич) < Ероним < Иероним; *Ісачок* (Ісачкоў); *Кананок* (Кананок) < Конон; *Каралёк* (Каралёк) < польск. Karol; *Касянок* (Касянок) < Ка-

сян < Кассиан; *Кірычок* (Кірычок) < Кирик; *Клімянок* (Клімянок) < Климент; *Лаўранок* (Лаўранкоў) < Лаврентий; *Леанок, Леванок* (Леанкоў, Леванкоў) < Леон, *Левон* < Леонт; *Лінок* (Лінкевіч) < Лин; *Мартынок, Марцінок, Марцынок* (Мартынкевіч, Марцінкоў, Марцынкевіч); *Мельянок* (Мельянкоў) < Мельян < Емельян; *Мітрок* (Мітракоў) < Митрий < Димитрий; *Міхалёк* (Міхалькоў) < Михаль < Михаил ці польск. Michał; *Несцярок* (Несцярок) < Нестер < Нестор; *Пілінок* (Піліпкоў) < Пилип < Филипп; *Пімашок* (Пімашок) < Пимах < Епимах; *Раманёк* (Раманькоў) < Роман; *Сазанок* (Сазанкоў) < Созон < Созонт; *Саманок* (Саманкоў) < Самон; *Сапранок, Сапранёк* (Сапранкоў, Сапранькоў) < Сопрон < Софрон; *Саханок* (Саханкоў) < Сахон < Софония; *Семянок, Семянёк* (Семянкоў, Семянёк) < Семен < Симеон; *Сідарок* (Сідарок) < Сидор < Исидор; *Сімянёк* (Сіманькоў) < Симон ці фанетычна з Семен; *Тамашок* (Тамашкоў) < польск. Tomasz; *Трыфанок* (Трыфанкоў); *Федарок* (Федаркевіч); *Філіпок* (Філіпкоў); *Фралок* (Фралкоў) < Фрол < Флор; *Халаёк* (Халайкоў) < Халай < Фалалей; *Цімашок* (Цімашок) < Тимох < Тимофей; *Ціток* (Ціток); *Ціханок* (Ціханкоў).

У сучасным размоўна-бытавым ужыванні ў запісах 1978—1980 гг. засведчана 40 варыянтаў з суфіксам *-ок*. Ад поўных асноў — 20 варыянтаў: *Базылёк* (з польск. Bazyli) Мін. в. Віл., Мінск, Стаўбц.; *Барысок* Бр. в. Івац., Мін. в. Лаг., Стаўбц.; *Васілёк* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 44 фіксацыі ў 44 нас. пунктах; *Віталёк* Віц. в. Шум.; *Егарок* Віц. в. Міёр.; *Змітрок* (Дзмітрый) Бр. в. Івац., Лун., Віц. в. Гарад., Глыб., Леп., Расон., Бялын., Касц., Клім., Крыч., Слаўг., Чав., Мін. в. Кап., Мін.; *Іванёк* Віц. в. Докш., Гр. в. Смарг., Маг. в. Касц.; *Іванок* Віц. в. Чашн.; *Ігарок* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 35 фіксацый у 32 нас. пунктах; *Міхалок* Віц. в. Паст.; *Піліпок* Мін. в. Дзярж.; *Пятрок* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 56 фіксацый у 52 нас. пунктах (з выразнай перавагай у Віц. в., дзе 27 фіксацый, і Маг. в.— 16 фіксацый); *Сцепанок* Бр. в. Ганц., *Сцепанёк* Мін. в. Мядз.; *Сыманёк* Гр. в. Смарг.; *Тарасок* Бр. в. Ів.; *Фанасок* (Афанасій) Віц. в. Міёр.; *Філіпок* Гродна; *Цімашок* Мін. в. Сл.; *Юзафок* Мін. в. Стаўбц. Ад усечаных асноў выяўлена 20 варыянтаў: *Вавок* Мін. в., *Валадзёк* Гр. в.

Смарг.; *Валёк* Маг. в. Мсц., Мін. в. Віл., Мін., Мінск; *Ванёк* Бр. в. Брэст, Драг., Лун., Віц. в. Пол., Сен., Чашн., Шум., Гом. в. Ветк., Жытк., Гр. в. Гродна, Зэльв., Іўеў., Кар., Маст., Маг. в. Бабр., Мсц.; *Васёк* Бр. в. Драг., Жаб., Ів., Кам., Віц. в. Гарад., Глыб., Леп., Паст., Тал., Гом. в. Добр., Гр. в. Кар., Маст., Свісл., Шч., Мін. в. Барысаў, Люб., Мал., Мін., Мінск, Нясв., Пух., Сл.; *Віцёк* (Віктар) Бр. в. Бар., Брэсц., Брэст, Бяроз., Ів., Кам., Пін., Віц. в. Беш., Лёзн., Пол., Гом. в. Жытк., Гр. в. Гродна, Дзятл., Лід., Маст., Навагр., Шч., Маг. в. Мсціслаў, Мін. в. Барысаў, Віл., Люб., Мін., Мінск, Пух., Сл.; (Віталь) Мінск; *Гінёк* (Яўгеній) Віц. в. Докш.; *Данок* (Багдан?) Мін. в. Мядз.; *Дзімок* Барысаў, Мінск; *Жэнёк* Бр. в. Бяроз.; *Калёк* Бр. в. Драг., Гом. в. Добр.; *Лянёк* (Леанід) Бр. в. Драг.; *Лянок* (Леанід) Гродна; *Міцёк* Брэст, Гом. в. Ветк., Маг. в. Мсціслаў, Мін. в. Барысаў, Мін., Мінск; *Мішок* Гом. в. Жытк., Гр. в. Маст., Маг. в. Касц.; *Пяцёк* Бр. в. Драг.; *Санёк* (Аляксандр) Гом. в. Хойн., Гр. в. Лід., Маг. в. Касц., Маг., Мсц., Мін. в. Бар., Барысаў, Віл., Мал., Мін.; *Юрок* Бр. в. Кам., Віц. в. Орша, Мін. в. Барысаў, Дзяржынск, Мінск, Мядз.; *Ярок* (Яраслаў) Гом. в. Жытк.

Другасны суфікс *-ок* у спалучэнні з суфіксамі ўтваральных асноў утвараў складаныя двух-, трох- і чатырохкампанентныя суфіксы: *-чок, -ічок, -ачок, -учок, -шучок; -шок, -ішок; -нёк, -янёк, -унок, -шунёк, -шчанок; -сёк, -асёк, -усёк.*

**Суфіксы -чок, -ічок, -ачок, -учок, -шучок, -сючок.** З суфіксам *-чок* (-к+-ьк) зафіксаваны размоўныя імёны: *Барычок* (Барыс) Бр. в. Брэсц.; *Ваўчок* (Вова < Уладзімір) Гом. в. Хойн.; відаць, ад Ілля без пачатковага [і] непасрэдна пры дапамозе суфікса *-чок* утварыўся варыянт *Ллячок* Бр. в. Ів.; з суфіксам *-ічок* (-ик+-ьк) — *Касцічок* Бр. в. Драг., Івац.; *Петрычок* Мін. в. Пух.; *Талічок* (Анатоль) Бр. в. Драг., Ів., Івац., Кам.

У суфіксе *-ачок* першы кампанент звычайна ўзыходзіць да старажытнаўсходнеславянскага *-окъ* (з заменай [о] на [а] не пад націскам). У XVI ст. занатавана *Петрачок* 1528 Мін. п. Па СБП рэканструяваны *Змітрачок* (Змітрачкоў) < Змитрок < Димитрий; *Петрачок* (Петрачкоў) < Петрок < Петр, сучаснае *Петрачок* Віц. в. Пол. У рэканструяваным па СБП імені

*Ермачок* (Ермачок) < Ермак < Ермолай суфіксальны кампанент *-ач* узыходзіць да суфікса *-акъ*.

З суфіксам *-учок* (-ук+-ьк) рэканструяваны па СБП: *Карпучок* (Карпучок) < Карпук < Карп; *Паўлючок* (Паўлючкоў) < Павлюк <Павел; *Федзючок* (Федзючок) < Федюк < Федар; *Янучок* (Янучок) < Янук ад польск. Jan. Сучасныя размоўныя формы: *Васючок* Бр. в. Кобр.; *Вінцучок* (польск. Wincenty) Гр. в. Лід.; *Змітручок* (Дзмітрый) Брэст; *Ільючок* Віц. в. Докш.; *Казючок (Казімір)* Гр. в. Астр.; *Паўлючок* Віц. в. Паст., Гр. в. Воран., Смарг.; *Петручок* Гр. в. Ашм.; *Сцепучок* Гом. в. Жытк.; *Франучок* (Франц) Бр. в. Лях., Віц. в. Глыб.; *Янучок* (польск. Jan) Мін. в. Дзярж.

З суфіксам *-шучок* (-ш(а)+-ук+-ьк+-ок) сучаснае *Грышучок* (Грыгорый) Брэст.

**Суфіксы -шок, -ішок.** З суфіксамі *-шок*(-ша)+-ьк) адзначаны сучасныя *Пашок* (Павел) Мінск; *Сашок* (Аляксандр) — ва ўсіх абласцях рэспублікі (часцей у Бр. в. і Гр. в.) 54 фіксацыі ў 46 нас. пунктах.

З суфіксам *-ішок//-ышок* (-иш+-ькъ) рэканструяваны па СБП варыянты *Марцішок, Мартышок* (Марцішок, Мартышок) <Мартын; адзначана сучаснае размоўнае *Францішок* (Франц) Мін. в. Мядз.

**Суфіксы -нёк, -янёк, -анок, -унок, -шунёк, -шчанок** адзначаны толькі ў сучасных размоўных варыянтах імён: *Грынёк* (Грыгорый) Барысаў; *Віцянёк, Грышанок, Грышчанок* Бр. в. Бярэз.; *Сергунок* Гом. в. Жытк.; *Грышунёк* Мін. в. Дзярж.

**Суфіксы -сёк, -асёк, -усёк.** Адзначаны сучасныя размоўныя імёны *Івасёк* (Іван) Мінск; *Міхасёк* Віц. в. Віц., Паст., Чашн., Гр. в. Маст., Мін. в. Люб., Мінск, Мін., Стаўбц.; *Рысёк* (Рычард) Гр. в. Іўеў.; *Стасёк* (Станіслаў) Мін. в. Мядз., Стаўбц.; *Ясёк* (Ян) Бр. в. Кобр.; *Юрасёк* Віц. в. Пол.; *Вінцусёк* (польск. Wincenty) Мін. в. Мядз.; *Кастусёк* (Канстанцін) Віц. в. Паст., Гр. в. Навагр.; *Петрусёк* Віц. в. Докш., Паст., Гом. в. Хойн., Мін. в. Віл., Кап., Мінск, Мін.; *Рыгусёк* (Рыгор) Бр. в. Брэсц.

## Суфікс *-ук//-юк*

Суфікс *-ук//-юк* у словаўтваральнай сістэме назоўнікаў з памяншальна-ласкальным значэннем ва ўсходнеславянскіх мовах пашыраны неаднолькава. Найбольш

прадуктыўны ён ва ўкраінскай мове, малапрадуктыўны — у беларускай, зусім не ўласцівы, хаця зрэдку сустракаецца, для рускай мовы.

У беларускай антрапаніміі па помніках XVI—XVIII стст. з суфіксам *-ук//-юк* зафіксавана 15 форм ад 15 імён, а ў СБП адлюстроўваецца 181 форма ад 138 імён.

У XVI—XVIII стст. зафіксаваны *Васюк* (3) 1528 Гр., Слон., 1582 Мін. п.; *Гаврук* (Гавриил) 1726 Чач. ст.; *Грищук* 1582 Мін. п.; *Есюк* (Иосиф) 1528 Навагр. з-к; *Костюк* (7) 1528 Навагр. з-к, 1567 Гр. п., Навагр. з-к, Пін. п., Слон. п., 1582 Мін. п., 1730 Пол. в., 1746 Маг.; *Мартюк* (Мартын) 1590 Мін. п.; *Матюк* (Матвей) 1590 Мін. п.; *Минюк* (Мина) 1582 Мін. п.; *Мирук* (Мирон) 1590 Мін. п.; *Павлюк* (10) 1582 Мін. п., 1593, 1746 Маг.; *Петрук* (2) 1590 Мін. п.; *Санюк* (Александр) 1582 Мін. п.; *Станюк* (Станислав) 1580 Маг.; *Шымук* (польск. Szymon) 1590 Мін. п.; *Янук* (7) (Ян) 1582, 1590 Мін. п., 1730 Пол. в., 1746 Маг.

Па СБП рэканструяваны: *Абрамук* (Абрамук); *Аксенцiюк, Аксянцюк, Аксюк* (Аксенцiюк, Аксянцюк, Аксючэнка) < Авксентий; *Алексяюк, Аляксюк* (Алексяюк, Аляксюк); *Амбражук* (Амбражук) < польск. Ambroży; *Амельянюк, Амялюк* (Амельянюк, Амялюк); *Андранюк* (Андранюк) < Андрон < Адриан; *Андраюк, Андрыюк, Андрук* (Андраюк, Андрыюк, Андрук) < Андрей; *Антанюк* (Антанюк); *Ануфрыюк* (Ануфрыюк); *Анцiпарук* (Анцiпарук) < Антипар < Антипатр; *Апанасюк* (Апанасюк) < Апанас < Афанасий; *Арцiмук, Арцямук, Арцямюк* (Арцiмук, Арцямук, Арцямюк); *Асiпук, Асiпюк* (Асiпук, Асiпюк) < Осип<Иосиф; *Асiюк* (Асiюк) < Осия; *Астапук* (Астапук) < Остап < Евстафий; *Аўласюк* (Аўласюк) < Авлас < Власий; *Ахрамук* (Ахрамук) < Охрем < Ефрем; *Базылюк* (Базылюк) < польск. Basyli; *Балтрамяюк, Балтрук, Балюк* (Балтрамяюк, Балтрук) < польск. Bartłomiej; *Барысюк* (Барысюк); *Бенедычук* (Бенедычук) < польск. Benedykt; *Вайтук, Вайцюк* (Вайтук, Вайцюк) < Войтех; *Вакулюк* (Вакулюк) < Вакула < Вукол; *Валюк* (Валюк) < Валентин; *Ванюк* (Ванюк) < Иван; *Васiлюк, Васюк* (Васiлюк, Васюк); *Ваўранюк, Ваўрынюк, Ваўрук* (Ваўранюк, Ваўрынюк, Ваўрук) < польск. Wawrzyniec; *Верамяюк* (Верамяюк) < Верамей < Иеремий; *Вiнцук*

(Вінцук) < польск. Wincenty; *Віцюк* (Віцюк) < Виктор ці Вит; *Власюк* (Власюк) < Власий; *Вярчук* (Вярчук) < Верк ці Аверкий; *Габрук* (Габрук) < польск. Gabriel; *Гапанюк* (Гапанюк) < Гапон < Агафон; *Гардзюк, Гардзяюк* (Гардзюк, Гардзяюк) < Гордей; *Гаўрук, Гаўрылюк* (Гаўрук, Гаўрылюк); *Герасюк* (Герасюк) < Герасим; *Грыгарук* (Грыгарук); *Давідзюк, Давыдзюк* (Давідзюк, Давыдзюк); *Далюк* (Далюк) < Далмат; *Данілюк* (Данілюк); *Данюк* (Данюк) < Дан ці Даниил; *Дасюк* (Дасюк) < Дасий; *Дземідзюк, Дземядзюк* (Дземідзюк, Дземядзюк); *Дземянціюк* (Дземянціюк) < Дементей; *Дзем'янюк* (Дзем'янюк); *Дзенісюк* (Дзенісюк); *Дзімітрук, Дмітрук* (Дзімітрук, Дмітрук); *Ерашук* (Ерашук) < Ерофей; *Ермалюк* (Ермалюк) < Ермолай; *Засімук* (Засімук) < Зосима; *Зінюк* (Зінюк) <Зина ці Зиновий; *Змітрук* (Змітрук) < Змітро < Димитрий; *Зянук, Зянюк* (Зянук, Зянюк) < Зенон; *Іванюк* (Іванюк); *Ігнацюк* (Ігнацюк); *Ільюк, Ілюк* (Ільюкевіч, Ільючэнка); *Калюк* (Калюк) < Коля < Николай; *Кананук, Кананюк* (Канануччанка, Кананюк) < Конон; *Кандрацюк* (Кандрацюк); *Каралюк, Карлюк* (Каралюк, Карлюк) < польск. Karol; *Карнілюк* (Карнілюк); *Карнялюк* (Карнялюк) < польск. Korneli; *Карпук, Карпюк* (Карпук, Карпюк); *Каспярук* (Каспярук) < польск. Kasper; *Кастынюк, Касцюк* (Кастынюк, Касцюк) < Константин; *Касьянюк* (Касьянюк); *Кірылюк* (Кірылюк); *Кірычук* (Кірычук) < Кирик; *Клімук, Клімянюк* (Клімук, Клімянюк) < Клим < Климент; *Кузьмук, Кузьмюк, Кузюк* (Кузьмук, Кузьмюк, Кузюк) < Кузьма; *Купрыянюк* (Купрыянюк) < Куприан; *Курылюк* (Курылюк) < Курило < Кирилл; *Ладысюк* (Ладысюк) < Ладыс < Владислав; *Лазарук* (Лазарук); *Лаўранцюк, Лаўрынюк* (Лаўранцюк, Лаўрынюк) < Лаврин < Лаврентий; *Лаўрук* (Лаўрук) < Лавр ці Лаврентий; *Леанюк, Леванюк* (Леанюк, Леванюк) < Леон, Левон; *Лукашук* (Лукашук) < польск. Łukasz; *Лук'янюк* (Лук'янюк); *Майсяюк, Майсіюк, Майсюк* (Майсяюк, Майсіюк, Майсюк); *Макарук* (Макарук); *Максімук* (Максімук); *Малашук* (Малашук) < Малаш < Малахия; *Мартынюк* (Мартынюк); *Марук* (Марук) < Мар; *Марцук, Марцюк* (Марцук, Марцюк) < Мартин; *Марчук* (Марчук) < Марк; *Матвяюк, Матук, Мацук, Мацюк, Мацяюк* (Матвяюк, Матук, Ма-

цук, Мацюкоў, Мацяюк); *Машук* (Машук) < Мах < Епимах; *Мілюк* (Мілюк) < Милий; *Мінюк* (Мінюк) < Мина; *Міранюк* (Міранюк); *Міхадзюк* (Міхадзюк) < Миход < Мефодий; *Міхалюк, Мішук* (Міхалюк, Мішук); *Навумук* (Навумук); *Назарук* (Назарук); *Несцярук* (Несцярук); *Нікалюк* (Нікалюк); *Ніканюк* (Ніканюк); *Нікіцюк* (Нікіцюк); *Нічыпарук* (Нічыпарук) < Ничипор < Никифор; *Павук* (Павук) < Павел ці Павлин; *Панасюк* (Панасюк) < Панас < Афанасий; *Панцюк* (Панцюк) < Пантелеймон; *Парфянюк* (Парфянюк) < Парфен; *Пасюк* (Пасюк) < Пасикрат; *Паўлюк* (Паўлюк) < Павел; *Пацук, Пацяюк* (Пацук, Пацяюк) < Пац, Патей < Ипатий; *Пракапюк* (Пракапюк); *Пратасюк* (Пратасюк); *Пятрук, Пяцюк* (Пятрук, Пяцюкевіч); *Радзюк, Радыванюк* (Радзюк, Радыванюк) < Родион; *Раманюк, Рамук* (Раманюк, Рамук); *Савасцюк* (Савасцюк) < Севастиан; *Самайлюк, Самалюк* (Самайлюк, Самалюк) < Самойло, Самола < Самуил; *Санюк* (Санюк) < Саня < Александр; *Сапранюк* (Сапранюк) < Сопрон < Софроний; *Саўлук* (Саўлук) < Савел; *Сельвясюк* (Сельвясюк) < Сельвесь < Сильвестр; *Семанюк, Семянюк, Сімінюк* (Семанюк, Семянюк, Сімінюк) < Семен; *Сідарук* (Сідарук); *Сіліванюк* (Сіліванюк); *Сілюк* (Сілюк) < Сила; *Сташук* (Сташук) < Стах < Стахий ці Евстафий; *Супрунюк* (Супрунюк) < Супрун < Софроний; *Сцепанюк, Сцяпук* (Сцепанюк, Сцяпук); *Сыманюк* (Сыманюк); *Сялюк* (Сялюк) < Селиний ці Селиван; *Тадэўшук* (Тадэўшук) < польск. Tadeusz; *Тамашук* (Тамашук) <польск. Tomasz; *Тарасюк* (Тарасюк); *Трафимук, Трафімюк* (Трафімук, Трафімюк); *Фамюк* (Фамюк) < Фома; *Федарук* (Федарук); *Федасюк* (Федасюк) < Федос < Феодосий; *Філіманюк, Філінюк, Філюк* (Філіманюк, Філінюк, Філюк) < Филимон; *Філіпук* (Філіпук); *Фісюк, Фясюк* (Фісюк, Фясюк) < Феспесий; *Фядук, Фядзюк* (Фядук, Фядзюк) < Феодор; *Фянюк* (Фянюк) <Феона; *Хадарук* (Хадарук) < Ходор < Федор; *Хадасюк, Хведасюк* (Хадасюк, Хведасюк) < Ходас < Феодосий; *Харытанюк* (Харытанюк); *Хвясюк* (Хвясюк) < Феспесий; *Хілюк* (Хілюк) < Хиля < Филимон; *Цімафяюк, Цімашук* (Цімафяюк, Цімашук); *Цішук* (Цішук) < Тихон; *Шымук* (Шымук) < польск. Szymon; *Юхімук* (Юхімук) < Юхим < Евфимий; *Якавук, Якаўлюк*

(Якавук, Якаўлюк); *Якімук* (Якімук); *Якубук* (Якубук) < польск. Jakub; *Янук, Янюк,* (Янук, Янюк) польск. < Jan; *Ярук* (Ярук) < Ерофей.

У запісах 1978—1980 гг. зафіксавана 58 варыянтаў размоўных імён з суфіксам *-ук//-юк*. Ад поўных асноў імён занатавана 14 варыянтаў: *Адамук* Бр. в. Пруж.; *Гаўрылюк* Бр. в. Кам.; *Дзмітрук* Бр. в. Івац., *Дмітрук* Брэст; *Змітрук* (Дзмітрый) Бр. в. Івац., Мін. в. Мін.; *Іванюк* Бр. в. Лях.; *Ільюк* Бр. в. Ганц., Стол., Віц. в. Докш., Леп., Пол., Шарк., Гр. в. Лід., Мін. в. Кл.; *Мітрук* Бр. в. Бяроз.; *Міхалюк* Бр. в. Лях., Віц. в. Докш., Паст.; *Панасюк* Бр. в. Ів.; *Паўлюк* Бр. в. Ганц., Кобр., Лях., Пін., Пруж., Віц. в. Беш., Докш. Паст., Уш., Гр. в. Гродна, Гродз., Дзятл., Кар., Маст., Маг. в. Гор., Мсціслаў, Чав., Мін. в. Мал., Мінск; *Пятрук* Бр. в. Драг., Жаб., Кам., Кобр., Лун., Лях., Віц. в. Паст., Гр. в. Ашм., Воран., Гродз., Іўеў., Кар., Маст., Маг. в. Гор., Мін. в. Кл., Мін.; *Сцепанюк* Бр. в. Стол.; *Янук* (Ян) Гр. в. Астр., Ашм., Воран., Ліда, Мін. в. Віл., Лаг., Мядз.

Ад усечаных асноў выяўлена 44 варыянты: *Амялюк* (Амяльян) Гр. в. Іўеў.; *Андрук* (Андрэй) Гр. в. Астр.; *Антук* (Антон) Гр. в. Воран.; *Балюк* (польск. Bartłomiej) Віц. в. Докш.; *Валадзюк* (Уладзімір) Бр. в. Бяроз., Івац.; *Вінцук* (польск. Wincenty) Віц. в. Докш., Гр. в. Ашм., Воран., Гродз., Дзятл., Лід., Мін. в. Мядз.; *Віцюк* (Віктар) Гр. в. Лід.; *Генук* (Генадзій) Віц. в. В.-дзв., Докш.; *Зыгмук* (польск. Zygmunt) Гр. в. Ашм., Смарг.; *Зюк* (польск. Józef) Гр. в. Ваўкавыск; *Ізюк* (польск. Józef) Гр. в. Воран., Лід., Шч.; *Казюк* (польск. Kazimierz) Віц. в. Глыб., Докш., Міёр., Гр. в. Воран., Гродз., Смарг., Шч., Мін. в. Мінск, Стаўбц.; *Калюк* (Мікалай) Бр. в. Бяроз., Драг., Ів., Івац., Лун.; *Касцюк* (Канстанцін) Бр. в. Драг., Ів., Пін., Стол., Віц. в. Гарад., Гом. в. Добр., Гр. в. Ашм., Маст.; *Лаўрук* (Лаўрын) Гр. в. Навагр.; *Лёнюк* (Леанід) Гр. в. Ашм.; *Марук* (Марк) Гр. в. Ашм.; *Міцюк* (Дзмітрый) Маг. в. Бялын.; *Мішук* (Міхаіл) Бр. в. Кобр., Віц. в. Мін. в. Мінск; *Мячук* (Мечыслаў) Гр. в. Астр.; *Пранук* (Франц) Мін. в. Віл.; *Пяцюк* (Пётр) Гом. в. Б.-Каш.; *Рышук* (Рычард) Віц. в. Паст.; *Санюк* (Аляксандр) Мінск; *Славук* (Вячаслаў) Бр. в. Драг.; *Стафук* (польск. Stefan) Гр. в. Астр.; *Сцёпук* (Сцяпан) Бр. в. Ів.; *Тадзюк* (польск. Tadeusz) Віц. в. Паст., Гр. в. Астр., Ашм., Свісл.; *Ула-*

*дзюк* (Уладзімір) Віц. в. Паст., Шарк., Гр. в. Астр.; *Талюк* (Анатоль) Бр. в. Ів., Віц. в. Шум.; *Танюк* (Антон) Гр. в. Астр.; *Уладук* (Уладзімір) Гр. в. Смарг.; *Франук* (Франц) Віц. в. Докш., Паст., Гр. в. Ашм., Воран.; *Фядзюк* (Фёдар) Бр. в. Ів.; *Фядук* (Фёдар) Віц. в. Глыб.; *Часюк* (Вячаслаў) Гр. в. Астр.; *Эдзюк* (Эдуард) Гр. в. Гродз., Мін. в. Мядз.; *Юзук* (польск. Józef) Гр. в. Іўеў.; *Юзюк* (польск. Józef) Віц. в. Докш., Гр. в. Ашм., Мін. в. Віл., Мядз.; *Юлюк* (Юльян) Гр. в. Іўеў.

Пры ўтварэнні эмацыянальна-ацэначных форм ад утваральных асноў з цвёрдым зычным перад суфіксам *-ук* цвёрды зычны ў адных выпадках захоўваецца: у СБП *Абрамук* (Абрам), *Ахрамук* (Охрем, Ефрем), *Засімук* (Зосима), *Максімук* (Максим), *Навумук* (Наум), *Сцяпук* (Степан), *Філіпук* (Филип), *Яковук* (Яков), *Якімук* (Яким), *Якубук* (Якуб), у другіх — змякчаецца: у СБП *Барысюк* (Борис), *Вакулюк* (Вакула, Вукол), *Гапанюк* (Гапон, Агафон), *Гаўрылюк* (Гаврила, Гавриил), *Давідзюк, Давыдзюк* (Давид), *Далюк* (Далмат), *Данілюк* (Данила, Даниил), *Дземідзюк, Дземядзюк* (Демид), *Дзем'янюк* (Демьян), *Ермалюк* (Ермола, Ермолай), *Кананюк* (Конон), *Касьянюк* (Косьян), *Кірылюк* (Кирило, Кирилл), *Лук'янюк* (Лукьян), *Мартынюк* (Мартын, Мартин), *Мінюк* (Мина), *Міранюк* (Мирон), *Никанюк* (Никон), *Нікіцюк* (Никита), *Раманюк* (Роман), *Самайлюк* (Самойла, Самуил), *Сіліванюк* (Силивон, Силван), *Сілюк* (Сила), *Сімінюк* (Семен, Симеон), *Сцепанюк* (Степан, Стефан), *Сыманюк* (Сымон, Симон), *Фамюк* (Фома), *Філіманюк* (Филимон), *Харытанюк* (Харитон). У асобных выпадках цвёрды зычны ўтваральнай асновы выступае і цвёрдым і мяккім, г. зн. утвараюцца дублеты форм на *-ук* і *-'ук* ад адной утваральнай асновы: СБП *Асіпук* — *Асіпюк* (Осип < Иосиф), *Зянук* — *Зянюк* (Зенон), *Карпук* — *Карпюк* (Карп), *Кузьмук* — *Кузьмюк* (Кузьма), *Трафімук* — *Трафімюк* (Трофим), *Янук* — *Янюк* (Ян). Гэта значыць, цвёрдыя асновы пад уплывам мяккіх набылі здольнасць утвараць варыянты з суфіксам *-ук*.

Пры ўтварэнні эмацыянальна-ацэначных форм ад асноў на заднеязычны перад суфіксам адбываецца чаргаванне заднеязычнага з шыпячым. У СБП: *Вярчук* (Веркці Аверкий), *Ерашук* (Ерах, Иерофей), *Кірычук* (Кирик), *Марчук* (Марк), *Машук* (Мах, Епимах), *Сташук*

(Стах, Евстафий), *Цімашук* (Тимох, Тимофей), *Цішук* (Тихон), што сведчыць аб наяўнасці суфікса *-јук.*

Другасны суфікс *-ук//-'ук* у спалучэнні з суфіксамі ўтваральных асноў утварыў складаныя двухкампанентныя суфіксы *-чук, -учук, -ашчук; -шук; -юлюк; -нюк; -сюк, -асюк, -усюк, -цук.*

**Суфіксы -чук, -учук, -ашчук** узніклі ў выніку спалучэння другаснага *-ук* з суфіксам *-к-(-ко, -ок, -ук)* утваральных асноў. Дэрываты на *-чук* маглі ўзнікнуць шляхам паслядоўнай дэрывацыі — спачатку ўтвараліся імёны на *-ко, -ок,* а пасля ад іх пры дапамозе суфікса *-ук* — новая форма на *-чук* ад невытворнай асновы. Суфікс *-чук* зафіксаваны, як правіла, СБП, што сведчыць аб патранімічнай функцыі яго. Утварэнні на *-чук* на дапрозвішчнай стадыі, відаць, мелі значэнне «сын такога», «сын, бацька якога мае імя...»

З суфіксам *-чук* зафіксаваны прозвішчы: *Абрамчук, Аксянчук, Амельянчук, Амяльчук, Ананчук, Анішчук, Аранчук, Асіпчук, Астапчук, Аўдзяйчук, Ахрамчук, Багданчук, Бызыльчук, Васільчук, Верамчук, Гайчук, Гардзяйчук, Герасимчук, Германчук, Грыгарчук, Грышчук, Гурынчук; Дарашчук, Дашчук, Дземянчук, Дзямчук, Захарчук, Іванчук, Ісайчук, Казмярчук, Кананчук, Каральчук, Кастанчук, Касянчук, Кірчук, Климчук, Ладычук, Лазарчук, Леанчук, Леванчук, Ляўчук, Макарчук, Максімчук, Мартынчук, Масяйчук, Матвяйчук, Мацвяйчук, Мельянчук, Мілінчук, Мінчук, Міранчук, Міхалчук, Міхальчук, Мішук, Назарчук, Нікалайчук, Никанчук, Патапчук, Пацяйчук, Піліпчук, Пільчук* < Пилимон < Филимон, *Пракапчук, Радчук* < Родя < Родион, *Саванчук* < Савон, *Саўчук* < Сава; *Саманчук* < Самон, *Санчук* < Санько < Александр, *Саханчук* < Сахонко < Софония, *Семянчук, Сергейчук, Сідарчук, Станчук* < Станко < Станіслаў, *Сіньчук, Сянчук, Сяньчук* < Сенко, Сенько < Семен, *Сцепанчук, Сямчук* < Семко < Семен, *Усцімчук* < Устим < Устин, *Фядчук, Фянчук* < Фенко < Феона, *Хамчук* < Хомка < Фома, *Харланчук* < Харланко < Харлампий, *Хвядчук* < Хведко < Феодор, *Ціханчук, Цішчук* < Тихон, *Юшчук* < Юшко < Юхим < Евфимий, *Якаўчук, Якімчук, Янчук.* У сучасным ужыванні адзначана толькі імя *Мікалайчук* Бр в. Пін. Па СБП рэканструяваны з суфіксам *-учук: Паўлючук* (Павлюк), *Петручук* (Петрук); з суфіксам

*-ашчук* — *Андрашчук* (Андрош) < Андрей, *Семашчук* (Семаш, Семашко) < Семен, *Федарашчук* (Федорашко), *Церашчук* (Терех, Терешко) < Терентий, *Яшчук* (Яшка) < Яков.

**Суфікс -шук** склаўся ў выніку спалучэння другаснага суфікса *-ук* з суфіксальным *-ш-* (-ша, -аш) утваральных асноў. Па СБП рэканструяваны імёны: *Ваўрышук* (Ваўрышук)<польск. Wawrzyniec; *Грышук* (Грышук); *Дашук* (Дашук) < Адам ці Данила; *Ермашук* (Ермашук) < Ермолай; *Кандрашук* (Кандрашук) < Кондрат; *Пашук* (Пашук) < Павел. Сучасныя імёны: *Грышук* Бр. в. Лун.; *Сашук* (Аляксандр) Бр. в. Бяроз., Віц. в. Арш.; *Яшук* (Якаў) Бр. в. Ів.

З **суфіксам -юлюк** (-ул(я)+-ук) зарэгістравана толькі імя *Пецюлюк* Бр. в. Бяроз.

**Суфікс -нюк** склаўся ў выніку спалучэння другаснага суфікса *-ук* з суфіксальным *-н-* (*-но, -нь*) утваральных асноў. Суфікс адзначаны толькі ў рэканструяваных па СБП варыянтах імён: *Вахнюк* (Вахнюк) < Вахтисий (магчыма, аднак, ад Ваня пры дапамозе суфікса *-хно* — *Вахно,* як ад Іван — *Івахно,* у такім разе ў *Вахнюк* двухкампанентны суфікс *-хнюк*); *Ганюк* (Ганюк) < Евгений; *Грынюк* (Грынюк) < Гринь < Григорий; *Міхнюк* (Міхнюк) < Михно < Михаил; *Сахнюк* (Сахнюк) < Сахно < Сафония. Сучасныя варыянты *Манюк* і *Манук* (Мар'ян) Гр. в. Ашм., але іх можна разглядаць у якасці дэрыватаў асновы *Ман-* (пачатковы склад імені *Мануіл* ці пачатковы склад і канцавы зычны імені *Мар'ян)* з суфіксам *-ук.*

**Суфіксы -сюк, -асюк, -усюк** утварыліся ў выніку спалучэння другаснага суфікса *-ук* з суфіксальным *-с-* (*-с, -сь, -ос*).

З суфіксам *-сюк* (-сь+-ук) па СБП рэканструяваны імёны: *Еўдасюк* (Еўдасюк) < Евдоким; *Кандрасюк* (Кандрасюк) < Кондрат; *Лаўрысюк* (Лаўрысюк) < Лаврин < Лаврентий; *Макасюк* (Макасюк) < Макась < Макарий; *Мартысюк* (Мартысюк) < Мартысь < Мартин; *Місюк* (Місюк) < Мись < Михаил; *Ясюк* (Ясюк) < Ясь < Ян. Зафіксаваны сучасныя імёны: *Стасюк* (Станіслаў) Віц. в. Докш., Паст., Гр. в. Астр., Ашм., Воран., Лід., Шч.; (Яўстафій) Гр. в. Смарг.; *Ясюк* (Ян) Бр. в. Лях.; з суфіксам *-асюк* (-ос+-ук, -ось+-ук) рэканструяваны *Андрасюк* (Андрасюк) <

Андрос < Андрей; *Петрасюк* (Петрасюк) < Петр; *Самасюк* (Самасюк) < Самось < Самуил; з суфіксам *-усюк* (-усь+-ук) — *Паўлюсюк* (Павлюсь) < Павел.

**Суфікс -цук (-ц+-ук).** Па СБП рэканструяваны імёны *Грыцук* (Грыцук) < Гриц < Григорий; *Сцяцук* (Сцяцук) < Стец < Степан.

## Суфіксы *-ак//-як, -эк//-ек*

Суфікс *-ак//-як* у апелятыўнай лексіцы ўтварае назоўнікі з пеяратыўным значэннем, малапрадуктыўны. Малапрадуктыўны ён і ў антрапаніміі. У старажытных пісьмовых крыніцах, абследаваных пры падрыхтоўцы гэтай працы, імёны з суфіксам *-ак//-як* не выяўлены. Па СБП рэканструяваны *Богдак* (Багдачыц) < Богдан; *Зінак* (Зінакоў) < Зина ці Зиновий; *Каляк* (Калякоў) < Коля < Николай; *Майсак* (Майсак) < Моисей; *Мінак* (Мінакоў) < Мина; *Мяльяк* (Мяльячэнка) < Мельян < Емельян; *Пантак, Паняк* (Пантак, Панякоў) < Пантелеймон; *Пудак* (Пудакевіч) < Пуд; *Пуляк* (Пуляк) < Пулий; *Пяцяк* (Пецякоў) < Петя, Петр; *Сімак* (Сімак) Сим ці Симон; *Фядак* (Федаковіч) < Федор; *Шымак* (Шымаковіч) < польск. Szymon.

У сучаснай размоўна-бытавой практыцы дэрываты з суфіксам *-ак//-як* часцей сустракаюцца ў Брэсцкай і Гродзенскай абласцях, дзе яны ў некаторых выпадках маюць дублеты з суфіксам *-эк//-ек*, успрынятым з польскай мовы. У запісах, зробленых у 1978—1980 гг., адзначаны *Антак* (Антон) Бр. в. Бар., Лях., Гр. в. Ашм., Бераст., Лід., Шч., Мін. в. Вал., Кап., Пух., *Антэк* Бр. в. Стол., Віц. в. Паст., Мін. в. Віл., Мін.; *Болек* (Баляслаў) Гр. в. Гродз.; *Валерак* Гр. в. Лід., Шч.; *Вінак* (польск. *Wincenty*) Бр. в. Бар. Лях.; *Вінцэк* (польск. *Wincenty*) Гр. в. Гродз.; *Вітак* (Віталі) Гр. в. Гродз., Гродна, Лід., Маст., Шч.; (Вітольд) Гр. в. Гродз.; (Віктар) Гр. в. Шч., *Вітэк* (Віктар) Гродна; *Віцак* (Віктар) Гр. в. Маст., *Віцэк* (Віктар) Гр. в. Дзятл.; *Віцяк* (Віктар) Гр. в. Гродз., Шч.; *Войтак* (Войцех) Гр. в. Астр.; *Генак* (Генадзі) Бр. в. Малар., Віц. в. Паст., Гом. в. Мазыр, Гр. в. Навагр., *Генэк* Мінск; *Геняк* (Генрых) Гр. в. Гродз.; *Данак* (Данііл) Бр. в. Лях., Мін.в. Мядз.; *Зэнак* (Зянон) Бр. в. Бар., Маг. в. Бабруйск; *Каляк* (Мікалай) Бр. в. Кам.; *Костэк* (Канстанцін) Бр. в.

Пруж., Гр. в. Дзятл.; *Маняк* (Мар'ян) Гр. в. Шч.; *Марэк* (Марцін) Мін. Стаўбц.; *Мечак* Гр. в. Гродз.; *Мірэк* (Міраслаў) Гр. в. Ашм.; *Павэлак* (Павел) Віц. в. Глыб., Гр. в. Астр.; *Пятак* (Петр) Гом. Б.-Каш.; *Ромак* (Раман) Бр. в. Бар., Лях., Віц. в. Паст., Гр. в. Гродз., Навагр., Шч., Мін. в. Віл., Мінск, Мін.; *Славак* (Вячаслаў) Гр. в. Шч.; *Тоняк* Гр. в. Шч.; *Уладак* (Уладзімір) Бр. в. Лях., Віц. в. Глыб., Шарк., Гр. в. Астр., Бераст., Гродз., Дзятл., Лід., Маст., Мядз., Навагр., Шч., Мін. в. Мін., Пух., *Уладэк* (Уладзімір) Бр. в. Бяроз., Кам., Лях., Віц. в. Паст., Гр. в. Навагр., Мін. в. Кл., Мін., Нясв.; (Уладзіслаў) Бр. в. Лях., Гр. в. Астр., Гродз., Гродна, Ліда, Свісл.; *Франак* (Франц) Бр. в. Бар., Віц. в. Глыб., Паст., Шарк., Гр. в. Гродз., Дзятл., Лід., Маст., Навагр.; *Фэляк* (Фелікс) Гр. в. Гродз.; *Чэсяк* (Вячаслаў) Гр. в. Гродз.; *Эдак* (Эдуард) Гр. в. Гродз., *Эдзек* (Эдуард) Гр. в. Лід.; *Юляк* (Юльян) Бр. в. Лях.; *Юрак* (Юрый) Гр. в. Гродз., Маст., Мін. в. Дзярж., Мінск, Стаўбц., *Юрэк* Віц. в. Паст.; *Янак* (Ян) — ва ўсіх абласцях, акрамя Гом. в., 55 фіксацый (пераважна ў Гр. в.— 39) у 51 нас. пункце, *Янек* (Ян) Віц. в. Глыб., Мін. в. Мінск; *Янэк* (Ян) Бр. в. Ів., Лун., Малар., Пін., Стол., Віц. в. Міёр., Гр. в., Мін. в. Барысаў; *Ярак* (Яраслаў) Гр. в. Лід., Мін. в. Валож., *Ярэк* (Яраслаў) Гом. в. Жытк.

У выніку спалучэння канцавых суфіксаў *-ак//-як, -эк//-ек* з суфіксамі ўтваральнай асновы ўзніклі складаныя двух-, трох- і чатырохкампанентныя суфіксы *-чак, -ічак, -січак, -очак//-ёчак, -нёчак, -юнёчак, -сёчак, -ачак//-эчак, -шчак, -няк, -юняк, -шонак; -сяк; -так//-тэк, -шак.*

**Суфіксы -чак, -ічак, -січак, -очак//-ёчак, -нёчак, -јюнёчак, -сёчак, -ачак//-эчак, -шчак.** З суфіксам *-чак* (-ко+-ак) па СБП рэканструяваны формы *Манчак* (Манчак) < Манко < Мануил; *Юрчак* (Юрчак) < Юрко < Юрий. З сучасных імён няпэўная ілюстрацыя *Анічак* (Анісім?) Гр. в. Навагр., якое, аднак, магчыма ад *Антон* пры дапамозе *-ічак* (ик+-ьк).

Суфікс *-ічак* (-ик+-ьк) больш прадуктыўны. З ім рэканструявана па СБП імя *Паўлічак* (Паўлічкаў) і зафіксавана 38 варыянтаў, якія ўжываюцца зараз: *Борычак* Мінск; *Вадзічак* Пінск; *Валерычак* Мінск; *Валічак* (Валянцін) Гр. в. Навагр., Мін. в. Віл., Люб., Мін., Пух.; *Валодзічак* Бр. в. Жаб., Мін. в. Мінск; *Ванічак*

Бр. в. Жаб., Івац.; *Васілічак* Брэст.; *Вілічак* Віцебск; *Віталічак* Гр. в. Ваўкавыск, Мін. в. Мінск, Віл., Мін.; *Віцічак* Бр. в. Кам.; *Вовічак* Бр. в. Бар.; *Генічак* (Генадзь) Гр. в. Навагр., Мін. в. Нясв.; (Яўгень) Гр. в. Кар.; *Герычак* (Герасім) Віцебск; *Данічак* (Даніла) Мінск; *Донічак* (Даніла) Мін. в. Віл.; *Ёдзічак* (Юзаф) Гр. в. Шч.; *Жорычак* (Жорж, Георгій) Мінск; *Жэнічак* (Яўгеній) Мінск; *Змітрычак* (Змітра, Дзмітрый) Мін. в. Кап.; *Кадзічак* (Аркадзій) Бр. в. Драг.; *Казічак* (Казімір) Бр. в. Бар., Віц. в. Паст., Гр. в. Навагр., Мін. в. Нясв.; *Колічак* Гр. в. Дзятл., Кар., Навагр.; *Косцічак* (Канстанцін) Гр. в. Кар., Навагр.; *Лёнічак* (Леанід) Бр. в. Івац., Віц. в. Паст., Гр. в. Навагр.; *Паўлічак* Бр. в. Бар., Стол., Віц. в. Паст., Гр. в. Гродна, Маст., Навагр., Мін. в. Дзярж., Сл., Стаўбц. *Петрычак* Мін. в. Дзярж.; *Свецічак* (Светаслаў) Гр. в. Кар.; *Славічак* (Вячаслаў) Бр. в. Івац., Кам., Гр. в. Навагр., Мін. в. Барысаў; *Тадзічак* (Тадэвуш) Віц. в. Паст., Мін. в. Стаўбц.; *Толічак* (Анатолій) Бр. в. Бар., Брэсц., Івац., Лун., Гр. в. Ваўкавыск, Гродна, Кар., Навагр., Шч., Мін. в. Бярэз., Мін., Мінск, Нясв., Сл., Слуцк; (Віталій) Бр. в. Івац.; *Томічак* (Тамаш) Гр. в. Навагр.; *Уладзічак* (Уладзіслаў) Гр. в. Кар.; *Федзічак* Мін. в. Дзярж.; *Эдзічак* (Эдуард) Бр. в. Івац., Віц. в. Паст., Мін. в. Мінск, Пух.; *Юзічак* (Юзаф) Бр. в. Бар., Віц. в. Паст., Гр. в. Дзятл., Навагр., Шч.; *Юлічак* (Юльян) Гр. в. Дзятл.; *Юрычак* Бр. в. Бар.

З суфіксам *-січак* (-сь+-ик+-ьк) адзначаны толькі два сучасныя імені: *Антосічак* Мінск; *Стасічак* (Станіслаў) Гр. в. Гродз., Кар.

З суфіксам *-очак* (-ьк+-ьк) адзначаны сучасныя *Васілёчак* Бр. в. Ів., Івац., Лун., Мін. в. Віл., Мінск, Стаўбц.; *Віталёчак* Віц. в. Шум.; *Дзінёчак* (Дзяніс) Гр. в. Свісл.; *Ігарочак* Бр. в. Драг., Жаб., Віц. в. Чашн., Гр. в. Гродна, Маг. в. Мсціслаў, Мін. в. Барысаў, Мінск, Віл., Мін., Стаўбц.

Суфіксы *-нёчак* (-нь+-ьк+-ьк), *-юнёчак* (-уня+ +-ьк+-ьк), *-сёчак* (-сь+-ьк+-ьк), *-шоначак* (-ша+ -ен+-ъкъ+-ькъ) непрадуктыўныя. Адзначаны: *Грынёчак* Віц. в. Шум.; *Васюнёчак, Міхасёчак, Грышоначак* Мінск.

З суфіксамі *-ачак* (-ак+-ьк), *-эчак* зафіксаваны *Антачак* (Антон) Гр. в. Навагр.; *Даначак* (Даніла) Брэст;

*Зэначак* (Зенон) Бабруйск; *Метачак* (Мечыслаў) Гр. в. Іўеў.; *Уладачак* (Уладзімір) Гр. в. Навагр.; *Франачак* (Франц) Гр. в. Навагр.; *Юзэчак* (Юзаф) Мін. в. Стаўбц.; *Яначак* (Ян) Гр. в. Астр., Лід., Навагр., Свісл., Шч., Мін. в. Мядз.; *Янэчак* (Ян) Гр. в. Свісл., Мін. в. Мядз.; *Ярачак* (Яраслаў) Гом. в. Жытк.

**Суфіксы -няк, -шонак** (-ша+-ен+-ък), **-юняк** (-юн +-якъ) непрадуктыўныя. З суфіксам *-няк* рэканструявана па СБП *Грыняк*. У сучасных зборах кожны адзначаны толькі ў адной форме: *Грышонак* Бр. в. Лях.; *Зюняк* (Юзаф) Гр. в. Шч.

**Суфіксы -сяк, -так, -тэк, -ютак, -шак, -ушак** непрадуктыўныя. Адзначаны сучасныя размоўна-бытавыя варыянты з суфіксам *-сяк* (-сь+-як): *Збысяк* (Збігнеў) Гр. в. Шч.; *Стасяк* (Станіслаў) Гр. в. Гродз.; з суфіксам *-так* (-т+-ак): *Метак* (Мечыслаў) Гр. в. Бераст., Іўеў., Шч.; *Матэк* Бр. в. Стол.; *Рытак* (Рычард) Мін. в. Мядз.; з суфіксам *-усяк* (-усь+-ак) рэканструявана *Андрусяк* (Андрусяк) < Андрэй; з суфіксам *-ютак* (-юта+-ък) сучаснае імя *Юзютак* (Юзаф) Бр. в. Бар., Віц. в. Глыб., Гр. в. Бераст., Ваўк., Гродз., Дзятл., Лід., Навагр., Свісл., Шч.; з суфіксам *-шак* сучасныя імёны: *Збышак* (Збігнеў) Віц. в. Шарк., Гр. в. Лід., Мін. в. Мядз.; *Сташак* (Станіслаў) Віц. в. Глыб.; з суфіксам *-ушак* (-уш+-ак): *Янушак* Віц. в. Міёр., Паст., Гр. в. Астр., Гр. в. Гродна, Іўеў., Лід., Маст., Шч., Мін. в. Стаўбц.

### Імёны з суфіксальным зычным *-н-*

Група шматлікая, але непрадуктыўная. У пісьмовых крыніцах і СБП зафіксаваны суфіксы *-н, -нь, -ан, -ин, -ун, -он, -онь, -ень, -ня, -но* і складаныя з іх удзелам.

**Суфіксы -н, -нь** праславянскія. У апелятыўнай лексіцы беларускай мовы ў дэмінутыўным значэнні не адзначаны. У імёнах XVI—XVIII стст. і СБП непрадуктыўныя, часта ўтвараюць дублетныя формы ад аднаго імені.

У XVI ст. зафіксаваны *Грин* (12 фіксацый), *Григорий* 1552 Кл. кн., Пін., 1567 Бр. п., Гр. п., Мін. п., Навагр. п., 1582 Мін. п., *Гринь* (18) 1528 Ашм. дв., Ваўк., Гр., Навагр. з-к, Пін., Слон., 1552 Пін., 1582 Мін. п.; *Сень* (Семен) 1552 Пін. п. Рэканструяваны па СБП: *Грынь* (Грыневіч) < Григорий; *Сень* (Сень) < Семен; *Якон*

(Якон) <Яков. Сучасныя: *Грынь* Віц. Шум.; *Збынь* (Збігнеў) Мін. в. Мядз.; *Міхань* (Міхаіл) Бр. в. Малар.

**Суфіксы -ан, -цан, -шан, -шуран, -ман, -ушман** непрадуктыўныя. Дэрываты, утвораныя пры дапамозе іх, маюць значэнне поўнага імені, відаць, асацыіруюцца з традыцыйна-царкоўнымі формамі на *-ан* (Адриан, Дамиан, Емельян, Киприан, Лукиан, Маркиан, Митрофан, Роман, Севастиан і інш.).

З суфіксам *-ан* у XVI ст. адзначаны *Гуран* (Гурий) 1578 Маг.; *Петран* (Пётр) 1528 Гр.; рэканструяваны па СБП: *Гур'ян* (Гур'янаў) < Гурий; *Касцян* (Касцян) < Константин; *Кір'ян* (Кір'ян) < Кир; *Мікулан* (Мікулан) < Микула < Николай; *Милан* (Мілан) <Милий; *Пульян* (Пульяновіч) < Пулий; *Пятран* (Петраневіч) < Петр; *Усцян* (Усцян) < Устин; *Юран* (Юран) < Юрий; *Юхан* (Юханаў) < Юхим < Евфимий. Сучасныя: *Віцян* Гр. в. Дзятл.; *Калян* (Мікалай) Віц. в. Уш., Гр. в. Лід., Маст.; *Талян* (Анатолій) Віц. в. Уш., Гом. в. Добр., Жытк., Хойн.; *Юран* (Юрый) Барысаў.

У спалучэнні з суфіксамі ўтваральнай асновы *-ц, -х, -ша, -юша, -ура, -уль, -уля,* суфікс *-ан* утварае складаныя суфіксы: *-цан, -шан, -шуран, -ман, -юшман.* З гэтымі суфіксамі рэканструяваны па СБП: *Грыцан* (Грыцан) < Грыц < Григорий; *Грышан* (Грышан) < Грыша < Григорий; *Сташан* (Сташан) < Стах < Станислав ці Евстафий; адзначаны сучасныя размоўныя: *Грышан* Бр. в. Бяроз.; *Мішман* (Міхаіл) Бр. в. Лун.; *Тольман* (Анатоль) Бр. в. Ів.; *Грычман* (Грыгорый) Бр. в. Бяроз.; *Колюшман* (Мікалай) Бр. в. Ів.

**Суфіксы -он, -онь, -ін, -інь, -ень, -унь, -кінь, -шэнь, -шон** зафіксаваны ў адзінкавых дэрыватах. Рэканструяваны *Савон, Савонь* (Савон) < Савва; *Гурын* (Гурын, Гурыновіч) < Гур <Гурий; *Созін* (Созінаў) < Соза < Созоний; *Кір'ень* (Кір'ень) < Кир ці Кирик ці Кирилл; *Кузьмень* (Кузьмень) < Кузьма; *Уласень* (Уласень) < Улас < Власий; *Мішкінь* (Мішкінь) < Мишка < Михаил; *Івашэнь* (Івашэнь) < Иваш < Иван; зафіксаваны ў гаворках *Касцень* (Канстанцін); *Вавунь* Брэст; *Сашон* (Аляксандр) Гом. в. Гом.

**Суфіксы -ун, -унь, -кун, -сун, -шун, -шкун.** З суфіксам *-ун* рэканструяваны па СБП размоўна-бытавыя імёны: *Маркун* (Маркун) <Марк; *Мацькун* (Мацькуноў) < Мацвей; *Радзюн* (Радзюн) < Радион; *Сямон*

(Сямон) < Семен; *Сяргун* (Сяргун) < Сергей; *Якун* (Якуновіч) <Яков; *Яцун* (Яцуновіч) <польск. Jacek. У запісах 1978—1980 гг. адзначаны сучасныя размоўныя формы: *Валадзюн* Бр. в. Ів.; *Васюн* Бр. в. Бяроз.; *Віцюн* Бр. в. Пін.; *Калюн* (Мікалай) Бр. в. Стол., Гом. в. Ветк., Добр., Рэч.; *Мішун* (Міхаіл) Бр. в. Пін.; *Сцяпун* Бр. в. Драг., Стол.; *Талюн* (Анатоль) Бр. в. Ів.

У спалучэнні з суфіксамі ўтваральнай асновы на *-ко, -сь, -ша* суфікс *-ун* утварыў двухкампанентныя складаныя суфіксы *-кун, -сун, -шун* і трохкампанентны *-шкун*. Па СБП рэканструяваны імёны: *Вайткун* (Вайткун) < Войтко < Войтех; *Лінкун* (Лінкун) < Лин; *Міцкун* (Міцкун) < Мицко < Дмитрий; *Пяткун* (Пяткун) < Петко < Петр; *Свіркун* (Свіркуноў) < Свирко < Свирид; *Янкун* (Янкун) < Янка < Ян; *Місун* (Місун) < Мис(ь) < Михаил; *Мікшун* (Мікшун) < Микша < Миколай; *Пашун* (Пашун) < Паша < Павел; *Вашкун* (Вашкун) < Вашко, Ивашко < Иван; зафіксавана сучаснае імя *Аляшун* (Аляксей) Бр. в. Пін.

**Суфіксы -ня, -аня, -еня, -оня, -уня//-унё** малапрадуктыўныя (крыху больш актыўны з іх суфікс *-уня*), утвараюць імёны з памяншальна-ласкальным значэннем.

З суфіксам *-ня* рэканструяваны па СБП *Астаня* (Астаневіч) < Остап < Евстафий; *Аўдоня* (Аўдонін) < Овдоня < Евдоким; *Луканя* (Луканін) *Лука*, магчыма таксама ад *Лукъян* з суфіксам *-аня*. Сучасныя памяншальна-ласкальныя імёны: *Боня* (Багдан) Гр. в. Ашм.; *Грыня* (Грыгорый) Бр. в. Івац., Каш., Кобр., Малар., Стол., Віц. в. Гарад., Пол., Уш., Гом. в. Жытк., Мін. в. Барысаў, Кап., Сл.; *Лёня* (Лявон) Бр. в. Бар.; *Міня* (Міхаіл) Бр. в. Кобр.; *Санё* Бр. в. Бяроз.; *Сеня* (Сямён) Бр. в. Драг., Жаб., Кам., Стол., Віц. в. Беш., Віц., Паст., Уш., Гом. в. Жытк., Гр. в. Гродз., Лід., Навагр., Шч., Маг. в. Бабруйск, Мін. в. Кап., Кл., Люб., Сл.; *Тоня* (Анатолій) Віц. в. Паст.; *Цімоня* (Цімафей) Мін. в. Слуцк.

З суфіксамі *-аня, -еня, -оня* рэканструяваны *Луканя* (Луканін) < Лукиан; *Мацяня* (Мацянін) < Матвей; *Фядзеня* (Фядзеня) < Федор; *Вахоня* (Вахонін) < Вах < Вахтисий; зафіксаваны сучасныя памяншальна-ласкальныя: *Віцяня* Бр. в. Бар.; *Мішаня* Мін. в. Сл.; *Ігароня* Мін. в. Барысаў.

З суфіксам *-уня* рэканструяваны *Карпуня* (Карпунін) < Карп; *Мацюня* (Мацюнін) < Матвей; *Пятруня* (Пятрунін) < Петр; *Сцяпуня* (Сцяпунін) < Степан; *Якуня* (Якунін) < Яков. Зафіксавана 15 сучасных імён: *Адзюня* (Адам) Мін. в. Дзярж.; *Вавуня* (Вова < Уладзімір) Брэст, Віц. в. Пол., Гр. в. Навагр.; *Вадзюня* (Вадзім) Брэст; *Васюня* (Васіль) Бр. в. Бяроз.; *Віту-ня* (Віталій) Гр. в. Лід.; (Віктар) Гр. в. Лід.; *Віцюня* (Віктар) Гродна, Мін. в. Вал.; *Зюня* (Юзаф) Віц. в. Докш., Гр. в. Воран., Гродз., Гродна, Лід., Шч.; *Ігаруня* Брэст, Віц. в. Чашн.; *Казюня* (Казімір) Гр. в. Навагр., Мін. в. Лаг.; *Калюня* (Мікалай) Бр. в. Брэст, Драг., Гом. в. Жытк.; *Касцюня* (Канстанцін) Бр. в. Бяроз.; *Ладзюнё* (Уладзімір) Бр. в. Пін.; *Мішуня* (Міхаіл) Бр. в. Ів., Віц. в. Чашн., Мін. в. Мінск; *Пяцюня* (Пётр) Барысаў, Мінск; *Славуня* (Вячаслаў) Бр. в. Бяроз., Ів., Малар.; *Сяргуня* (Сяргей) Бр. в. Брэст, Бяроз., Пінск, Віц. в. Верхнядзвінск, Гр. в. Гродна, Лід., Мін. в. Маладзечна; *Тадзюня* (Тадэвуш) Віц. в. Паст.; *Талюня* (Анатолій) Бр. в. Кобр.; *Фядзюня* Брэст, Гом. в. Жытк.; *Часюня* (Вячаслаў) Гр. в. Астравец.

**Суфіксы -цоня, -сюня, -шуня** з'яўляюцца вынікам спалучэння суфіксаў *-оня, -уня* з суфіксамі ўтваральнай асновы *-ц, -сь, -ш,* непрадуктыўныя. Пры дапамозе іх утвараецца некалькі рэдкаўжывальных, акрамя *Сашуня,* імён: *Грыцоня* (Грыгорый) Бр. в. Кам.; *Стасюня* (Станіслаў) Гр. в. Ашм.; *Ясюня* (Ян) Віц. в. Паст.; *Грышуня* (Грыгорый) Бр. в. Ів.; *Сашуня* (Аляксандр) Бр. в. Баранавічы, Брэст, Бяроз., Віц. в. Уш., Гр. в. Гродна, Лід., Навагр., Мін. в. Люб., Пух., Сл.

**Суфіксы -но, -хно//-хна, -ухно.** Суфікс *-но* зафіксаваны ў дэрыватах ад утваральных асноў, якія заканчваюцца зычнымі [х] ці [х] з [ф]. У пісьмовых крыніцах XVI—XVIII стст. выяўлены імёны: *Михно* (33) < Михаил 1528 Ашм. дв., Бр., Ваўк., Гр., Кам., Кобр., Навагр. з-к, Пін., Пол. з-ля, Слон., 1552 Кл., Пін., 1567 Ашм. п., Бр. п., Ваўк. п., Гр. п., Навагр. п., Пін. п., Слон. п., 1582 Мін. п., 1730 Пол. в.; *Тихно* (3) < Тихон 1567 Бр. п., Мін. п.; *Юхно* (32) < Юхим < Евфимий 1528 Пін., Слон.; рэканструяваны па СБП *Махно* (Махно) < Епимах; *Міхно* (Міхно) < Михаил; *Сахно* (Сахно) < Сафон < Сафон; *Стахно* (Стахно) < Стах, Остах < Евстафий; *Ціхно* (Ціхно) < Тихон; *Юхно* (Юхно < Юхим

< Евфимий; сучасныя імёны *Сахно* (Сафон) Віц. в. Кругл., Гом. в. Петр., *Сахна* Бр. в. Бр.

Суфікс *-хно* ўзнік у выніку спалучэння другаснага суфікса *-но* з суфіксам *-х* вытворных утваральных асноў. Фарміраванню імён на *-хно*, безумоўна, садзейнічалі і імёны, утвораныя суфіксам *-но* ад невытворных утваральных асноў з канцавым *-х*. Суфікс *-хно* зафіксаваны ў пісьмовых крыніцах XVI ст.: *Олехно* (21) (Александр) 1528 Астр., Ашм. дв., Бр., Ваўк., Віц. з-ля, Кл., Навагр., Пол. з-ля; *Ивахно* (2) (Иван) 1528 Гр., а таксама ў рэканструяваных па СБП імёнах: *Алёхна, Аляхно* (Алёхна, Аляхно) < Олех < Александр; *Дахно* (Дахно) < Дасий ці Дах, Адах < Адам; *Юрахно* (Юрахно) < Юрий.

Суфікс *-ухно* ўзнік у выніку спалучэння суфікса ўтваральнай асновы на *-ух* і суфікса *-но*. Адзначан адзін раз: у складзе СБП *Яцухна* < Яц < польск. Jacek.

**Суфіксы -іна//-ына, -ана, -суна** непрадуктыўныя. У помніках XVI ст. адзначана *Яцына* 1567 Ашм. ад польск. Jacek, па СБП рэканструяваны *Пацына* (Пацына) < Пац < Ипат < Ипатий; *Яцына* (Яцына); *Місуна* (Місуна) < Мис < Михаил, у сучасных запісах *Васіліна* Бр. в. Бяроз., Ів., Стол.; *Каліна* (Міколай) Мін. в. Лаг.; *Таляна* (Анатоль) Бр. в. Пін.

### Імёны з суфіксальным зычным *-л-*

Зычны элемент *-л-* адзначаны ў суфіксах *-ль, -цаль, -шаль, -оль, -уль, -сюль, -цюль, -шкуль; -ель, -цэль, -шэль, -кель, -шмель; -иль; -ило//-ила, -чило, -цкела; -уля, -сюля.* Усе суфіксы, відавочна, звязаны з літоўскімі памяншальнымі суфіксамі *-elis, -ylis,* непрадуктыўныя, у асноўным зафіксаваны ў СБП, а *-уль, -уля* — і ў сучасных імёнах.

З суфіксамі *-ль, -цаль* (-ц+-аль), *-шаль* (-ша+ *-аль*), -оль па СБП рэканструяваны *Грыгаль* (Грыгаль) < Григорий; *Станиль* (Станілевіч) < Станислав; *Томаль* (Томаль) польск. Tomasz; *Грыцаль* (Грыцалевіч) < Гриц < Григорий; *Грышаль* (Грышаль) < Грыша < Григорий; *Карполь* (Карполь) < Карп; адзначана ў сучасным ужыванні імя *Грыль* (Грыгорый) Бр. в. Пін.

З суфікам *-уль: Аўгуль* (Аўгуль) < Августин; *Вайцюль, Войцюль* (Вайцюль, Войтуль) < Войтех; *Вахуль*

(Вахуль) < Вах < Вахтисий; *Максуль* (Максуль) < Максим; *Мартуль, Марцуль* (Мартулёў, Марцуль) < Мартин; *Матуль, Мацуль* (Матуль, Мацуль) < Матвей; *Пяцюль* (Пяцюль) < Петя, Петр; *Стануль* (Стануль) < Станислав; *Януль* (Януль) < польск. Ian; *Ясюль* (Ясюль) < Ясь < польск. Jaś; у запісах 1978—1980 гг. адлюстраваны імёны: *Андруль* (Андрэй) Бр. в. Кам.; *Вінцуль* (польск. Wincenty) Бр. в. Пруж.; *Ізюль* (польск. Józef) Гр. в. Шч.; *Маркуль* (Марк) Бр. в. Брэсц.; *Пятруль* (Пётр) Гр. в. Воран.; *Франуль* (Франц) Гр. в. Гродз.; *Юзуль* (польск. Józef) Гр. в. Ашм.; *Юзюль* (Józef) Гр. в. Маст.; *Януль* (Ян) Гр. в. Ашм.

З суфіксамі *-сюль* (-сь+-уль), *-цюль* (-ця+-уль), *-шкуль* (-ша+-ко+-уль) рэканструяваны па СБП *Місюль* (Місюль) < Місь < Міхаіл; *Стасюль* (Стасюлевіч) < Стась < Станислав; *Яшкуль* (Яшкуль) < Яша, Яшка < Яков < Иоаков; адзначана ў сучасным ужыванні *Вайцюль* (Вова) Гом. в. Б.-Каш.

З суфіксам *-ель* у пісьмовых дакументах XVI ст. адзначаны *Сташель* (Станислав) 1582 Мін. п.; *Томель* (*Tomasz*) 1567 Ашм. п.; *Янель* 1528 Рад.; па СБП узноўлены *Аксель* (Аксель) < Аксен < Авксентий; *Апанель* < Апанас < Афанасий; *Банель* (Банель, Бань, Банедикт) < Венедикт; *Варнель* (Варнель) < Варно < Варнава; *Гаель* (Гаель) < Гаий; *Гермель* (Гермель) < Герман; *Грыгель* (Грыгель) < Григорий; *Івель* (Іўлёў) < Иов; *Мацэль* (Мацэль) < Мац < Матей; *Масель* (Масель) < Моисей; *Мікель* (Мікель) < Микита < Никита; *Міхель,* (Міхель) < Мих < Михаил; *Пупель* (Пупель) < Пуплий; *Ромель* (Ромель) < Роман; *Сергель* (Сергель) < Сергей; *Якубель* (Якубель) < польск. Jakub; *Янель* (Янель) польск. Jan. Сучасныя: *Кірэль* (Кірыл ці Кірык) Бр. в. Ів.; *Маркель* (Марк) Бр. в. Ів.; *Мішэль* (Міхаіл) Бр. в. Бар., Ів., Гр. в. Гродна, Мін. в. Лаг., Мінск; з суфіксам *-цэль* (-ц+-ель) па СБП рэканструявана імя *Грыцэль* (Грыцэль) < Гриц < Григорий.

З суфіксамі *-шэль* (ша+-ель), *-кель* (-ко+-ель), *-шкель* (-ш+-ко+-ель), *-шмель* (-ша+-мель) рэканструяваны *Грышэль* (Грышэль) < Грыша < Григорий; *Мацкель* (Мацкель) < Мац, *Мацко* < Мацвей < Матвей; *Вашкель* (Вашкель) < Вах < Вахтисий ці Ваш, Вашко < Иван; у сучасным ужыванні *Сашмель* Бр. в. Івац.

З суфіксамі *-ло//-лё, -ило//-ила, -ыло, -ало, -кела*

(-ко+-ела), *-чило* (-ко+-ило) у крыніцах XVI ст.: *Томило* (4) (Томаш) 1567 Бр. п., Маз. п.; *Сенчило* (Семен) 1528 Кл.; рэканструяваны *Карпіла* (Карпілаў)<Карп; *Дзямчыла* (Дзямчыла)<Дзямко, Дзёмка<Дзям'ян<<Демьян; *Пацыла* (Пацыла)<Пац<Ипатий; *Мацкела* (Мацкела)<Мац, Мацко<Мацей<Матвей. Зафіксаваны ў сучасным ужыванні *Міхло* (Міхаіл) Гом. в. Жытк.; *Міхлё* Бр. в. Ганц.; *Карпила* (Карп) Бр. в. Кобр.; *Дзямчыла* (Дзям'ян) Бр. в. Ів.; *Сергало* (Сяргей) Бр. в. Стол.

З суфіксам *-уля* ўзноўлены па СБП *Павуля* (Павуля)<Павел; *Яруля* (Ярулін)<Ерофей. Зафіксаваны сучасныя імёны *Адамуля* Бр. в. Пруж.; *Андруля* (Андрэй) Гродна; *Вавуля* (Вова, Уладзімір) Віц. в. Віц., Гродна, Барысаў; *Ванюля* Бр. в. Ів., Гр. в. Навагр.; *Вінцуля* (польск. *Wincenty*) Мін. в. Дзярж.; *Віцюля* (Віктар) Гр. в. Гродна, Зэльв., Мін. в. Мін.; *Генуля* (Генадзій) Бр. в. Брэсц., Драг., Віц. в. Леп., Гом. в. Мазыр; *Дзімуля* (Дзмітрый) Бр. в. Баранавічы, Брэст, Драг., Івац., Лях., Віц. в. Лёзн., Гр. в. Кар., Мін. в. Мінск, Мін.; *Касцюля* (Канстанцін) Віц. в. Чашн.; *Мікуля* (Мікалай, Мікіта) Бр. в. Драг.; *Мішуля* (Міхаіл) Віц. в. Паст., Гр. в. Гродна, Мін. в. Круп.; *Панцюля* (Панцялей) Бр. в. Івац.; *Пяцюля* (Петр) Бр. в. Кам.; *Санюля* (Аляксандр) Мін. в. Пух.; *Сяргуля* (Сяргей) Гродна; *Якуля* (Якаў, Якуб) Бр. в. Лун.; *Януля* (Ян) Віц. в. Шарк.; з суфіксам *-сюля* (-сь+ +-уля): Місюля<Мись<Михаил; з суфіксам *-шуля* (-ша+-уля) сучаснае *Сашуля* Бр. в. Брэсц., Бяроз., Івац., Віц. в. В.-дзв., Шум., Гр. в. Гродна, Кар., Маст., Навагр., Мін. в. Мін., Мінск.

### Імёны з суфіксальным зычным *-с-*

Суфіксы з зычным *-с-* па паходжанню неаднародныя. Большасць іх, з ліку зафіксаваных у помніках XVI—XVIII стст. і рэканструяваных па СБП, узыходзіць да літоўскіх суфіксаў з зычным *-с-*, а суфікс *-сь* з'яўляецца старажытным славянскім дэмінутыўным суфіксам.

Дэрываты з суфіксамі *-сь, -с* маюць дэмінутыўнае значэнне. У пісьмовых крыніцах XVI ст. адзначаны імёны: *Грись* (Григорий) 1567 Ваўк. п.; *Мись* (10)

(Михаил) 1528 Вас., Лід. дв., 1552 Пін., 1567 Брасл. п., Гр. п., Рад. хар.; *Стась* (101) (Станислав) 1528 Астр., Ашм. дв., Вас., Ваўк., Гр., Лід. дв., Мсцісл., Рад., Слон., 1567 Ашм. п., Бр. п., Ваўк. п., Гр. п., Лід. п., Навагр. п., Слон. п.; па СБП рэканструяваны: *Адась* (Адась) < <Адам; *Алесь* (Алесь)<Александр; *Антось* (Антосенка)<Антон; *Бенадысь* (Бенадысеў, Бенадысёў)<Бенадыкт<Венедикт; *Лесь* (Лесь)<Александр; *Мартысь* (Мартысь)<Мартин; *Михась* (Міхасёў, Міхасенка)< <Михаил; *Стась* (Стась) з польск. Станислав; *Стэсь* (Стэсік)<Стефан; *Ясь* (Ясеў, Ясевіч) з польск. Ян.

Запісы 1978—1980 гг. сведчаць аб значнай папулярнасці размоўных імён з суфіксам *-сь* у Брэсцкай і Гродзенскай абласцях, але сустракаюцца яны і ў іншых абласцях рэспублікі. Адзначаны імёны: *Адась* (Адам) Гр. в. Навагр., Смарг., Мін. в. Мядз., Нясв., Сл.; *Алесь* (Аляксандр) Бр. в. Драг., Ів., Лях., Пруж., Віц. в. Тал., Гом. в. Петр., Гр. в. Ашм., Кар., Маст., Навагр., (Аляксей) Віц. в. Шум., Мін. в. Нясв., Сл.; *Анась* (Ананій) Бр. в. Жаб.; *Антась* (Антон) Гр. в. Шч.; *Антось* (Антон) Бр. в. Бяроз., Драг., Ів., Івац., Лях., Пін., Пруж., Віц. в. Глыб., Докш., Паст., Гом. в. Жытк., Лельч., Хойн., Гр. в. Воран., Гродз., Дзятл., Зэльв., Іўеў., Лід., Навагр., Шчуч., Маг. в. Мсц., Мін. в. Барысаў, Віл., Дзярж., Кап., Люб., Мал., Мін., Мінск, Мядз., Пух., Сл.; *Віктось* (Віктар) Бр. в. Лях.; *Вінцэсь* (польск. Wincenty) Бр. в. Лях., Гр. в. Зэльв.; *Волесь* (Аляксандр) Гом. в. Петр., Гр. в. Гродз., Мін. в.; *Гантось* (Антось) Бр. в. Ів.; *Гжэсь* (польск. Grzegorz) Віц. в. Глыб., Гр. в. Астр; *Збысь* (польск. Zbyszek) Гр. в. Лід.; *Івась* (Іван) Мінск; *Ігнась* (Ігнат) Бр. в. Бар., Гр. в. Гродз., Маст., Маг. в. Кір., Мін. в. Стаўбц.; *Кандрась* (Кандрат) Бр. в. Кам.; *Міхась* — ва ўсіх абласцях рэспублікі 78 фіксацый у 74 нас. пунктах; *Олесь* (Аляксандр) Гр. в. Гродз.; *Олісь* (Аляксандр) Бр. в. Малар., Пін., Віц. в. Докш.; *Ромась* (Раман) Мін. в. Віл., Мін.; *Рыгось* (Грыгорый) Бр. в. Ів.; *Рысь* (Рычард) Гр. в. Іўеў.; *Савось* (Савол<Савелій) Бр. в. Ів.; *Стась* (Станіслаў) — ва ўсіх абласцях рэспублікі 65 фіксацый у 60 нас. пунктах; (Яўстафій) Віц. в. Докшыцы; *Ярмось* (Ермалай) Бр. в. Пін., Стол.; *Ясь* (Ян) Бр. в. Бар., Кам., Лях., Стол., Віц. в. Паст., Маг. в. Мсц., Мін. в. Віл., Мінск, Мядз., Пух.

З суфіксам *-с* адзначаны ў сучасным ужыванні толькі імёны *Міс* (Міхаіл) Мін. в. Пух.; *Стас* (Станіслаў) Бр. в. Пін., Стол., Мін. в. Мінск.

Суфікс *-сь* шырока прадстаўлен у сучаснай і старажытнай польскай антрапаніміі. Выкарыстоўваўся для ўтварэння памяншальна-ласкальных імён ад хрысціянскіх імён і ад усечаных асноў старажытных славянскіх імён-кампазітаў.

**Суфіксы -ас, -ась, -ос, -ось, -ис, -ыс, -ысь, -ус, -усь.** Суфіксы з цвёрдым [с] *-ас, -ос, -ыс, -ус* і суфіксы з мяккім [сь]: *-ась, -ось, -ысь, -усь* часта ўтвараюць варыянтныя формы ад аднаго імені. Першыя, відаць, узыходзяць да літоўскіх суфіксаў *-as, -os, -ys, -us*, а другія з'яўляюцца расшыранымі варыянтамі суфікса *-сь* за кошт уключэння галоснага ўтваральнай асновы. Суфіксы малапрадуктыўныя.

З суфіксамі *-ас, -ась* у пісьмовых крыніцах XVIII ст. адзначана імя *Гаврас* (Гавриил) 1726 Чач. ст.; па СБП рэканструяваны *Дамас, Домась* (Дамасевіч, Домась) < <Дамиан, Домн ці Доминик; *Дорас* (Дорас) <Дорофей; *Ермас, Ермась* (Ермасёнак) <Ермолай; *Юрас, Юрась* (Юрас, Юрасёў) <Юрий; у сучасных запісах *Юрась* Бр. в. Брэст, Ів., Івац., Кам., Лях., Стол., Віц. в. Віцебск, Орша, Чашн., Гр. в. Гродна, Гродз., Скідаль, Зэльв., Маг. в. Горкі, Гор., Мін. в. Стаўбц.

З суфіксамі *-ос, -ось* у XVI ст. зафіксаваны *Андрос* (4) 1578 Маг., *Анрос* 1582 Мін. п.; па СБП узноўлены *Андрос* (Андросаў) <Андрей ці Андроник; *Валадось* (Валадось) <Уладзімір ці Уладзіслаў.

З суфіксам *-ис* адзначана ў XVIII ст. імя *Гаврис* (3) (Гавриил) 1746 Маг.; рэканструявана па СБП імя *Юрыс* (Юрыс) <Юрый.

З суфіксам *-ыс/-ысь* у пісьмовых крыніцах XVI ст. выяўлены імёны: *Матыс* (41) 1567 Ашм. п., Бр. п., Вас. хар., Гр. п., Мін. п., Пін. п., *Матысь* (4) 1567 Лід. п., Мін. п.— абодва ад Матвей ці польск. Mateusz.

З суфіксам *-ус//-усь* у пісьмовых крыніцах XVI ст. адзначаны *Андрус, Андрюс* (5) *Андрусь* 1580 Маг.; *Матус* (3) (Матвей ці польск. Maciej) 1567 Навагр. п., Слон. п.; *Пятрусь* 1746 Маг.; рэканструяваны па СБП *Андрус* (Андрус) <Андрей ці Андронік; *Габрус, Габрусь* (Габрус, Габрусь) <польск. Gabriel; *Гаўрус, Гаў-*

*русь* (Гаўрусёў)<Гавриил; *Грыгусь* (Грыгусь)<Григорий; *Данус, Данусь* (Данусевіч)<Дан ці Даниил; *Змітрусь* (Змітрусеў)<Змитрок<Димитрий; *Кандрусь* (Кандрусь)<Кондрат; *Купрусь* (Купрусь)<Купра, Куприан < Киприан; *Лаўрусь* (Лаўрусенка) < Лавр ці Лаврин<Лаврентий; *Маркус* (Маркус)<Марк; *Пантус* (Пантус)<Пантелеймон; *Петрусь, Пятрусь* (Петрусь, Петрусевіч)<Петр; *Самусь* (Самусёнак)<Самуил; *Юрус* (Юрусаў)<Юрий; *Янус* (Янусаў)<польск. Jan.

У размоўна-бытавой сферы імёны з суфіксамі *-ус, -усь* значна часцей выкарыстоўваюцца на Гродзеншчыне і Брэстчыне, хаця вядомы і ў іншых абласцях рэспублікі. Зафіксавана 63 варыянты: *Адамусь* (Адам) Бр. в. Пруж.; *Андрусь* (Андрэй) Бр. в. Івац.; *Антусь* (Антон) Віц. в. Глыб., Докш.; *Анюсь* (Антон) Гр. в. Дзятл., Навагр.; *Артусь* (Арцём) Віц. в. Глыб.; *Богусь* (Богдан) Гродна; *Болюсь* (Балеслаў) Віц. в. Паст., Гр. в. Астр., Ашм., Гродз., Мядз.; *Валюсь* (Валянцін) Віц. в. Шаркоўшчына, Гр. в. Астравец, Іўеў., Лід., Навагр.; *Вінусь* (польск. Wincenty) Віц. в. Міёр.; *Вінцусь* (польск. Wincenty) Бр. в. Бяроз., Лях., Гр. в. Навагр., Мін. в. Мядз.; *Вітусь* Гр. в. Навагр.; (Вітольд) Гр. в. Гродз.; *Войтусь* (Войтех) Гр. в. Іўеў.; *Вольтусь* (Войтех) Віц. в. Паст.; *Генусь* (Генадзій) Бр. в. Ів., Івац., Кобр., Стол., Гом. в. Мазыр, Гр. в. Астр., Ашм., Гродна; (Яўгеній) Віц. в. Міёр., Докш., Паст., Гр. в. Воран., Гродз., Лід., Шч., Мін. в. Мядз.; *Генюсь* (Яўгеній) Віц. в. Паст.; *Герусь* (Герасім) Віц. в. Глыб.; *Гэнусь* (Яўгеній) Віц. в. Паст.; *Генюсь* (Генадзій) Бр. в., Гр. в. Астр., Ашм.; (Генрых) Гр. в. Гродз., *Гэнюсь* (Генрых) Гр. в. Гродз., *Гэнюсь* (Генадзій) Гр. в. Ашм., Гродз., Іўеў., Шч., Мін. в. Стаўбц.; (Генрых) Гр. в. Гродз.; *Дзыгмусь* (Зігмунд) Бр. в. Кобр.; *Зыгмусь* (Зыгмунд) Бр. в. Лях., Віц. в. Глыб., Паст., Гр. в. Ашм., Гродз., Смарг., Мін. в. Салігор., Стаўбц.; *Зэнусь* (Зянон) Віц. в. Глыб., Шарк.; *Казусь* (Казімір) Бр. в. Лях.; *Кандрусь* (Кандрат) Бр. в. Ганц.; *Карпусь* (Карп) Бр. в. Драг.; *Кастусь* (Канстанцін) Бр. в. Бар., Ганц., Драг., Ів., Лях., Пінск, Стол., Віц. в .Віц., Паст., Гр. в. Лід., Маст., Навагр., Мін. в. Дзярж.; *Колюсь* (Мікалай) Бр. в. Бяроз., Пін., Віц. в. Пол., Уш., Шум.; *Костусь* (Канстанцін) Бр. в. Бар., Лях., Віц. в. Докш., Чашн., Гр. в. Дзятл., Зэльв., Іўеў., Кар., Маст.; *Ладусь* (Уладзімір)

Гр. в. Дзятл.; *Левусь* (Лявон) Гр. в. Смарг.; *Лёнюсь* (Леанід) Гр. в. Воран., Іўеў.; *Лявусь* (Лявонцій) Гр. в. Маст.; *Марусь* (Марцін) Мін. в. Стаўбц.; *Мелюсь* (Емельян) Бр. в. Брэсц.; *Мечусь* (Мечыслаў) Гр. в. Гродз., Мін. в. Пух., Стаўбц.; *Мірусь* (Міраслаў) Гр. в. Ашм.; *Паўлусь* (Павел) Бр. в. Бяроз.; *Паўлюсь* (Павел) Бр. в. Кобр., Гр. в. Мядз.; *Петрусь* (Пётр) Бр. в. Лях., Стол., Гр. в. Іўе, Маст., Свісл.; *Пётрусь* (Пётр) Бр. в. Лях., Віц. в. Докш., Гр. в. Гродз.; *Полюсь* (Іпаліт) Гр. в. Бераст.; *Пятрусь* (Пётр) Бр. в. Бар., Бяроз., Драг., Івац., Кобр., Лях., Малар., Пін., Стол., Віц. в. Докш., Паст., Чашн., Гом. в. Ветк., Гом., Лельч., Петр., Хойн., Гр. в. Дзятл., Зэльв., Лід., Маст., Навагр., Маг. в. Мсціслаў, Мін. в. Бярэз., Віл., Кап., Мін., Мінск, Сл., Стаўбц., Уздз., Чэрв.; *Ромусь* (Раман) Бр. в. Ів., Віц. в. Паст., Гр. в. Ашм., Гродна, Мін. в. Мядз.; *Рыгусь* (Грыгорый) Бр. в. Стол.; *Сергусь* (Сяргей) Бр. в. Івац.; *Славусь* (Вячаслаў) Бр. в. Івац., Віц. в. Тал., Мін. в. Валож.; (Станіслаў) Гом. в. Б.-Каш.; *Талюсь* (Анатоль) Бр. в. Кам.; *Толюсь* (Анатоль) Віц. в. Уш.; *Тонюсь* (Антон) Віц. в. Паст.; (Анатоль) Віц. в. Паст.; *Франусь* (Франц) Віц. в. Докш., Паст., Гр. в. Ашм., Гродз., Навагр.; *Цітусь* (Ціт) Бр. в. Ів.; *Юлюсь* (Юльян) Мін. в. Мядз.; *Юрусь* (Юрый) Гродна; *Янусь* (Ян) Бр. в. Бар., Віц. в. Глыб., Паст., Шарк., Гр. в. Астр., Ашм., Гродз., Іўеў., Шч., Мін. в. Віл.

**Суфіксы -ся/-сё, -уся/-усё** малапрадуктыўныя. У сучасным ужыванні зафіксаваны з суфіксам *-ся/-сё: Мосё* (Максім) Бр. в. Стол.; *Стасё* (Станіслаў) Бр. в. Малар., Гр. в. Гродз.; *Тосё* (Антон) Гр. в. Гродз.; *Яся* (Ян) Гр. в. Бераст.; *Ясё* (Ян) Гр. в. Маст.; з суфіксам *-уся/-усё: Баруся* (Барыс) Мінск; *Вавуся* (ад Вова< Валодзя<Уладзімір) Гр. в. Навагр., Маг. в. Кір.; *Васюся* (Васіль) Бр. в. Пін.; *Вінцуся* (польск. Wincenty) Мін. в. Мядз.; *Вуся* (Вавуся<Вова<Валодзя<Уладзімір) Мінск; *Ігаруся* Віц. в. Лёзн.; *Калюся* (Мікалай) Віц. в. Лёзна.

### Імёны з суфіксальным зычным *-т-//-ц'-, -ц*

Суфіксы з зычным *-т-* у пераважнай большасці генетычна звязаны з літоўскімі суфіксамі *-aitis, -utis,* якія маюць дэмінутыўнае значэнне. З элементам *-т-, -ц-, -ц'-*

адзначаны суфіксы *-ут, -уть, -уць, -уц; -ата; -ота, -шота; -ута, -нюта, -шута, -шкута; -ета, -шта.*

З суфіксам *-ют* адзначаны сучаснае імя *Зют* (польск. Józef) Гр. в. Астр. З суфіксамі *-уць, -уц* у XVI ст. адзначана *Януть* 1567 Гр. п., па СБП рэканструяваны *Домуць* (Домуць)<Домн ці польск. Dominik; *Карпуць* (Карпуць)<Карп; *Матуць* (Матуць)<Матвей<Матфей; *Мікуць, Мікуц* (Мікуць, Мікуц)<Микита<Никита ці Миколай, Николай; *Мілюць* (Мілюць)<Милий; *Мируць* (Міруць)<Мирон; *Паўлюць, Паўлюц* (Паўлюць, Паўлюц)<Павел; *Юруць, Юруц* (Юруць, Юруц)<Юрый.

З суфіксам *-ата* ў пісьмовых крыніцах XVI—XVIII стст. адзначана імя *Климята* (2) (Клим, Климент) 1582 Мін. п., *Клемята* 1730 Пол.; рэканструяваны па СБП *Клімята* (Клімята)<Клим, Климент; *Ладята* (Ладзята)<Ладя<Владимир ці Владислав; *Раманята* (Раманятаў)<Роман; зафіксавана сучаснае імя *Васята* Гродна.

З суфіксам *-ота* па СБП рэканструяваны *Мішота* (Мішота)<Миша<Михаил; *Сямота* (Сямоцін)<Сема<Семен; *Ярота* (Ярота)<Ерофей ці Ярослав; адзначана сучаснае імя Жэнёта (Яўгеній) Бр. в. Стол.

З суфіксам *-ута* ў пісьмовых крыніцах XVI—XVIII стст. адзначаны імёны: *Анцута* (Антипа) 1567 Гр. п.; *Валюта* (Валя, Валянцін) 1567 Слон. п.; *Конюта* (3) (Конан) 1577, 1578, Маг.; *Сенюта* (Сеня<Семен) 1528 Астр.; *Федута* (Федор) 1567 Ваўк. п.; *Янута* (Ян) 1528 Гр.; *Яцута* (2) (польск. Jacek) 1528 Астр., Гр.; рэканструяваны па СБП *Аксюта* (Аксюта)<Оксен<Авксентий; *Аляксюта* (Алексютовіч)<Алекса<Алексей; *Анцута* (Анцута)<Антипа; *Васюта* (Васюта); *Гаўрута* (Гаўрута)<Гавриил; *Іванюта* (Іванюта); *Ільюта* (Ільюцін); *Калюта* (Калюта)<Коля<Николай; *Кузюта* (Кузюта)<Кузя<Кузьма; *Марута* (Маруценка)<Марк ці Мартин; *Марцута* (Марцута)<Мартин; *Мікута* (Мікута)<Микита ці Миколай; *Міхалюта* (Міхалюта)<Михал<Михаил; *Міхута* (Міхута)<Михаил; *Мішута* (Мишута)<Михаил; *Пасюта* (Пасюта)<Пасикрат; *Пахута* (Пахута)<Похомий; *Пашута* (Пашута)<Паша<Павел; *Пілюта* (Пілюта)<Пилимон<Филимон; *Радута* (Радута)<Родион; *Раманюта* (Раманютаў)<Роман; *Сакута* (Сакута)<Сак, Сакердон; *Самута* (Самута)<Самуил; *Санюта* (Санюта)<Саня<Александр; *Сцяпута*

(Сцяпуценка)<Степан; *Сялюта* (Сялюцін)<Селивон ці Селиний; *Сямута* (Семуценка)<Сема<Семен; *Філюта, Хілюта* (Філюта, Хілюта)<Филя, Хиля<Филимон; *Халюта* (Халюта)<Халалей<Фалалей; *Цішута* (Цішуцін)<Тиша<Тихон; *Якута* (Якута)<Яков; *Янута* (Януцёнак)<польск. Jacek; *Ярута* (Ярута)<Ерофей ці Ярослав; *Яўхута* (Яўхута)<Евхим<Евфимий; *Яцута* (Яцута)<польск. Jan. Зафіксаваны сучасныя імёны: *Ванюта* Віц. в. Глыб., Сен., Маг. в. Мсціслаў, Мін. в. Мінск; *Васюта* Бр. в. Бяроз., Лун., Віц. в. Паст., Мін. в. Мін., Мінск; *Данюта* (Даніла) Мін. в Мін.; *Мішута* Віц. в. Докш., Гом. в. Жытк., Гр. в. Маст., Мін. в. Віл., Мін., Мінск.

З суфіксамі *-кута* (-ко+-ута), *-нюта* (-ня+-ута), *-шута* (-ша+-ута), *-інюта* (-іня+-ута), *-ашта* (-аш+-та) рэканструяваны *Мішкута* (Мішкуценка)<Мішко<Михаил; *Сянюта, Сінюта* (Сянюта, Сінюта)<Сеня<Семен; *Мікшута* (Мікшута)<Мікша<Микита ці Миколай; адзначаны ў гаворках *Грышута* Брэст; *Сашута* Мінск; *Васінюта* Бр. в. Ів.; *Каляшта* (Мікалай) Бр. в. Стол.; *Таляшта* (Анатолій) Бр. в. Стол.

**Суфіксы з зычным -ц-** генетычна звязаны з суфіксамі, якія маюць зычны *-к-*, узніклі ў выніку палаталізацыі [к]. У імёнах і прозвішчах зафіксаваны суфіксы *-ец, -ц*.

**Суфікс -ец** ва ўсходнеславянскіх мовах утварае памяншальна-ласкальныя назоўнікі мужчынскага роду, малапрадуктыўны. Малапрадуктыўны ён і ў памяншальна-ласкальных формах беларускіх мужчынскіх імён. У помніках XVI—XVIII стст. адзначана 14 форм ад 13 кананічных імён, а па СБП рэканструявана 58 форм ад 53 імён. У XVI—XVIII стст.: *Богданец* 1567 у Літве; *Данилец* 1528 Навагр. з-к.; *Иванец* (3) 1528 Гр., 1582 Мін. п.; *Ильяшец* (польск. Iliasz) 1582 Мін. п.; *Курилец* (Кирилл) 1582 Мін. п.; *Лавринец* (39) 1528, 1567 за межамі Беларусі — на Падляшшы і ў Літве, відаць, як вынік кантамінацыі ўсходнеславянскага *Лаврин*<*Лаврентий* і польск. *Wawrzyniec*; *Левонец* 1582 Мін. п.; *Мартинец* 1582 Мін. п.; *Матеец* 1582 Мін. п.; *Прокопец* 1582 Мін. п.; *Романец* 1582 Мін. п.; *Савостеец (Севастиан), Степанец* 1582 Мін. п.; *Федорец* (3) 1582 Ваўк., Гр., Пін. п.; *Филипец* 1590 Мін. п. Па СБП рэканструяваны *Абрамец, Аўрамец* (Абрам-

цаў, Абрамец); *Адамец* (Адамец); *Амяльянец* (Амяльянцаў, Амялянец); *Андрыянец* (Андрыянец); *Андрэец* (Андрэйцаў); *Антонец* (Антонцаў); *Архипец* (Архіпец); *Аўсяец* (Аўсяец)<Овсей<Евсевий; *Ахрамец* (Ахрамцоў)<Охрем<Ефрем; *Багданец* (Багданец); *Бенец* (Беніцэвіч)<польск. Benedykt; *Ванец* (Ванцовіч); *Васілец* (Васілец); *Грыгарэц* (Грыгарцэвіч); *Данец* (Данцоў)<Дан ці Даниил; *Ефімец* (Ефімец); *Захарэц* (Захарэц); *Іванец* (Іванец); *Калінец* (Калінец)<Калина<Калинник; *Кананец* (Кананец)<Конон; *Каралец* (Каралец)<польск. Karol; *Клімец* (Клімец); *Купрыянец* (Купрыянец)<Куприян<Киприан; *Купрэц* (Купрацэвіч)<Купра, Куприян<Киприан; *Леанец, Лявонец* (Леанец, Леванцоў, Лявонцаў); *Лук'янец* (Лук'янец)< Лук'ян<Лукиан; *Макарэц* (Макарцаў); *Манец* (Манцэвіч)<Мануил; *Мартынец*<(Мартынец); *Мінец* (Мінец)<Мина; *Міранец* (Міранцоў); *Міхалец* (Міхальцоў, Міхальцэвіч); *Мяльянец* (Мяльянец)<Мельян< Емельян; *Паланец* (Паланцэвіч) < Полон < Аполлон; *Пархамец* (Пархамец)<Пархом<Парфений; *Пілец* (Пілец)<Пилимон<Филимон; *Пракапец* (Пракапец); *Радзец* (Радцэвіч)<Родя<Родион; *Раманец* (Раманец); *Санец* (Санцэвіч)<Саня<Александр; *Севярынец* (Севярынец)<Северин; *Селівонец, Сілівонец* (Селівонец, Сілівонец); *Семянец* (Семянцоў); *Сідарэц* (Сідарэц); *Сцепанец* (Сцепанец); *Федарэц, Хадарэц* (Федарэц, Хадарэц); *Філонец, Халімонец* (Філонец, Халіманцэвіч)<Филон, Халимон<Филимон; *Филипец* (Філіцец); *Юрэц* (Юрцаў); *Якавец* (Якавец); *Якімец* (Якімец); *Якубец* (Якубец)<польск. Jakub; Янец (Янцоў, Янцэвіч) польск. Jan.

У сучасных запісах адзначаны імёны: *Адамец* Бр. в. Ганц.; *Адасец* (Адам) Гр. в. Смарг.; *Васілец* Бр. в. Ганц.; *Каралец* Гом. в. Лельч.; *Наумец* Бр. в. Ів.; *Раманец* Бр. в. Пін.; *Рыгарэц* Бр. в. Ганц.; *Сцепанец* Бр. в. Лун.; *Ціханец* Бр. в. Кобр.; *Юрэц* Гродна.

**Суфіксы -нец, -анец, -урец.** Другасны суфікс *-ец* у спалучэнні з суфіксамі вытворных асноў выкарыстоўваўся рэдка. Зафіксаваны толькі суфіксы *-нец, -анец, -урец*.

Суфікс *-нец* (-нь+-ец) утварыўся ў выніку спалучэння суфікса *-ец* з суфіксамі *-нь, -ня, -ан* утваральнай асновы. У XVI—XVIII стст. адзначана імя *Гринец* (6)

(Григорий) 1528 Ваўк., Слон., 1567 Пін. п., Слон. п., 1582 Мін. п.; яно ж рэканструявана і па СБП: *Грынец* (Грынцэвіч).

З суфіксамі *-анец* (-ан+-ец), *-урец* (-ра+-ец) рэканструяваны *Юранец* (Юранец) <Юрый; *Сакурэц* (Сакурэц) <Сакура<Сакердон.

**Суфікс -ц** беларускай апелятыўнай лексіцы не ўласцівы, а ў антрапаніміі непрадуктыўны. У XVI ст. зарэгістраваны *Гриц* (5) 1528 Кам., 1567 Пін. п.; *Мац* 1528 Пін.; *Стец* (5) 1528 Ваўк., Гр., 1567 Гр. Рэканструяваны па СБП *Грыц* (Грыц) <Григорий; *Дорац* (Дорофей); *Мац* (Мац) <Матвей; *Проц* (Працэнка) <Прокоп ці Протас; *Сцец* (Сцец) <Степан. Сярод сучасных размоўна-бытавых зафіксавана толькі імя *Грыц* Бр. в. Жаб., Ів., Кам., Лун., Лях., Пін.

**Суфікс -ця//-цё.** Суфікс *-ця* ў польскай мове выкарыстоўваецца ў апелятыўнай лексіцы і антрапаніміі для ўтварэння размоўных апелятываў і антрапонімаў з памяншальна-ласкальным значэннем. На дыялектнай глебе ў розных раёнах Брэсцкай і Гродзенскай абласцей канцавое [я] вымаўляецца як [ё]. Таму суфікс у такіх рэгіёнах выступае ў двух варыянтах: *-ця* і *-цё*. У помніках XVI—XVIII стст. і ў саставе СБП імёны з разглядаемым суфіксам не выяўлены. Тлумачыцца гэта, з аднаго боку, інтымна-размоўным значэннем утвораных пры дапамозе яго імён, якія, відаць, ужываліся галоўным чынам у сямейнай сферы, а з другога боку, абмежаванай зонай лакалізацыі імён з суфіксам *-ця/-цё*, што перашкаджала іх пранікненню ў пісьмовыя крыніцы.

У запісах 1978—1980 гг. зафіксаваны імёны: *Адамцё* Бр. в. Пін.; *Анцё* (Антон) Бр. в. Стол.; *Бронця* (Браніслаў) Гродна; *Ваньцё* Бр. в. Ів.; *Вікця* (Віктар) Бр. в. Бяроз.; *Домця* (Дамінік) Віц. в. Паст.; *Калінця* (Каліна) Бр. в. Малар.; *Лёнця* (Леанід) Бр. в. Бяроз.; *Ромця* (Раман) Бр. в. Драг., Лун., Віц. в. Пол., Гр. в. Бераст., Мін. в. Мін.; *Рэмцё* (Раман) Віц. в. Пол.; *Сцёпцё* Бр. в. Бяроз., Пін.

## Імёны з суфіксальным зычным *-р-*

Гэта група ўключае суфіксы *-р, -ур, -кур, -ура, -сюра, -чура, -шура; -сар.* Па СБП рэканструяваны *Мацур* (Мацур) < Мац < Матей; *Мішур* (Мішур) < Ми-

ша < Михаил; *Сімур* (Сімураў) < Сим ці Симон; *Сямур* (Семуроў) < Сема < Семен; *Мишкур* (Мішкуроў) < Миша < Михаил; адзначаны ў гаворках *Вітар* Мін. в. Нясв.; *Казюр* (Казімір) Бр. в.; *Вітара* (Віталій) Віц. в. Беш.

З суфіксам *-ура* ў XVII ст. у пісьмовых крыніцах адзначана імя *Мишура* (Михаил) 1697 Маг.; рэканструяваны па СБП *Зміцюра* (Зміцюра) < Змитро < Димитрий; *Кузура, Кузюра* (Кузура, Кузюра) < Кузма, Кузьма; *Міцура, Міцюра* (Міцура, Міцюрыч) < Миц < Митя < Дмитрий; *Мішура* (Мішура) < Миша < Михаил; *Сакура* (Сакурчанка) < Сак < Сакердон; *Сцяпура* (Сцяпура) < Степа < Степан; *Фядура* (Фядура) < Федор; *Цішура* (Цішураў) < Тихон; сучасныя імёны: *Кастура* (Канстанцін) Бр. в. Лун.; *Максюра* (Максім) Бр. в. Драг.; *Мішура* (Міхаіл) Віц. в. Чашн.

З суфіксам *-сюра* (-сь + ура), *-шура* (-ша + -ура), *-сар* (-с + -ар) рэканструяваны па СБП *Місюра* (Місюра) < Мись < Михаил; *Місар* (Місарэвіч) < Мис < Михаил; *Пашура* (Пашура) < Паша < Павел; сучасныя імёны *Сашура* Баранавічы; *Шура* ва ўсіх абласцях рэспублікі — 93 фіксацыі ў 88 нас. пунктах.

З суфіксам *-чура* (-ко + -ура), у пісьмовых крыніцах XVI ст. адзначана *Янчура* (Янка<Ян) 1567 Ашм. п.

### Імёны з суфіксальным зычным *-j-*

Пры дапамозе суфікса *-j-* утвораны імёны ад усечаных асноў ці ад аднаскладовых поўных імён. Дэрываты з *-j-* зафіксаваны ў помніках XVI ст.: *Карпь* (2) 1528 Гр.; *Тишь* (4) < Тихон 1528 Ваўк., Гр., Навагр. з-к, 1552 Пін. п. Рэканструяваны па СБП *Аксень* (Аксень, Аксяневіч) < Аксентий < Авксентий; *Віль* (Віль, Вілевіч) < Вил; *Даль* (Даль) < Далмат; *Міль* (Мілевіч) < Милий; *Пець* (Пяцевіч) < Петр; *Прань* (Праневіч) < Прантишек < Франтишек; *Савось* (Савось) < Савостиан < Севастиан; *Фаль* (Фаль) < Фалалей; *Френь* (Франёў, Франевіч) < Франтишек ці Франц; *Хвесь* (Хвясеня) < Феспесий ці пры дапамозе суфікса *-есь* ад усечанай асновы *Хве-дар* < Фёдар.

Дэрываты з суфіксамі, якія ўключаюць *-j-*, маюць нейтральнае значэнне. Яны, відаць, функцыяніравалі як поўныя імёны тыпу Николай, Андрей. У складзе СБП

і ў сучасным выкарыстанні адзначаны імёны з суфіксамі *-ай, -алай, -цай, -шай, -уй, -ей, -шэй.*

З суфіксам *-ай* рэканструявана імя *Сілай* (Сілаеў) < Сила; сучасныя імёны: *Віцяй* Бр. в. Ів., Івац., *Казяй* (Казімір) Бр. в. Бяроз.; *Каляй* (Мікалай) Бр. в. Брэсц.; *Міцяй* (Дзмітрый) Бр. в. Стол., Гом. в Добр., Маг. в Кір.; *Таляй* (Анатоль) Бр. в. Івац., Мін. в. Мінск, Стаўбц.

З суфіксамі *-алай* (-ол + -ай): *Петралай* (па СБП Петралай) < Петр; *-цай* (-ц+ -ай) — *Грыцай* (Грыцай) < Гриц < Григорий; *-шай* (-ша + -ай) — *Грышай* (Грышай) < Гриша < Григорий; *-уй* — *Максуй* (Максуеў) < Максим.

З суфіксам *-ей* узноўлены па СБП імёны: *Багдзей* (Багдзей) < Богдан; *Карпей* (Карпей) < Карп; *Марэй* (Марэенка) < Мар; *Панцей* (Панцеенка) < Пантелеймон; *Савасцей* (Савасцей) < Совоста < Севастиан; *Фядзей* (Фядзееў) < Федя < Федор; зафіксаваны сучасныя імёны: *Адамей* Гом. в. Жытк.; *Валадзей* Гродна; *Калей* (Мікалай) Гр. в. Масты, Мін. в. Нясв.; *Карпей* Бр. в. Ганц., Лун., Стол., Віц. в. Докш.; *Касцей* (Канстанцін) Гом. в. Петр.; *Кірэй* (Кірыл) Гом. в. Ветк.; *Мікіцей* Бр. в. Ів.; *Міхей* (Міхаіл) Маг. в. Клім.; *Піліпей* Бр. в. Ів., Стол., Пруж.; *Тадэй* (Тадэвуш) Бр. в. Малар.

З суфіксам *-шэй* рэканструюецца імя *Пашэй* (Пашэй) < Паша < Павел; з суфіксам *-сей* адзначана сучаснае імя *Антасей* Бр. в. Пруж.

### Імёны з суфіксальным зычным *-х-*

Суфіксы *-х, -ха* ўзыходзяць непасрэдна да праславянскіх суфіксаў, суфіксы *-ах, -их, -ух, -ех, -ых; -аха, -иха, -уха, -аха, -ыха* расшыраны за кошт апошняга зычнага ўтваральнай асновы.

З суфіксам *-х* у XVI ст. адзначаны імёны *Олех* < Александр 1528 Бр.; *Терех* (2) < Терентий 1528 Навагр. з-к, 1567 Слон. п.; па СБП рэканструяваны *Івах* (Івах) < Иван; *Канах, Конах* (Канах, Конах) < Конон; *Манух* (Манух) < Мануил; *Церах* (Церах) < Терентий; сучаснае імя *Стах* (Станіслаў) Бр. в. Лях., Пруж., Гр. в. Гродз.

З суфіксамі *-их, -ох, -ух, -ех* па СБП рэканструяваны *Арціх* (Арцішэўскі) < Артем; *Матох* (Матох) < Матвей; *Антух* (Антух) < Антон; *Артух, Арцюх* (Артухевіч, Арцюх) < Артём; *Вайцюх* (Вайцюшонак) < Войтех; *Ваўрух* (Ваўрух) < польск. Wawrzyniec ці Лаврентий; *Мацюх* (Мацюх) < Матвей; *Панцюх* (Панцюх) < Пантелей; *Мелех* (Мелех) < Мельян < Емельян; зафіксаваны сучасныя імёны *Колюх* (Мікалай) Бр. в. Пін.; *Пятух* (Пётр) Бр. в. Кам., Лях., Мін. в. Барысаў.

З суфіксам *-ха* па СБП рэканструявана імя *Алёха* (Алёхаў, Алёхін) < Аляксей, адзначаны сучасныя *Алёха* (Аляксей) Бр. в. Брэсц., Жаб., Малар., Стол., Віц. в. Віц., Паст.; *Валоха* (Уладзімір) Мін. в. Стаўбц.; *Ваха* (Васіль) Гр. в. Гродз.; *Лёха* (Леанід) Брэст; *Лёха* (Аляксей) Бр. в. Ів., Лях., Малар., Стол., Віц. в. Беш., Віц., Гарад., Паст., Чашн., Гр. в. Ліда, Маг. в. Чэрык., Мін. в. Мінск, Сл.; *Рамаха* (Раман) Брэст; *Саха* (Аляксандр) Брэст; *Стаха* (Станіслаў) Гр. в. Бераст., Лід.

З суфіксамі *-еха, -оха, -аха* рэканструяваны *Васеха* (Васеха) < Вася < Василий; *Мілеха* (Мілехін) < Милий ці Емельян; *Анёха* (Анёха) < Анания; *Васёха* (Васёха); *Матоха* (Матоха) < Матвей; *Садоха* (Садоха) < Садок, зафіксаваны сучасныя варыянты *Сыманёха* Бр. в. Ів.; *Віцяха, Пецяха* Віц. в. Верхнядзвінск.

З суфіксам *-уха* ў XVII ст. *Петруха* 1635 Маг.; па СБП рэканструяваны *Андруха* (Андруховіч) < Андрей; *Вілюха* (Вілюха) < Вил; *Ільюха* (Ільюхін) < Илья; *Калюха* (Калюховіч) < Коля < Николай; *Кандруха* (Кандруховіч) < Кондрат; *Карпуха* (Карпухін) < Карп; *Кіруха* (Кірухін) < Кирилл; *Мануха* (Мануха) < Мануил; *Мітруха* (Мітрухін) < Митрий < Димитрий; *Панцюха* (Панцюхін) < Пантелей, Пантелеймон; зарэгістраваны сучасныя імёны: *Андруха* Бр. в. Бар., Брэсц., Ів., Віц. в. Лёзн., Гом. в. Гом., Гр. в. Гродна, Маг. в., Мсціслаў, Мін. в. Барысаў, Віл., Мін., Мінск; *Ванюха* Бр. в. Ів., Віц. в. Тал., Маг. в. Краснаполле; *Васілюха* Бр. в. Ів., Віц. в. Уш., Шум., Гр. в. Масты; *Вінцюха* (польск. Wincenty) Бр. в. Ів.; *Вітуха* (Віталій) Бр. в. Івац.; *Віцюха* Бр. в. Брэст, Ів., Гр. в. Гродна, Мін. в. Мінск; *Ільюха* Бр. в. Бар., Брэст, Ів., Івац., Віц. в. Беш., Віц., Гр. в. Дзятл.; *Калюха* (Мікалай) Бр. в. Брэст, Ів., Івац., Гом. в. Добр., Гр. в. Маст., Маг. в.; *Кіруха* (Кірыл) Бр. в. Пінск, Віц. в.; *Лёнюха*

(Леанід) Бр. в. Бяроз.; *Льюха* (Ілья) Бр. в. Іван.; *Мар'юха* (Мар'ян) Мін. в. Стаўбц.; *Мішуха* Бр. в. Ів., Віц. в. Паставы; *Паўлуха* Бр. в. Бар., Брэст, Віц. в. В.-дзв., Мін. в. Стаўбц.; *Пятруха* Бр. в. Івац., Стол., Віц. в. Уш.; *Санюха* (Аляксандр) Бр. в. Стол.; *Фядуха* (Фёдар) Брэст.

## Імёны з суфіксальным зычным *-ш-*

Суфіксы з зычным *-ш-* генетычна звязаны з суфіксамі, што характарызуюцца зычным *-х-*. Яны ўзніклі на базе праславянскіх суфіксаў *-cho, -cha* ў выніку палаталізацыі *-х-* перад суфіксамі *-jo-, -ja-*. У помніках пісьменнасці XVI—XVIII стст. і СБП зафіксаваны суфіксы: *-ш, -аш, -ош, -аш, -'еш, -'аш, -уш, -иш; -аша, -оша, -аша, -'еша, -'аша, -уша, -иша.*

Вычляненне суфіксаў зроблена на аснове ўліку магчымай прыналежнасці галоснага перад суфіксальным *-ш-* да ўтваральнай асновы. Калі галосны з'яўляецца элементам утваральнай асновы, тады вылучаецца суфікс *-ш-* (Ів-а-ш : Ів-а-н); калі ўтваральная аснова заканчваецца іншым галосным, чым той, што перад суфіксальным *-ш-*, ці зычным, тады маем расшыраны суфікс «галосны + *ш*» (Карн-а-ш : Корн-и-ло, Корн-е-й, Петр-а-ш : Петр).

**Суфікс -ш** малапрадуктыўны. У пісьмовых помніках XVI ст. зафіксаваны ў 7 формах ад 7 імён, а ў СБП — 13 форм ад 11 імён.

У XVI ст. зарэгістраваны *Беняш* < Бенедикт 1567 Бр. п., Валож., 1582 Ашм. п.; *Евлаш* (2) < Евлампий 1528 Навагр. з-к, 1567 Навагр. п.; *Иваш* < Иван 1528 Гр.; *Клиш* (4) < Климентий, Клим 1552 Пін. п.; *Кондраш* < Кондрат 1582 Мін. п.; *Лаврыш* < Лаврин < Лаврентий 1567 Гр. п.; *Совош* < Совостиан < Севастиан 1567 Гр. п.; рэканструяваны па СБП *Богдаш* (Багдашыч) < Богдан; *Бенеш, Беняш* (Бенеш, Беняш) < Бенедикт; *Іваш* (Іваш) Иван; *Кондраш* (Кандрашоў) Кондрат; *Кліш* (Кліш) < Клим, Климентий; *Мартыш* (Мартышэвіч) < Мартын; *Міраш, Мірош* (Міраш, Мірош) < Мирон; *Ромаш* (Ромаш) < Роман; *Семеш* (Семеш) < Семен, магчыма, ад Сёма — у такім разе суфікс *-еш; Станіш* (Станіш) < Станислав; *Цераш* (Цераш) < Терентий; *Ярмаш, Ярмош* (Ярмаш, Ярмош) < Ермолай.

Сучасныя імёны: *Алёш* Бр. в. Івац.; *Антош* Мін. в. Мін.; *Іваш* Віц. в. Леп., Мін. в. Мін.

**Суфіксы -еш, -іш, -ыш, -ош, -аш, -уш** малапрадуктыўныя. Па СБП рэканструяваны *Карпеш* (Карпеш) < Карп; *Марэш* (Марэш) < Мар ці Мартин; *Мелеш* (Мелеш) < Мяльян < Емельян; *Дземіш* (Дземіш) < Демьян; *Паныш* (Паныш) < Пантелеймон; *Матыш* (Матыш) < Матвей; *Мілош* (Мілош) < Милий; зафіксаваны ў сучасным ужыванні *Піліпеш* Бр. в. Драг.; *Гаўрош* (Гаўрыіл) Віц. в. Брасл.; *Міцёш* (Дзмітрый) Бр. в. Ів.

З суфіксам *-аш* у пісьмовых крыніцах XVI ст. зафіксаваны 4 формы: *Віташ*<*Вит* 1528 Гр.; *Климаш*<Климентий, Клим 1567 Гр. п.; *Конаш* (5) < Конон 1577, 1578 Маг., 1582 Мін. п., 1594 Маг.; *Купраш* (2) < Куприан 1567 Гр. п.; па СБП рэканструявана 11 форм: *Гаўраш* (Гаўраш) < Гавриил; *Дамаш* (Дамаш) < Доментиан ці Дамиан; *Карнаш* (Карнашоў) < Корней; *Карпаш* (Карпашэвіч) < Карп; *Клімаш* (Клімаш) < Клим, Климент; *Конаш* (Конаш) < Конон; *Купраш* (Купраш) < Куприан; *Лоташ* (Лоташ) < Лот; *Петраш, Пятраш* (Петраш, Пятраш) < Петр; *Пімаш* (Пімашэнка) < Пимен. Сучаснае *Таляш* (Анатолій) Бр. в. Стол.

Суфікс *-уш* у пісьмовых крыніцах XVI—XVIII стст. зафіксаваны ў 4 формах ад 3 імён: *Матуш* (2)<Матвей 1567 Ашм. п.; *Матюш* < Матвей 1582 Мін. п.; *Якуш* (2) < Яков 1692, 1746 Маг.; *Януш* (3) < Ян 1528 Бр., Гр., Пін. Па СБП рэканструявана 10 форм ад 10 імён: *Бандзюш* (Бандзюш) < Бандык < Банадык; *Гаўруш* (Гаўруш) < Гаврило, Гавриил; *Дзянюш* (Дзянюш) < Денис; *Карпуш* (Карпушоў) < Карп; *Маркуш* (Маркуш) < Марк; *Мацюш* (Мацюшаў) < Матвей; *Радзюш* (Радзюш) < Родион; *Станюш* (Станюш) < Стань, Станислав; *Якуш* (Якуш) < Яков; *Януш* (Януш) < Ян.

**Суфікс -ша** ў крыніцах XVI ст. адзначан у формах ад 4 імён: *Грыша* 1578 Маг.; *Олеша* 1528 Мсцісл.; *Осташа* (Остафий) 1528 Кам.; *Якша* (Яков) 1528 Навагр. з-к. Па СБП рэканструявана 21 форма: *Алёша* (Алёшын); *Антоша* (Антошын); *Ваньша* (Ваньшын) < Ваня < Иван; *Калінша* (Каліншын) < Каллиник; *Кірша* (Кірша) < Кир, ці Кирик, ці Кирилл; *Лёша* (Лёша) < Лексей < Алексей; *Лукша* (Лукша) < Лука ці Лукьян; *Майсейша* (Майсейшын); *Мацеша* (Мацеша) < Матвей; *Мацэша* (Мацэша) < Мац, Мацей; *Міхейша*

